# Ідылія

*Опера ў двух актах*

## АСОБЫ

Кароль Лятальскі.
Ян Дабровіч — яго сваяк, ранейшы апякун.
Юлія — яго дачка.
Банавантура Выкрутач — Камісар маёнтка Лятальскага.
Уршуля — яго жонка.
Шчырэцкі — падданы, звольнены ад паншчыны; жыве пры двары на ласкавым хлебе.
Ян Губач — слуга Лятальскага.
Іцка — арандатар у маёнтку таго ж.
Навум Прыгаворка — войт.
Ціт і іншыя сяляне, мужчыны і жанчыны, з вёскі Лятальскага.

Тэатр у І акце ўяўляе з правага боку карчму, з левага — вялікі куст ружы і дзе-нідзе дрэвы; у XV, аднак, сцэне змяняецца на двор з іншымі фальварковымі забудовамі.
У ІІ акце — сад з дзвюма альтанкамі. Дзея адбываецца ў маёнтку Лятальскага.

## АКТ І

### Сцэна І

Хор сялян (*мужчын і жанчын*).
№ 1
Ой, бяда ж будзе, бяда!
Прыйшла на нас чарада!
Скажыце ж, добры людзі,
Да што з гэтага будзі?

Ц і т.

Заказаў жа ж наш мацар,
Ясны, можны Камісар,
Сабрацца ў карчму чы ў двор.
Мал, вялік, здароў чы хвор,
Войт усіх кіём пагнаў.

Х о р.

Штоб ён дабра не відаў.

Ц і т.

Да і ён сюды ідзе,
Ён нам скажа аб бядзе.

## Сцэна II

Тыя ж і Н а в у м.

Ц і т (*да Навума*).

Пане войце! да што гэта?
Чы мор? чы сканчэнне света?

Н а в у м (*з павагаю*).

Ціха, дурні! то... камета.
А коль хочаш знаць ту весць,
Кажы дзве кварты паднесць!

Ц і т.

Гэй жа, пане аляндару!
Пастаў нам дзве кварты гару.

## Сцэна III

Тыя ж і І ц к а, арандатар.

І ц к а.

Гэрстэ! маес цэм плаціць?

Ц і т.

А хто ж дарам будзе піць?
(*Да Навума.*)
Ты, наш дарагі Навуме,
Сяла войце, а мой куме!
Бардзея сваей малвой
Усіх нас тут заспакой.

Н а в у м (*з павагаю, рэчытатывам*).

Станьце тут разам кружком
І падзівіцеся маім слаўком.

СПЕЎ

Як я пайшоў да Камісара,
Я там знайшоў пана Пісара,
Што ў Радзівілаў доўга служыў
І заўсягда добрым панам ён быў.
 Яны крыйком з сабой гамоняць,
 Адзін другом — пасваркай звоняць.
 Я цішком, я маўчком у шчэлку глядзь,
 Аж яны там сабе ну ж прытыкаць.
Пісар са свару так заспяваў:
«Ты, Камісару, замнога краў,
Людзей ты без меры вельмі глуміў,
Без Бога, без веры і дзёр і біў».
 Потым к сабе туды зазвалі
 Яны мяне і так сказалі:
 «Вялі ты сабрацца ў карчму людзям,
 Нямалу весць яны пачуюць там».
І я, філют з бальшога света,
Згадаў, што тут, пэўне, — камета.
Людзі ў горадзе яе там ждуць
І з гора трасцянку якуюсь п'юць.

Х о р.

Трасцянку п'юць! што за камета?
Чы гэта мор, чы канец света?
Ой, бяда ж будзе, бяда *і г. д.*

(*Паўтараюць.*)

Ц і т (*кажа*). Да вас, куме! (*П'е да войта і падае яму.*)

Н а в у м. Знаеш прымоўку? пій, да розуму не прапій. (*Прымае кілішак і п'е.*)

Ц і т. Скажы нам, каралёк, да што гэта за камета?

Н а в у м. Баш! які ты цікун, хочаш ведаць аб камеце. Да што вам аб гэтым талкаваць, калі гэта такое вельмі бальшое дзіва, такое вялікае, што я аб нём і сам нічога не праведаў і сказаць не магу. Знаеш прыгаворку: чаго ж бы плакаў слеп, каб відзеў свет? Да і я б не дзівіўся, штоб ведаў. Дагадаўся толькі, што нам, пэўне, горшай катаргі не будзе, якую ад Камісара цярпім. Бо знаш прымоўку: і адсюль гарачо, і адтуль балячо. А калі яна к нам прыйдзе, то, пэўне, на бяду нашага гада Камісара: бо штось ён вельмі цяпер у кулак затрубіў; а лётае! а бегае! як бы блёкату наеўся. А Яснавяльможны пан Пісар так на яго накрычаў, што аж мне ў вушах і цяпер звініць.

Ц і т. А дай Бог, штоб яго ад нас нячыстая выгнала сіла! Бо калі ён далей так над намі здзекавацца не

перастане, то ўсе духі вытрасе. Кажуць, што мужык хіцёр, ураг сваім панам і іх абмануе. Як жа нам быць шчырымі, калі яны з-пад ногця кроў нам высысаюць і, як з гадам, з мужыком абходзяцца. А мы ж такі апошніх сіл дабываем, штоб на іх прыхаці зарабіць.

Н а в у м. Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць. Знаеш прымоўку: і сцены маюць вушы. Ты гамоніш, а ён шмыг — і тут! Ведаеш прыпавесць: ты з варот, а ён чэраз плот; аб воўку памоўка, а ён тут; ой, не вер нікаму, а ніхто не абмане. Бо як пачуе чы даведаецца Камісар, то і скура будзе ў рабоце і апошнюю авечку адбярэ. Ляпей прышчамі зубамі язык і кланяйся нізка, пакуль яго мяцеліца ад нас вымеце; бо знаш? пакорнае цялятка дзве маткі ссець.

І ц к а. Ну, Ціт! цы маес ты гросы?

Н а в у м. Калі маеш грошы, то не будзеш босы.

І ц к а. Ой! мой ты Навумка! І я сказу прымоўку: музык п'ець, як у леецку льець; а як прыйдзецца плаціць, то, як дурань, маўцыць. Цы гэтак добра?

Н а в у м. Няма чаго казаць, пане аляндару! Рынуў слаўцом, як пярцом; а што напішаш пярцом, то не вырубіш тапарцом.

І ц к а. Яно так, Навумка! Але з ты, Цітацка, сказы, цы заплаціс?

Н а в у м. І піць не хачу і грошы не плачу. Знаеш прыпавесць: і рыбы не хачу і адзежкі не змачу.

І ц к а (*да Ціта*). Ны... калі не заплаціс, то закарбуй, а мы паліцым, і я прыму старпу сена, сто ў цябе ў адрынцы, і есцэ на барыс кварту гарэлкі пастаўлю. Гэрстэ! цы добра? мой Цітацка!

Ц і т. Баш, нехрышчоная чартоўская сіла! палакаміўся на маё сена! Ты, як піяўка, усю б кроў з нас выссаў! А вось я чэраз зіму падгадую цялушку, а там прадам і табе заплачу ўсё, што накарбаваў белым па чорным. Давай сюды белае, я закарбую.

І ц к а (*даючы яму дубэльтавую крэйду*). Які ты дурань, мой каханцык! насто табе яе карміць? я і так, з друзбы для цябе, прыму ў добрай плаце.

Н а в у м. Ціт! не слухай, бо знаш прыгаворку: панская міласць, жончына вернасць, дружба жыдоўская — усё чартоўскае.

Ц і т (*праводзячы на сцяне падвойную рысу*). Што за нячыстая сіла, здаецца, раз пацягнуў, а бачыцца як бы найшлося два карбы.

І ц к а. Штоб цябе параліс узяў, мой ты міленькі! Табе ад водкі ўсё двоіцца; ты з раз пацягнуў.

Ц і т. А мо'а і так.

Н а в у м. Кум! а кум! Лжэ жыд, сабака, не будзь дурань; бо знаш прыгаворку: павер жыду на сваю бяду.

Ц і т (*адпіхаючы Навума*). Адчапіся, Навум! Ты ўжо сваімі прымаўкамі да прыгаворкамі ўсім абрыд.

Н а в у м. Вот табе на! за маё дабро да мяне ж набілі. Я яму добра раджу, а ён мяне ж лае. Эй, кум, кум! знаш прымаўку: хоць кум, да сабака.

А д з і н з м у ж ы к о ў (*убягаючы здалёку, кажа*). Ціха, браткі! цяпляк ідзе.

Н а в у м. Станьце ж усе за мною, як гусі за гусаком.

Усе рыхтуюцца. Войт з паважнай мінай становіцца наперадзе.

## Сцэна IV

Тыя ж і К а м і с а р.

Х о р с я л я н (*да ўваходзячага Камісара*).

№ 2

Здароў нам будзь! Вяльможны пане! (*Двойчы.*)
Усякі з нас
На твой прыказ
Перад табою
І з чарадою
Гатовы стане.

К а м і с а р. Добра, добра, мае дзеткі!

Н а в у м (*убок*).

А!.. Чы ваша ўжо гэткі?
І табе, знаць, бесі сыну,
Запялі у злу гадзіну.
Ты дзеткамі звеш цяпер,
А даўней — «хам», «мужык», «звер».
Ой! нядарам намі трос,
Да пары збан ваду нёс.

Х о р (*паўтарае першыя 6 вершаў*).

Здароў нам будзь *і г. д.*

К а м і с а р (*кажа*). Я паклікаў вас сюды, дзеці мае, каб паведаміць а важнай навіне: вось жа наш пан, а дзедзіч тутэйшы, у гэтых днях мае прыбыць з заграніцы; а тым часам даручыў В[яльможнаму] Пісару Дабровічу, свайму сваяку і даўнейшаму апекуну, каб ён упэўніўся пра стан

тутэйшых сялян, ці не маюць ад мяне якой крыўды. Здаецца, што па-айцоўску з вамі абыходзіўся; і хоць трымаў вас строга, аднак справядлівасць заўсёды была маім правілам. Дык памятайце, каб ніхто-ніхто не пасмеў паскардзіцца на мяне, бо інакш — канчук будзе ў рабоце. Вядома вам, як слухае мяне дзедзіч і як ён настроены супроць мужыкоў. Слоўка толькі перад ім пісну і пэўны, што скажа скуру з вас паздымаць. Дык памятайце мае засцярогі і ідзіце ў двор: там чакае вас пан Пісар.

## Сцэна V

Камісар (*адзін, думае і, крыху пачакаўшы, пахаджваючы, гаворыць*). Хоць і ведаю спосаб мыслення нашага пана, яго пыху і пагарду простым людам, але як падумаю, што ён хутка сюды прыедзе, нейкая трывога закрадаецца ў маю душу. Калі ён, барані Божа, даверыцца пану Дабровічу, о! то згуба мая немінучая. Той патрапіць выкрыць такія ўчынкі, якія не толькі месца мяне пазбавяць, але яшчэ і тое, што мне з ласкі Стварыцеля нехаця звалілася ў рукі, патрапіць адабраць; а трудна будзе расстацца з справядліва сабраным грошам. Хіба ж мая ў тым віна, што маю вялікую слабасць да сакрэтных спекуляцый панскім дабром? Яшчэ б усім патрапіў замыліць вочы, каб не той праклятьі навочны сведка ўсіх маіх учынкаў, той Шчырэцкі, звольнены прыгонны мужык, пакінуты на ласкавым хлебе пры двары. О калі б я мог папярэдзіць і як-небудзь ачарніць яго перад нашым панам, каб яго выгнаў! (*Думае.*) Шкода мне толькі дачкі яго, якая, ад дзяцінства застаючыся пры дачцэ пана Пісара, так выхавалася і так міленька цяпер выглядае! Нават не дурная, вельмі не дурная — ба! чы не разумнейшая толькі за маю жонку? Хоць тая лічыць сябе мудрэйшаю тут ад усіх. Ой, каб мог я якнебудзь тую птушачку збаламуціць! Смачны кавалак! Не ведаю толькі, як доўга тут яна забавіцца. Падазраю, ці не лагчыцца да яе сам пан Дабровіч? Бо ўжо кадучна соладка на яе пазірае; нават ён яе сюды і прывёз. Але ж і я зух, не абы-што! далажу ўсякіх спосабаў: каб той пончык прысвоіць, буду прасіць, пагражаць, ставіць сіллё; а калі мне не ўдасца, тады і бацьку і дачку пастараюся як належыцца падцукраваць. Але не трачу надзею: бо быў

бы я вялікі прастак, калі б не патрапіў падашукаць нейкай там вясковай дзяўчыны! Спрабую нарэшце таго спосабу, што ўжываюць па гарадах, перад якім і свецкія жанчыны, што далёка больш маюць алею і хітрасці, устаяць не могуць.

СПЕЎ
№ 3

Калі прыгожай дзяўчыне
Павабнасць свету засвеціць, —
К ёй мігам думак рой хлыне,
Галоўку ўскружаць, ахвацяць.
Адно ўсё думае тое —
Аб вабным хлапцу і строі.

І хлопец з'явіцца хутка, —
Пойдуць гамонкі, ўздыханні, —
Аб красках баіць ён чутка,
Аб шчырым баіць каханні.
За сведку неба стаўляе,
І вось млее дзеўчына тая.

Звольна пужліву асвоіць;
Каб узаемнасць здабыці,
Свае залёты падвоіць,
Моліць — яго палюбіці.
Гэтак для птушкі вясковай
Клетачка мігам гатова.

Калі ж дзяўчына спрыт мае,
Цянёты хлапцовы ўбача, —
Тады бяда ды якая!
Душа бурліцца і плача.
Сэрца да літасці клоніць,
І так дзяўчына ўжо тоніць.

Зведзена так і папраўдзе,
Аддаючы яму сэрца,
Калі ўжо іншых той здрадзіў,
Ахвярай жалю стаецца!
Бядачка кволіць дарэмна,
Але ўжо згубы не верне.

(*Кажа.*) Вось так папрабую і я гэтак; а можа, і мне пашанцуе злавіць птушачку? А цяпер трэба спяшацца дадому. (*Выходзіць.*)

## Сцэна VI

Н а в у м (*адзін*).

№ 4

Знаеш панску прыгаворку:
Не таргуй ката у ворку,
Дзевак з сэрца не хвалі,
Жыда, хоць хоча, не бі.
Бо як купіш за вачыма
Тавар кепскі, грашэй німа.
Дзеўка, калі мужыка
Зловіць, гэ! ўжо не така,
І не раз бядак заплача,
Вяліць жонка, то і заскача.
А жыд і рад, штоб набілі;
Для чаго ж? штоб заплацілі.
Камісар быў нам тыран;
Можа ж, горшы будзе пан?
Той хоць часта нас браніў,
Але не ўсякі раз біў:
Бо калі прымецца біць,
Можна скуру адкупіць;
А пан платы не бярэ,
Не раз добра абдзярэ.
Што ж? мужык прывык цярпець;
А калі мае балець,
Знасней ад свайго мацара,
Як ад гада Камісара.

(*Кажа.*) Вот табе і дзіва! Мы ж думалі невесь што, аж тут Яснавяльможны пан Пісар расказаў нам, што скора з-зá мара там якогась наш пан прыедзе. Пярвей мы былі вельмі цікавыя, а як даведаліся, то і ўсё! Добра той казаў, няма чаго казаць: славен бубен за гарамі. Прыказаў нам пан Пісар, штоб, калі маем крыўду да Камісара, смела гаварылі. Але і я місцюк! Ведаю добра гутарку, што пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесць. Няма чаго казаць: воран ворану вачэй не выклюе. Пан з панам пазнаюцца, а мы ўсё-такі ў бядзе. Добра кажа прыгаворка: і Бога хвалі і чарта не гняві. Але досць балакаць, трэба і мне зрабіць, як там паны кажуць: досць таго лайдацтва, пойдзем у карчму да нап’ёмся гарэлкі: бо штось душы не вядзецца! Але няма чаго казаць, яно чы вып’еш, чы не, рабіць не хочацца; чалавек штось адвык ужо ад дзела. Добра кажа тая прыгаворка: не піў — не мог, а выпіў — ні рук, ні ног. (*Выходзіць, напяваючы.*) Знаеш панску прыгаворку *і г. д.*

## Сцэна VII

Юлія, пераапранутая за дачку Шчырэцкага.

Юлія (*адна — рэчытатывам*).

№ 5

Ой, думкі, ой, мары
Дзіцячага веку!
Шмат будзіце чараў
У душы чалавека!
Як сягоння, здаецца, бачу век праснёны,
Калі з мілым Каролем у гэты лес зялёны
Мы хадзілі спакойна пад апекай Бога.
Нашы сэрцы дзіцячы не знalі трывогаў.

РАМАНС

О край мой любы, мой родны!
Ты знаеш думак прычыны.
Тут, як у раі, аздобна,
Ціснуцца дзецтва ўспаміны.
Сваймі вось гэта рукамі
Кусточак ружы саджала,
А тут павяўшы з слязамі
Тульпаны я палівала.
На месцы ўсё засталося,
Як вабна ўсё засталося!

Далей — малая крыніца,
Дзе мы глядзеліся ў пары,
Вабіла чыстай вадзіцай,
За ёй — салодкія мары!
Лог, па якім мы з Каролем
За матылёчкам лятаді
І гналі ажно у поле;
Як матылькі, мы гулялі.
Ўсё тут, як некалі, бачу,
Толькі Кароля не бачу!

(*Кажа.*) Вітаю цябе, родная краіна, якая на кожным кроку будзіш ва мне салодкія ўспаміны дзіцячых гадоў нашых з Каролем! Тут кожнае месца, кожны кусточак напамінае мне яго такім, якім я знала яго некалі: ласкавым, прыхільным да свае малое сваянкі, аказуючым ёй заўсёды довады сваіх турбот аб ёй і падтрымліваючым слабыя яе крокі. О гора! чаму побыт за граніцай так

змяніў яго сэрца? Але што ж тут дзівіцца? Ён такім маладым, маласвядомым пакінуў нас... а папаўшы ў таварыства сапсутай моладзі, мог сказіць звычаі і забыць збавенныя рады майго добрага айца. О калі б план, укладзены мною, патрапіў яго накланіць да мяне і зусім паправіць! З лісту, пісанага з Варшавы, спадзявацца трэба, што сёння ён прыедзе. О Божа! памажы мне! Ты бачыш чыстату думак маіх.

## Сцэна VIII

Дабровіч і Юлія.

Дабровіч (*у часе яе гутаркі падкрадваецца і, вытнуўшы яе злёгку па плячы, кажа*). Юлія! ты ўсё марыш і, пэўна, аб Каролю?

Юлія. Ах, войча! Ці ж можна так мяне палохаць?

Дабровіч. Бядачка! Ты думала, можа, што гэта ён цябе так па-прыяцельску вітае!

Юлія. А пэўне ж, бо сёння тэрмін яго прыезду, вызначаны ў яго лісце. Ах, пакажы, пакажы мне, мой войча, той ліст! Я яго яшчэ раз прачытаю!

Дабровіч. Здаецца мне, што ты ўжо на памяць павінна была яго ведаць. (*Шукае.*) Вот ён, маеш.

Юлія (*чытае*). «Дарагі мой апякуне! Апошні твой ліст так мяне ўстрывожыў, што зараз жа, хоць з болем у сэрцы...» (*Кажа.*) Нядобры!.. (*Чытае далей.*) «...пакінуў улюбёную Францыю і лётам бліскавіцы паспяшыў да нуднага нашага краю. Цяпер баўлюся ў Варшаве, а найдалей, як дзён цераз 10, прыбуду ў маёнтак, каб уладзіць, як ты мне пісаў, мае не найлепшыя інтарэсы і зірнуць на стан прыгнечаных Камісарам маіх сялян. Але адна думка пра гэты нудны занятак паднімае на маёй галаве валасы. Папраўдзе ж, дык ты сам, мой апякуне, мог бы зрабіць для мяне гэткую ўчыннасць, заняцца маімі інтарэсамі ды паставіць іх на лепшую ступень. Што да сялян, то добра робіць Камісар, што іх цвёрда трымае. Дык сам бачыш, што мог бы абысціся без мае бытнасці. Але ты правіш сваё, і я варочаюся: толькі зазначаю, што нядоўга прагашчу сярод той дзічы, дзе не можна мець ніякай прыемнасці». (*Кажа.*) О пачакай! Хай толькі ўдасца мой план, патраплю тут цябе затрымаць.

(*Чытае.*) «Бывай здароў, мой дарагі апякуне! Прыгожай кузіне (бо спадзяюся, што папрыгажэла) цалую ручкі. Зычлівы і ўдзячны кузен Кароль Лятальскі. 1842 года, мая 4 дня». (*Кажа.*) А сёння мінае дзесяты дзень. О! калі б прыехаў! Я пайшла б з ім на барацьбу!

Д а б р о в і ч. Сумняваюся, каб ты не прайграла. Маладзён, што марыць толькі аб заграні́чных прыемнасцях, і не паглядзіць на цябе. Сапсутых звычаяў чалавек, усё будзе ганьбіць, што не падобна да французскага; на падданых сялян глядзіць горай, як на быдла, і імі пагарджае. А да таго ён можа цябе пазнаць.

Ю л і я. О не, мой войча! Ён бачыў мяне яшчэ малою, а так ніколі не падумае, каб яго кузіна ў адзежы простай сялянкі магла тут жыць. Ты, войча, скажаш, што я на навуках. Мяне тут ніхто не знае. Я смела за дачку Шчырэцкага магу сысці, а той не выдасць нашай таямніцы, бо ад душы хоча паправы сына пана і дабрадзея свайго. Тым большага дасягну трыумфу, што пад відам простай сялянкі патрапіла пакарыць яго сэрца і прывязаць да сябе.

Д а б р о в і ч. Але адкуль жа тая ўпэўненасць, што ты яго зацікавіш сабою?

Ю л і я (*цалуючы яго ў руку*). Мой добры войча! І я маю хоць шчопцю ўласнага гонару, і здаецца мне, што даб'юся свайго; толькі мне не перашкаджай.

Д а б р о в і ч. О ты, рамансавая галава! Няхай і так будзе; але ж і пасмяюся з цябе, калі твае замеры не ўдадуцца.

Ю л і я. Убачыш, мой войча, што ўдасца мне пабеда; і тым слаўнейшая яна будзе, што ў постаці простай сялянкі, з тае касты людзей, якімі ён пагарджае, зраблю я гэта. Тут буду яго чакаць... Прадчуваю, што высланы на выведы Шчырэцкі, мой падстаўны бацька, хутка памысную дасць мне вядомасць аб яго прыездзе. Ты ж, мой татка каханы, прыгатуй усё ў двары, каб сяляне, якіх ён ненавідзіць, як з найшчырэйшым і найпрыхільнейшым сэрцам яго сустрэлі... А я з кошыкам кветак нібы выпадкам спаткаю... але ціха!.. Нехта ідзе. Адыдзіся, мой войча, каб нас тут разам не засталі.

Д а б р о в і ч. Добра, адыходжуся. Абы толькі здолела ты выбіць яму з галавы тую франкаманію ды прывязаць яго да роднага краю! (*Выходзіць.*)

## Сцэна IX

Юлія і Навум.

Навум (*уваходзіць п'яны і сам сабе кажа*). Добра кажа прыгаворка: куды еду, туды еду, да ўсё карчмы не міну. Вот цяпер штось пэўней чалавек стаіць на нагах. Цяпер смела пайду да двара, штоб пана нашага прыняць. (*Хоча адысці, углядае Юлію.*) Гэ! а гэта што за дзеўка? У нашым сяле я дасюль яе не бачыў. Не гадкі чарвячок. Як біш там кажуць: дзеўка, як цэўка, а як гляне, дык і сэрца дастане.

ДУЭТ
№ 6

Юлія.

Што за пудзіла пляцецца?
Так і рынецца, здаецца.
Ах! якая п'яніц міна!

Навум.

Ой! Не гадкая дзяўчына!

Юлія.

Ён сюды, знаць, ісці хоча.
На мяне ўтаропіў вочы.
Мусіць думку нейку мець.

Навум.

Трэба к ней добра падсесць.

Юлія.

Надарма мая трывога, —
Можа ён мне быць падмогай.
Кінем гідасць сваю вон
Ды спытаем, што за ён.

Навум.

Добра прыгаворка кажа:
Скора едзе той, хто мажа.
Трэба рыбку прысваіць,
Гарэлкаю напаіць.

Юлія (*кажа*). Чаго ты на мяне так глядзіш?

Навум. Усе дзеўкі выраслі пад маім вокам, а цябе не знаю. Чы ты ягодка не з нашага агродка?

Юлія. Я прыехала з панам Дабровічам; а знаеш Шчырэцкага? Я яго дачка; а ты, мужык, хто такі?

Навум. Мужык! Але мужык! Хоць я сабе і мужык, да ўсё не просты. Знаш гутарку: мы і самі з вусамі. Я — войт тутэйшага сяла, Навум.

Юлія. Войт!.. Не гневайся, мой бацечка, да я ж не ведала.

Навум. Нічога! Нічога! Знаш прымоўку: няведанне — нягрэшанне. А штоб даказаць, што к табе нічога не маю, то пайдзём да Іцкі, пастаўлю паўкварты, там пазнаемся ляпей: бо ты мне штось вельмі к сэрцу прыпала. Як глянуў, так і грануў. От так: палюбіў, дай досыць. А ты чы б мяне спадабала?

Юлія. За гарэлку дзякуй, я не п'ю; а любіць не магу.

Навум. Дзельна! Шчэра сказана, як звязана! Да хто б вам, дзеўкам, паверыў? Вы ўсе такія; а падсядзь к вам, дык і самі вешаецеся на шыю. (*Падыходзіць да яе.*)

Юлія. Не лезь! Боваласы выдзеру.

Навум. Хто каго любіць, той таго чубіць. (*Падыходзіць да яе бліжэй, яна адсоўваецца.*)

Юлія (*пагражаючы*). Адчапіся! Бо як трэсну, то і зубоў не пазбіраеш.

Навум (*убок*). Ой, цікунка! цікунка! Любіць, пэўне любіць, толькі саромеецца. Добра кажа прыгаворка: дзеўкі так любяць, што за кулакамі і свету божага не відаць.

## Сцэна X

Тыя ж і Шчырэцкі, засопшыся, убягае.

Шчырэцкі. Пані! (*Убачыўшы Навума.*) Дачка мая! Паведамляю табе, што наш дзедзіч пакінуў за вярсту коні, а сам з слугою пакрыёма зараз сюды прыбудзе.

Юлія. Добра, тату! Пастараюся яго тут спаткаць першая.

Навум. Гэ! Дак ваша і па-панску ўмееш шчабятаць. Эге, кумок! Вашая дачка, знаць, панскага хову. Хто б пазнаў дзятла, штоб не яго нос? Нечага ж нам к табе шчурыцца; ты, баш, з панамі пабраталася; пэўне, фандабэрыстка.

Юлія. Ой! што не, то не. Чы ж для таго, што гавару па-панску, то ўжо маю і нос угору задзіраць? От лепей будзь добры, пакорны, паслушны, а можа, і цябе палюблю. (*Да Шчырэцкага.*) Ты, ойча, ідзі ў двор і паведамі, што пан зараз прыбудзе; а ты, Навум, пабудзь тут, і як толькі заглянеш якога пана, ідучага пяшком, то зараз мяне ўведам. Я буду тут возле саду панскага рваць краскі. (*Выходзіць з Шчырэцкім.*)

## Сцэна XI

Навум (*адзін*). Баш, як добра зараня карчму праведаць. Нядарам кажа прымоўка: ранняя пташачка крылкі цярэбіць, а позняя вочы праціраe. Бог даў дзеўку, як ягадку. Што любіць, то любіць, бо ўжо чупрыну хацела выдзерці. Дасюль усе дзеўкі з сяла чураліся ад мяне, а цяпер — не тут-та і была, — знаць, сужанаму дзеўка. Але бачыцца, хтось ідзе? Здаецца, чы не яго толькі казала мне пільнаваць мая загладуха? Пайду да скажу ёй, што ўжо ідзе. Але не, яна казала аб адным, а іх тут двух. О! і я не дурань. Схаваюся да падслухаю, чы не выгаварупца аб чом. О гэтак! о! і я ў цемя не біт. Добра кажа прымоўка: мужык, як варона, а хіцёр, як чорт. (*Хаваецца за дрэва.*)

## Сцэна XII

Кароль, Ян і Навум за дрэвам.

Кароль. Вось мы і ў канцы нашай падарожы. Запраўды, калі ўспомню, што гэта тое месца, дзе трэба будзе пражыць канец свайго жыцця, то аж сэрца сціскаецца. О, чаму край наш дагэтуль яшчэ не можа набраць тае цывілізацыі, якою адзначаецца Францыя? Тут усё так панура! так глуха!

Ян. А карчмы, карчмы, пане дабрадзею, то чыстыя хлявы! ніякай выгоды! У Францыі кожная аўстэрыя як палац! У кожнай чалавек як у раі! Віна па вушы! А тут, даруй, Божа, найменшай выгоды! Не шукаючы далёка, глянь толькі, пане, на нашую карчму.

№ 7

Вось для выгады карчма вам!
Вокны чуць відаць з гразішчы;
Мілы вецер свістам жвавым
Цераз шчэліны скрозь свішча;
Брудны выгляд у шынкаркі;
На стале бутэлькі, чаркі;
Жыжка з іх на стол сцякае;
Шабасоўка чуць міргае;
Жыды споўдаюць, як здані;
Стары рэбе штось мямляне;
Селянін ляжыць пад лаўкай,
П'яны, рваны, нерухавы;
Яго жонка, чуць жывая,

Каля печы спачывае,
Дзіцё ядам з грудзі пое!
Вось абраз галытні тое.

(*Кажа.*) І мы ж тут, пане, прыгожыя дні нашай маладосці змарнаваць маем? От лепей прадай, пан, сваю фартуну, а далей уцякайма да нашага неба, да ўлюбёнага нашага Парыжа!

Кароль. О, калі б можна было гэта зрабіць! калі б мне акалічнасці дазволілі! А тым часам буду старацца: бо гэта праўда, паміж нашых мядзведзяў не выжыву! І што за прыемнасць, проша пана, з мужыкамі? Гэта ж быдла і нічога болей.

Ян. А дзяўчаты, пане, чыстыя каты: падсядзь да якой, то табе зараз без цырымоніі вочы гатова выдрапаць.

Кароль. Праўду кажаш. Няма нідзе, як у Францыі!.. Там кожная хоць бы найпрасцейшая сялянка далёка асвячнейшая за тутэйшую паненку. О Францыя! Францыя!

СПЕЎ
№ 8

Францыя! Край мой ядыны!
Добрай ты славай багата.
Маеш узнёслых шмат чынаў,
Найбольш прыгожых дзяўчатаў.
Бачачы іхнюю ўроду,
Творы шаную прыроды. } (*Двойчы.*)

З мілым французскім дзе тварам
Калі сустрэнеш дзяўчыну,
Вочкі гарацъ яе жарам,
Поглядам паляць без спыну.
Гэткая постаць, здаецца,
Звабіла б тыграва сэрца. } (*Двойчы.*)

Хай яе вабныя красы
Толькі ўпадуць табе ў вока,
Зараз жа ў сэрца без часу
Воблік уесца глыбока.
Французска дзеўчына тая
Душу тваю захапляе. } (*Двойчы.*)

Днём тваю думку жывую
Вабіць прынаднай красою,
А як заснеш — сон малюе
Усё хараство незбытое.
Будзіць смагню без паталі,
Ах! каб мець грошы найболей! } (*Двойчы.*)

(*Кажа.*) О так! хацеў бы яшчэ, хоць ува сне папесціць свае замыслы тымі цудоўнымі вобразамі надсэкванскіх прыгажунь!

СПЕЎ
№ 9

Ян.

Ах, зірні ў бок гэны, пане!

Кароль.

Што ж ты ўбачыў там, мой Яне?

Ян.

Вельмі пекную дзяўчынку,
Што, як сарна, лёгка, вабна,
Што, як лялька, стройна, зграбна.
Рвець малінку за малінкай.
Ў заклад стаўлю віна шклянку,
Што не ўступіць парыжанкам.

Кароль.

Ах, калі хто гэта бачыў?
Ці табе ў вачах маяча,
Каб раўняці дзеўку тую,
Нерухавую, брыдкую,
Да парыжскіх ненаглядак,
Што сваёй красою, складам
Цэлы свет змагчы гатовы,
Ўсім закручваюць галовы?

Ян.

Пане, глянь: да нас ступае,
Складна, вабная такая!

Навум (*з-за дрэва*).

Ой! ведаю прыгаворку:
Не ўтаіш шыла ў ворку.
Хто ж з людзей не падзівіцца
Прыгожанькай маладзіцы?
Яны, на бяду Навума,
Угледзелі дочку кума.

## Сцэна XIII

Тыя ж і Юлія, паволі ідучы, спявае.

Юлія.

Зайшоў ужо месяц, свет спачывае,
А хто ж там кліча над борам?

Мабыць, філён мой мяне чакае
Пад маладым ясакорам.
(*Заўважыўшы Кароля, прыкідваецца перапалоханай.*)
Ах!..

Некалькі тактаў паўзы.

ТЭРЦЭТ

Што за дзіўны погляд бачу?
Не згадаю, што ён знача?
І пужае, і трывожа,
Памажы мне, моцны Божа!

Кароль і Ян.
Ці то чары, ці з'яўленне!
Вельмі ж мілае стварэнне!
Вочы, тварык — глянуць міла!
Мне душу ўсю захапіла.

Навум.
Пасуць яе, як воўк мяса,
Спадабалася ім краса,
Чы іх ліха тут прыгнала?
Сватанне маё прапала!

Юлія.
Ён з мяне воч не спускае.

Кароль.
Як яна, ах, захапляе!

Ян.
Віна стаўлю ў заклад шклянку,
Пляшка будзе хай заставай...
Вер мне, пане, што яна во
Закасуе й парыжанку.

Паўтараюць тэрцэт.

Кароль. Хто ты, мілая дзяўчына?

Юлія. Сялянка, пане!

Кароль. Я гэта бачу, але як завешся?

Юлія. Дзяўчына.

Ян. Усё гэта можа быць; але пан пытае, чыя ты? Ці з гэтай вёскі падданка?

Юлія. І так, і не.

Кароль. Як гэта трэба разумець?

Юлія. Вот, пане, Югася маё імя, а сама я дачка Шчырэцкага. Нябожчык бацька цяперашняга дзедзіча

гэтага маёнтка даў вольнасць майму бацьку і ўсёй яго сям'і, за што вечна яго ў малітвах нашых успамінаем.

Кароль. Але, як я ўважаю, дык ты досыць вольна гаворыш па-польску і нават няблага тлумачыш. Адкуль ты гэтага ўсяго навучылася?

Юлія. Я з дзяцінства гадавалася пры дачцэ пана Дабровіча; была болей яе дружкаю, як служкаю; разам мы выраслі і разам хадзілі ў пансіён.

Ян (*убок*). Ого! Дык гэта не простага выхавання ластавачка! Мушу да яе пазаляцацца. Гэта ж яна і парыжаніну галаву лёгка закруціць можа.

Кароль. Але скажы мне, нашто табе прыдалося тое выхаванне, што ў пансіёне атрымала?

Юлія. Чаму ж, пане? Хіба ж не на тое мы вучымся, каб лепш хваліць Бога ды вярней выконваць тыя абавязкі, якія наш стан на нас накладае?

Кароль. Запраўды, ты аднолькава чаруеш як сваім павабным тварыкам, так і сваімі водпаведдзямі. Дадушы, з такім укладам ты б магла нават і ў салёнах Парыжа стаць на барацьбу не з адной прыгажуняй моднага там свету.

Юлія. Пан волен жартаваць. Дзе там, каб бедная сялянка магла раўняцца з панямі, каторыя ад маладых лет да сталага веку ўвесь час вучацца салённым манерам?

Кароль. Прысягаю табе, што кажу праўду. Але думаю, мая дарагая, што ты добрая хітруха і сваёю скромнай мінкаю не аднаго ўжо каханка злавіць патрапіла. Прызнайся шчыра, шмат іх мела? (*Бярэ яе за руку.*)

Юлія. Пане!.. Каханка ніводнага не мела, а скажу шчыра, што мы, сялянкі, тым розністмся ад вялікіх пань, што ніякай не маем хітрасці. Што чуе сэрца, тое без страху гавораць нашыя вусны. Але пусці мяне, пане! Трэба спяшацца ў двор, каб разам з сялянамі прывітаць тутэйшага дзедзіча, каторы скора прыедзе к нам. Там грамада сялян нецярпліва чакае, каб выказаць пачуцці свае прывязанасці да таго, хто будзе ім замест айца.

Кароль. Ніколі не спадзяваўся знайсці ў простай сялянцы столькі думак і такіх высокіх! Але скажы мне, мой анёл, для каго ты нарвала гэтых кветак? Ці не дасі хоць адну кветачку і мне на памяць тых звычаёвых навук, якія мне міла будзе захаваць вечна ў сваёй душы разам з вобразам тае, хто іх мне даў.

Юлія. Гэтыя кветкі прызначыла я ў падарунак таму, каго любіць лічу сваім абавязкам: палажу іх пад ногі

сына дабрачынца нашага пры павіншаванні яго з шчаслівым паваротам на родную зямлю.

Кароль. Хіба толькі ты даеш свае падарункі тым, каторымі сэрца тваё занята?

Юлія. Але, мой пане! Хіба ж я не казала, што мы, сялянкі, заўсёды шчырыя? Што вусны нашыя толькі тое паўтараюць, што ім гаворыць сэрца?

Кароль. Аднак жа зважай, прыгожая дзяўчына, што той падарунак з твае рукі, якога я прашу, найчысцейшую і наймілейшую прынясе для сэрца майго радасць. Але... як жа, дасі мне хоць адну кветачку?

Юлія. А чаму ж не? Няхай пану будзе гэтая польная ружачка. (*Бярэ з кошыка ружу, падае яе Каролю ды, наіўна пакланіўшыся, выбягае.*)

## Сцэна XIV

Тыя ж без Юліі.

Кароль. Дзіўная дзяўчына! Не магу апомніцца ад здзіўлення з самога сябе! Мімаволі закахаўся ў нейкую сялянку... я, каторы дагэтуль лічыў іх за быдла, цёмнае, нічым неўлагоджанае! О цуда! Што ж бы на гэта сказалі парыжскія прыгажуні?

СПЕЎ
№ 10

Кароль.

Што за сэрца! што за вабнасць!

Ян.

А якая ручак зграбнасць!

Кароль.

Што за розум! Што за вочы!

Ян.

А як шоўк косы дзявочы!

Кароль і Ян (*разам*).

Ах! для гэтае дзявіцы
Памяць, розум я губляю!
Прэч усё, што з заграніцы!
Я над імі крыж стаўляю.

Ян.

І краса цвіце такая
У вашай вёсцы з ласкі боскай.

К а р о л ь.

Я не знаў, што мая вёска
Гэткі скарб — дзяўчыну мае.

Н а в у м.

Не для нас, знаць, дзеўка-дворка.
Добра кажа прыгаворка:
Гдзе толькі мужык з слаўцом,
Там за ім пуга з вузлом.

К а р о л ь.

Дык спяшайма ў двор затое
Да радні на прывітанне.

Я н.

Там з кахання на сняданне
Лыкну чарку для настрою.

К а р о л ь і Я н (*разам паўтараюць*).

Ах! для гэтае дзявіцы
Памяць, розум я губляю!
Прэч усё, што з заграніцы!
Я над імі крыж стаўляю.

Н а в у м.

Не для нас, знаць, дзеўка-дворка.
Добра кажа прыгаворка:
Гдзе толькі мужык з слаўцом,
Там за ім пуга з вузлом.

Выходзяць.

## Сцэна XV

Змена дэкарацыі: вялікі панадворак; з правага боку панскі дом; па баках гаспадарскія будынкі; з аднаго боку стаяць с я л я н е і с я л я н к і, з другога ж — Д а б р о в і ч, К а м і с а р, У р ш у л я, яго жонка, і ўсе д в о р н ы я, сярод іх Ю л і я. Калі ўваходзіць К а р о л ь, паперадзе яго ідуць д з в е д з я ў ч ы н к і, сыплючы яму пад ногі кветкі. Ён жа ідзе проста да Дабровіча і вітаецца з ім, а пасля дзякуе з абодвух бакоў сялян. За Каролем ідуць Я н і Н а в у м.

Х о р с я л я н.

Да прыбывай жа к нам — яркае солнышка,
Да асвяці ж ты нам — белы аконышка!
Да расцвітай у нас — прыгожа красачка!
Да прыгалуб жа нас — мілая ласачка!
Доўга ж мы ждалі ця — наш ты каролiку!
Палётай жа пры нас — смелы саколіку.

Х о р д в о р н ы х.

Зірні ў бок гэты, ласкавы пане!
І тут прыхільна цябе вітаюць.

Прымі ты шчыра гэта вітанне.
Хай табе шчасцем дні ў нас лунаюць!

Юлія (*выступаючы, спявае*).

Калі з далёкіх ластаўка ніваў
Вясной вяртае дамоў шчасліва,
Свой забывае далёкі вырай,
У роднай сялібе цешыцца шчыра.
І ты, о пане, сярод сабраных
Сялян застанься жыць назаўсёды;
Шукай пацехі сярод падданых;
Будзь для іх бацькам і асалодай.

Кароль.

Радасць, якую тут спатыкаю,
Не меў у ніякім краю дагэтуль.

Ян.

Я з хвалявання слёз не стрымаю,
Ажна да чаркі збыўся імпэту.

Камісар (*убок*).

Ох, на такое пана вітанне
Дрыжу я цэлы! Што ж далей будзе?
Маё бабахне, знаць, панаванне,
Калі не з'едзе зноў ён у людзі.

Навум (*убок*).

Над сіратою Бог з калітою.
Што ж, Камісару, будзе з табою,
Як пан дзядзічны з намі асядзе!
Не будзеш болей глуміць нас, гадзе!

Хор.

Здароў будзь дома, ласкавы пане!
Тутка прыхільна цябе вітаюць.
Прымі ты шчыра гэта вітанне.
Хай табе шчасцем дні ў нас лунаюць!

Кароль (*кажа*). Дзякуй вам, мае дзеткі! А табе, мой дарагі апякуне, тысячныя і найудзячнейшыя складаю ўклоны майго сэрца, што абдарыў мяне такой прыемнай хвілінай! Хвілінай, якое ў жыцці маім яшчэ не сустрачаў. Але дзе ж мая кузіна?

Дабровіч. Яна засталася на нейкі час у пансіёне дзеля заканчэння сваіх навук. Але ці не дазволіш жа сваім сялянам прынесці табе павіншаванне і падарункі ў час такой вялікай для іх урачыстасці — павароту іх айца ў родную сялібу?

Кароль (*да Дабровіча*). Ах! гэта іх зычлівасць захапляе мяне радасцю!.. (*Да Яна.*) Але дзе гэта дзелася наша чарадзейка?

Ян. О, ёсць, пане! Я не спушчаю яе з вока.

Навум (*выступае наперад з камічнай павагай, трымаючы лубку мёду ў адной руцэ*). Вяльможны наш пане дзядзічны, вотча і дабрадзею! Добра кажа прыгаворка: госць у дом, Бог у дом; а ты ж нам дарагі госць, як яснае солнышка; прыляцеў жа ж ты к нам, як чайка з-зá мара; прыляцеў, штоб нас, сірот бедных, пацешыць; чы ж прывёз жа ты з-зá мара сэрца для нас атцоўскае? Нябожчык стары пан, дай яму Бог круляванне на тым свеце, быў нам як родны бацька; хлеба, солі нікаму не жалеў. Не адзін дармаз'ед за яго сталом распіразаў бруха. Будзь і ты яму схожы. Тагды спраўдзіцца прымоўка: яке дрэва, такі клін; які бацька, такі сын. Мы ж табе будзем праўдаю і вераю служыць; усё, што маем, усё з радасцю табе аддадзім; бо і святая прыгаворка кажа: аддай боскае Богу, панскае пану. Толькі ж ты, наш каралёк, не пакідай нас болі: бо хто ж сірот у злой прыгодзе ратаваць будзе? Прымоўка кажа: да Бога высока, да пана далёка. Прымі жа, пане, на гасцінец лубку мёду. Дай Бог, штоб жыццё тваё між намі было, як ён, соладка. Да штоб табе давялася жонка, як галубка, ціха, як авечачка, прыгожа, як красачка. Да будзь жа меж намі весел, як сват на вяселлі, здароў, як вада, а багат, як зямля. Даруй, Вяльможны пане, мажа, якім слаўцом і загнявіў цябе; але ж мей увагу на тое, што мужык — дурань, як умее, так і пее. (*Пацірае чупрыну і адыходзіць углыб.*)

Кароль. Дзякую вам, ад сэрца дзякую! (*Убачыўшы падыходзячую Юлію, убок да Яна кажа.*) Але вот і яна. Напэўне, падаруе мне свае кветкі.

Юлія (*нясмела падыходзячы з кошыкам, кажа*). Перш чым павіншаваць цябе з шчаслівым паваротам, дазволь мне, пане, папрасіць выбачэння за надта смелае захаванне маё пры першай сустрэчы нашай.

Кароль. Наадварот, я благаслаўляю той выпадак, што даў мне найпрыемнейшую хвіліну ў маім жыцці.

Юлія. Пан вельмі добры; бо ці ж можа нейкая бедная сялянка ўпрыемніць хвіліны таму, хто прывык у светных парыжскіх таварыствах бавіць свой час у роўна карысных, як і вясёлых, забавах? Але, абмінаючы гэта, дазволь мне, пане, падараваць табе гэты кошык кветак. Гэта падарунак дзяўчат з твайго каралеўства. Прымі яго з шчырым сэрцам і выслухай чулыя просьбы сваіх падданых: астанься тут з намі і шукай асалоды ў шчасці тых, для каторых, пасля Бога, ты найдаражэйшы.

Кароль. І гэта праўда? І ты разам з імі просіш мяне аб гэтым?

Юлія. Пане! успомні мае словы пры першай сустрэчы з табою: я не маю хітрасці. Яшчэ не ведаючы пана, ахвяравала яму найпрыгажэйшую ружу з маіх кветак.

Дабровіч. Чаго там загаварыўся з Югасяй? Дзівішся, пэўна, з яе выхавання? Гэта вельмі здатная дзяўчына. Дачка мая палюбіла яе і прасіла мяне аддаць іх абедзвюх у пансіён. О! не на благую глебу папала насенне мае дабрачыннасці. Але, можа, дазволіш, каб сяляне, у гэтую шчаслівую часіну твайго павароту, пазабаўляліся сваімі народнымі танцамі? Пазіраючы на іх нявінныя забавы, пэўна, знойдзеш і тут немалую прыемнасць.

Кароль. Вельмі ахвотна. Пане Камісару! Распарадзіся тут, пан, каб пры гэтай забаве не бракавала багатага пачастунку маім сялянам.

Камісар. Слухаю Яснавяльможнага пана. (*Адыходзіць углыб і аддае загады.*)

Прыносяць сталы з ядой і выпіўкай. Некаторыя падыходзяць і п'юць.

Дабровіч. Па звычаю нашых прадзедаў сам павінен, каханы мой Каролю, выбраць каторую-небудзь сялянку і распачаць з ёю танцы.

Кароль. Ну! ужо ад гэтага дык няхай мяне звольніць каханы апякуне! Сапраўды не патраплю...

Дабровіч. Як хочаш, з рэштаю я цябе заступлю. Для мяне аднолькава міла забаўляцца з тваімі, як і з маімі ўласнымі людзьмі.

Ян. А я, пане, выберу сабе Югасю і з ёю прайдуся паланеза. (*Ідзе да Югасі і запрашае яе.*)

Кароль. Ого!.. Глядзі ты, куды папаў! Зайздрасць мяне бярэ, гледзячы, як ён каля яе круціцца; і каб мяне не ўстрымлівала пристойнасць, адбіў бы ў яго гэтага анёла.

Камісар.

№ 11

Гэй, хто жывы! млоды, стары,
Хай шукае кожны пары!
Хлопцы, клічце дзевак у таны!
Так сказаў наш пан каханы.

Становяцца да танцаў: 1-я пара — Дабровіч з сялянкай, 2-я — Камісар з другой сялянкай, 3-я — Навум з камісарыхай, 4-я — Ян з Югасяй і г. д.

Н а в у м.

Добра прыгаворка кажа:
Вяліць пан, то скачы, ўража!

Х о р.

Гэй, хто жывы *і г. д.*

Спяваюць чатыры радкі, танцуючы.

Д а б р о в і ч (*заканчваючы паланез*).

Калі споўнілі тым часам
Звычай даўны ў першым тане,
Ты, Югася, сам-насам
Павядзі для нас гулянне.

Юлія танцуе балет.

Я н (*да Кароля*).

Ах! як яна прыгожа ў тане!

К а р о л ь (*са злосцю*).

А табе маўчаць, балване!

Я н.

Ах! тут кожны ашалее!

К а р о л ь.

Сцеражыся! бо загрэю!

Х о р  д в о р н ы х.

Ах, як лёгка! Як на фалі.
То вось бліжэй, то вось далей;
З ветрам мкнецца ўперагонкі,
Стан павабны, гібкі, тонкі!

Х о р  с я л я н.

Прыгожа, як анялочак,
А лёгка, як матылёчак;
Ножкамі перабірае,
Аж у вачах нам мігае.

Д а б р о в і ч.

Вельмі дзякуй! Брава! Брава!
А цяпер ўсе — толькі жвава!
Хай працягнецца забава,
Жыва ў пары... Ўлева! Ўправа!

Н а в у м.

Калі ахота начата,
Што ж стаіце, як цялята?
Далей, хлопцы, маладзіцы,
Зачніце ад «Мецяліцы».

Іграюць «Мяцеліцу».

(*З чаркаю гарэлкі, ужо крыху выпіўшы, спявае ўбаку. Другія танцуюць.*)
Як пайшоў жа ж наш каваль, наш каваль,
З каваліхаю на баль, дай на баль,
Да марудна ж ён ідзе, ён ідзе,
Дай дарожкі не найдзе, не найдзе;
Не пайшоў жа ж там, гдзе брод, там, гдзе брод,
Да палез ён там, гдзе лёд, там, гдзе лёд.
Ён не борзды на хаду, на хаду,
Ззябіў жонку на ляду, на ляду!
Бадай таго каваля, каваля,
Мяцеліца замяла, замяла,
Што ён яе, маладу, маладу,
Да змарозіў на ляду, на ляду.

Змена тону на «Дуду».

(*Спявае.*)
Я цяцёрку злавіў, ух я!
Чы не дудка была?
Весялушка была,
Весяліла мяне
На чужой старане.
Было ў бацькі тры сыны,
Да ўсе яны Васілі:
Адзін оўцы пасе,
А той хадакі пляце,
Трэці й сядзіць на камені,
Дзяржыць дуду на рамені.
Як павесіў я дуду
Дай на зялёным дубу,
Мая дудка звалілася,
На кусочкі разбілася!
Чы не дудка была?
Весялушка была,
Весяліла мяне
На чужой старане.
(*Далей спявае.*)

Зноў змена тону.

Хадзі, дзеўка-чарнабрэўка,
Са мной ў скок. (*Двойчы.*)
Прышчурыся і вазьміся
Смела ў бок. (*Двойчы.*)

На вуліцы тры курыцы і пявун.
Любі мяне чарнабрыва, я ж Навум.
А хто любіць гарбуз, гарбуз,
А я кацярыцу;
А хто любіць дзяўчыначку,
А хто маладзіцу.
А хто любіць гарбуз, гарбуз,
А я люблю дыньку;
А хто любіць гаспадара,
А я гаспадыньку.

Усе становяцца перад панам і спяваюць.

Хор.

Дзякуй табе, пане, за тваё гашчэнне.
Дай жа табе, Божа, багатае менне!
Дзякуй табе, пане, за шчасну гадзіну.
Напаіў ты, накарміў цэлую дружыну.

*Заслона спушчаецца.*

## АКТ II

### Сцэна I

Сад, у якім дзве альтаны па баках. Наперадзе сцэны — дрэва, каля яго — лаўка з дзёрну, а на ёй спіць Ц і т.

Н а в у м (*як падымаецца заслона, спявае*).

№ 1

Добра вучыць нас прымоўка:
Цягаў воўк, пацяглі воўка.
Цішком нас пан к сабе зваў,
Аб Камісару пытаў.
Мы ж языка не шчадзілі,
Добра яму засалілі.
Цяпер пан на яго зол,
Наёжыўся, як сакол.
Досыць жа яму нас мучыць.
Добра прыгаворка учыць:
Папаўся, наш пане жучку,
Да ў панскую ты ручку.

Ты намі паневяра́ў,
Апошняе выдзіраў;
Цяпер мы, паганску сыну,
Дадзім добра чосу ў спіну!
Бо што будзе, тое будзе,
Саўка на куце не будзе.

(*Кажа.*) Ой так! На што наважым, на то наважым, а яго адсюль, як мятлой, вымецем. Я пярвей маўчаў; але як пан начаў распытываць, прыпомніў сабе прымоўку: горш, калі баішся, і ліха не мінеш і надрыжышся; бяды ж горшай не будзе; дай ну ж пець да выспевываць усю праўду. У пана аж вушы павялі. Думаю сабе: сем бед, да адзін атвет. Чаго тут маўчаць? Чы ты мяне калі напаіў, чы накарміў? Добра гутарка кажа: ніколі я ў цябе брухам стол не адсунуў і маўчаць не буду. Ой! пане Камісару! Куды кінь, то клін. Цяпер пайду да кума да падсяду добра каля Югасі. Мусіць мне сказаць праўду: чы любіць? чы не? А там і запоіны! (*Падыходзіць да Ціта.*) А гэта хто? балазе Ціт? Ціт! о Ціт!

Ц і т (*праз сон*). Дзякуй табе, пане, за тваё гашчэнне.

Н а в у м. Яму, баш, учарайшае спадабалася. Уставай, кум, ачуныся да паглядзі, гдзе ты.

Ц і т (*як раней*). Адчапіся, жонка, не лезь смалой у вочы; бо знаеш, што кум кажа: жонку любі, як душу, а трасі, як грушу. Дык і я цябе як трасану, дык у вачах пазелянее.

Н а в у м. Ото ж рынуў прымаўкай, як граззю ў вочы! Апамятніся, кум! Гэта ж я, Навум.

Ц і т (*праціраючы вочы*). А што? чы Камісар заказаў на дзела?

Н а в у м. Якое дзела! Устань да паглядзі, куды ты зайшоў.

Ц і т (*устаўшы, аглядаецца на ўсе бакі*). Ба!.. Гэта ж я ў панскім садзе! Куды мяне нячыстая загнала сіла? Учарайшая ахота вельмі мяне амарочыла!

Н а в у м. Відна, кум, што ты ўчора губы не жалаваў. Ты, відна, помніў прымоўку: патуль пій да еш, пакуль рот свеж: бо як умрэш, то і калом не ўпрэш.

Ц і т. Нечага казаць: ядзення было многа, але піцення і прымусу саўсём не было. (*Хістаецца, быццам хоча паваліцца.*)

Н а в у м. Відно, што не было, бо ты і цяпер на нагах устаяць не можаш. Ідзі дахаты да праспіся.

Ц і т. Добра кажаш, куме! (*Адыходзячы, хістаецца і спявае.*) Дзякуй табе, пане, *і г. д.*

## Сцэна II

Навум і Камісар.

Камісар. Прынялі мяне сёння ў пана холадна, што я пачынаю думаць, ці няма на мяне нагавораў перад ім? Але вот і войт. Трэба яго выпытаць: бо гэта хітрая штучка.

Навум (*убок*). Ой, цяпляк ідзе! Крапіся, Навум! і ты, місцюк! Хоць чалавек не баіцца, а штось па скуры мароз так і падзірае!

Камісар. Што чутно, Навум?

Навум. Нічога, пане! Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

Камісар. Чы ты быў сягоння ў пана?

Навум. Я?.. не, гэта... бо... здаецца, быў. (*Убок.*) Не ведаю, як тут выверцецца?

Камісар. Дак эта ты, сабака, на мяне набрахаў штось перад панам?

Навум. Хто? я?.. Э! Панок!.. Пану тыкі і стыдна і брыдка гэтак аба мне падумаць. Гэта, як кажа прымоўка, ад Бога грэх і ад людзей смех. Каб жа я каму калі што якое, а то ніколі нікому нічога... Нашто ж тое?..

Камісар. О! не выкруцішся, бесі сыну! відна, што лжэш.

Навум. Паночак! Я лгу?..

Камісар. Ты!..

Навум. Я?.. О, гэтак! о!.. Калі я каму якое як, дык багдай бы мяне, няхай бы мяне... О, гэтак! о!.. Я хоць чэраз якую казу руку дам: бо я за гэта не баюся. О, гэтак! о!.. От хоць чэраз чорную казу руку дам: бо я не баюся. О!.. ведаю добра прымоўку, што на чужы лоб сягаючы, трэба і свой наставіць.

Камісар. Пачакай, лайдача! я прыпільную! Але не прасі Бога, калі дазнаюся! Будзе канчук у рабоце.

Навум (*убок*). Вялікага сабакі вялікі брэх! Баш ты яго, вельмі пабаяліся! Ведаў Бог, каму не даў рог.

Камісар. Памятай!.. Але нехта ідзе. А, гэта Югася! Ідзі папільнуй за форткаю, каб хто не падышоў; асабліва калі ўгледзіш, што мая жонка ідзе, то зараз жа скажы мне. Я хачу з Югасяй пагаварыць.

Навум не ідзе.

Ну!.. Чаго ж чакаеш? Балване!

Навум. Іду ўжо, іду! (*Убок.*) Ён тут гатовы сужаную маю адмаўляць ад мяне! Пайду да прышлю тут яго жонку.

Хіба яна дасць рады. Бо добра кажа прымоўка: куды чорт не даступіцца, туды бабу пашлець. (*Адыходзіць.*)

Камісар. Адыдуся крыху ўбок, каб яе знячэўку не перапугаць. (*Адыходзіць углыб.*)

## Сцэна III

Юлія і Камісар.

Юлія.

№ 2

Як вясна свет асвяціла,
Гоніць сон з сябе зямліца;
Ад вясенняй ласкі мілай
Усё смяецца, весяліцца;
Птушка песняй шчабятлівай
Славіць сонца над палянкай,
Апяваючы жычліва
Свайго мілага каханка;
Толькі ж мне журбуе сэрца,
Гэтай радасці не знае,
Да мінулых дзён імкнецца
І баліць, баліць без краю.

Камісар.

Ах, каго так ты ўзлюбіла,
Што запела гэтак міла?

Юлія.

Так не ўходзе, пан дабродзей,
Падслухоўваць, як злодзей.

Камісар.

Калі тут на адзіноце
Жаласліва так спявае, —
Песняй сэрца разахвоціць
І мне лёс мой разгадае.

Юлія.

Калі я на адзіноце
Думку думаю аб любым, —
Ён, як жораў на балоце,
Ладзіць, быццам хоча згубы.

Камісар.

Мая Югаська!
Ціпачка, краска!
Мой ты мігдалік!
Мой спецыялік!
Мей жа вока на залёты!

Для мяне усім даўно ты,
Для цябе жыву, ўздыхаю
І з любосці высыхаю!

Юлія.

Які чорт яму прысніўся?
Ці ж, пан, Бога не баішся?
Ўжо вам ломіць старасць косці,
А вы лезеце з любосцяй!
Маеш жонку! ці ж гадзіцца
Так жанатаму любіцца?

Камісар.

АРЫЯ

Мая люба! мая міла!
Воч тваіх не земска сіла
Ўзяла сэрца мне. Ах!
Надала мук, не спытаўшы!
Дык і сэрца й душу ўзяўшы,
Дай жа мне сваё! Ах!

Ні адна калісь дзяўчына,
Хоць салодка, як маліна,
Не змагла мяне. Ах!
Ты ж мне ўсё жыццё змяніла,
І цярплю, цярплю няміла,
Бачачы цябе. Ах!

З тых пор смутак ссе мне грудзі,
Свет не міл, не мілы людзі,
Хоць гавей душой. Ах!
Разгані ж мае ўздыханні,
Сэрца выпаўні жаданні,
Ты, анёле мой! Ах!

(*Кажа.*) Так, Югася! Я ўвесь для цябе. А што жанаты, тым лепей для цябе: не буду такім спосабам хваліцца перад людзьмі, як дабіваўся твайго сэрца. Але не выпадае нам з табой цяпер доўга быць: можа хто-небудзь падысці. Ведаеш што, мая найдаражэйшая Югасечка? Зрабі мне адну ласку і назнач мне мінутку для размовы з табою ўвечар у гэтым садзе. Я буду чакаць цябе тут. Зробіш мне гэтую ласку? Паслухаеш жа маёй просьбы?

Юлія (*убок*). Пачакай жа, мой ты марцавы дзедка! Зраблю я табе штучку! (*Голасна.*) Што ж рабіць! Можа б, то і не выпадала, але прыйду. Цікава ведаць, што гэта мне пан скажа? Дык каля поўначы няхай пан чакае мяне ў той альтане, што направа.

## Сцэна IV

Тыя ж і Уршуля; яна падкрадваецца і, як толькі канчае гаварыць яе муж, накідваецца на яго.

Камісар. О мая ты рыбка! пяшчотка мая! як жа я табе ўдзячны за тваю дабрату для мяне!

Уршуля. А васан што тут робіш? гэ?

Камісар. Я? я? так, мо... вот я заказваў прыгон на заўтрашні дзень.

Уршуля. І каму ж ты заказваў? гэтай дзяўчыне? што?.. А гэта добра! Яшчэ ні ў адной кніжцы гэтага не вычытала (а перабрала я іх на сваім вяку вельмі многа), каб Камісар заказваў прыгон адной дворнай дзяўчыне. Ой ты, стары ветрагон! ветрагон! Заўсёды мне выдумляеш усялякія фіглі, і нічога добрага! Пайшоў мне зараз дадому! Аваспанна застанься тут: я хачу распытацца.

Камісар (*убок да Юліі*). Югася! не прагаварыся, будзь растаропна; і памятай, што абяцала. (*Адыходзіць.*)

## Сцэна V

Тыя ж без Камісара.

Уршуля. Ну, мая рыбка, што на гэта скажаш? Гэ?

Юлія. Ах, мосця дабрадзейка! абарані мяне, бедную дзяўчыну, ад праследавання пана Камісара. Як цень, ён ходзіць пастаянна за мною і надаядае мне сваім каханнем. Намаўляў мяне, каб я прыйшла сёння ўвечар на спатканне з ім вот у гэтым садзе. Я нібы згадзілася на гэта, але хацела наўперад паведаміць паню і прасіць, каб пані пайшла на маё месца. Няхай жа гэта пані зробіць, каб потым магла пакараць яго за тое, што да другіх заляцаецца.

Уршуля. Вот гэта называецца ветла з твайго боку! Яшчэ ні ў воднай кніжцы не вычытала я, каб дзяўчына, і асабліва дворная, так пачціва мысліла, як ты. О пачакай ты, круціглова! шэсцьдзесятгадовы баламут! выб’ю я табе з галавы гэтыя твае залёты! І дзе ж, у якім тут месцы хацеў ён з табою размаўляць?

Юлія. Вот, пані, у той направа альтане.

Уршуля. Добра, мая міленькая! дзякую табе, дзякую! Рабі гэтак заўсёды, а калі будзеш пачцівай дзяўчынай, то непраменна знойдзеш сабе добрага мужа, і благаславенства боскае не перастане свяціць над табою.

Пайду ды пашукаю кніжку з падобнай інтрыгай і пагляджу, як у такім здарэнні паступіла жонка з сваім мужам. Бывай жа здарова, мая ты каханачка! мой ты анёлачак!.. О пачакай, пачакай ты, стары грэшнік! цяпер я цябе злаўлю! Дагэтуль ты выкручваўся, як уюн; заўсёды казаў мне адно: «Эй, то плёткі, мая душачка, плёткі...» Але ж цяпер пабачым! Плёткі, плёткі, ха! ха! ха! Плёткі! (***Выходзіць, паўтараючы апошнія словы.***)

### Сцэна VI

Юлія, а потым Ян.

Юлія. Вот дык я яму ўслужыла! Але так яму і трэба: няхай не шалее ў такім веку! Але нехта там зноў ідзе? Ах, гэта Ян, камердынер Кароля. Па праўдзе сказаць, тая роля, якую я ўзлажыла на сябе, апрыкрала мне трохі; але цешу сябе надзеяй, што папраўлю Кароля; і гэта думка асалоджвае мне цяжкасці, якія для яго дабра і свайго шчасця з ім пераношу. Ну, пабачым жа яшчэ аднаго залётніка!

Ян.

№ 3

Добры вечар, маё каханне!

Юлія.

Ваша служка, пане Яне!

Ян.

Як здароўе, як жывецца?

Юлія.

Ў галаве мне штось вярзецца.

Ян (*з залётамі*).

Я шукаў паненкі ўсюды,
А знайшоў вось тут, як цуда.

Юлія (*холадна*).

Ці ж знаходзіць рэч цяжкая?
Латва знойдзе, хто шукае.

Ян (*убок*).

Як прызнацца ёй ў любосці?
Ажна страх трасе мне косці!
Паспытаць жа цяпер мушу,
Ці ёй сэрца не парушу?

Юлія (*убок*).

Чую, гэты патароча

Заляцацца ка мне хоча;
Але прысягну на душу,
Што з яго закпіці мушу.

Ян.

Калі ласка...

Юлія.

Што ж такое?

Ян.

Ах! сваё ўчуццё святое
Для цябе я пасвячаю
І любіць век прысягаю.

Юлія.

Пан Ян, бачу, ў жарты ўдаўся.
Як жа стрэнуць парыжанкі,
Што да простае сялянкі
Гэтак смагла заляцаўся?

Ян.

А хай немач іх зматае!
Вер, кажу я не на жарты:
Парыжанка хоць якая
Пры табе і грош не варта.

РАМАНС

У цябе, паненка, залётныя вочкі,
У іх бачу сонца і тайнасці ночкі;
А так павабна на свет пазіраюць,
Што, калі гляну, мне думкі ўсе таюць.
Чую, сэрца б'ецца сільна,
Чую, што люблю прыхільна.

Юлія.

Дзякую.

Ян.

У цябе, паненка, усмешка, як сонца,
А, як лілея, твар белы без конца;
Такая яснасць у твары анельскім,
Што часта к думкам ляту я нябескім:
Доля! дай мне за каханку
Вось такую багавянку.

Юлія.

Дзякую.

Ян.

За галасок твой срабрысты, ласк поўны,
Аддаў бы зараз, каб меў я, мільёны!

Бо як пачне ім пяяць, заліванца,
Ах! вечна табе я жадаў бы ўслухацца,
А так дарага цаню я,
Бо ўвесь чыста ў ім тану я.

Ю л і я.

Вельмі ўдзячна за пахвалы,
Але вам скажу заране,
Што мне будзеце вы сталым,
Я не веру, пане Яне!

Я н.

Ах, павер мне! бо самдзела,
Калі будзеш мне ты ўпартай,
Ў лоб сабе я тут жа стрэлю!
Гэта я кажу не жартам.

Ю л і я (*убок*).

Ох! задам табе гулянкі!
Пачакай, парыжскі пане!
Не захочаш ты каханкі
Тут шукаць у сельскім стане!

Я н (*убок*).

От увёў яе ў гулянкі!
Ўжо магу сказаць я смела,
Што да цнот маёй Юганкі
Мне дарога папрасцела.

Ю л і я (*кажа*). Нарэшце, можа, я і не была б глухая да твайго, пане Яне, запэўнення аб каханні, каб жа ты быў шчырэйшым; але як жа даць веры, што бедная сялянка можа завалодаць тым сэрцам, якое ў самым Парыжы не раз атрымлівала лаўры перамогі з найлепшых, можа, яго прыгажосцяў?

Я н. О! клянуся табе на неба і на пекла, што твае вочкі так прыцягваюць маё сэрца, як... (*Думае.*) Як... напрыклад, бутэлька, калі яна напоўнена нябескім нектарам шампану!

Ю л і я. Аднак, пане Яне, будзь ласкавы, адыдзіся адсюль! Калі хто спаткае нас тут, гэта можа мяне скампраметаваць. Вось жа, калі хочаш мяне забавіць пяшчотнай тваёй дэкламацыяй ці спевам, прыходзь апоўначы да той налева альтанкі; а там, калі ўся прырода будзе спачываць, я пад месячыкам заслухаюся, як пан Ян у маіх ног будзе размаўляць і аб'ясняцца.

Я н. О мая ты Дульцынела! на крыллях кахання прылячу да цябе і з нецярплівасцю буду чакаць, калі зорачка шчасця заяснее на маім гарызонце. (*Адыходзіць.*)

Чуваць звонікі. Шляхта, ап'янелая, хістаецца па сцэне без парадку; гутарка агульная без сэнсу; Куторга пасярэдзіне сцэны раняе кубак і засыпае.

Кручкоў (*бярэ ўбок Альпенскага і кажа яму*). Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?

Альпенскі. А што?

Кручкоў. Ён казаў, што ты не шляхціц.

Альпенскі. Што? Ён мяне так зневажае? Вось я ж яму пакажу маё шляхецтва!

Кручкоў. Не пры мне, — як паеду, тагды з ім расправішся! (*Адыходзіцца, бярэ ўбок Статкевіча.*) Знаеш? Цябе Альпенскі аблаяў мужыком.

Статкевіч. Ён смееў назваць мяне мужыком? Мне сам Юры Кабылінскі падпісаў грамату, дык я ж на шкуры яго выпішу сваё шляхецтва! (*Шугаецца да Альпенскага, і пачынаюць біцца.*)

Ліпскі. Найяснейшая карона! Шляхта папілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належыць!

Кручкоў. Не ка мне, не ка мне — няхай у суд падаюць, тагды прыеду на следства! Бывайце здаровы! (*Выходзяць з Пісулькіным.*)

Ціхон. Віват, найяснейшая карона!!

Усе (*апрача тых, што б'юцца*). Віват, найяснейшая карона!!

Заслона апускаецца, пакідаючы наперадзе сцэны Куторгу; той прачынаецца.

Куторга. Што? Ужо разышліся? А там чутна і бойка! Добра прыпавесць кажа: пінска шляхта як нап'ецца, то напэўна падзярэцца. (*Да публікі.*) Ды вы ўжо, найяснейшыя панове, спаць хочаце? А што? Няпраўда? Дык:

№ 9

Найяснейшая публіка!
Прашу цябе, не дзівіся,
Бяда гэта невяліка,
Што мы крыху папіліся.
Няхай шчасная развязка
Пінскай шляхце ад вас будзе, —
Дайце брава, калі ласка,
Ды і з Богам, добры людзі!

*Канец*

# *Залёты*

*Фарс-вадэвіль у 1-м акце*

АСОБЫ

Ян Пачціўскі — маршалак.
Аляксандр Сакальніцкі — суддзя.
Адэля — яго дачка, 18-ці гадоў.
Адольфак — сын Сакальніцкага, 12-ці гадоў.
Станіслаў Зацнеўскі — малады памешчык.
Антон Сабковіч — арандатар.
Даміцэля — яго сястра.
Пятрук — парабак.
Гапон Барычка — селянін.
Куліна — яго жонка.
Марыся — іх дачка.
Мордка — жыд-цесля.
Ключвойт.

Дзея адбываецца спачатку ў кватэры Сабковіча, далей — у лесе перад сялібай Барычкі, на заканчэнне — у доме Сакальніцкага.

## Сцэна I

Сцэна прадстаўляе невялічкі пакой, у каторым направа — два акны, налева і прост — дзверы. З левай стараны — стол, на каторым Даміцэля прасуе хустачку для брата. Сабковіч, зусім ужо апрануты і толькі без фрака, каторы вісіць на крэсле, — падкручваецца і ўзіраецца ў туалетавае люстэрка, а пасля бразгае грашыма ў кішэні і спявае.

Сабковіч.

№ 1

Маю грошы, маю я;
Мне ніхто тут не раўня;

Прад маёй машонкай поўнай
Гнецца роўны і няроўны.
Як ганяў скаціну ў лес,
Кожны чуць не з фігай лез,
А як стаў багат сягоння,
Б'юць паклон мне на паклоне.
Ці даўно там ясны пан
Дуўся, як парожны жбан, —
Знай, як лёкая частуе, —
Цяпер лашчыцца, цалуе.
І паненкі ці даўно
Ўсё смяяліся ў адно, —
Сёння, бач, глядзяць мілютка,
Бразну — дзын, — збягуцца хутка.
Пісар, войт ці аканом
Называлі балваном, —
Як пачулі толькі грошы,
То знайшлі й розум харошы.
Хто маю хацінку знаў? —
След к ёй зеллем зарастаў;
Сёння ж повен і дзядзінец,
А ўсе сцежкі — як гасцінец.

(*Гаворыць.*) Дык што ж... ці ж я не прыгожы хлапец? (*Круціцца па пакоі.*) Паўзірайся, сястрыца... Цяперака, як прычаплю паўпэруку, мая Адэльця, напэўна, з радасцю пойдзе за мяне... дык што ж...

Даміцэля. Ці не паспяшаўся, мой даражэнькі, называць яе сваёю, — не будзь такім пэўным, каб не ашукацца...

Сабковіч. Дык што ж... або я не маю грошай?

Даміцэля. Мне здаецца, з дзяўчынай добрага роду і багатай на ўсё, трэба мець яшчэ нешта, апроч грошай.

Сабковіч. Цікавасць! Дык што ж... чаго ж гэта яшчэ патрэбна?

Даміцэля. Перш-наперш, мой даражэнькі, кавалер, што заляцаецца да паненкі, павінен быць таго самага стану, як і яна; калі ж ён з ніжэйшага стану, то павінен, прынамсі, мець славу вучонага і разумнага, — інакш той стан, да каторага належыць паненка, будзе крычаць, што гэта мезальянс, і адгаворыць не толькі бацькоў, але і паненку, калі б ты нават ёй і падабаўся. Другое, трэба, каб кавалер быў адукаваны, калі не лепш

за паненку, дык і не горш, гэта дзеля таго, каб ёй не было сорамна за свайго мужа. Трэцяе, і самае важнае, каб той, што заляцаецца, меў добрую славу ў людзей; а ты, мой брацейка, — даруй, што праўду скажу, — не можаш пахваліцца ні першым, ні другім, ні трэцім.

Сабковіч. Дык што ж... цікавасць... Адным словам разаб'ю ўсе твае наймудрэйшыя довады: маю грошы, а грошы цяперака для ўсіх станаў надта ласая рэч. (*Стукаючы па кішэні, пяе.*)

№ 2

Грошы ўсім кусочак ласы,
Хоць хто мае іх даволі,
Ўсё ж к ім прэ, як да каўбасы,
Калі ўбача ў каго болей.
    Вось ліхвяр, што кублы мае,
    Поўны золатам набіты,
    Блізкіх, дальшых абірае,
    Век працэнтамі не сыты.
А паны яснавяльможны,
Хоць дабра, зямлі шмат маюць,
Так жывуць неасцярожна:
Ў ліхвяроў дапазычаюць.
    Ксёндз, поп, рабін, хоць набожны,
    Ўсе ў здарэнні гэтым роўны:
    Любіць золата з іх кожны,
    Гоне ў стан яго духоўны.
Любяць золата і суддзі:
Як хто ў іхні ўлезе краты,
Хай не дасць — віноўным будзе,
А як дасць — невінаваты.
    Ліхвярамі суддзі нашы
    І паны, і стан духоўны,
    І дзяўчат дукат не страша:
    Любяць золата ўсе роўна.

(*Гаворыць.*) Дык што ж...?

Даміцэля. Праўда! У цяперашніх цяжкіх часах шмат паненак, заплюшчыўшы вочы, пайшло бы за багаццем, але шчасця і дабра ад гэтага няма чаго і спадзявацца: усё жыццё ваша атруцілася б сваркамі ды калатнёй. Панна Адэля не такая. Каб меў нават багацце Крэза, і тады б яе да сябе не прынадзіў; яна шукае чагосьці іншага, большага за золата.

Сабковіч. Цікавасць!.. чаго ж гэта?..

Даміцэля. Я табе ўжо казала аб гэтым і магу ў некалькіх словах сказаць яшчэ раз: добрай славы ў людзей, навукі, адукацыі і полеру, дзякуючы каторым ты не сароміў бы таго стану, да каторага яна належыць.

Сабковіч. Э! Пляцеш, мая даражэнькая. Дык што ж... каб я не меў розуму, то і грошай не сабраў бы. Што датыча якогасьці тамака полеру, каторага быццам, як ты кажаш, мне бракуе, — яго старчыць для мяне: усюды патраплю вясці сябе не горш за якога лішне разумнага з пустымі кішэнямі, дык што ж... Ось, напрыклад, шумна ўходжу да панскай салі, поўнай гасцей, дык што ж... прыбліжаюся да пані-гаспадыні, трымаючы левую руку ў кішэні, а праваю, як бы не хочучы, цісну ёй ручку так — па-панску і кажу праз нос: коман ва, як здароўечка, як ідзе гаспадарка, і так далей, — цікавасць... Дык што ж... пасля падыходжу да гаспадара, з каторым, як роўны з роўным, цалуюся; далей, усунуўшы ўжо абедзве рукі ў кішэні і як бы не хочучы, бразгаю сумысля ўсыпаным туды золатам, навокал з гары ўзіраюся і з павагаю... дык што ж... ківаю галавою адным ніжэй, другім менш нізка — павэдля багацця і становішча іх, дык што ж... Потым іду да паненак і, як бы ненарокам, кідаю залатую манету на зямлю, і раблю гэта, ведама, тады, калі блізка, дык што ж... лёкай круціцца; ён, падбегшы, падымае грошы і хоча мне аддаць, тады я спакойна, арыстакратычна кажу: «Пакінь гэта сабе, даражэнькі», і... дык што ж... Як бы нічога не было, пачынаю з паненкамі... дык што ж... жартаваць, бразгаючы ўсё золатам у кішэнях; вяду гутарку аб пагодзе, апратках, хлапцах ці аб нечым падобным, дык што ж... А! а! ці ты ведаеш, сястрыца, што я ўжо і кантраданса ўмею скакаць... Дрыгальскі мяне крыху падмуштраваў, толькі другая хвігура неяк нядобра ідзе. Паглядзі, мая даражэнькая, шак жа ж ты шмат бачыла скокаў, дык што... дык можаш папраўдзе асудзіць... (*Пачынае скакаць і пяе.*)

ДУЭТ
№ 3

Сабковіч.

Тра-ля-ля-ля, тра-ля-ля-ля! —
Стань ля боку, ўгледзься здаля
Да паставы, да натуры.

Даміцэля.

Чысты мех з мядзведжай шкуры!

Сабковіч.

Дык што ж... Суд крыху застрогі.
Глянь! Як поўзам ходзяць ногі,
Стан схілісты і павабны...

Даміцэля.

Ах, які ж ты ўвесь нязграбны!

Сабковіч і Даміцэля (*разам*).

Перабіра ты сярдзіта,
Кпіш без літасці — і квіта!
Мяне знаюць не такія,
Так скачу, як і другія.

Не да скокаў ты суджоны,
Да сахі і да бароны:
Ногі крывы, як кавёлы,
Значна, што з Смаргонскай школы.

(*Скачучы, прыбліжаецца да дзвярэй, што знаходзяцца прост сцэны, і, штурхнуўшыся аб парабка Петрука, што ў гэты момант уваходзіць, падае на зямлю.*)

## Сцэна II

Тыя самыя і Пятрук, парабак.

Сабковіч.

Вось уцяў! аж цёмна ў воку;
Ах, чорт лысы ды шалёны! —
Стой тут. З месца ані кроку!

Пятрук (*скрабучы галаву, нізка кланяецца*).

Няхай будзе пахвалёны!

Сабковіч (*устаючы*).

Ехаць меўся ў важны госці,—
Гад звіхнуў нагу у косці,
На манеры мо быць страта.

Даміцэля.

Раджу, лепш пільнуйся хаты.

ТЭРЦЭТ

Сабковіч.

Дык не веру ў прадчуванне,
З паваротам жджы шчаслівым:
Веру ў мілачкі каханне,
Бо ўсе з іх к рублям жычлівы.

Даміцэля.

Не вер золату, васпане,
Паварот мо быць слязлівы:
Той кахання не дастане,
Хто адно глядзіць нажывы.

Пятрук.

Даўно пас скацінку ў полю,
А цяпер пан над панамі.
Дай свінні рог, дурным — волю,
Свет павернуць ўверх нагамі.

Сабковіч (*кажа*). Што, медзвяжонак! Ці справіўся з інтарэсам, за каторым я цябе пасылаў?

Пятрук. Кепска, паночык. Сказалі там у Кію, што гэта нячысты антэрас.

Сабковіч. Дурны! Колькі разоў казаў я табе, каб ты, адказваючы, казаў на мяне — ясны пане.

Пятрук. Эт, пано... хацеў сказаць: ясны пане; я чалавек бывалы, зубы з'еў на дворскай службе, і па Вільні не раз цягаўся; ото ж часта мне здаралася сустрэцца памеж шляхтай з гутаркай, што «ясне — згасне, а маспане — застане».

Сабковіч. Дык што... дык ты і ў Вільні быў. Што ж ты тамака бачыў цікавага?.. дык што... смешны ты з сваёй гутаркай.

Пятрук. Што, пано... хацеў сказаць: ясны пане, гаварыць? Німашка нішто цікавага. Палаты амаль усе каменныя, вуліцы так вузкі, што нельга размінуцца; як стрэчацца дзве хвурманкі, то хоць ты колам іх разнімай — вось як часам пан чаго загневаецца да зубы сашчаміць, так і яны з сабой сплятуцца. Людзі бегаюць як падстрэленыя, адзін другога штурхае — маўляў бы хто, што яны за пільнай спяшаць работай, а яны так, здуру толькі з кута ў кут лётаюць да зубы скаляць. Праўда! бачыў я адно дзіва цікавае: бачыў, як маскалі муштруюцца; эт! да і то, як прыпомніў маладзенькі мае леты, мэрам як то калісь старэнькі дзядок мой, дай Бог яму крулеўства нябеснае! Каторы па ту пору, як я быў дзіцём, перакінуўся ўжо за сотню гадкоў; бывала, вёў расказы на зімовых вечарніцах, то і гэта іх муштраванне выдалася мне кепствам.

Сабковіч. Дык што... што ж вам дзядок твой расказваў?

Пятрук. Э!.. э!.. э!.. па... ясны пане, — як засядзе, бывала, пры лучніку лапці плясці, а пачне вясці, з прэпрашэннем яснага пана, расказы, то мы ўсе, бывала,

як тыя зайчыкі, калі часам пачуюць якісь шорах каля лагавіска, і вушы наставім, да і зубы вышчарым, мэрам як наш курта, калі ўгледзіць жыда: так цікава, бывала, вядзе расказы. Баш, ён быў не тутэйшы, а захожы із-пад Кіева; так вось распраўляе, бывала, якое было ў іх войска, аж міла слухаць! Бывала, стары як раздабрухаецца, а прыпомніць старыну, так вось кажа: «Гай!.. гай!.. брацікі, нямашка на свеце, як то калісь, слаўнай памяці, за гатманшчызны! Як баш — войска наша сабярэцца ў кучу. Не знала яно, што то — «стой» і «не шавяліся». Бывала, пры Хмяльніцкім-атамане стоўпіцца пад ясным украінскім небам сіла казацкая — палкі Чарнаморскі, Палтаўскі, Гуманскі, Гранаўскі, Пяцігорскі і Каняўскі. Казакі ў шапках сівых з краснымі галавіцамі — вось мак, цвітуць!Ураднікі на коніках фінцяць, сотнікі вусікі круцяць, а ассаула губы ду-у-у-е!» Так, бывала, мудра расказуе, што і сцяміць нязмога!

Сабковіч. Ну, дык што... а ў Вільні што ты бачыў?

Пятрук. Эт!.. што бачыў, то не было чаму дзівіцца. Муштраваліся, здаецца, і дружна, вось арэх згрыз, да куды ім!.. Праўда, яны паўбіраўшыся, як дзедавы казакі, у шпанцэрках, але нашто ім папрышывалі хвосцікі з чырвонымі беражкамі — мэрам у шчыглікаў? Чэраз плечы перавешаны ў іх белы стрычкі, а на галавах такія шапкі, як макатры. Але ж то мне было вельмі дзіўна, што на перадзе ў тых шапак вось галавешкі старчалі. На лбе якаясь у іх птушка із масендза да з дзвюма галавамі — няведама якая: чы сыч, чы сава, чы загуменная варона? Бог яе згадаў бы. Ото ж яны так стаялі ў кучы, рушніцы паставіўшы ў казёлкі, маўляў чумакі, калі на папасе саганчыкі з кашай над агнём вешаюць. Аж адным разам выязджае з завулка якісь старшы; як крыкнуў — «гэй!», так яны ўсе скочылі, схвацілі за рушніцы і сталі роўна, хоць ты нітку працягні. Гляджу я на старшага — злез ён з каламажкі. Эт! Такі самы маскаль, толькі брухатшы. Чэраз плечы перавешана сіня стрычка, на грудзях навешана цацак і мендаляў жыдоўскіх так, што ён выглядаў рабы, мэрам стракатая панская ялаўка. На галаве яго — то така шапка, як заслонка ад печы. Чалавек якісь не тутэйшы, не рускай пароды, а з-за́ мара. Але не была бы то заморская штука! Хоць старшы, да рукі меў крыху прыдоўгі: як стаяў гдзесь на квацеры, то падхваціў пявуна дый схаваў у шапку. Не сцяміў, дурны! што ён, хвост з шапкі выставіўшы, усё ім віляе. Як, баш, падышоў бліжай

да маскалёў, то адзін скочыў, вырваўшыся із грамады, маўляў з укропу! Ляціць!.. ляціць!.. ляціць!.. і распяўся! А пасля рушніцай — кіў, а яны — драг! Ён зноў — кіў! а маскалі — драг! Так вось старшы і разгневаўся... падбег да грамады і крыкнуў: «З дарогі, жарабята!» А грамада на ўзгарду забарматала: «Галды-балды! галды-балды!» — мэрам індыкі, калі дзеці іх падражняць. Тут старшы як выхваціць сваю шаблю... Эт! чы то така, як была па дзедаўскаму расказу за слаўнай памяці гетманшчыны? Вось, дыхтар, капыстка, што бабы лямешку мяшаюць, кажысь, спічка — пацукоў калоць; та ж ён, трымаючы такі ражончык у адной руцэ дзеля пастраху, а другу прылажыўшы ка лбу — мэрам паказаць ім, што ў галаве ні крыху розуму не маюць, — стаў іх лаяць, аж адзін, із кучы выскачыўшы, вось чорт із балота, і тэж прылажыўшы руку ка лбу: «Уціхаміріцися, ваша міласць! — кажа, — та ж і мы маем крыху тут алею; усё, што робім, то па хворме». О-о-от ён скрыжатнуў зубамі са злосці, адышоў крыху і крыкнуў, а яны — драг! Ён якоясь слаўцо выкінуў іза рта, а яны, усе да аднаго, рушніцы паставілі пры назе: «Муштруйся, кажуць, сам, калі такі разумны!» Потым ён загаласіў працяжна, кажысь, пастух у лесе рогам быдла наклікае; відна, жаласна вельмі стаў іх прасіць, бо яны, зліταваўшыся над бедным, разам ад чобатаў да галавы — ча-ра-рах... Але потым чур ім да пэк ім! Стыдна, бачыш, і казаць — як крыкнуў старшы, так усе да аднаго правую руку за сябе і закінулі; зноў крыкнуў, а яны наперад руку падняслі да носа дый панюхалі. Пасля сталі набіваць стрэльбы! та ж Бог мя! Як раз набілі, то са дваццаць раз стрэлілі. Нарэшце ён ім дакучыў, відна, сваім муштраваннем то налева, то направа, то зноў налева, — што яны раптам пагналіся за нім. Ён жа ўсё наперад, усё наперад чэша да чэша, боязка аглядаючыся, штоб часам грамада не дагнала. Калі б я альбо дзедавы казакі, то б яго мігам нагналі, бо казакі смела па божай зямлі хадзіць могуць у шырокіх нагавіцах, што ў адну калошу трох маскалёў схаваў бы, а ў іх белы нагавіцы, вось абцугамі панацяганы, і для ніх папрышываны якіясь яшчыкі, так што і не змогуць смела ступаць, да ўсё, як буслы, ногі выцягіваюць і пруцца за ім лаваю. Ужо блізка яго нагналі, аж з канца якісь там закрычаў: «Пакіньце гнацца за гэтым бачонкам, бо і жыды смяюцца!» — і праўда! Я сам бачыў, як, на платах да на варотах начапляўшыся, жыды смяяліся з таго муштравання. Но пасля ён, відаць,

сцяміў, што стыдна быць такім баязкім, дый, сабраўшыся з духам, крыкнуў на ўсё горла. Грамада жа маладзецкая, не спужаўшыся яго крыку, так вось дружна, за пазваленям, адвярнулася к яму задам; тагды ён, страціўшы цярплівасць, плюнуў, махнуў рукой, сеў у сваю каламажку дый цягу даў. Але ж то шальмоўская ўправа! Адзін конь усцяж аглядаецца, чы не гоніцца каторы; да куды ім! — змучаны, галодны, трубячы і барабанячы дзеля ахвоты, загаласілі на ўсё горла дый парасцягаліся па вуліцах, відна, да жыдоў на квацеры.

С а б к о в і ч. Дзякую табе, даражэнькі... насмяшыў ты сваёй гутаркай... Сястрыца, дай яму чарку гарэлкі, каб прамачыў горла. А цяперака да справы, дык што... Ці валоў ты замяніў?

П я т р у к. Не, пано... ясны пане, — пастух не прыступіў.

С а б к о в і ч. Ты, мусіць, не даў яму рубля?

П я т р у к. Гдзе там! Я і другі яму суліў ад імя ясна пана, да, псяюха! вельмі цвёрды на сумленне; сказаў, што гэта і стыдка і брыдка людзей абманываць. Кажа, прадаўшы валы па шэсцьдзесят рублёў кормныя, пасля замяніць іх худымі, — гэтакага кепства і жыд не зробіць, а па... тфу! Прападай ты з яснасцю, усё забываю... а яснаму пану, кажа, за такую штуку Бог у гаспадарцы не дасць спору. Я яму гэтак: вялікая бяда абшукаць жыда, — то ж не хрышчоны!.. Ён жа і не спазнае, бо і тыя рыжыя і гэтыя, капля ў каплю, схожыя. Бяры два карбаванцы да аддай два кормныя, а места іх пастаў у гурме, каторыя я цяпер прыгнаў, — жыд не сцяміцца, забярэ, якія знайдзе ў аборы. Гдзе там! ён у другую дудку, баш, свішча. Кажа, што чы жыд, чы хрысціянін — усе людзі роўныя перад Богам, а атуманіць чы таго, чы другога, асабліва па... яснаму пану, — і сорамна і грэшна. Што было рабіць? Я, вось тая сабака, падхмыліўшы хвост, як няпышны пан, пагнаў валы назад.

Д а м і ц э л я. Бачыш, Антосечка! Просты мужык, без прасветы, а якую даў табе маральную навуку. Ці не час ужо апамятацца і пакінуць усялякія махлярствы, ашуканствы, за каторыя і на гэтым свеце прад людзьмі і на тым прад Богам прыйдзецца парахавацца. Будзь пэўным, што шахраванне будзе гладка схадзіць, пакуль гэтага будзе не праз меру.

П я т р у к. Гэта, кажуць, паненачка, патуль збан ваду носіць, пакуль не парвецца вуха, а там...

С а б к о в і ч. Маўчы!

Пятрук. Ну... маўчу!..

Сабковіч. Ты, сястра, выводзіш мяне з цярпення. Я выйшаў ужо з-пад апекі і не люблю, каб нехта, хоць бы і сястра, мяшаўся ў мае справы... Ідзі лепш да сваёй гаспадаркі і не лезь туды, куды не трэба.

Даміцэля. Ай, брацейка! Глядзі, каб з часам не пашкадаваў, што не слухаў рады свайго прыяцеля, сястры. (*Пайшла, закрыўшы вочы хустачкай.*)

## Сцэна III

Тыя самыя, апроч Даміцэлі.

Сабковіч. А ты, асёл, чаго яшчэ чакаеш? Ідзі ў гумно!

Пятрук (*чухаючы галаву*). Вось я да па... цьфу! — прападай ты з панам! Хацеў сказаць: да яснага пана, — маю просьбу.

Сабковіч. Дык чаго табе?.. (*Падыходзіць да акна.*)

Пятрук. Гэта ж ужо позняя восень, зараз будзе зіма, а ў мяне няма кажуха. Хацеў бы прасіць, штоб ясны пан даў мне кажух.

Сабковіч. Прыбліжся і глянь у акно — чыё тамака быдла на сенажаці? — дык што ж...

Пятрук. Гэта любінскае.

Сабковіч. Ось будуць кажухі не толькі для цябе, а і для мяне нават — шак жа ж і я яшчэ не маю; а добра будзе ўзімку, устаўшы спазаранку, у цёплым кажусе абысці гаспадарку.

Пятрук. Як жа гэта, ясны пане? Чы пан думае ў Любінску купіць авечак і пашыць новыя кажухі? Да там жа на сенажаці не відна авечак, і, кажысь, у любінскам двара саўсім іх нямашка.

Сабковіч. Асёл!.. Пастарайся добра, і будзем мець кажухі задарма. Вазьмі трох парабкоў, займі ўсё быдла ў хлеў. Сённека холадна і людзі прыйдуць напэўна прасіць аддаць заграбленае ў кажухах, — тады не аддавай быдла, пакуль не пакінуць іх быццам у заставу. А кажухі, папаўшы ў нашы рукі, так і застануцца, — гэта ўжо мая справа, дык што...

Пятрук. Па... Цьфу табе! Ясны пане! Яны ж не на нашай, да на сваёй пасуць сенажаці. Штоб хоць адна штука

перайшла граніцу, а то ўсё бьдла ходзіць на любінскай.

Сабковіч. Дурны!.. дык што... зайдзіце ззаду любінскім лесам і займіце, а калі б хацелі перашкодзіць, дык пастухам задайце чосу, дык што... тамака пасуць малыя дзеці і не патрапяць вам перашкодзіць: не будзе вам шмат клопату — угледзеўшы вас, уцякуць.

Пятрук. Чы гэта будзе па-панску? Ладна ж сягаць па чужое дабро?

Сабковіч. Хоць не прыгожа, але складна дастанем сабе задарма колькі кажухоў.

Пятрук. Кажуць старыя людзі, што чужое дабро не грэе.

Сабковіч. Супакойся! Каб толькі мяккае ды з воўны, а, напэўна, грэць будзе.

Пятрук. Які цяпер свет настаў, мой Божа мілы! Як паны пачалі браць вельмі на розум да сляпіць разумныя ксёнжкі, то горш ад нехрышчоных сталі круціць да муціць. (*Пяе.*)

№ 4

Верх дном паставілі свет гэты!
Не так было ў даўны леты;
Як пачалі хітрыць-мудрыці,
То здуру сталі ўсе круціці.

Даўней усяк Бога баяўся,
Дабра чужога, баш, чураўся, —
Цяпер стараюцца панята,
Калі б пакрыўдзіць свайго брата.

А гдзе ж сумленне — боязнь Божа?
Быццё тако з разбоем схожа.
Пакіньце цнотай шахраваці,
Панкі, лепш станьце працаваці!

Пры працы мысль людска свабодна,
Бо праца Госпаду угодна.
Шавец, што шылам зарабляе,
Спакойнае сумленне мае.

Сабковіч. Што гэта?.. Ты смееш павучаць мяне!..

Пятрук. Паночак... Цьфу ты, пропасць! — хацеў сказаць — ясны пане, — то ж ведама стара гутарка: хлеб еш, праўду рэж!

Сабковіч. Дык я табе пакажу гутарку, дык што... ідзі і рабі тое, што кажу, інакш дастанеш кіем.

П я т р у к. Нечага казаць, на чыём вазку едзеш, таму і песеньку спявай. Пайду грабіць быдла, але што будзе пасля?

С а б к о в і ч. Дык што... не твая бяда, ідзі!

П я т р у к пайшоў.

## Сцэна IV

С а б к о в і ч адзін.

С а б к о в і ч. Усе кажуць, што я жыву людскою крыўдай, — дурні! Ось у тым і розум, гэта і штука, каб умець выкарыстаць абмылкі і някемкасць другіх. А сумленне? (*Думае.*) Глупства сумленне!

№ 5

Дзе ні кінь ад краю к краю,
Будзь сумленным — кожны бае.
Ну, і ўсё брахня на свеце, —
Ў губе — цнота, ў сэрцы — смецце.
    Вось багач гавора з вамі,
    Ўсіх багаціць ён славамі,
    А ту ж збоку, як не знае,
    Што хтось з голаду канае.
Ваякі адвагу маюць,
Сябе самі выслаўляюць,
А як прыйдзе да трывогі,
Дык наўцёкі — дай Бог ногі!
    Ксёндз ці бацюшка вялебны
    Вучыць: грошы не патрэбны,
    А ў хрысціны ці ў хаўтуры
    Самі ласы к братняй скуры.
Шэпча «Войча наш» дэвотка,
Для сірот пры ёй работка,
Спавядаецца са скрухай,
А ўсіх чэрне ўсім на вуха.
    Маладзіцу вам пакажуць,
    Жонка верная — ўсе скажуць.
    Мужу міласць прысягае,
    А хлапцам так і міргае.
Глянь — дзіцё яшчэ дзяўчына,
Быццам жартаў, хоць нявінных,
Ані знае, ані чуе,
А ў кутку хлапцоў цалуе.
    Грэх вылазе ў хлопца з міны,
    А ўдаецца да дзяўчыны,

Аб каханні байкі бае,
Аб пасагу ж толькі дбае.
Гэтак наша пакаленне
Нібы хваліцца сумленнем,
Хоць таго ужо астаткі
Уцяклі даўно да Вяткі.

(*Кажа.*) Дык што... дурны той, хто гоніцца за сумленнем, калі яно пакінула нас і ўцякло на край свету. Дык што... Золата — гэта ўсё. Хто мае яго, той патрапіць нават перацягнуць на сваю старану сумленне... Але час ужо ехаць да маёй найдаражэйшай. (*Прычапляе паўпэруку на галаву.*) Дык што... Сённека нарэшце канец, выясніцца мая справа. Пры такіх яе дастатках, асабліва матэрыяльных, я, напэўна, буду шчаслівым з ёю. Папраўдзе, нашто мне здаўся яе пасаг? Але ўсё ж такі дзесяць тысячак — гэта грошы, і ніколі не зашкодзіць павялічыць імі тое, што я сабраў. (*Хоча ісці ўжо.*) Але што гэта тамака зноў за гоман? Сённека мяне замучаць начыста ўсялякімі справамі. (*Сеў.*)

## Сцэна V

Сабковіч і Мордка, цесля.

Мордка (*кланяючыся*). Дабрыдзень пану, ны! А што будзе з намі?..

Сабковіч. Дык што... што мае быць? Пачынай строіць свіран, а тады атрымаеш свой задатак і за работу, дык што...

Мордка. Хас ду гэгэрт, — цікавасць! Як жа строіць, калі пан псы ўгаворы патрабаваў цаго інсага, а цяперака, калі я, дзеля пэўнасці, каб каго інсага не ўзяў да працы, даў сэсць рублёў задатак; пан ставіць мне куды цяэйсыя варункі. Ны... агруль — гэтакім парадкам я і да паловы работы даедзе, а праем усё, колькі ўгаварыўся.

Сабковіч. Гэта ўжо тваё дзела; прападуць шэсць рублёў, калі не возьмешся за работу, дык што...

Мордка. Ны! цікавасць! Як жа да яе брацца, калі мне будзе вялікая крыўда?

Сабковіч. Задатак твой прападзе, а я вазьму другога майстра, дык што...

Мордка. Гівалт! Так зэ змовы не было аб такой работа, якая пан цяперака мне дае...

Сабковіч. А ці маеш, пархуць, пісаны ўгавор?

М о р д к а. Ны!.. насто ён, для якога глупства, ці не досі панскае слова, — агруль!

С а б к о в і ч. Дык што... слова — вецер, а распіска гэта грунт, мой даражэнькі; дурань верыць на слова, а разумны карыстае з таго, дык што... Ось я ўжо трэцяга такога ашукаў і зарабіў гэткім парадкам дваццаць рублёў. Яшчэ злаўлю так са двух, і свіран мне нічога не будзе стоіць.

М о р д к а. Ны! А ці гэта будзе па-панску — бедных майстроў асуківаць — хас ду гэгэрт?

С а б к о в і ч. Досі ўжо, мой даражэнькі, шахраваць вашаму брату, цяперака на нас прыйшоў чарод двойчы адплаціць вам, дык што...

М о р д к а (*сіхаючы*). Цікавасць! да цаго дайсло! (*Зноў цмокае.*) Мусіць, хутка будзе канец свету. (*Пяе.*)

№ 6

Ляхцірыдзі-бам!
Ляхцірыдзі-бум!
Ляхцірыдзі-ліхцірыдзі,
Бім-бам-бум!
    Уй! хапун свет гэты схопе.
    Месыяша недалёка,
    Калі пан жыдка так кропе
    Акпіванствам сперад, збока.
Меў калісь пан «гунур слова»,
Сённі ўжо грызмоль цыдулі,
Ды ў суд даўшы рыхт нанова,
Мах глыбока ві шкатулі.
    Ляхцірыдзі-бам!
    Ляхцірыдзі-бум!
    Ляхцірыдзі-ліхцірыдзі,
    Бім-бам-бум!
Ны, не толькі слова схваце,
Але горс ясцэ падладзе,
І пімалу не спазнаці
Ад зыдка цыдулю ўкрадзе.
    Ай вэй! Сто за гандэль гэткі,
    Калі так змудрэлі паны,
    Хіба гэхэр, кіндэр-дзеткі
    Гоц да земляў абяцаны.
Ляхцірыдзі-бам!
Ляхцірыдзі-бум!
Ляхцірыдзі-ліхцірыдзі,
Бім-бам-бум!

(*Кажа.*) Ны!.. сто за будзе?..

Сабковіч. Дык што... што будзе? Ось, калі не возьмешся за работу, тваe шэсць рублёў фарвал, дык што...

Мордка (*энергічна*). Хай гэта мая ўбогая і крывавая праца застанецца пану на хаўтуры. Будзь пан здароў! (*Пайшоў.*)

Сабковіч (*услед за ім*). Ах ты, шахрай!.. жыд паскудны! Ён яшчэ клясці мяне будзе!.. Дык што... Але чаго ж я злую?.. Трэба быць справядлівым, хай гэты бядак пацешыцца за свае грошы хоць кляцьбой, дык што... А цяперака ў дарогу. Гэй! ёсць тамака хто?

## Сцэна VI

Сабковіч і Марыся.

Сабковіч. А! ты яшчэ тут. Добра, прыбяры тутака ў пакоі, вынесі стол і можаш сабе збірацца да бацькоў. Якраз учора скончыўся год тваe службы ў мяне, дык што...

Марыся. А заплату, чы ад пана, чы ад паненкі, адбяру? Я ж чэраз цэлы год ні граша ад пана не мела.

Сабковіч. Праўда, праўда, мая даражэнькая, дык што... Прыбліжся і паслухай; трэба нам яшчэ парахавацца. (*Сеўшы, вымае з бумажніка картачку і чытае.*) Паступіла ты да мяне 17 траўня, дык што...

Марыся. Так!

Сабковіч. І згадзілася за 18 рублёў у год.

Марыся. Так, паночак!

Сабковіч. Не сто раз казаў я вам называць мяне ясным панам, дык што...

Марыся. Так, ясны пане!

Сабковіч. 18 кастрычніка ты захварэла і праляжала тры тыдні, дык што...

Марыся. Бо па... ясны пане не даў, вэдле ўмовы, кажуха, — я празябла і захварэла.

Сабковіч. Фі! мая даражэнькая, грэх так лгаць, дык што... Цёпла было, як улетку, і ты захварэла ў самы гарачы рабочы час. Я быў змушаны наняць на тваё месца падзёншчыцу, і плаціў я ёй двузлоты ў дзень... За тры тыдні гэта выйдзе шэсць рублёў трыццаць капеек. А дзеля таго, што ты праз тры тыдні нічога не рабіла, ляжала, ела дарма хлеб і нямала клопату рабіла маёй сястры, — я табе рахую яшчэ па трыццаць капеек у дзень, — разам гэта будзе дванаццаць рублёў трыццаць капеек, дык

што... Я абмыліўся — не трыццаць, а шэсцьдзесят капеек. Цяперака далей, дык што... памятаеш, як у верасні быдла патаптала мне дзесяць град капусты — за тое, што вы не пільнавалі быдла, я налажыў на ўсіх вас па тры рублі штрафу, дык што...

Марыся. Але ж, ясны пане, быдла належыць да пастуха.

Сабковіч. Ціха! — дык што... маўчы і слухай. Я заўсёды старых прытрымваўся законаў — шак жа ж і ў вас у канцылярыі ўся грамада адвячае за аднаго. Дык ось што... за капусту тры рублі штрафу. Трэцяе, на Каляды, памятаеш — прасілася ты на два дні да хворай маткі, дык што... я маю мяккае сэрца, пазволіў табе пайсці, а ты, заместа двох, праседзела тамака шэсць дзён. Дык што... сама прыстанеш на гэта, што за чатыры дні справядліва будзе адрахаваць табе найменш па дваццаць капеек, дык што... гэта будзе рубель; сама бачыш, які я справядлівы... Далей, за тое, што ты прыйшла на чатыры дні пазней, як трэба, — два рублі. Дык што... усяго-наўсё выходзіць: васемнаццаць рублёў шэсцьдзесят капеек, але я, маючы на ўвазе тваю шчырую службу, дарую табе гэтыя шэсцьдзесят капеек... дык што...

Марыся. Паночку, ясны пане! Чы ж я цэлы год дарам працавала?

Сабковіч. Дык што... шак жа ж ты сама чула, мая даражэнькая, што ні за што я табе шмат не палічыў.

Марыся. Не, гэтак не будзе — я за сваю крыўду падам да пасрэдніка жалабу.

Сабковіч. Што? Ты мяне страшыць будзеш? Пісні толькі — ураз жа дам знаць, што ты мяне абакрала. Мусіць, памятаеш, як я, на трэці дзень тваёй службы ў мяне, паслаў цябе шукаць паненку ў пакоях на гары; не даждаўшыся, сам пайшоў і бачыў, як ты выходзіла з пакоя, у каторым я трымаю свае грошы. Хіба ты, не шукаючы сястры, туды заходзіла, бо яна тамака ніколі не бывае, дык што...

Марыся. Па... ясны пане! Чы гэта па-хрысціянску — крыўдзіць так бедную дзяўчыну? Паслаў пан да пакоя шукаць паненкі, — я, шукаючы ўсюды, заглянула і да таго пакоя; то ж я не ведала, чы ёсць там якія грошы, чы няма. У пакой я не ўхадзіла, бо як угледзела, што там на стале ляжаць грошы, то, старопіўшыся, ужо не пакідала дзвярэй, чакаючы, штоб чы пан, чы паненка

прыйшлі. Чаму ж пан тагды не казаў мяне абшукаць, а цяпер так крыўдзіш?!

Сабковіч. Дык што... не маю і часу і ахвоты гутарку з табой разводзіць. Прыбяры ў пакоі, здай паненцы начынне і ідзі сабе з Богам, а калі піснеш, што я табе не заплаціў, ураз жа дам знаць, што мяне абакрала, і ўсе будуць пальцамі на цябе паказваць, дык што... (*Пайшоў.*)

## Сцэна VII

Марыся адна.

Марыся. Мой Божачка міленькі! Служыла ж я ў паноў, да нігдзе мне такой крыўды і такой вялікай ганьбы не давялося сустрэці. Усе паны былі добрыя, адзін толькі найшоўся круцель. (*Плача.*) Няхай жа слёзы мае падуць на яго душу. Што я цяпер буду рабіць? Спытаюць бацька, маці — многа чэраз год зарабіла?

Малая паўза.

Да мая ж у тым віна? Ведала ж я, бяздольна, што натраплю на такога круцяля? А як чыста мая душа, так смела раскажу бацькам маю крыўду, — яны ўймуцца за сваю ядыначку і да пасрэдніка пададуць жалабу.

## Сцэна VIII

Марыся і Пятрук.

Пятрук (*усунуўшы галаву ў дзверы*). А чы паненкі тут няма?

Марыся. Бачыш, што нямашка.

Пятрук (*блізка падышоўшы да Марысі*). Што ты, мая ягадка, так надулася, вось пузыр валовы? (*Падскочыўшы яшчэ бліжэй да яе, абымае яе і хоча пацалаваць, а яна адпіхае яго, кажучы: «Адчапіся!» — тады ён весела пяе.*)

Чаго лезеш ка мне? Я ж табе не роўна.
Ты шавец-капылец, а я — бандароўна!

Марыся. Адчапіся! (*Б'е яго кулаком па карку.*) Латвей табе весяліцца, калі нішто не рупіць; я ж вось служыла цэлы год і зарабіла кукіш.

П я т р у к. Альбо што?

М а р ы с я. Палічыў, паганец, жыдоўскім манерам — то якіясь штрапы, то маю хваробу, так што яшчэ я асталася яму вінна шэсцьдзесят капеек.

П я т р у к. А паганец, а нехрышчоная сабака! А яшчэ кажа велічаць ясным панам. Яго, анцыпара, цёмным, нячыстым маніць трэба. Не тужы, мая галубка! Ты павернеш да бацькоў, будзеш выглядаць мяне. Не раз, таскуючы да выхмыляючыся чэраз аконца, заспяваеш:

> Ў агародзе майран родзіць,
> Да Марысі пан Ян ходзіць;
> Радзі, радзі, майраначка,
> Хадзі, хадзі, мой Яначка!

А ты места Яначкі заспяваеш — Петручок, — не праўда ж? (*Заляцаецца да яе.*)

М а р ы с я. Ідзі ты! (*Адпіхае яго.*)

П я т р у к. Як ні шарашыся, да я ведаю добра, што я табе па сэрцы; ты бы рада была і зараз заспяваць:

> Прыедзь ка мне — рада буду,
> Я з спаднічкі зраблю буду.
> Нашмаруеш дзёгцем кола,
> Дый паедам да касцёла!

М а р ы с я. Нечага запірацца,— можа б, і рада была, да калі ведаю добра, што бацькі не прыстануць: яны ж пусцілі гэты год на службу, штоб зарабіла сабе на выправу дзеля таго, што хочуць мяне аддаць у хату багатага, хоць старага ўжо, Апанаса Губара. Казалі, што ён мае пару каней, дзве каровы, два валы да і сіран не пусты і ў гарудах не стоўпіцца.

П я т р у к. Ах ты, гадзюка! На пальцах, баш, ужо палічыла, што Панас мае! Дык гэта так? Новае сітка на калочку вешаеш, а старое пад лаўку кідаеш? А знаеш: стары друг лепш новых двух! Нішто з таго не будзе. Я цябе не на жарты палюбіў — хоць бы цэлы свет прыйшлося дагары нагамі перавярнуць, то ўсё-такі з табою ажанюся. Но, вясціма, калі ты будзеш не ад таго. Панас — стары хрыч, якое табе жыццё з ім будзе? Я ж малады, працавіты, статэчны, да гарэлкі не гад, — цябе жа, мая зязюлька, так мілую, так мілую, што як цень за табою цэлы век бы цягаўся. (*Спявае.*)

> Жаваранка ў полі звоніць,
> За Марысяй Пятрук гоніць,
> Хлапец відны, маляваны,
> Душой, сэрцам ёй адданы!

А што?.. мо'а хлушу? Пацалуй жа мяне за тое... (*Падбліжаецца да яе, а яна адпіхае.*)

Марыся. Пачакай крыху! Як павянчаемся, тагды цябе пацалую,— цяпер жа не йдзе. Бог будзе гневацца, і ў гаспадарцы нам не пашанцуе.

Пятрук. Э-э-э! Тагды я цябе і прасіць не стану; цікунка! быццам саромеецца, а ведаю добра, што так бы і кінулася на шыю. (*Пяе.*)

Да калі ж ты бандар, набі ж ты мне бочку,
А я цябе пацалую ў цёмным куточку.

Марыся. Да годзе ўжо, годзе языком малоць! Мне трэба ісці да бацькоў (*уздыхае*), а ты тут, з другімі дзяўчатамі цягаючыся па вечарынках, мяне, бедную, забудзеш.

Пятрук. Бог мяне пакарай! калі я зараз, як ты нас пакінеш, не падзякую за службу. Няхай анцыпар і мне не плаціць; я, хваліць Бога, — у добрых паноў служыў, накапіў сабе пяцьдзесят карбаваных, — маю чым гаспадарку запамагчы. Пайду да цябе ў прымакі, і зажывём па-божаму.

ДУЭТ
№ 7

Пятрук.

Пойдзеш адсюль — не забуду,
Ў прымы к табе скора буду;
Станем шчыра працаваць,
А шчырэй цябе кахаць.

Марыся.

Панас са мной не дасць рады,
Буду чакаць за Каляды,
Бо мой мілы Пятрук —
То статэчны дзяцюк!

Пятрук.

Так мяне моцна кахаеш,
То, напэўна, прычакаеш,
Пераможам бацькоў дур
Дый зажывём чэрасчур.

Марыся.

Як бацькі захочуць мусіць,
Я не стану вельмі трусіць,
Загалашу са ўсіх сіл —
Апанас-то мне не міл!

М а р ы с я і П я т р у к (*разам*).

Як бацькі нам сваю волю
Скажуць, то мы нашу долю
Богу capучым; ён місцюк,
Збавіць нас тыранскіх мук.

М а р ы с я. Мы тут загаманіліся, а мне пара ўжо ў дарогу. Памажы ўпратаць пакой, а там пайду з паненкай папрашчаюся.

П я т р у к. Чы ж ты мяне на прашчанне не пацалуеш? (*Падбліжаецца да яе.*)

М а р ы с я (*стыдліва*). Да калі ж я саромеюся...

П я т р у к. Чаго? Чы ж ты не мая нявеста? Дзіўныя гэты дзяўчаты! Перад вянцом саромеюцца сваіх жаніхоў цалаваць, а па шлюбе і з дзецюкоў рады.

М а р ы с я (*даганяючы Петрука, каторы ўцякае*). Ах ты, паганец! Будзь пэўны, што я нікога не пацалую!

П я т р у к. А мяне?

М а р ы с я. Ну... тагды — па шлюбе... дзела другое; тагды па закону боскаму я павінна цябе слухаць.

П я т р у к. Паслухай жа і цяпер, мая ягадка!

М а р ы с я. Боязка, мой Петручок! Часам хто ўгледзіць... (*Углядаецца на ўсе бакі.*)

П я т р у к. Няма нікога ў пакоях, а паненка пайшла да кухні... Ну!.. (*Падсунуўшыся блізка да яе, спявае.*)

Зажмур вочы, а так... скора
Пацалуй, мая сікора!

М а р ы с я. Што рабіць,— ты не адчэпішся, пакуль не пацалую. (*Цалуе яго ды, адскочыўшы, закрывае вочы хвартухом.*)

П я т р у к (*падскакваючы, пяе*). А я цябе пацалую ў цёмным куточку!..

М а р ы с я (*даганяючы яго, б'е*). Баш! паганец, яшчэ смяецца! Бярыся за стол, да вынесем яго ў першы пакой. (*Ачышчаючы сцэну, выходзяць.*)

Здалёку чуцён спеў Петрука: «А я цябе пацалую...»

### Змена дэкарацыі

Сцэна прадстаўляе бераг лесу: углыбі відаць вёску; налева — багаты двор, а направа, каля лесу, таксама ў глыбі сцэны, мужычая хата. З-за дрэў відаць высунутыя да паловы калёсы, на

каторых спіць Гапон Барычка, звесіўшы галаву; каля яго спіць, седзячы, апёршы галаву ў луку калёс, яго жонка Куліна. Выходзіць з двара Пятрук з кароткай люлькай і ў задуме гаворыць.

## Сцэна IX

Пятрук адзін.

Пятрук. Ледзь адпрог коні, так зараз выбег са двара, штоб пабачыцца з каханай Марысяй. Пан у залёты, і фурман чэраз плоты. Ну, ужо гэтаму пану, то, пэўна, служыць пякельная сіла: што толькі задумае, то зараз і збудзецца. Выязджаючы із дому, бедаваў, што на трох канях гоніць у залёты; глядзі ты! — чы даехалі мы да Машанскай карчмы, аж якісь жыд ляціць на каламажцы, а обак тут жа прывязана кабылка прыгожанька, аж міла на яе палюбавацца, — ножкамі перабірае — вось паненка ў танцы, — пырскае весела, шыю ў дугу сагнуўшы. Пан аж казаў прыстаці, штоб падзівіцца красотцы. Пытае жыда, чы не прадасі? А паганцу тое і падавай! Слова за словам — старгаваліся пятнаццаць рублёў. Гэта ж рэч няслыхана! Я ад слова даў бы за яе трэйчы пятнаццаць да і яшчэ дзесятак дабавіў бы. Здаецца толькі, чы не крадзеная? што так за нішто амаль уступіў. Пэўна, і пан тое спазнаў, бо адразу засуліў малу цану, а жыд-псяюха і згадзіўся. Тут мяне пан скарэй па хамут і пастронкі конна дадому пагнаў, а сам астаўся чакаць у Машанскай карчме; і аж душа расла, як мы чацвярнёй сюды падкацілі пад ганак. (*Думае.*) Цьфу ты, пропасць! Здаецца, я гэту клячку гдзесь бачыў... Гнедзенькая... з белаю латкаю на лбе... таж белакапытка. Ну, вось аніяк не прыпомню, а яна мне знаёмая... (*Падыходзіць да калёс і, агледзеўшы сплючых, спыняецца здзіўлена.*) А-а-а! Гэта што за дзіва? Бацькі Марысі! Які дур на іх напаў, што падкацілі пад лес калёсы дый, улёгшыся на іх, паснулі? А-а! (*Стукнуўшы рукой у галаву.*) Пачакай! Чы не ў іх я толькі бачыў капля ў каплю схожую кабылку? Здаецца так, так, так... Цяпер сцяміў! Але цыт! Куліна прасыпаецца. Схаваюся за дзерава да паслухаю, кій чорт іх сюды загнаў. (*Хаваецца.*)

## Сцэна X

Гапон і Куліна.

Куліна (*пацягваецца, пазяхаючы, праціpae вочы, аглядаецца на ўсе староны спуджаная, саскоквае з калёс, заглядае ў глыб лесу, а пасля будзіць мужа*).

№ 8

Дзед! дзед, дзед, дзед!
А кабылкі нашай нет!

Гапон (*у тым часе, як яна пяе, злазіць з калёс і, аглядаючыся на ўсе бакі, адказвае*).

Чы ты, баба, ашалела!
Гдзе ж ты кабылку падзела? —
Ты ж наперадзе сядзела, —
Дык на вошта ж ты глядзела?
Што жа перад носам мела?
Што маўчыш — чы асавела?
Гавары, каб ты хварэла!..
Чаго, гадзюка, збядзела,
Вось як бы сем дзён не ела? —
Блёкату нажрацца спела?
З чаго ж ты так адурэла?

Куліна.

То ж ты, Гапонка, мужчына!
К табе належыць скаціна,
Мая ж толькі віна цэла,
Што наперадзе сядзела,
І ты ж сядзеў на калёсах,
Нос твой быў аж пры атосах;
Відаць, мы абое спалі,
Як у нас кабылку кралі.
Досыць з мяне таго стала,
Што памеж пнёў кіравала,
А як пасеку мінула,
Вось і я крыху заснула.
Так за што жа мяне лаеш?
Чы ж прыгаворкі не знаеш?
Не вер у свеце нікому:
Каню ў полі, жонцы ў дому;
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам ваду мерыць.

Гапон.

Глядзі, каб была скаціна!
Будзе ў рабоце дубіна!

Ты ж наперадзе сядзела,
Так на вошта ж ты глядзела?
Вось як вярнуся дадому,
Мушу ісці к аканому.
Ён там крыкне: «Ах ты, гадзе!»
І кулака ў вуха ўсадзе, —
І будуць розгі ў рабоце,
Мо'а дзіця асіроце.
Скажа: «Душу чорту прадай,
За кабылку грошы аддай!»
А тут, баш! — душа такая,
Што чорт яе не прымае,
Бо да таго наш пан пражыў,
Што душы у банк залажыў,
І чорт, відаць, гэта знае,
Так душ нашых не купляе.
Цяпер смерць — пацеха цэла!
Чы ты, баба, ашалела?
Гдзе ты кабылку падзела?
Ты ж наперадзе сядзела,
Так на вошта ж ты глядзела?
Як вазіў я ў места дровы,
Ўсякі раз быў грош гатовы;
Усяго я меў здаволі:
Лыкаў, селядцоў і солі.

Гапон і Куліна (*разам*).

А як прапала кабыла,
Так ты мяне пагубіла,
Так ты мяне суздром з'ела.
Чы ты, баба, ашалела, —
Гдзе ты кабылку падзела?
Чы прыгаворкі не знаеш?
Не вер у свеце нікому:
Каню ў полі, жонцы ў дому;
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам ваду мерыць.

Куліна. Палядзь толькі! — та ж мы амаль да самай хаты даехалі. Відна, тутка скацінка астанавілася траву скубці, а як гэта свавольніца Марыся ўгледзела, што мы спім на калёсах, пэўна, з парабкам ціха адпраглі клячку і завялі яе ў хлеў. Зазаву толькі Марысю — абачыш, што ты крычаў на мяне несправядліва. (*Падыходзіць пад хату і кліча.*) Марыся! о, Марыся!..

## Сцэна XI

Тыя самыя і Марыся.

Марыся (*выбягаючы з хаты*). Хваліць Богу! — вось і бацькоў дачакала. Як можна было так доўга сядзець у месце? Маці казала, што к абеду верніць, а тут ужо і вечар на дварэ. (*Падышоўшы бліжэй.*) А гэта што? гдзе кабылка? Да на чом жа бацькі прыехалі?

Гапон. Бачыш, дачушка, — едучы, мы абое паснулі і самі не сцямім, як тутка апынуліся. Чы ж вы з парабкам не выпраглі кабылкі?

Марыся. Парабак у лесе драва сячэ, а я ў вочы не бачыла кабылкі!

Гапон. Ах, доля ж наша горкая! Відна, як мы крэпка паснулі, зладзеі адпраглі скацінку; трэба папрасіць каня ў суседа і гнацца.

Куліна. Чы ты адурэў, чы што? Куды ты пагонішся? Для цябе дзесяць дарог, а для злодзея адна.

Гапон. Да нягож, рукі сашчаміўшы, тут стаяць да галасіць? Гэта ж цэла маё багацтва. Добра мне казаў кум Тодар: «Не купляй ад аканома скацінкі, — рукой не пойдзе, на крадзеным, баш, аўсе ўскормлена»; вось і праўда! А тут яшчэ абяцаў аконаму на гэтым тыдні аднясці рэшту грошы, недаплачаных за клячку. Што я, бяздольны, зраблю?

## Сцэна XII

Тыя самыя і Пятрук.

Пятрук (*выходзіць з-за дрэў*). Нех бэндзе пахвалёны!

Гапон. На векі векаў!

Марыся. Ах! (*Спусціўшы вочы, нязначна ўзіраецца на Петрука і грозіць яму пальцам.*)

Пятрук. Дабрыдзень, ойча Гапоне! Дабрыдзень, маці Куліна, дабрыдзень, Марысю! (*Кожнага цалуе ў руку.*) Якая тут у вас вазня?

Гапон. Баш! мы з кабетай ехалі ранкам з места дый на калёсах паснулі. Панас — няхай яму дабро! — сваім гашчэннем амарочыў нам галовы, дык вось прыгода сталася: пад самым домам злодзей выпраг кабылку. А ты, Петручок, — што ты ў нас робіш, — пэўна, за Марысяй прыцягся?.. Кепска, што для дзяўчат кідаеш

службу. То ж нішто з гэтага не будзе, — я ўжо Марысю абяцаў Панасу. Ён, баш, мне дакляраваў пазычыць трыццаць рублёў даплаціць аканому за кабылку. Ой, горкая ж мая долечка! Гдзе я адшукаю яе?..

П я т р у к. Ойча Гапоне! не прагневайся да паслухай мяне з увагай. Я хоць яшчэ і не стары, да пацягаўся па божым свеце здаволі; быў і на кані і пад канём. Ой, не з адной печкі прыйшлося мне на долю хлеб спажываць. У вас адно дзіцятка — гэта, кажуць, як вока ў лбе! Так калі вы адпусціце яе ў чужую хату й яшчэ да мужыка не па сэрцы, то бедна зязюлька, таскуючы па бацьках, гатова і замерці. А вы ж тут без яе чы будзеце весялы? То ж ужо спрабавалі, адпусціўшы на службу. Чы ж не маркотна было па дачушцы? Да і хату хто паддзержыць, то ж не маеце дзецюка. Яна ж, бедна, будзьце пэўны! за Панасам не нажывецца, — таска без пары звядзе яе ў магілу; тагды чыя ж рука на старасць прымкне вашы вочы? Хто на магілках памяне душачкі вашы?

К у л і н а (*плачучы*). Праўда, праўда, мой Петручок! Я не сто раз тое ж казала, да, на ліха, вельмі ўпарты.

Марыся плача, закрыўшы вочы хвартушком.

П я т р у к. Як казёл у капусце!

Г а п о н. Бачыш, мой Петручок, ён пазычае мне трыццаць рублёў.

П я т р у к. Паслухайце ж! Я лепшую падам раду; нараю вам такога, што і дачушкі вашай не выведзе з дому; места трыццаці — пяцьдзесят рублёў, і то не пазычыць, а так дасць вам на запамогу гаспадаркі. Да што яшчэ важней — скацінку вашу адшукае, а вы ўзаем вазьміце яго к дачцэ ў прымакі. Чы гэтак складна будзе?

Г а п о н. Да мой жа ты лебедзька! нарай жа ты нам гэтакага дабрадзея!

К у л і н а. Штоб толькі Марыся не чуралася, а то яна, бедная, за Панаса ўжо выплакала зрэнкі.

М а р ы с я. Калі не за Панаса і пры бацьках астануся, то ўжо і плакаць не буду.

П я т р у к. Ага!..

Спазнала галубка, скуль самец буркуе,
Тужыць перастала, ручнікі гатуе.

М а р ы с я. Паганец ты, без кепікаў то ж ні мінуты ладам не пагаворыш! (*Б'е яго, ён адскоквае.*)

Г а п о н. Што гэта ты добрага чалавека кулакамі частуеш?

П я т р у к. Нічога, ойча Гапоне! ведаеце прыпавесць: хто каго любіць, той таго чубіць. Ото ж сужаны, каторага вам раю, — гэта я сам, а калі ваша ласка будзе прыняць мяне ў прымы к Марысі і паблагаславіць нас — чаго і яна вельмі хоча, хаця, дзеля сарамлівасці, быццам чураецца, — то наперад вазьміце ад мяне пяцьдзесят рублёў, з каторых трыццаць сягоння ж аднясіце аканому.

Г а п о н. А як жа з кабылкай будзе?

П я т р у к. Дзеля кабылкі вось што выкрываецца: як вы на калёсах паснулі, а яна прыстала, жыд якісь, канакрад, ціхенька адпрог, а сустрэўшы нас сягоння па палудні, пусціўся з маім панам у торг; слова за словам, кабылка за пятнаццаць рублёў перайшла к нам, а цяпер у стайні нашага двара авёс з другімі коньмі спакойна пажывае.

Г а п о н. Чы ж твой пан не сцяміў, што яна крадзеная, а асабліва, што нехрыст так танна яе ўступіў?

П я т р у к. Мой пан лепш любіць купляць крадзенае, бо кепствам можна адбаярыцца. Ото ж, ойча Гапоне, ідзіце да аканома, аддайце грошы і папрасіце, штоб заглянуў з вамі да стайні; а калі спазнаеце, што гэта ваша клячка, то, нічога нікому не кажучы, на ўсю ночку ляціце да стану, аб'явіце там аб кражы і ў каго яна цяпер находзіцца; та ж прасіце, штоб вам яе вярнулі.

К у л і н а. Вось, здаецца, малады, а старога дурня навучыў розуму. Мы пойдзем у хату, а вы падкаціце пад паветку калёсы да ідзіце за дзелам.

П я т р у к (*паказваючы на Марысю*). А з намі што будзе?

Г а п о н. Бяры яе, бяры! Няхай вас Бог благаславіць, як мы благаслаўляем, атцоўскім сэрцам прымаем цябе за сына. Толькі ж глядзі, трымай вуха востра! бо з яе будзе задорлівая жонка — пайшла, баш, па матцы.

К у л і н а. Не зважай на яго брахню, мой Петручок, яшчэ не выцверазіўся.

П я т р у к. Не журыцеся, ойча Гапоне, а паслухайце прыпавесці:

> Змагла піла хвою, дуб, —
> Жалеза спіліла,
> Да на цвёрдай сталі зуб
> Суздром вышчарбіла.

Выходзяць: Г а п о н, за ім К у л і н а, далей П я т р у к, а за ім ідзе М а р ы с я і б'е кулаком па карку, Пятрук павяртаецца да яе і, смеючыся, паўтарае апошняе слова: «вышчарбіла».

## Змена дэкарацыі

Зала, прыбраная па-панску: направа — канапа, а прад ёй — доўгі стол, накрыты вялікім, аж да самай зямлі, узорыстым настольнікам; з левага боку і ўглыбі — дзверы.

## Сцэна XIII

Адэля адна.

Адэля (*выходзіць у задуме з бакавых дзвярэй і, крыху пачакаўшы, кажа*). О, салодкія, залатыя сны маладога ўяўлення! Як хутка вы паляцелі!.. Сённейка мне наказуюць важна глядзець на жыццё. (*Думае.*) «Дачушка мая, ты скончыла ўжо васемнаццаць гадоў, — час ужо табе падумаць аб тым, да чаго створана кожная кабета. Я выбраў табе мужа. Чалавек гэта хоць і не малады, але сталы, багаты, а што найважней — першы гаспадар. Мне здаецца, што пад яго апекай дарога твайго жыцця будзе слацца кветкамі...» Так казаў мне бацька. Дагадваюся, аб кім ён думае, — аб Сабковічу; той другі ўжо дзень тутака гасцішца.

Малая паўза.

Гэтакім парадкам, без мяне і маёй згоды на гэта, распараджаюцца маёй будучыняй... (*Думае, а пасля, тупнуўшы нагой.*) Не! Так не будзе... Мае бацька ўласць нада мной, але, мусіць, не захоча быць маім тыранам і змушаць мяне выйсці за ненавіснага мне чалавека. Ах, гэты Сабковіч!.. Глядзець на яго не магу. (*Паказваючы на сэрца.*) Нешта тамака гаворыць, што з ім я ніколі не магла б быць шчасліваю. Але калі бацька захоча мяне змусіць, што я зраблю, нешчаслівая?! Каб жа ж хаця прыехаў гэты Стась, то б я з ім параілася. (*Думае.*) Фі, мне не выпадае яго так называць — ён для мяне цяперака пан Станіслаў.

Паўза.

Мілы Божанька! Як цяперака падумаю сабе — якая я была дагэтуль шчаслівая. Бацькі мяне галубілі і нават гэтым самым псавалі; цэлы свет так усміхаўся мне. Стась... (*Аглянулася.*) Хачу сказаць — пан Станіслаў — з самага маленства, кожную хвілю, на кожным кроку, у кожным найменшым нават выпадку, быў такі шчыры мой прыяцель. О, добра я памятаю ўсю сваю мінуўшчыну!

РАМАНС
№ 9

Помню, дзяўчынкай быўшы малою,
Калі дзіцячы думкі снавала,
Стаська свавольны бегаў за мною,
З ім я дурэла, ў цацкі гуляла.
Ах, ішлі нам светла дні тыя,
Думкі йшчэ помняць іх маладыя.
Як ужо дзесяць гадкоў мінула,
«Стаська жаніх твой», — бацькі казалі;
    Нейкая ў сэрцы радасць кіпела,
    Твар чырванеўся, вочы палалі,
    Люба было нам. Я яго звонка
    Клікала мужам, ён мяне жонкай.
Як лет шаснаццаць збегла, другія
Сціснулі думкі сэрца гулянне,
Ўжо ў ім хаценне новае ные.
Клічу нясмела Стася ўжо: пане,
Не заву мужам, хоць сэрца хоча,
Бо розум іншы і стыд дзявочы...

(*Хвіліну падумаўшы, тупае нагой і кажа.*) Паскудны Стаська! Калісьці штодзённа бываў у Парэччы; адну хвіліну не мог абысціся без мяне, а цяперака, калі ён найбольш мне патрэбны, як у ваду кануў. Ужо трэці дзень, як не прыязджае.

У пачатку гэтага маналога Станіслаў Зацнеўскі, увайшоўшы ціхенька, крадзецца, а потым патэтычна гаворыць.

(*Пры першым слове Станіслава, спудзіўшыся, ускрыквае.*) Ах!

## Сцэна XIV

Станіслаў і Адэля.

Станіслаў. Як дух выклíканы, стаю прад маёй паняй і стаю страшэнна замаркочаны.

Адэля. Чаму ж гэта?

Станіслаў. Што гэта, пані, пытаешся? Ці Сабковіч не госціць у вас і ці пані не абяцала яму сваёй рукі?

Адэля. Праўда, бацька наладжвае гэта, але што пану да гэтага?

Станіслаў. Пані мяне пытаешся аб гэтым... Пані, з каторaю змалку аж да сягоння мы прабегалі рука аб руку, шануючы свайго жыцця так, што ні адна калючка найменшай нязгоднасці не зраніла нашага сэрца.

Адэля. Дзеля таго, што пан стараўся, каб я гэтых калючак не знала; але да чаго кіруецца ўся гэта гутарка?

Станіслаў. Адэля, выбачайце, панна Адэля, ці ж з маіх паступкаў, з маіх вачэй ты не вычытала таго, як ты дарага майму сэрцу? Я жыць не магу без пані; пры мыслі, што магу страціць цябе, — шалею. О, ты кінула на мяне страшныя чары!

### РАМАНС
### № 10

Пяецца так, як «Кветкі» С. Манюшкі.

Адэлька-анёлак, ты сонца, ты кветка!
Зрачыла мяне ты паглядам
І сэрца ўзяла мне, як колас з палетка,
Спакой мой забіла, як звадам.
Наяве абраз твой у думках квяціцца,
І сон мне абраз твой салодзе,
Майго адчування і дум ты царыца,
Дух твой ад мяне не адходзе..
І воблік анельскі, і погляд анельскі,
Анельска душа твая пэўна.
Тваіх не злічу ўсіх аздоб я няземскіх.
Ты сэрца майго каралеўна.
Як бура душы маёй сум мне нагоне,
Верх людскай твая мусіць сіла,
Бо голас твой шчыры вясёласцю звоне,
Пагоду ў душу мне лье міла.

Адэля. Ах, чаму ж так позна, Станіслаў, адкрываеш мне сваю душу?!

Станіслаў. Пані Адэльця, ты магла навучыцца, з маленства ідучы бок а бок са мною, чытаць у маім сэрцы. Ці ж мог я прасіць тваёй рукі, не ўпарадкаваўшы сваіх дзел, запутаных у час маленства маімі апекунамі? Ці мог я думаць аб тым, каб увесці ў клетку птушачку, не ўстроіўшыся так, каб гэта няволя, канешная ў грамадзянскім жыцці, была для яе раем? Мой гонар і пашана, якую я маю для пані і бацькоў пані, не пазвалялі мне да часу непакоіць нявіннае сэрца тайным каханнем. Я пастанавіў, што, як толькі незалежна ўстроюся, выліць

прад паняй тое, што чую, і, атрымаўшы пазваленне пані, прасіць у бацькоў вашай рукі, так патрэбнай для майго шчасця. Адзін раз толькі — ах! — залатымі літарамі запісана гэтая хвіліна ў маім сэрцы... Пані тагды кончыла пятнаццаць гадоў. Прыехаўшы з універсітэта, знайшоў я вас над сшыткам, занятою чыстапісаннем; у пакоі нікога не было. Я, зможаны магнетычным узглядам пані, забыўся і адкрыў сваю душу... О, памятна для мяне гэта салодкая і найшчаслівейшая хвіліна ў маім жыцці!

№ 11

Як пытаў цябе, галубка,
Ці ў спадобу я табе,
Стыду свет убачыў з губкаў,
Мой анёлак, — так ці не?

Папрасіў: скажы жычліва.
Які ж прыгавор быў твой?
О, суддзя мой міласцівы!
«Так, — шапнула, — любы мой».

Долі сам сваёй не верыў
І маліў ізноў цябе,
Каб ты перкам на паперы
Напісала «так» ці «не».

Ну, і стаў шчасліў я дужа,
Ўжо ў раі я на мяжы:
«Так» з-пад перка выйшла, дружа,
«Так» сягоння мне скажы.

(*Кажа.*) Як пані думае, што я зрабіў з тою паперкаю, на каторай твая ручка напісала такі дарагі для мяне прыгавор?

Адэля. Ты яе, пэўна, падзёр.

Станіслаў (*вымаючы медальён з-за пазухі*). Абмылілася ты. У золата яе аправіў і заўсягды нашу яе пры сэрцы і нават магу ўпэўніць, што гэта мілая для мяне памятка пойдзе са мною ў магілу.

Адэля (*выцягвае да яго абедзве рукі*). О, мой даражэнькі Стасю, які ты добры, шляхетны!

Станіслаў. Значыцца, ты мяне любіш?

Адэля (*наіўна*). Здаецца... але найлепш сам асудзі, дружа, з таго, што ў душы маёй робіць кожная твая бытнасць у нас.

РАМАНС

№ 12

У садочку цвітучым па сцежачках, польнай
Пахучай травіцай засланых,
Я змалку дзён з Стасем гуляла свавольна,
На воку бацькоў мілаваных.

Стась міла забавіць патрапіць заўсёды:
Ці птушку з гнязда мне дастане,
Ці кветак нарве мне, ці ягад з гарода,
Чым-будзь асалодзіць гулянне.

Як после навукам ён стаў аддавацца,
Яму ў сэрцы ўдзячнасць хавала.
Бывала, як госці пачнуць к нам збірацца,
Я толькі яго сустрачала.

Часіну ту помню, што ўспомніў сягоння, —
Глыбока мне ў сэрцы засела,
Страх нейкі з пары той адвагу проч гоне:
Стаюся пры Стасю нясмелай.

Сягоння я думкай к яму далятаю,
Душа к яму рвецца, як птушка.
Абняць за абняцце ахвоты шмат маю;
Ён верны у горы мой служка.

Як гляну на Стася, я ўся счырванею,
Як з ім гавару — ўся трасуся,
Трапечацца сэрца, душа прамянее,
К яму уздыханнем нясуся.

(*Кажа.*) Дык вось сам асудзі, дружа, ці гэта каханне, ці, можа, толькі прыязнь.

Станіслаў. Дзякую табе, анёлчыку даражэнькі, за шчырае прызнанне твайго нявіннага сэрцайка. Калі Бог дасць споўніцца нашым найгарачэйшым жаданням і злучыць нас назаўсёды, тады пасвячу ўсё сваё жыццё на тое, каб зрабіць цябе шчасліваю.

Адэля. Але як жа ж мы пазбудземся гэтага Сабковіча?

Станіслаў. Супакойся, даражэнькая! Хаця я не быў пэўны свайго шчасця, усё ж такі, пачуўшы ў нашым куце аб тым, з якою мэтай гэты зладзюга прыехаў да вас, — асабліва што і ён сам, немаведама чаму, усюды гаворыць аб сваіх планах, — не адкладаючы паехаў да маршалка Пачціўскага — прызнаўся яму, што

хачу жаніцца з табой, і казаў аб залётах гэтага інфаміса Сабковіча. Маршалак пазелянеў ад злосці, даведаўшыся, што яго прыяцель, каторы хваліцца, што адразу пазнае чалавека і чаго ён варт, так страшэнна абмыліўся і не толькі прымае ў сябе чалавека, катораму не можа быць месца сярод справядлівых людзей, але нават абяцае аддаць за яго сваю дачку. Ён добра знае Сабковіча, каторы служыў за пісара ў яго сваякоў Сулікоўскіх і добра іх абскубаў. Гэты першы яго крок на свеце быў першым і самым глаўным фундаментам яго багацця, якім ён цяперака так хваліцца, а каторае ён здабыў падобным спосабам. Маршалак паслаў мяне папярэдзіць, каб пані, да яго прыезду, барані Бог, не зрабіла ніякага рашучага кроку. Не трэба было мяне падганяць, ускочыў на сівака, — а мой арабчык як бы згадаў, што мне пільна, пусціўся з ветрамі навыперадкі. Праз няпоўных сорак пяць мінут я быў ужо ў хворткі мілага для мяне з памятак вашага саду; я пацалаваў свайго коніка, каб падзякаваць яму, і прывязаў яго да плота, а сам ціхенька, каб ніхто не згледзеў мяне, як вуж, шмыгнуў да дому і ось стаю прад паняй. Толькі жэўжык Адольфак, каторы ў садзе сярод агрэсту шукаў птушачых гнёздаў, спаткаўся са мной, але ён наш сябрук — ненавідзіць Сабковіча. Кажа, што як згледзіць яго, дык яму прыпамінаецца слаўны начны парыжскі герой Картуш, біяграфію каторага ён нядаўна чытаў у «Прыяцелю народа». Я паставіў гэтага хлопца, каб пільнаваў і сказаў мне, калі бацька з Сабковічам будзе вяртацца з прагляду гаспадаркі. Дык вось трэба кратацца, каб як найхутчэй выкурыць адсюль гэтага зладзюгу. (*Вымае з кішэні зложаную паперу.*) Гэта, даражэнькая Адэльця, песенька, каторую заспявай яккольвечы, быццам вучачыся, тады, калі Сабковіч будзе адзін у гэтым пакоі. Толькі голасна і выразна, каб ён пачуў; калі ён мае хоць крыху розуму, дык ураз жа павінен уцячы.

## Сцэна XV

Тыя самыя і Адольфак.

Адольфак (*убегшы*). Бацька з Картушом вяртаюцца, ужо на ганку. Уцякай, пане Станіславе, у гэтыя дзверы, бо ў тых можаш спаткацца.

Станіслаў. Памятай, Адзя, каб не доўга тутака бацька быў з Сабковічам, і як-кольвечы знайдзі прычыну, каб яго выклікаць адгэтуль.

Адольфак. Будзь спакойны, уцякай.

Станіслаў пайшоў.

Адэля. Адзя, добры хлопчык, не кажы так наперад, бо можаш папсаваць усе нашыя планы. Хадзем. Я дам табе канфітур.

Адольфак. Ого, ці я баба, каб я не мог датрымаць сакрэту? Хітрая ты, мая сястрычка... (*Пайшлі.*)

## Сцэна XVI

Суддзя Сакальніцкі і Сабковіч.

Суддзя. Так, пане Антоні, ведаю, што не шукаеш пасагу, але я хачу быць акуратным і дзеля таго ўраз па шлюбе адрахую табе дзесяць тысячак банковымі білетамі; далажыўшы іх да свайго капіталу, зможаце купіць добры маёнтак.

Сабковіч. Гэта ўжо панская справа, а я, у свой чарод, магу ўпэўніць дарагога суддзю, што не ганюся за капіталам; глаўнае маё жаданне — быць панскім сынам і мужам шаноўнай дачкі вашай.

Суддзя. Веру, веру, пане Антоні! О, я мігам патраплю пазнаць чалавека — нездарма завуся Сакальніцкім. Я адразу пазнаў, што ты справядлівы чалавек.

## Сцэна XVII

Тыя самыя і Адольфак.

Адольфак. Тата, аліндар чакае ў габінеце на тату; кажа, што мае пільны інтэрас.

Суддзя. Іду. Выбачайце, пане Антоні, што я мушу цябе тут аднаго пакінуць, але ўраз прышлю табе мільшую для цябе асобу, — не змаркоцішся. Пайдзі, Адзя, да сястры і скажы ёй, каб прыйшла да дарагога госця. (*Пайшоў.*)

Адольфак. Можа, сястра ўраз не здолее сюды

прыйсці: ёй прыслалі якуюсь песеньку, і яна цяперака яе чытае, а ўраз пан пачуеш, як будзе спяваць. (*Выбягае, смеючыся.*)

## Сцэна XVIII

Сабковіч адзін.

Сабковіч. Дык што... Стары дурань думае, што яго дачка мне даўпадобы. О, прайшлі ўжо тыя часы, калі хлопцы за адзін узгляд красоткі гатовы былі скочыць у агонь, у воду. Дык што... у цяперашніх часах усё залежыць ад грошай. Праўда, панна Адэля і пекная і разумная дзяўчына, дык што... каб не мела звінячай прыманкі, то, напэўна, я нават і не падумаў бы, каб ажаніцца з ёю. І яна, мне здаецца, таксама, дык што... родная дачка Евы. Ведаючы ад людзей, што я багаты, надта, мусіць, хоча выйсці за мяне замуж і, што больш, як пэўна, любіць мяне, галубка. Дык што... Ось і прадчуванні сястры. О, я хаця і не лізнуў кніжнай адукацыі, дык што... але згадаў сваім дурным розумам, што грошы ўвядуць мяне ў вышэйшыя сферы, дык што...

Чутно, як нехта пачынае іграць на фартэпіяна.

Ось, як уважаю, яна хоча мяне забавіць музыкай, дык што... для мяне больш прыемнасці робіць шуршанне банкавых білетаў дарагога бацькі, як ігра яго дачкі. Ціха, нешта пяе, дык што... паслухаем.

За кулісамі чуцен спеў, часта прарываны, як бы хто вучыўся.

Адэля (*за сцяной*).

№ 13

Ў чарадзейскім нашым коле
Ўкаранілася гуголле.
Каб не зелле, наша ніва
Каласілася б шчасліва!

Часта між людзьмі бывае,
Праўда ў тых, хто грошы мае, —
Бразне вошуст кішанёю,
Гнецца ўсё прад ім лазою.

Сабковіч. Дык што... Ці ж не добра я мяркую?!

Адэля (*далей*).

Ёсць тут пан з паноў Сабковіч,
Што ўсе дражняць «дарабковіч».

Паўза.

Сабковіч. Што, што? Аба мне пяе, хітрая, далікатная; спяваючы, хоча выказаць тое, што чуецца. Глядзіце, трэба ж гэта! Паслухаем, што далей будзе.

Адэля.

Свінапас быў змалку летаў,
Сёдні дзьмецца, як цар света...

Сабковіч. Што, што?.. О!.. (*Атарапеўшы.*)

Адэля.

Скуль жа пыха ў гэтай шэльмы?
Вота ж верыць ў грошы вельмі,
Бо на службе пры палацы
Доўгіх рук не жалеў працы.

Сабковіч. І гэта нават?! Дык што...

Адэля.

На зладзейскай ехаў снасці,
Краў, што можна было ўкрасці:
Срэбра, медзь, нават раменне —
Усё ў свае спіхаў кішэні.

Сабковіч. Скуль жа ж, да чорта, яна аб гэтым знае?.. (*Зусім збіты з панталыку, слухае далей.*)

Адэля.

Боскіх праўд забыўшы дбаці,
Як той Крэз, сабраў багацце;
Сёдні балі выпраўляе,
Каб падхлебнікаў мець зграю.

Сабковіч. Гэта інтрыга недапечанага акадэміка, дык што... Нічога не зробяць. Калі бацька на маёй старане, пастаўлю на сваім. Лёгка растлумачу, што гэта інтрыга, да каторай, дык што... належыць і яго дачка.

Адэля.

Ёсць жа людзі, што, хоць сорам,
Торг вядуць сваім ганорам;
Нават, як да пня апенкі,
К «шэршню» ціснуцца паненкі.

Стуль і прыказка на гэта:
Праўду выгналі край света.
Нелюдзь з золатам без бою
Верх бярэ над праватою.

Сабковіч. Так, паненачка, так, пане акадэмік! Вы, як я бачу, згаварыліся, каб выжыць мяне з гэтага дому, але страшэнна вы абмыліліся. Бацька мае да мяне слабасць, я выдумаю казку, быццам пан акадэмік баламуціць яго дачку і, хочучы маёй адправы, кідае на

мяне ўсялякія бруды. О, пачакайце, галубочкі, не ўдасца вам тое, што вы хочаце зрабіць!

## Сцэна XIX

Сабковіч і Адольфак.

Адольфак (*убегшы*). Пан маршалак Пачціўскі з панам Зацнеўскім толькі што прыехалі. Пан Станіслаў на сваім арабчыку. Які гэта пекны конік, проста цацачка...

Сабковіч (*страшэнна перапуджаны*). Што, што, што? Маршалак Пачціўскі? Дык што... гдзе ён?

Адольфак. На ганку з бацькам вітаюцца; але пан маршалак на хвілінку толькі заехаў дзеля таго, што мае пільны інтарэс у горадзе, а міма праязджаючы, як ён казаў, не выпадае не заехаць, каб даведацца аб здароўі дарагога суседа. Нават коней не пазволіў адпрагчы, як ні прасіў яго бацька.

Сабковіч. О, даў бы ж то Бог, каб ён, дык што... як найхутчэй выехаў адсюль. (*Наголас.*) Слухай, Адольфак! Дык што... як тутака можна выйсці ў сад, каб не спаткацца з новым госцем? Дык што... бачыш, мой даражэнькі, я не хацеў бы спаткацца з маршалкам, ён гневаецца на мяне за тое, што я так даўно не быў у яго. (*Убок.*) Да чорта, — ён бы мяне выкінуў за карк. (*Наголас.*) Дык што...

Адольфак. У сад адзін выхад — праз глаўныя дзверы і ганак, гдзе цяперака тата гутарыць з маршалкам; другі — праз пакоі Адэлькі, але цяперака тудой прайсці не можна: апранаецца. Бяда невялікая, што маршалак крыху прыстыдзіць пана за гэта, пан паабяцаеш незадоўга быць у яго, і будзе згода. Але чутна ўжо іх гутарка; бацька, мусіць, вядзе госця сюды. Пайду падганю сястру, каб хутчэй сюды выйшла. (*Выбягае.*)

## Сцэна XX

Сабковіч адзін.

Сабковіч. Ось папаўся, дык што... Маршалак такі злы на мяне за Сулікоўскіх і Валовічыху, што, пабачыўшы мяне тутака, гатоў зрабіць мне вялікую непрыемнасць

і настроіць проці мяне суддзю, дык што... ён заехаў толькі на хвіліну. (*Бегае па пакоі, заглядаючы ва ўсе куткі.*) Каб знайсці тутака месца, каб схавацца? Дык што... Праз хвіліну суддзя не паспеў бы параіцца з маршалкам аб пастанове, дык што... сваёй дачкі.

У гэтым месцы Адольфак паглядвае праз бакавыя дзверы, што робіць Сабковіч.

Як на бяду, няма падхадзячага месца, каб схавацца. Ах, дык што... схаваюся пад стол; даўгі настольнік патрапіць схаваць мяне ад маршалка. (*Лезе пад стол і нацягвае крыху настольнік, каб закрыць сябе, але не ад публікі; гэтак схаваўшыся, высунуў галаву з-пад настольніка і кажа.*) Дык што... чартоўскі непрыемнае палажэнне залётніка! Каб жа ж хоць паненка ацаніць гэта патрапіла. Але ціха, нехта ідзе; буду сядзець спакойна і паўзіраюся, што тутака будзе рабіцца. (*Хаваецца.*)

## Сцэна XXI

Адольфак і Сабковіч.

Адольфак (*увайшоўшы з дубчыкам у руках, кажа ў старану*). Ага, Картуш, папаўся ў мышалоўку! Пачакай, памучу я цябе добра тутака. (*Гамоніць.*) Трэзор, пракляты сабака! Куды ж ён падзеўся? Трэба яго пакарміць дзеля таго, што ўраз пойдзем на цацерукоў з панам Станіславам. Усюдах набегаўся, шукаючы яго. Трэзор, Трэзор! Мусіць, улез пад стол і спіць тамака спакойна. (*Штурхаючы дубчыкам пад настольнікам.*) Трэзор, вылазь хутчэй!

Сабковіч (*выглядаючы з-пад стала, у старану публікі*). Дык што... дзеля любві к паненцы, а хутчэй дзеля грошай яе таты буду хвіліну Трэзорам: быць можа, настрашу хлапчука. (*Бурчыць, як сабака.*)

Адольфак. Што, ты гэтак, пачакай, гад! Я ўраз выганю цябе з-пад стала. (*Мацней штурхае дубцом пад сталом.*)

Сабковіч (*да публікі*). О, на раны Хрыста! дык што... страшнае палажэнне. Хто мяне выратуе з гэтага пекла?! Пачну брахаць, можа, гэтым яго настрашу. (*Заядла брэша.*)

Адольфак. Не спудзіш мяне гэтым, ведаю, што не ўкусіш мяне, выкуру цябе адгэтуль. (*Усунуў палец пад настольнік і, сарваўшы з галавы Сабковіча паўпэруку, уцякае да сярэдніх дзвярэй.*)

Сабковіч, забыўшыся, выскачыў з-пад стала і, даганяючы Адольфака, наскочыў на ўваходзячых: маршалка, суддзю і Станіслава; з бакавых дзвярэй выходзіць Адэля. Усе стаяць здзіўленыя.

(*Адольфак, бегучы да дзвярэй, безупынна гамоніць.*) Ах, чорт, чорт!..

## Сцэна XXII

Маршалак, суддзя, Станіслаў, Адэля, Адольфак і Сабковіч.

Сабковіч ад страху непрытомны стаіць каля дзвярэй.

Суддзя (*Адольфаку, затрымаўшы яго і ведучы за вуха пасярод сцэны*). Што гэта, сарвігалава, за камедыі вырабляеш тутака?

Адольфак. Я, татачка, зусім нявінны: я шукаў Трэзора, і мне здалося, што ён спіць пад сталом; я і паштурхаў тамака кійком; пад настольнікам нешта забурчала ды нават пачало брахаць. Тады я разгневаўся і, усунуўшы руку пад стол, каб выцягнуць адтуль сабаку... і, немаведама чаму, трапіла мне ў руку гэтая барада, а замест Трэзора — выскачыў з-пад настольніка пан Сабковіч. Я, спуджаны, уцякаючы, крычаў: чорт, і якраз тата прыйшоў.

Суддзя. Што гэта, пане Сабковіч? Падбліжцеся, я пазнаёмлю пана з маім прыяцелем, маршалкам.

Маршалак. Знаю я яго добра. Што, васпан, тутака робіш? Як ты пасмеў лезці ў дом справядлівых людзей?!

Сабковіч (*перапуджаны*). Дык... дык... дык... пане маршалак; дык... дык... я прыехаў, дык... да пана суддзі, дык... даведацца, дык што... можа, мае прадаць жыта ці лён.

Адольфак (*падняўшы настольнік, глядзіць пад стол*). Далібог, тутака няма ані лёну, ані жыта.

Суддзя (*глядзіць па чарзе то на маршалка, то на Сабковіча*). Пане Антоні, растлумач, што ты рабіў пад сталом?

Сабковіч (*непрытомны*). Дык... дык... дык...

Маршалак (*дражнячы*). Дык... дык... Ось я табе, дарагі суддзя, растлумачу ўсё чыста. Гэта птушка, даведаўшыся аб маім прыездзе і не хочучы спаткацца са мной — ён ведаў добра, што я яго па галоўцы не пагладжу, — не могучы ўцячы дзеля таго, што мы

надходзілі, схаваўся пад стол. А ты, дарагі дружа, каторы ўраз патрапіш ацаніць чалавека, — страшэнна абмыліўся, прымаючы ў сваім доме гэту ягадку; а што найгоршае — хацеў выдаць за яго сваю дачку. Мушу табе адкрыць вочы: Сабковіч — невядомага роду, гадоў з дваццаць таму назад пасвіў быдла ў сваіх сваякоў; навучыўшыся крыху чытаць і пісаць, дастаў, на няшчасце маіх сваякоў Сулікоўскіх, месца пісара і тамака, добра нахапаўшыся, пакінуў службу. Праз нейкі час мы яго бачым у пані Валовічыхі, кабеты з анельскім сэрцам і надта даверчывай. Не марнаваў ён і тамака часу, добрым прыкладам чаго можа быць здарэнне ў адным мястэчку, гдзе людзі Валовічыхі, пазнаўшы на конях «дарабковіча» хамуты сваёй пані, хацелі зацягнуць яго ў стан, і, каб не ўцёк, добра меўся б галубок. Але найвялікшай запамогай яму была смерць графа Багацкага. Нябожчык, падаючы ў ваду, выкінуў з бакавой кішэні бумажнік, а як ён трапіў да Сабковіча, ведама не толькі Богу, а і людзям. Ось скуль яго багацце! Потым ён узяў у арэнду нямалы хвальварак і заняўся быццам таргоўляй, каб замрочыць людзей. Вось хто Сабковіч, каторага ты, дарагі суддзя, прыняў у сябе. Ну, што, шаноўны, што адкажаш мне на тое, што я сказаў?

Сабковіч. Дык... дык... Пане маршалак, якісьці непрыхільнік мой набрахаў, а пан маршалак паверыў.

Суддзя. А я, неасцярожны, толькі што не зрабіў найвялікшага глупства, дзякуючы сваёй даверлівасці. О, даруй, пане маршалак! Якая падзяка належыць ад мяне і дачкі пану... (*Цісне яму руку.*)

У часе гэтай сцэны Зацнеўскі і Адэля ціха гутараць, Адольфак круціцца каля Сабковіча, аглядаючы яго з цікавасцю з усіх старон, і ад часу да часу мяшаецца да гутаркі сястры з Станіславам Зацнеўскім.

Маршалак. А цяперака, васпан, ідзі туды, скуль прыйшоў, і не рабі ганьбы справядлівым людзям сваёй бытнасцю. Шукай людзей, роўных сабе.

Сабковіч. Дык... дык што, пане маршалак, дык пан праз меру суровы для мяне, дык што... дык што...

Суддзя. Я прасіў бы, каб асан як найбарзджэй пакінуў мой дом, а што датычыцца таго, аб чым мы з асанам гаварылі, я прашу ні слова нікому не казаць. Пан прыязджаў купляць семя, лён.

Адольфак. Пад сталом...

Суддзя. Маўчы, Адольфак. (*Сабковічу.*) Калі б я даведаўся, што ты распаўсюджваешся аб тым, аб чым я з табой вёў гутарку, то будзеш мець дзела са мной.

Станіслаў. Не з панам, дарагі суддзя, але з «недапечаным акадэмікам».

Маршалак. Гэта ў яго інтарэсе... Я трымаю адзін канец ніткі, па каторай ён, за недатрыманне сакрэту, можа трапіць у непрыемны дом. Ідзі.

Сабковіч хоча ісці.

## Сцэна XXIII

Тыя самыя і Ключвойт.

Ключвойт. Хай будзе пахвалёны!

Суддзя. На векі векаў! А што, даражэнькі, скажаш?

Ключвойт. Выбачайце, я, даведаўшыся, што тутака пан Сабковіч, зайшоў паведаміць, што станавы яго трэбуець у справе мужыка Гапона Барычкі, каторы заявіў, што ўчора ўкралі ў яго маладую кабылку, каторую ён купіў у тутэйшага аканома. Гэта пацвердзілі як ён сам, так і некалькі суседзяў. Дзеля таго, што кляча гэтая ў пана Сабковіча і ён прыехаў сюды на ёй, мне наказалі клячу забраць і аддаць, каму яна належыцца, таксама і кажухі, каторыя незаконна ён заграбіў у любінскіх людзей. Яго самога наказалі даставіць у стан для дапросу.

Маршалак. Дык рабі, што табе наказана.

Ключвойт (*Сабковічу*). Пойдзем, паночку! (*Пайшлі.*)

Адольфак (*услед ім*). Бяры, пан, сваю пэруку, каб нас не ганьбіла ніводная яго рэч. (*Кідае за дзверы паўпэруку.*)

## Сцэна XXIV

Тыя самыя, апроч Сабковіча і Ключвойта.

Суддзя. Ніколі сабе не дарую, што я гэтак аганьбіў маю дарагую Адэльцю, пазволіў гэтаму злодзею прасіць яе рукі. Не ведаю, як загладзіць сваю віну.

Маршалак. А ёсцека адзін найлепшы спосаб: не адкладваючы выдаць яе замуж.

Суддзя. О, гэта было б найлепш, але за каго? Калі, як назло, нямашака ніводнага залётніка.

Станіслаў (*да Адэлі*). Прыходзіць рашучая хвіліна, ад каторай залежыць для нас усё. Божа, памажы нам!..

Маршалак. І гэта чалавек з саколім вокам!.. Ці ж не ведаеш, што прымаеш у сваім доме нават надта часта дзецюка, каторы хацеў бы аддаць усё сваё жыццё, каб ашчасліваць тваю дачку, і на каторага і яна змалку глядзіць надта прыхільна.

Адэля (*застыдзіўшыся, боязна*). Пане маршалак...

Суддзя. Хто гэта можа быць? Хіба пан Станіслаў? Чаму ж тады раней не адкрыў мне сваіх думак? Не было б гэтых нешчаслівых залётаў.

Маршалак. Трэба быць сватам. Так, дарагі суддзя, Станіслаў любіць тваю дачку; дагэтуль нічога не казаў таму, што хацеў упарадкаваць свае справы і прыбраць гняздзечка для свайго найвялікшага скарбу. Быць можа, адкладваў бы і яшчэ, але сённяшняе здарэнне змусіла яго паспяшацца з апошнім крокам. Твая дачка толькі сённейка даведалася, як ён яе любіць. Сённейка ён раскрыў прад ёй сваё сэрца і, дастаўшы пазваленне, просіць у цябе яе рукі, — прасіў мяне сватаць. Маладыя, падыдзіце да бацькі і прасіце на каленях пазвалення і благаслаўлення.

Станіслаў стаў на калені перад Сакальніцкім, а Адэля, засаромеўшыся, мітрэжыцца.

Панна Адэля, смела стань на калені з правай стараны і загляні бацьку ў вочы так, як глядзіш, калі хочаш яго збаламуціць. Магу ўпэўніць, што змякне, як воск, і злучыць вашы рукі.

Адэля (*стаўшы на калені*). Дарагі татачка! Я люблю яго. (*Цалуе бацьку ў руку, закрываючы гэтак вочы свае.*)

Суддзя. Ага, баламутка, а я не мог дагадацца! Адгэтуль перастану верыць свайму сакалінаму воку, а то, як відаць, з гадамі прытупілася. Ну, мае дзеткі, калі любіцесь, то хай Бог у небе, як бацька на зямлі, вас благаславіць! Устаньце і дайце вас абняць.

Адэля. Татачка, даражэнькі, які ты добры!

Суддзя. Усе мы павінны падзякаваць пану маршалку.

Адольфак. Я таксама званіў на гэтае казанне і маю права, як брат, благаславіць вас. (*Патэтычна.*) Прыбліжся, пара буркуючых галубкоў, хай і я вас благаслаўлю. (*Падышоўшых з павагай благаслаўляе.*)

С т а н і с л а ў. Брацейка даражэнькі, ты таксама шмат зрабіў для нашага шчасця, — чым мы можам выказаць табе сваю падзяку?

А д о л ь ф а к (*са слязьмі ціскае ім рукі*). Любіце мяне так, як і я вас люблю. (*Наіўна да Станіслава.*) А паедзем сённейка на цецерукоў?

С у д д з я. Ну, дзякаваць Богу і дарагому маршалку, што залёты нашы сягоння добра скончыліся; хай жа ж яны, як цяперака для мяне, так і для ўсіх бацькоў будуць навукай, што, шукаючы для свайго дзяцёнка прыяцеля на ўсё жыццё, — павінны галоўным чынам звярнуць увагу, — хавай Божа, не на багацце, але на сэрца, навуку і славу ў людзей таго, хто хоча быць мужам дачкі.

ВАДЭВІЛЬ
№ 14

А д э л я.

Каб канец сышоў шчасліва,
Злое ўсё забудзьма жыва,
Шчасце наша не растае.

С т а н і с л а ў.

Віват! Жонку сабе маю.

У с е.

Маем страху мы тыкеле
(Хоць ваш «біс» яго зламоча),
Ці нам публіка з фатэляў
Што закінуць не захоча?!

***К а н е ц***

*Люцынка, снежня 8-га дня 1870 года*

# Гапон

*Беларуская аповесць*

## ПЕСНЯ 1

Калі ахвота начата,
Што ж стаіце, як цялята?
Далей, хлопцы, маладзіцы,
Зачніце ад «Мецяліцы».
*З камеды-оперы «Ідылія»*

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажны курыцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка з лендаром
Мёд, гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.

Ананя на скрыпцы іграець
«Лявоніху», то «Бычка»,
Гапон жару паддаваець:
«Зыграй, крычыць, «Казачка»!»

Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ён кулаком,
«Хадзі, мая ты малінка!» —
Дый затупаў хадаром.

«Ананя, рэж вясёлы!» —
Крычыць громка наш Гапон
Дый, сабраўшы ў світцы полы,
Мэрам хохлік! мэрам ён!!

То ўпрысядкі выкідаець,
Ажны стогнець пад ім пол,
То «Галубца» падбіваець,
Ажны трасецца хахол.

«Ах! ух! Давай жару,
Давай болі, давай пару!» —
Крычыць Гапон дый гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець.

«Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць
Твае вочкі ясны?
Эй, чух, Кацярынка!
Твае кудры ўюцца,
Скачыць, пляшыць мая міла,
Аж шчочкі трасуцца».

Трэйчы Гапон прамахнуў,
Бражджаць ножны з агнівом,
Стаў на месцы — падпрыгнуў
Дый затупаў хадаром.

Кацярынка ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвіць! спаднічку распусціла,
Трэйчы запяткам падбіла,
Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяець,
Быццам іскры ляцяць.

Русы коскі падлятаюць,
Каснікі, як жар, гарацць;
А вось вышай як заграюць,
Так і возьме прыпяваць:

«Мілы Хартон, мілы Саўка,
Да мілейшы ж мой Гапон,

Хахол ясны, пояс красны,
А галасок! кабы звон.
Не хачу Саўкі, Хартона, —
Мне жыцця з імі не быць,
Валей маяго Гапона,
З ім не буду я тужыць».

Пяець, пляшыць, падбіваець,
Усяк вокам за ёй брадзець,
Як ластачка, падплываець,
Ажны хочацца глядзець.

Ананя ж — воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа із-за вуха,
Аж скрыпка яго звініць.
«Мяцеліцу» прабірае
Ёмка, громка, ладны час!
Дробна смыкам падсякае,
Звініць рымка, гудзіць бас.
Локаць упёршы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,
Далі сціхнуў — дый з-за вуха
На «Лявоніху» падняў.

Схваціў Гапон Кацярынку,
Смела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за спінку,
«Лявоніху» успрыгнуў.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый Бог!
Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум да крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напаў зык.
Той ўпрысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як шчэць, дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Дай так возьмуць прыпяваць:

«Ах, калі ж я ў матульці была,
Як вішанька ў садочку цвіла;

Папалася злому духу, мужыку!
Ён высушыў, як ліпінку ў духу.
Наехала повен двор татароў
Да ўзялі ж майго ж мужа ў палон;
Не жаль жа ж мне, што яго узялі
Толькі шкада што някрэпка звязалі;
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
Трэба ж будзе сцерагчыся, уцякаць,
З вераб'ямі пад страхою начаваць».

Далі крыкнула Тацяна,
Абняўшы за шыю Яна:
«Пайшоў Янка ў грыбы,
Тацяна ў апенькі,
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькі».

А за ёю Халімон
Гудзіць, як царкоўны звон:
«Ой, Божа мой, Божа!
Нашто я радзіўся?
Састарыўся, як сабака,
Дасюль не жаніўся».

Перастаў. — Гапка спляснула
Дый тоненька зацянула:
«На вуліцы курта брэша,
А да мяне мілы чэша,
А чы чэша, чы не чэша,
Да недарам курта брэша!»

Вот так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як рэзаў — рэжа смык!

Аж тут скрып!.. дзверы суздром
Расчыніліся... трывога!
Бо з войтам сам аканом
Як тут — знайшліся ў парога.

Уся ахвота прыўстала,
На ўсіх страхатня напала:

Ananя ж — як уцяў!
Пахінуўся напярод.
Па ўсіх струнах запішчаў, —
Так кончыўся карагод.

І Гапону не да танца,
Як акомана, паганца,
Ён угледзеў, так прыстаў,
На ўсё горла закрычаў:

«Ой, будзе ж нам цёпленька, браткі!
Хто малады, уцякай з хаткі!
Нядарам сталі шаптаць,
Што некрутаў будуць браць.
Пабірай іх ліхі бес!
Хто дуж, уцякайма ў лес!»

Тут настала суматня,
Ўсяк бяжыць, маўляў з агня,
Адзін дзверы выпірае,
Другі ціснецца пад стол,
Той чэраз акно сігае,
А Гапон хваціў за кол,
Дый спіной стаўшы ў куце,
Як мятлой, усіх мяце.

Вот калі покурцяў туча,
Гурмам мядзведзя асадзіць,
А ён са злосці мармуча,
Як каторага пагладзіць,
Той з болю яўкне, той брэша,
Так Гапон наш колам чэша.

Ён вярцеўся, кабы ўюн,
Сюды і туды кідаўся,
Не жалеў, біў хто папаўся,
Але і коман цікун!
Глядзь! усякія плахціны,
То кажухі, то пярыны,
На Гапона стаў кідаць,
Не дзіва ж было паймаць:
Яго, беднага, звязалі
Дый у калодкі скавалі;

Годзі вадзіць карагод!
Кацярынка ж пабляднела,
Заплакала, абамлела,
Прыйшоў на іх чорны год.

## ПЕСНЯ 2

Над сіратою
Бог з калітою.

*З камеды-оперы «Ідылія»*

У вялікім у сяле,
Над дняпроўскай стараною,
На прыгорку у вугле,
Меж лесам да меж ракою,
Там стаялі дзве хаціны:
Усцінні, друга Гарпіны.
Першай мужык быў Мірон;
Невесь за якія грэхі,
Не дажыў з сына пацехі,
А той сын — быў наш Гапон.

Ён — няма чаго казаць!
Горды, смелы, зух дзяціна!
За сваіх умеў стаяць,
А прыгожы, як маліна,
Да і пісьменны ж быў ён:
На яго са ўсіх старон
Дзеўкі сумаўчком зіркалі,
На ігрышчах прысядалі;
А Гапон ані глядзіць;
Ён пры сужанай дзяўчыне,
Наймілейшай Кацярыне,
Як прысядзе — дык сядзіць.

У ўдавы жа Агрыпіны,
Апрыч дачкі Кацярыны,
Болей не было сваіх;
Яна з Усцінняй, кумою,
Жыла, як рука з рукою,
Адна дума была ў іх:
Штоб сваіх дзетак сасватаць,
Штоб худобку ім прыпратаць,

Штоб як сядуць на сваём,
Яны весела зажылі,
Без патрэбы не тужылі,
Не рупілі ні аб чом.

У Грыпіны ж Кацярына,
Крый Божа! бяды не знала,
Як у садочку маліна,
Расла, цвіла, даспявала;
На шчочках кроў з малаком,
А вочкі блішчаць агнём,
І семнаццаць ужо лет,
Як прыйшла яна на свет.

Ну ж з сабой кумы сайдуцца,
Тут зараз гадкі начнуцца:
«Пара, баш, дзяцей жаніць;
Яно ўсякі адклад
Не вельмі ідзе ў лад;
Пойдам пані чалом біць:
А там дзейся божа воля!
Як прыбяром усё з поля,
Дзетак к вянцу павядзём».
Гэтак стары гаманілі,
І, напэўна, улажылі,
Да памяшаў аканом.

Ён — баш ты, сабачы сыну!
Упадабаў Кацярыну,
Дый ну ж к беднай падсядаць;
То ластачкай падплывае,
Красны слаўца выпускае,
Штоб як-небудзь яе ўняць.

А Кацярынка — нябога!
«Бойся, кажа, паніч, Бога!!
Гэта ж грэх така напасць:
Як пажалюся Гапону,
Ён, пэўне, такога гону
Панічу цішком задасць,
Што зубоў не пазбіраеш
І ахвоту пацяраеш
Чужых нявестак глуміць».
Коман Гапона злякаўся —
На час адстаў, да закляўся
Маладых ён пагубіць.

Вот ночка яшчо цямненька,
Дожджык, як з сітца, прышчыць,
А войт даўным-даўнюсенька
Загад пад акном крычыць:
Хто пойдзе драва рубаць,
Хто крупы таўчы і драць,
А хто з цэпам малаціць,
Каму брагу калаціць.

А вось і акоман сам
Прыбег к карчме на кані.
«Слухай, крычыць, слухай, хам!
У карк шэльмаў тых гані!
Бо як толькі апазняцца,
То скажы тым гультаём,
Што й здароўем не відацца,
Так задам ім нагаём».

А ўжо нечага маніць:
Доўга будзеш памятаць,
Калі возьмець драць і біць,
То і з зямлі не устаць.

А вось бліснулі агні,
Войт стадолу адчыніў,
І акоман на кані
У стадоле — як тут быў.

«Гэй, дабрыдзень, аляндару!
Што тут новага чуваць?» —
«Уф! Вяльмозны камісару!» —
Дый так яму стаў брахаць:

«Ясны пане! сто з тут цуць,
Цы я магу ўсё знаць,
Ат!.. ведама — людзі п'юць,
Каб толькі на доўг даваць.
Ны!.. як пан мне прыказаў,
Каб я таго не цыніў,
То напавер і не даў,
Хоць Гапонцык і прасіў
Маёй Сэйны, сто Бог крый!
А як я не дапусціў,
То ён, ухваціўсы кій,

Вельмі брыдка сярдзіт быў.
Ну!.. Пан ясны, звазай сам,
Калі схоцэць хто у сваты,
Цы то дзела будзець нам,
Цы мы таму вінаваты?» —

"Як-то ў сваты! то Гапон
Ужо задумаў жаніцца?» —
Крыкнуў з сэрцам акамон
І вось як пачаў браніцца:
«Ах ты юха! ах ты пес!
Ты латруга! — знаю я,
Куды цябе хіне бес;
Да пастой, душа мая!..» —

«Ты тут, войт?» — Войт пакланіўся
Ды за вухам пачасаў;
«Да тут, пане!» — абвясціўся.
Ось акоман закрычаў:

«Бяжы, гіцлю, мне сейчас
І Гапончыку скажы,
Каб явіўся сюды ўраз,
Спраўна ж, гіцлю!.. ну!.. бяжы!..

А ты, пане аляндару!
Паднясі жа мне гарэлкі». —
«Гіт! гіт! Ясны камісару». —
Дый пачаставаў з тарэлкі
Поўнай шклянкай; — акамон
Выпіў з шклянкі, закусіў,
Аж тут з войтам і Гапон
Цераз парог праступіў;
У пояс ён пакланіўся,
«Нех бэндзе!» — громка сказаў,
Крыху ўперад падступіўся
І, што вяляць, дажыдаў.

Рыжы вусы акамона
Шчэццю уверх паднялісь;
Зыркнуў скоса на Гапона,
Вочы кроўю залілісь,
Губы страшна пакрывіў,
Кнут у жмені аж трашчыць;

Як к Гапону падступіў,
Так і ўзяў яго сушыць.

«Як ты смееш, воўча юха!
Без двара у сваты слаць?»
І бразнула аплявуха,
Што Гапон ледзь мог устаць.

«Ось я табе, ўражы сыну!
Як адвешу сатні дзве,
То забудзеш Кацярыну
Да забудзеш і сам гдзе».

Гапон набок пашатнуўся,
Твар далоняю закрыў,
Навакола абглянуўся
Да за таўкач ухваціў.

«Каб я Бога не баяўся,
Паказаў бы я табе!!
Чаго ты тут прыскяпаўся?
Думаеш, баюсь цябе?
Пані за то не сярдзіцца,
Хоць шлюць сваты без двара,
І пазваляе жаніцца,
Як каму на то пара.
А ты! Маўляў ваўкалака,
Здзекуешся тут над намі;
Сцеражыся ж... ты, сабака!
Помні, што і мы з зубамі».

Коман, як ту рэч сумеў,
Да стадолы пабяжаў,
Гапон кончыць не паспеў,
Так з карчмы ён цягу даў.

Крый Госпадзь! як ён злякаўся,
Ледзь дахаты змог прыбыць,
Да на ўсіх святых закляўся
Гапона навек згубіць.

Вечарком раз ў двор ідзе,
Яснай пані б'е чалом;
Быццам верны аканом,
Ён такі ляпорт вядзе:

«Кепска, пані, ў нас чуваць,
Уся валасць у трывозе,
Не адзін будзе ў астрозе;
Хлопцы сталі бунтаваць». —

«Хрыстэ, Пане найласкаўшы! —
Крыкнула пані, прыўстаўшы.
— А то чыста кара неба!
Бедны люд ратоваць трэба!»

Коман затылак пачэша,
Дый так далей пані брэша:
«Гапона трэба уняць:
Невесь, як ён там пранюхаў,
Чы ў дварэ, мо'а, падслухаў,
Што некрутаў будуць браць.
Ён усіх хлапцоў сазваў
Дай так, баш, ім расказаў:
«Бяду, браткі, мы наждалі,
Некрутаў здаваць казалі;
Чаго тут добрага ждаць?
Трэба у лес уцякаць.
А не — усе сабяромся,
Хто з калом, хто з абухом,
І заніўто не дадзёмся,
Хоць там трэсні аканом». —
Гэтакі, баш, мой савет,
Іной, пані, рады нет:
Трэба Гапона паймаць
Дый першага яго здаць;
Тагды усе пабаяцца,
Перастануць бунтавацца».

Пані рукі заламала,
Са страху на ўсё прыстала.
Так Гапон наш скончыў танец,
Ён надзеў казённы ранец
І пайшоў цару служыць.
Кацярына ж усцяж плача,
А коман пры беднай скача,
Вот налёг яе згубіць:
Прыказаў зазваць у двор
Дый у прачкарню упёр;
Баш! узяла погань моч:

То прыкінецца к ней лісам,
То са злосці страшным бесам,
Штоб як-небудзь яе змоч.

А Кацярынка галосіць!
І, падняўшы к небу рукі,
Яна Бога усцяж просіць,
Штоб акончыў цяжкі мукі.

Так раз яна у садочку,
Дый у цёмным у куточку
Горкі слёзкі вылівала,
Сваю долю праклінала.
Бог пажалеў сіраціну,
Трэба ж у тую гадзіну
Пані па саду гуляць
І бедненькую спаткаць.

«Што ты, сэрца, цяжка стоніш,
Аб чом горкі слёзкі роніш,
Хто пакрыўдзіў, скажы мне?»
Кацярынка ж без трывогі
Яснай пані пуц у ногі
Дый так расказ свой іме:

«Пані наша найяснейша!
Маці наша наймілейша!
Вот крыўда мая така!» —
Ну ж тут праўду ёй казаці,
Акамона цукраваці,
Не жалела ж языка.

У пані вушы павялі,
Аж воласы дыбам сталі,
Як пачула той расказ,
І успляснула рукамі,
І залілася слязамі
Дый такі дала прыказ:

«Штобы пана аканома
Ні нагі тут каля дома
За гадзіну не было».
Вот ён, далоў нос спусціўшы,
Ды, як воўк, вушы стуліўшы,
Пакінуў двор і сяло.

З той жа пары Кацярына,
Як пакаёва дзяўчына,
Пры пані стала служыць;
Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла,
Па ксёнжцы Бога хваліць.

## ПЕСНЯ 3

Хто пад кім яму капае,
Часта сам туды ўпадае.

*З камеды-оперы «Ідылія»*

Не так скора час праходзіць,
Як казка рэчы выводзіць,
Вот пяты гадок настаў,
Гапон на вайне як служыць,
Кацярынка па ім тужыць,
А акоман — цягу даў.

У горадзе Магілеве,
Пры шырокім пры Дняпрэ,
Гудзіць — кабы шэршні ў дрэве,
Кіпіць — як бы у катле.

Там вуліцаю пан гоніць,
Каляска стралой ляціць,
Пад каньмі аж зямля стоніць,
«А хварысь, падзі!» — крычыць.

Тут сустрэнеш каламажку,
Вот конікі! глядзь! кругом
Гладкі — ляцяць уразмашку;
Гэта пэўне аканом.

Далі хтось там на драбіне,
Конік, быццам рак, паўзе,
Згадаеш па кіслай міне,
Што пасэсара вязе.

А там хвурманак багата,
Маўляў грыбоў у бару;

Глядзіш! то нашага брата
Вязуць на службу цару.

Кабы галодны сабакі,
Так жыдоўскі лапсардакі
Лезуць к табе саранчой;
Пападзіся ж ім у когці,
Наўрад патрафіш іх змогці,
Вытрабушаць карман твой.

Вот у каменны палаты
Сходзяцца паны багаты,
Золата на іх кіпіць;
Мужычкоў туды ж прыводзяць,
І аднадворцы прыходзяць,
Там на службу маюць брыць.

На сярэдзіне святліцы
Стаіць стол накрыт сукном,
Пры нём, з крыжам у пятліцы,
Падпёршыся кулаком,
Ясны маршалак сядзіць;
Ён, маўляў, рабін у школе
Чы як хвурман у стадоле,
Важна так на ўсіх глядзіць.

Направа пан вельмі срогі,
Вусы, як у быка рогі,
Вот так старчмою стаяць;
Воласы яго сівенькі,
Мундзір на нём галубенькі,
На грудзях крыжы блішчаць.

А за ім якісь пузаты,
Быццам мядзведзь, так касматы,
Гэта дохтар мае быць;
Рукі за сабой трымае,
Пальцамі перабірае
Дый часта ў карман глядзіць.

З левай стараны маршалка,
Тоненькі, просты як палка,
На розум, відна, хіцёр!

Ён спадлоб'я паглядаець,
У руцэ пяро трымаець;
Гэта, кажуць, пракурор.

На канцы якісь вайсковы,
Смаглы, відны і здаровы,
Прыгожанькі кавалер!
Часта ён на стойку вокам
Меціць ў раздум'і глыбокам;
То прыёмны ахвіцэр.

Вот з крэсла маршал схваціўся,
Ўсім у пояс пакланіўся,
Табакеркай заскрыпеў;
Далі крыкнуў да дазорцы:
«Няхай начнуць аднадворцы!» —
Дый зноў на места прысеў.

Тут ля бакавой раздаўся
Святліцы жалабны стон,
І найпершы паказаўся
Наш знаёмы аканом.

Як прыйшла шляхце трывога,
Штоб бумагі ўсяк складаў.
Коман, з дапушчэння Бога,
У аднадворцы папаў.
І вот, маўляў, не урокам
Кажучы, пагана чэсць!
Трэба ж, бытта бы нарокам,
На очэрэдзь яму ўлезць.

Як вала вядуць на бойку,
Так акомана пад стойку;
Ён жа не пацягне і ног,
Да скорчыўся у клубочак,
З дохтара не зводзіць вочак,
А так стогне, што крый Бог!

Дохтар важна прыступае
І некрута аглядае,
Зубы, ногі, бакі, стан;
Патуль каля яго тупаў,

Пакуль кругом не ашчупаў,
Вот, маўляў, каня цыган.

Відна, з сабой яны зналісь,
Пярвей, відна, паўстрачалісь;
Дохтар, баш, ганьбу найшоў.
Кажа, ў службу не гадзіцца,
Яму трэба палячыцца,
Да і меры не дайшоў.

А некрут: «Мае паночкі,
Вы, ясныя сакалочкі!
Гдзе тут хвораму служыць?
Вот так коле мне у грудзі,
Што сухвоты, кажуць людзі,
І ў баку вельмі баліць».

Кабы варам абліў плечы,
Як пачуў гэтакі рэчы
Наш малады ахвіцэр;
Ён з места свайго самкнуўся,
Пры некруце апынуўся,
Глядзіць, быццам ліхі звер.
Пад стойкай яго прастуе,
Струной цягне дый мацуе,
А ў бараду кулаком
Як парадкам яму суне,
Глядзі! вот саўсім ачуне
Наш няшчасны аканом.

«Нашто людзей, кажа, зводзіць?
Ён меру нават праходзіць,
Я бяру на свой атвет;
Яка тут к чорту хвароба?
Здаць! — а пасля будзе проба,
Возьмем яго ў лазарэт».

Дохтар кішэню пачухаў,
Маршал табакі панюхаў,
Некрут жаласна запеў;
Сударга на акамона
Напала; пазнаў Гапона —
Дый са страху абамлеў.

## ПЕСНЯ 4

> Ехала Агатка да вянца,
> Сыпала золата з рукаўца;
> Хто гэта золата пабярэць,
> Той мяне на вянец павядзець.
>
> *З вясельнай песні*
> *беларускага люду*

«Начніце варгі нашы хваліць Панну Свенту!
Начніце апавядаць чэсць ей непаенту». —

Гэтак тонкім галасочкам,
У двары раз вечарочкам
Кацярынка прыпявае:
Яна у добрай ахвоце
Хваліць Бога пры рабоце,
А пані ёй памагае.

Цяпер нашу Кацярыну,
Тую сельскую дзяўчыну,
Хто б сустрэнуў — не спазнаў;
Панску гаворку сумела
І сукеначку надзела,
Быццам паненка — маўляў!

А хоць яна пакідала
Яркі каснікі, гарсэт,
Да ў душы не перастала
Уздыхаць да прошлых лет.

Вот часта яна у сняткі
Пабяжыць да сваёй маткі,
Да сэрца яе прыляжа,
Роніць слёзкі дый так кажа:

«Радная ты мая маці!
Пажалей свайго дзіцяці,
Слёзкі яго асушы.
Гдзе ж Гапонка наш дзяецца,
Як беднаму там вядзецца?
Цяжанька ж мне на душы.
Яшчэ б штоб Усціння жыла,
Яна б з намі патужыла,
Утраім было б лягчэй;
А то цёмная магіла

Яе, родную, пакрыла, —
Не змагла тугі сваей».

Вот так, баш, як мы казалі,
Яны з паняй вечарком
Святы песні запявалі,
Аж лякай убег прытном
Дый кажа: «Пані вяльможна!
Заехаў у двор цяпер
Якісь важны ахвіцэр
І пытаецца, чы можна
З яснай паняй павідацца,
З сваёй чэсцю паказацца?»
А пані кажа — прасіць!
Дай чапец свой падцягнула,
На Кацярынку зіркнула,
Чы няма ў чым пахуліць.

Тут у дзвярэй паявіўся,
Сюды, туды пакланіўся
Прыгожанькі ахвіцэр;
Красны, відны і здаровы,
З ясным вокам, чарнабровы,
Золатам блішчыць мундзер.

Як глянула Кацярынка,
Здрогнула, маўляў асінка,
Слёзкі брызнулі з вачэй;
Ручкі на грудзях зляжыла,
Быццам другі раз ажыла:
Гапон найшоўся пры ней.

Ён гэтак, баш, як стаяў,
Угрунь кінуўся у ногі
Яснай пані і начаў
Свае рэчы без трывогі:

«Спазнай, панюхна, Гапона,
Што ласкаю акамона
Цару ён пайшоў служыць:
Ён на вайне заслужыўся
І ахвіцэрства дажыўся,
Цяпер жа мае прасіць,
Штоб ты, пані! — кабы маці,

Маўляў, сваяму дзіцяці
Долю шчасну даравала
І, калі згодна ядына
Наймілейша Кацярына,
Зручыць нас не адмаўляла».

Кацярынка ж, як стаяла,
Тут жа к нагам ёй прыпала,
А так міленька глядзіць,
Што пані і расплылася,
Крэпка з ёю абнялася,
Дый ну ж ім благаславіць.

Хоць Гапон чыноў дажыўся,
Да ведаў, з каго радзіўся,
Не хацеў прынараўляць
Паном, — а простым звычаем,
Ён мужыцкім абычаем
Здумаў вяселле сыграць.

Вот у ўдавы Агрыпіны
Гаспадароў повен двор,
А наперадзе дружыны
Стаіць важна сват Хвядор;
У руках з гарэлкай пляха,
А чарка таўста, як вол,
Міргнуў! — і Малання-сваха
Абрусом накрыла стол.
Ён пляшку з чаркай паставіў,
Разны закускі дабавіў
Дый з галавы шапку зняў;
Агрыпіне пакланіўся,
Водкі да яе напіўся
І такі рэчы начаў:

«Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны!
Для спасення грэшных з Марыі зрадзоны.
Не прыйшлі мы чарадой ад сябе,
Да прыслаў нас Гапон да цябе.
Ёсць у цябе Кацярынка-дочка,
Яна ў маці, як правае вочка;
Дый Гапон наш малады,
Ён цару верна служыў,
Чыноў, почасцей нажыў,

Хват-дзяціна — хоць куды!
Б'ём мы ўсе чалом вашэці!
Зазаві яе із клеці,
Няхай з намі пагуляе
Дый гарэлкі папытае».

Тут дзяўчаты, маладзіцы
Кацярынку із святліцы
Чэсна пад ручкі вядуць
І такі песні пяюць:
«Ото ж табе, Хвёдарка,
Увядзёнка Кацярынка;
Калі яе любіш — дай пірог,
Калі не любіш — то вон за парог!
Не хваліся, што ў нас быў,
Што нашай Кацярынкі не злюбіў».

Хвёдар маладу ўстрачае,
Поўнай чаркай прапівае,
Пірог, сыр кладзе на стол;
Гарэлка у міску льецца,
Рублявік на дне бадзецца;
Разгуляўся сват вясёл.

А дзеўкі водку забралі,
Закускі, пірог і сыр,
У істопку пабяжалі,
Галосячы на ўвесь мір;
Уздаволь там пілі, елі
І гэтакі песні пелі:

«Мовіла бочачка, у піўніцы стоячы:
Калі мяне не вып'еце,
Сама выкачуся,
Па дварэ разальюся
Ракой да крыніцай,
Сцюдзёнай вадзіцай.
Мовіла Кацярынка, у маці седзячы:
Калі мяне не выдасі,
То я сама пайду;
Па дварэ памаленьку пабраду,
За вароты угрунь пабягу».

Тут яны у позну ночку,
Аж да яснага світочку

Пілі, елі дый гулялі,
Запоіны праважалі.

А ў суботу вечарком,
За Грыпініным сталом,
Сядзела така дружына:
На пачэсным на куце
Важна гаворку вядзе
Перша сваха Акуліна.

Дружкі ўправа, возле сваці,
Дзве прыгожы маладзіцы,
То Гапоніны сястрыцы,
Хоць не адной яны маці.

Ўлева наместнік сядзіць,
Жадна на пляшку глядзіць.
Далі сустрэнеш Гапона
Дружкоў, Янку да Мірона,
На канцы ж хросны Даніла,
То маладога вазіла.

А сват Хведар, то і дзела!
Гарэлку ўсцяж падлівае,
Новы закускі стаўляе:
Пірагі, сыр, — што прыспела.

Тут чатыры маладзіцы
Цягнуць дзяжу із святліцы,
На крыжу яе стаўляюць,
Бел каравай рашчыняюць;
Сваха муку ім прыносіць
Дый благаславення просіць:

«Ёсць тут Бог дый матка,
Радзоныя і суседзі блізкія,
І дальнія мужы сустрэчныя,
Бабкі запечныя,
Дзеткі заплечныя,
Благаславіце краснай панне каравай учыніць».

Каравайкі ж пры рабоце
Пяюць у добрай ахвоце:

«Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці
Каравай замясіць
Ручкамі бяленькімі,
Персцянямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі». —
«Ты ступ, Божа, з неба,
Як нам цяпер трэба;
Памагаў рашчыніць,
Памагай замясіць.
Не стой, Божа, за дзвярмі,
Да йдзі, Божа, ў хату,
Да сядзь, Божа, на куце,
Да дай долю маладзе!» —
«Я у хату не пайду,
Я за дзвярмі пастаю,
Маладзе долю перашлю». —
«Збірайся, родзе!
Да к беленькаму караваю,
Старыя бабы ля парадку,
Маладыя маладзіцы песні пець,
Удалыя малайцы каравай печ».

Да штоб усё расказаці:
Які парадак у хаці,
Як змовіны адбылі
Дый каравай адпяклі,
Як хлопцы, дзеўкі скакалі
«Лявоніху», то «Бычка»,
«Мяцеліцу», «Казачка»,
Як маладую саджалі
На пасад, — казка така,
Што не стала б языка.

Вот прыйшла нядзелька красна,
Засвяціла зара ясна,
Гапон наш мундзір надзеў;
Шчыра уздыхнуў да Бога,
Сеў на каня варанога
Дый к маладой паляцеў.

А дружбы, Янка з Міронам,
Віхрам садзяць за Гапонам;

Следам хлопцаў грамада
Ляціць — песні запяваець,
Вецер світкі развяваець,
Ну, прыгожа чарада!

На канцы вазком Даніла
Гудзіць! — сколькі зможа сіла
Канём — музыку вязе;
Ананя ж прыпяваець,
Ёмка смыкам падсякаець,
Не заўважыў, што трасе.

Як заехала дружына,
З хаты выйшла Агрыпіна,
Надзеўшы кажух наўзнак;
Чарку Гапону падносіць,
У святліцу зайці просіць
І рэчы выводзіць так:
«Зяценька!
П'ю на цябе поўным кубкам,
Добрым здароўем,
Што мыслю сабе,
То і табе».

Гапон чарку бярэ ў рукі,
Двойчы выліў за сябе,
А трэці раз для вырукі
Белы рублявік кладзе.
Грыпіна чарку прымае,
У святліцу запрашае.
Дзеўкі ж карагодам ходзяць,
Жалабны песні заводзяць:

«Хто у полі паціхоньку гукаець?
Там Кацярынка свайго таткі шукаець.
Хоць шукаець, не шукаець — не знайдзець.
Ой, далёка яе татачка, далёка,
У сырой зямлі, ў жоўтым пяску глыбока.
Да зрабілі добры людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без аконачка, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца».

Тут настала частаванне
Дый падаркаў раздаванне, —

Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручнікам звязалі,
Баклагу у рукі ткалі,
Штоб гарэлкі больш дастаў.

Лубку з жытам падстаўляюць,
Маладу на ёй саджаюць,
Як каралеўну на ўрад;
Яна жа усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць
Дый зноў сядзе на пасад.
Дзеўкі, хлопцы п'юць, гуляюць,
Пад скрыпачку падпяваюць:

«Скочыла Кацярына з лаўкі далоўкі,
Скланілася мамачцы нізка ў ножкі,
Коркамі зямлю парыла,
Слёзкамі ножкі памыла;
Карыся, Кацярынка, старому,
Кланяйся і маладому,
З паклонаў галоўка не баліць,
Стары і малы благаславіць».

Як баш нявесту прыбралі,
Да двара так паскакалі
Яснай пані чалом біць,
На вяселле папрасіць.
А пані — не пані, маці!
Маўляў, роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасну слёзку ўраніла,
Маладым благаславіла,
Сама к вянцу павяла.

Ксёндз маладых спатыкае,
На ўсё жыццё іх злучае;
А як скончыўся абрад,
Скрыпіцелі загудзелі,
Дружкі весела запелі,
Дый вярнуліся назад.

Паню на кут запрасілі,
Пры ней ксяндза пасадзілі,
Сват парадкам начаў чэсць;

Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам найшліся,
Уздаволь было піць, есць.

Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы
Цэлу ночку па святліцы
Бадзяліся, хто як змог.
Як у гаршку, там кіпела,
Ад пылу аж пацямнела,
Суматоха — што крый Бог!

Я на том вяселлі быў,
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здаволь было,
Аж па барадзе цякло.

*Канец аповесці*

# Купала

*Народная аповесць*

*Яснавяльможнаму Аляксандру Лапе, маршалку Бабруйскага павета, у гонар высокай павагі прысвячае*

Аўтар

Яснавяльможны пан!

Кожнае божае стварэнне прывязваецца да роднага кута, у якім, выходзячы з мацярынскага лона, выдала першыя гукі, у якім, падтрыманае чулымі, клапатлівымі рукамі бацькоў, ставіла першыя крокі. Таму я, выхаванец Бабруйскага павета, ужо ў пазнейшыя часы, неаднаразова наведваючы зямлю бацькоў, з цікавасцю прыглядаўся да быту сялян, якія насялялі бабруйскія нівы.

У тых вандроўках, праязджаючы праз вашы маёнткі, вока маё не раз з асалодай спачывала на дагледжаных гаспадарчых пабудовах руплівага народа. Радасцю поўнілася сэрца, калі ўбачыў там усялякі дастатак, які сведчыў пра заможнасць жыхароў. У той час усхвалявана ўскрыкнуў: «Бог жыве з тымі людзьмі! Не панская тут, але бацькоўская кіруе рука!»

Каму ж тады, уласна, магу прысвяціць гэтую працу, як не апекуну слабых, як не бацьку сялян? І палічу за гонар, калі яго шаноўнае прозвішча ўпрыгожыць гэтую працу.

Няхай што хочуць гаворыць, але ж гэта я першы паэзію нашага сялянскага люду апрануў у шаты народнай эстэтыкі, увёў на сцэну жыцця і пакінуў у шэрагу твораў айчыннага пісьменства, чым і ганаруся. Таму ласкавая крытыка «Ідыліі», «Гапона» і «Вечарніц», зробленая панамі П. М. у «Gazecie Codziennej», а Уладзіславам Сыракомлем, нашым вялікім паэтам, у «Gazecie Warszawskiej» змешчаная, адгадала мэту, да якой

сваімі творамі я адважыўся імкнуцца. Бо ці ж не слушна думаю, што праз іх наш селянін, будучы заахвочаны да навукі чытання, паволі разаўе свой розум, ахоплены дагэтуль цемрай, а змякчаючы звычаі, пазбудзецца ўкаранелых дрэнных заган і заахвоціцца да выканання цяжкога прызначэння ў сваім жыцці. Ці ж малая гэта будзе для мяне ўзнагарода? — Аднак яна павялічыцца ўдвая, калі твор гэты будзе вамі ласкава прыняты.

*Маю гонар пісацца Яснавяльможнага пана*
*найніжэйшым слугой В. М.*

## I

Вось на небе сонца за гару заходзіць
І ціхую ночку свету прадвяшчае,
А месячка бледны з-за туч выглядае,
Салавейка ў лесе песенькі разводзіць.

Гаспадары з поля бадзяцца[1] дахаты,
Гоняць прад сабою волікі рагаты,
Пастухі скацінку у сяло зганяюць,
Дзеўкі ей вянкамі рогі прыбіраюць[2].

У Лошыцкім сяле[3] гоман, крык, ахвота;
Як у вуллі пчолы, гудзяць божы людзе,
Аслі не кірмаш там заўтрашнім днём будзе?
Чы яка нахальна прыспела работа?[4]
Мо'а там вяселле? — чы вяліка свята?
А мо'а нядзелька настане багата?[5]
Не кірмаш то, браткі! — работа дасужна,
Не чутно вяселля — нядзелька далёка.
Вось там за карчмою сабралася дружна
Малада грамадка — дзераўца глыбока
Пасярод далінкі у зямлю ўкапала[6],
Цэлы стог сухога галля[7] нанасіла,
Атопкамі[8] яго кругом аблажыла,
Штобы паўстрэчаці ахвотай Купала!

Заўтра Іван святы![9] — так дабродзей кажа;
Пакуль на палаці мужычок прыляжа,
Штобы па рабоце крыху адпачыць:
Вось сьвяціць Купала бацькі нас вучылі,
Ужо на даліне агні разлажылі,
Трэба ж там з грамáдай, што Бог даў, спажыць.

«Пячы ж, гаспадынька, бардзей парасятка!
Прынясі ж із клеці піражок, дзіцятка!
Не забудзь, дачушка, ляндарцы аддаць
Шастак[10], дый гарэлкі налі поўну пляху,
Назад па дарозе забяжы па сваху;
Трэба, баш, з другімі Купалу страчаць».

Так старэнькі Апанас
Казаў да сваёй грамадкі.
А Куліна ў ладны час
Спякла парасё, аладкі
Са скаварады[11] ляцеці
Мігам сталі, а з клеці
Янка — малады дзяцюк,
Апанасаў то унук,
Піражок стралой прымчаў
Дый памагаць бабе стаў.

Маладзенькая ж Агатка,
Як малінка — красна, гладка!
Волас шчоткай прычасала,
Яркі каснік навязала,
Зялёны гарсэт уздзела
Дый у карчму паляцела.

На дарозе — за гарой,
Утаміўшыся, нябога
Прыстала, — белай рукой
Цісне грудзь: якась трывога
На душы ёй налягае,
Сінім вочкам ўкруг страляе.

Вось у арэшніку — што там недалёка
Густа парастае — ліст зашаматаўся;
Уздыхнула бедна дзяўчына глыбока,
Аж прыгожы дзяцюк адтуль паказаўся.

Зялёна сярмяжка, панскага манеру,
Углем аксаміты свецяць на каўнеру,
Сівенькі баранак шапку абнімае,
Хустачка на шыі краскамі мігае.

Зіркнуў сюды-туды дзяцюк сінім вокам,
Дый поўзкам, дый моўчкам ён лісім падскокам

Сунуў да Агаткі — дзеўка пакраснела,
Варам аблілася, сэрца абамлела.

«Сызенька галубка! мілая Агатка!
Ты мая радная, мая ненаглядка!
Доўга ж ты казала на сябе чакаці,
Чы бацька старожыў[12], áслі злая маці?» —

«Ах, добры мой бацька! каханая матка!
Яны не пільнуюць сваяго дзіцятка;
Бог мая старожа дый добрыя людзе,
Часта яны кажуць, што на страшным судзе
Дзяўчат нерастропных Бог вельмі карае,
Так і ксёндз-дабродзей людзей навучае». —

«Што табе, зязюлька[13], сягоння прыспела?
Чаму ж тваё сэрца так ахаладзела? —
Спрыкрылася ж табе мая міласць шчэра?
Чы адмовіў цябе Саўка? — хам! — псявера!» —

«Грэшна, панічыку, здзекавацца з Саўкі!
Ён, бедны, таскуе — выцер печкі, лаўкі,
Лазячы за мною, — на ўвесь свет галосіць,
Штоб к вянцу[14] з ім стала, на каленях просіць.
Калі б панічыка я не палюбіла,
З ім была б шчаслівa — з гора б не тужыла;
Трэба ж! — злой гадзінай паніч навязаўся,
У беднае сэрца невесь як закраўся. —
Забыла я Саўку — дый забыла Бога!
На душу, баш камень, налягла трывога:
Паніч мяне зглуміш — бацькі клясці стануць,
Ад сораму[15] нельга на свет будзе глянуць». —

«Я цябе зглуміў бы — любіць перастаў!
Табе, маладзенькай, долю завязаў?
Не — гэтак не будзе — Бог маёй парукай!
Ён бы мяне вечнай ў жыцці скараў мукай!
Ведаеш, зязюлька, як трэба зрабіць,
Штоб нас злыя людзі не смелі судзіць?
Ідзі ты за Саўку — станеш маладзіца!
Тагды злыя брэхні — пуста небыліца!
Мы, як цяпер любім друг друга, любіці
Будзем век ад сэрца, шчасна з сабой жыці!»

Як пачула дзеўка гэтакі навукі,
Вось, маўляў асінка, уся затраслася,
Уздыхнула цяжка, заламала рукі,
Горкімі слязамі тут жа залілася,
Пасля смутным вокам на дзецюка гляне
Дый гэтакі рэчы казаць яму стане:

«Да таго ж няшчаснай мне ужо прыйшлося,
Што такія брэдні слухаць давялося!
Бог мяне карае, што ветрана стала,
Пачцівага сэрца чурацца[16] начала;
Паніч толькі зводзіш, хочаш забаўляцца;
А не ласка ж будзе са мной абвянчацца?» —

«Што табе, Агатка, сягоння прыспела!
Чы ты упілася, чы ты адурэла?
Штоб шляхціц з мужыцкай дочкай ажаніўся!
Я ж бы меж сваімі тагды не ужыўся!
Пальцамі бы мяне усе вытыкалі,
Як ад злой сабакі, чурацца бы сталі!» —

«А мяне ж не будуць свае выракацца,
Бацькі праклінаці, саседы чурацца,
Што з панічом стану у сораме жыці?
Вам не грэх мужычку на чэсці забіці,
Бо мужык нягодны — не боская справа?
Усяк здзекавацца над ім мае права!
Яго, баш, не маці, як вас, парадзіла!
Як шляхціца, яго не рыме магіла! —
Дзякуй жа, панічку, за тваё каханне,
Мілейшы ж мне Саўка у мужыцкім стане;
Ён не схоча беднай дзяўчаці глуміць,
Ён пачцівым сэрцам век будзе любіць!»

Так наша Агатка міламу адкажа;
А хоць слёзка градам на твар пакацілась,
У полымі сэрца молатам забілась.
Хоць на душы гора каменем наляжа,
Разумная дзеўка, помня боязнь Бога,
Маўляў ад гадзюкі, ад свайго мілога
Пугліваю ланяй яна уцякае;
Дарма злосны пісар вернасць прысягае,
Яна ўжо далёка, — грудзь цісне рукою,
Сэрца аблілося крывавай таскою.

## II

На даліне, за карчмою,
Збіраюцца грамадою
Людзі з цэлага сяла;
Гаспадары, маладзіцы,
Хлопцы, красныя дзявіцы, —
Уся дружынка весяла!

Касцёр[17] галля налажылі,
Атопкамі падпалілі,
Ярка полымя блішчыць;
Нясподаль дрэўца зялёна,
На мураўца пасажона,
Ў карагод дзевак маніць.

Гаспадарны маладзіцы
Прынёслі стол із святліцы,
Меж дзераўцам і агнём
Паставілі дый абмылі,
Абрусом белым накрылі
Ядой занялі кругом.

Хімка кладзе хвунцік сала,
Наста каўбасу прымчала,
А Куліна свой запас
З другімі ахвотна ставіць,
Пляху[18] гарэлкі дабавіць —
Знай, што багат Апанас!

Убога Домна ў прыполі[19]
Бохан хлеба, кромку солі,
Што зможа — дае на чэсць
Векапомнае Купалы;
Усякі там — стары, малы
Рад бы локацей нанесць.
Вось усё ужо гатова!
Якая ж прыгода нова
Мяшае спажыць яду?
Каго ж там яны чакаюць?
Каго песняй наклікаюць?
Песняй у такім ладу:

«Сонца грэець[20],
Калода прэець;

Сонца пячэць,
Калода цячэць».

Далей дзяўчат круг нямалы,
Возля дзераўца Купалы,
Ладам вядуць карагод;
Вось рукамі папляліся,
Шчыра скакаць узяліся,
Ракой із іх льецца пот.

Там друга дзяўчат грамадка,
Меж імі наша Агатка,
Хоць на шчочках туман сеў;
З Саўкаю яна жартуе,
Кулаком не раз частуе[21],
Аж хлапец павесялеў.

А саседкі Акуліны,
Угледзя жарты дзяўчыны,
Ну ж бацькам ёй віншаваць!
Сакатухі[22] ж маладзенькі
Дружна, ў голас весяленькі,
Началі так прыпяваць:

«Сягодня у нас Купала! — то-то-то!
Сам Бог агонь раскладаў, — то-то-то!
Усіх святых к сабе зваў, — то-то-то!
Толькі нету Іллі з Пятром; — то-то-то!
Пайшоў Ілля каля жыта, — то-то-то!
Чыё жыта харошае? — то-то-то!
Апанаса найлепшае, — то-то-то!
Панас будзе піва варыць, — то-то-то!
Гарэлку гнаць, — то-то-то!
Дочку замуж аддаваць... — то-то-то!»

Якая ж там невяліка
Новая брадзе грамадка?
Гэта Халімон Накліка,
Пры нём сваякоў чалядка;
Вядуць старога пад ручкі
Два маладзенькі праўнучкі,
За ім сыны пажылыя,
Далей ўнучата малыя.

Ледзь суне ногі старэнькі
Дзядок, як голуб, сівенькі;
Барада па пояс бела,
Твар ад веку пасінела,
Уся за́мерла ў ім кроў;
Сотню прамахаў гадкоў!

Як угледзелі старога,
У даліне, баш, трывога!
Чэсць ударылі чалом;
Гурмам[23] дзеда спатыкаюць
Дый пад касцёр праважаюць,
Пасадзілі за сталом.

Дзядок укруг пакланіўся,
Важна сам перахрысціўся,
Божы дар перахрысціў
Дый із глінянай тарэлкі
Прыняў кілішак гарэлкі,
Да саседа перапіў.

Тут началася ахвота!
Вось ядзе пайшла работа!
Мігам чарка ўкруг ляціць!
Глядзь на стол — як не бывала!
І пляха парожна стала,
Нечым здароўя прапіць!

Дзеўкі на́скара пад'елі,
Пад касцёр угрунь ляцелі,
Цераз полымя скакаць[24];
Не адна на белым лічку
Хваціла сіньца — спаднічку
Ледзь ад полымя уняць.

Там зноў дзяўчаты з хлапцамі
Памяшаліся рукамі,
Вось дружынка весяла!
Укруг ёлку аступіла,
Карагодам заманіла,
І песенька загула:

«Цераз горачку тры сцежачкі, — Божа наш!
Ішлі туда тры дзевачкі, — Божа наш!

Адна ішла у золаце, — Божа наш!
Другая у аксаміце, — Божа наш!
Трэцяя у розуме, — Божа наш!
Што у золаце, то Максімава, — Божа наш!
Што ў аксаміце, то Васількава, — Божа наш!
Што у розуме, то Яначкава. — Божа наш!
Я золата хоць прыпазычу, — Божа наш!
А коніка хоць прыкуплю, — Божа наш!
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць![25] — Божа наш!»

Як жа суздром утаміліcь[26],
Дзеду ў пояс пакланілісь,
Штоб, баш, язык развязаў;
Без усялякай уразы,
Аб Купале ён расказы
Ёмкім голасам начаў.

Стары бораду пагладзіць,
Ўнучат пры сабе пасадзіць,
Дый уголас кашляне;
Усе круг дзеда абселі,
Вось, сказаў бы, анямелі,
Ён жа свой расказ іме[27].

## III

«Вучыў мяне бацька — шчасце чы трывога,
Усякае дзела начынаць ад Бога!
І мы, дзеткі, пярвей малітву уладзім,
Пасля да старынных расказаў засядзім».

Так дзядок наш кажа, на ўнучат апёрся,
На сырой зямельцы крыжам распасцёрся,
Памаліўся шчыра, із зямлі устаў,
Сеў на сваё места дый гэтак начаў:

«Даўно! — дзесяць сотак будзе таму лет,
Баш, не быў так хіцер яшчэ белы свет,
Аб Хрыстовай веры людзі не чувалі,
Бог невесь якіх там святых па̀міналі. —
У вялікім царстве, гдзе Літоўска ніва,
Вольгердавы сыны княжылі шчасліва.

Вось у Рудабелцы[28] вяліка грамада
Збеглася ў бажніцу паганскага Лада[29]
Дзень яго свяціці, яму памаліцца,
На ўсё дабро ладу ад яго дабіцца.
Штоб ладзіў у клеці, аборы, у полі,
Штоб жаніхам ладзіў шчаслівыя долі,
У пшчольнай ахвоце, у звярынай лоўлі,
У канях, скацінцы дамашняй гадоўлі.

Агні богу Ладзе ярка запалілі,
На ахвяры яму ўсяго назнасілі,
Закурылі ладан[30], ажно пацямнела;
Моліцца грамадка, як каму прыспела,
Направа мужчыны, налева кабеты,
Шлюць паганску богу святыя абеты.

Якія ж тры дзевы? — не дзевы — цуд божы!
Як вішанькі красны, як кветкі прыгожы,
Узяўшысь за ручкі, у касцёл уходзяць,
Маладыя хлопцы вачэй з іх не зводзяць.
Адна у золаце — гэта Максімава[31],
Друга ў аксаміце — гэта Васількава,
На трэцяй спаднічка ад снегу бялейша,
Прыгожанькім лічкам ад усіх краснейша!
Хоць убога, зато розумам багата!
Вось малады Янка слаў да яе свата.

Тая, што ў золаце, — то панская дочка,
Жаніха прыдбала князева сыночка;
Та, што ў аксаміце, хоць не так заможна,
Да ўсё-ткі найшла паніча вяльможна;
Трэця, Кацярына, дочка гаспада́ра,
Дарма што мужычка — згодна і для ца́ра!

Усе пабраліся днём шчаслівым Лады,
Справілі вяселле для цэлай грамады
Дый і разышліся — сталі гаспадарыць.
Вось княжава жонка такога наварыць
Не раз мужу піва, так надакучае,
Што ён сваю долю часта праклінае.
А панская ж жонка? — і та не святая!
Як мужык із хаты — яна запрашае
Дзецюкоў у хорам[32] — галубіць, частуе
І мужаву працу наліха марнуе.

Трэця, Яначкава, што была убога,
Працавала шчыра, у боязні Бога;
Пакорная, ціха, для мужыка верна,
Без думы, без жоўці, а так міласэрна!
Што — як Бог дарыў іх у гумне ізбыткам,
У клеці запасам, аборы дабыткам, —
Усякі кусочак з беднымі дзяліла;
Не адна там маці ёй благаславіла,
Што, знаючы зелле, да убогіх хатак
Бегала ахвотна — лячыла дзіцятак;
А гдзе чараўніца скацінку зглуміла
Чы раллю закляла, малако даіла,
Яна — вось знахарка — усё адмаўляла,
Кругом сябе шчасце людзям раскідала;
Так што ўсе святою яе празывалі,
Да самай зямелькі паклон аддавалі.

У чыстаце, дзеткі, вельмі мілавалась,
Досвета у ручы заўсёды купалась,
Кожан дзень сарочку[33] белу надзявала.
Вось адкуль прыйшлася святая Купала!
Бо, як яна змерла, усе гаравалі,
Дзень смерці Купалы святой паміналі.

Слухайце старога — яго голас з неба!
Гнацца за ізбыткам, дзетачкі, не трэба!
Хваліць толькі Бога, шчыра працаваці,
Любіць добрых паноў, маўляў родных браці,
Вось вашае дзела! — А дзяўчаты гладкі,
Ушануйце сівы волас бацькі, маткі,
Жывіце у чэсці, а Бог міласэрны
Дасць вам шчасну долю і дабытак верны!»

Ледзь кончыў дзед сівы, аж соненька красна
Ярка заіграла, на зямлі так ясна[34]
Людзям засвяціла, што кожан, вясёлы,
З салодкай думою паброў да стадолы,
Падпратаў скацінку — дый выгнаў на ніву;
Другі шоў у поле агледзець шчасліву
Зборшчыну на шнуры[35], што ужо даспела.
Ў чэсць святога Івана песня загудзела!

Якая ж там пáра пры ёлцы прыстала? —
То наша Агатка Саўцы прысягала,

Што к вянцу з ім пойдзе, што вернаю будзе,
Што пісара злога навек пазабудзе.
Бог чуў ту прысягу разумнай дзяўчаці,
Благаславіў з неба, вось радная маці!!!

*Мінск, 10 верасня 1855 года*

## ТЛУМАЧЭННІ
## ДА АПОВЕСЦІ «КУПАЛА»

[1] Бадзяцца — валакуцца, змучаныя ідуць няўпэўненым крокам.

[2] У некаторых месцах, дзе святкуюць старадаўні абрад Купалы (Купалле), у гэты дзень прыбіраюць рогі жывёле, што вяртаецца з поля, вянкамі, якія пазней, пасвяціўшы, выкарыстоўваюць для абкурвання гэтай жывёлы, каб адагнаць ад яе хваробы і ўрокі.

[3] Лошыца — маёнтак пана Яўстафія Прушынскага, у 7 вярстах ад Мінска.

[4] Нахальная работа — пільная, тэрміновая праца.

[5] Нядзелька багата — маладзіковая нядзеля.

[6] На Купалле ў некаторых ваколіцах, акрамя раскладання вогнішча, укопваюць у зямлю дрэўца, вакол якога моладзь танцуе карагодам.

[7] Галлё — тонкія галінкі дрэў.

[8] Атопкі — стаптаны абутак з ліпавай кары закідваюць на стрэхі, каб добра высах, пасля выкарыстоўваюць як падпал для развядзення купальскага вогнішча.

[9] Купала прыпадае напярэдадні св. Яна. Больш падрабязна можна даведацца пра гэты абрад са статыстычна-геаграфічнага апісання Барысаўскага павета, зробленага графам Яўстафіем Тышкевічам.

[10] Шастак — дзесяць грошай.

[11] Скаварада — патэльня.

[12] Старожыў — пільнаваў, сцярог.

[13] Зязюлька — кукулка, кукаўка.

[14] К вянцу — да шлюбу, на дыван.

[15] Сорам — устыд.

[16] Чурацца — стараніцца, унікаць сустрэчы.

[17] Касцёр — куча галля.

[18] Пляха — бутыль.

[19] Прыпол — закручаныя ўгору канцы фартуха.

[20] Гэтую песню спяваюць, чакаючы нязграбных у скоках.

[21] Частаванне кулакамі — знак сімпатыі да вясковых каханак; чым часцей і мацней удары, тым гарачэй каханне.

[22] Сакатухі — крыкухі; неспакойныя.

[23] Гурмам — грамадой, усе разам.

[24] Скачуць праз вогнішча, каб захаваць ад урокаў хатнюю жывёлу.

[25] Ані ўцяць, ані ўзяць — тут азначае: ані прыкупіць, ані запазычыць.

[26] Суздром утаміліс — стаміліся дашчэнту.

[27] Свой расказ іме — пачынае апавядаць.

[28] Рудабелка — маёнтак пана Аляксандра Лапы ў Бабруйскім павеце.

[29] Бажок, ці багіня Лада, — гэта літоўская Царэра, якая апекавалася зямнымі дарамі і ўсім дабрабытам. Урачыстасць яе адзначалася ў адзін дзень з Купаллем, адкуль можна зрабіць вывад, што гэта павінна быць адно і тое ж самае бажаство.

[30] Ладан — кадзіла са смалой, якое і сёння ўжываецца ў касцёлах.

[31] Гэта апавяданне старога стасуецца да купальскай песні, якая прыведзена вышэй.

[32] Хорам — палац.

[33] Сарочка — кашуля.

[34] Паводле падання, у дзень св. Яна, калі ўзыходзіць сонца, яно іграе сваімі промнямі; незвычайная ў той дзень яснасць яго пры ўсходзе ў пэўнай ступені пацвярджаецца паданнем.

[35] Шнур — паласа зямлі, выдзеленая селяніну, дзе ён засявае збожжа.

# *Благаславёная сям'я*

*Апавяданне вершам у 3-х карцінах*

## Уступ

О, магіла бацькоў! — любых продкаў сядзіба!
Я вітаю цябе, мая родная скіба!
Я душою твае бачу ціхія нівы
І прыгадваю час — час мінулы, шчаслівы!
Маладыя гады ў думках я ўспамінаю,
Бо ўздыхаць на ўвесь свет не люблю, не жадаю,
Што мне пекны Парыж, Рым прыгожы і слынны,
Што швейцарскія горы, старыя Афіны.
Што мне Вена, Мадрыд, што мне Лондан туманны,
Больш за ўсё я бацькоўскаму краю аддаша!
Тут прывольна і ўтульна на ўлонні прыроды!
Тут і птушкі спяваюць прыгожа заўсёды!
Тут і сонца на свет весялей пазлядае!
І любоў гарачэй тут у сэрцах палае!
Тут, як пройдзе зіма, час к нам вернецца весні,
Заспявае жаўрук свае звонкія песні,
Ветрык з поля раптоўна лагодна павее,
Малады скача з радасці, дзед маладзее!
Тут нявеста, што болей не знойдзеш вярнейшай!
Тут дзяўчына, што ў свеце няма прыгажэйшай.
Тут ёсць праўда і шчырасць, тут людзі з душою!
Тут бацькоў маіх прах пад сырою зямлёю!

## КАРЦІНА І

### Благаславёная сям'я

Узвышаўся над Свіслаччу, ціхай ракою,
Панскі домік калісь, повен шчасця й спакою,
І жыла ў ім сям'я — прыклад для сем'яніна:

Бацьку сын шанаваў, паважаў бацька сына.
Параямі іх звалі, тых шляхціцаў нашых.
Дэпутатам у Мінску сынок, а падчашым
Велічалі старога Марціна з павагай,
Быў рубакай калісь, вылучаўся адвагай.

Калі прагнеш, чытач, жывым ўзняцца на неба,
Шумны горад пакінь і спяшайся да вёскі.
Знойдзеш ты там спакой, знойдзеш клопат сяброўскі
І праўдзівасць. Што больш для душы нашай трэба?
Завітай да сям'і, дзе падчашы главою,
У той дом, што над Свіслаччу, ціхай ракою.
Там цябе дэпутат прывітае гасцінна,
Там пацісне руку шчыра дзед табе сівы,
Скажа: «Пане, дзень гэты занадта шчаслівы!..
Госць у дом — Бог у дом! — Хай жа гэта хвіліна
Ды працягнецца шчасная. Прыказка ж ходзіць:
Як да шляхціца зойдзеш, Бог узнагародзіць!»

У тым доме сяброў гасцявала нямала.
Пан Марцін ім расказваў увечар, бывала,
Аб часах старапольскіх, аб сціпласці, цноце,
Як хадзілі ў паходы па добрай ахвоце,
Як багата жылі пад уладаю Саса,
І прыслоўе адтуль: «Адпусці, браце, паса!»
Як траплялся калісь такія магнаты,
Што і грошы давалі людзям небагатым,
Памагалі з ахвотай шляхецкаму брацтву,
Памагалі навукам, памагалі мастацтву;
Як пакора прад Богам з дзяўчат паслухмяных
Добрых жонак рабіла, пачцівых, адданых,
Як з адвагаю моладзь на бітву спяшала,
Як прад мужнай рукой цьма паганцаў дрыжала!

Як пачне гаварыць ён аб продках з запалам,
Як пачне іх хваліць наш старэча, бывала,
Вус пагладзіць, і ўчуеш тады ад Марціна:
«Хай дыхнуць халады, каб застыла слязіна
Уваччу. Божа мілы, — паціху ён скажа, —
Вось каб гэтак жыццё засвяцілася наша!»

Сын — пан Ка́раль — быў бацькам сваім гадаваны
І як шляхціц прыстойна быў адукаваны.
Ён у школе старанна закончыў вучэнне,

Як для новага трэба было пакалення.
У цнатлівасці ён выхаваны быў строга,
Бацьку ён шанаваў, шанаваў ён і Бога.

А як скончыў навуку, дык бацька руплівы
Не пакінуў без рады і далей хлапчыну,
І прыстойную ўзяў сын за жонку дзяўчыну.
Гэтак стаў самастойным пан Караль шчаслівы.
А падчашы малых унучат калыхае
І крыху маладзейшым сябе адчувае!
Хутка дзеці растуць у сям'і дэпутата.
З клапатліваю маці ўжо раіцца тата:
Аб далейшым мяркуюць яны выхаванні.
І гаворыць падчашы да сына: «Мой пане!
Не губі ты малых, не бяры гувернёра,
Ні француза, ні немца, бо будзе нам гора»
А нявестцы гаворыць: «Не трэба мамзелі
Што, як раннем прачнецца на мяккай пасцелі,
Дык падумаць забудзецца нават пра Бога.
І не верыць яна ў Пана Бога, нябога.
Будзе пудрыць вяснушкі, какецтвам займацца,
Будзе ў думках любоўнікаў згадваць, крыўляцца,
Лепей ведаць няшмат ды быць заўжды пачцівым;
Сціпласць — грунт, пане мой, з ёю будзеш шчаслівым!»

Слухаў Караль з павагай парады старога
І дачку навучаў дабрадзейнасці строга.
Хоць і мовы замежныя дзеўчына знала,
Але родную мову сваю шанавала.
Ён к сынам Уладзіслава прыставіў займацца.
Рэдкі быў чалавек ён, уласнаю працай
Да навукі прабіўся старанна, рупліва.
Родам з шляхты збяднелай, ад бацькоў сам убогіх,
У бітвах з лёсам сабе пракладаў ён дарогі,
І праклаў іх нарэшце, вось божае дзіва!

Васемнаццаты год пайшоў нашай Алісе,
Як у ціхай сям'і Уладзіслаў паявіўся.
Досыць хлопцу было пазнаёміцца з ёю,
З дабрадзейнай дзяўчынаю, сціплай, нясмелай,
І каханнем душа яго запалымнела.
О! Аліса, як ружа, зіхцела красою.
Твар дзяўчыны быў ветлы, румяны, адкрыты.
Вочы — сілы чароўнай, — як неба блакіты.
Вусны — проста каралі, смех гэткі вясёлы,

Што, пачуўшы, ўсміхаліся з неба анёлы.
Ззяюць ямачкі з твару прывабнай дзяўчыны,
Вабяць бога кахання застацца тут стала.
Постаць гнуткая, ручкі, як пух лебядзіны.
Ну, а ножкі — ў паненак такіх не бывала.
Прабяжыць па пяску, след такі застаецца,
Бы малое дзіця тут прабегла, здаецца.
Толькі болей за ўсё паланіла хлапчыну
Шчырасць сэрца Алісы, шляхетная цнота,
Дабрыня, што зрабіла анёлам дзяўчыну,
І да бліжніх ісці з дапамогай ахвота.

І ў дзяўчыніным сэрцы яна панавала,
І не раз яна гэта на справе сцвярджала.
Аддаваў дэпутат лішні грош на хаванне
Бацьку. К чорнаму дню той бярог са стараннем.
Жартаўніца мая мела звычай харошы
Бедаку памагчы, даць і хвораму грошы.
Сэрца ёй прадыктуе, дык мчыцца да дзеда,
Пазірае так чула тады непаседа.

Перад дзедам укленчыць, наіўна ўсміхнецца,
Срэбным голасам просіць старога ад сэрца.
І стары, хоць ускрыкне сярдзіта: «Мой пане!» —
Але ж пару дукатаў з мяшэчка дастане.
І дзяўчына ў аддзяку за помач убогім
Дзеду з радасцю рукі цалуе і ногі.
У старога з вачэй слёз пальецца багата,
І, глядзіш, ён яшчэ ёй дабавіць дукатаў.
І з пашанаю тут прыгадае ён Бога,
І з удзячнасцю грудзі ўздыхнуць у старога.

Кніжку ўзяўшы пад паху, праз лес ці балота
К хворым пойдзе Аліса, туды, дзе калекі.
Тут усмешка паможа, там добрыя лекі.
У малітвах яе ўспамінаюць з ахвотай.
Ёй — збавіцелька — кажуць вяскоўцы за тое
І завуць пры жыцці дабрадзейкай святою.

Як яна ўпершыню Уладзіслава спаткала,
Дык адчула, як сэрца па-іншаму б'ецца,
Пачуццём незнаёмым ахоплена сэрца.
Яна першым каханнем тады пакахала.

На самоце ўзрастала Аліса нясмелай,
Вельмі сціплай была і не раз чырванела,

Як настаўніка раптам свайго сустракала.
Адгадаў гэта хлопец, і матка пазнала
І сямейную раду з трывогай склікае,
Бо апаску яна ў сваім сэрцы хавае.

## КАРЦІНА II

### Сямейная рада

«Слухай, Каралю, год непрыкметна мінае, —
Пачала гаварыць неспакойная маці, —
Як у нас Уладзіслаў за настаўніка ў хаце.
Час ляціць, калі ў працы нам Бог памагае.
Мусіць, год ужо дваццаць пад сельскай страхою
Творца благаслаўлёны нам свеціць зычліва.
Вось таму і жывем мы у згодзе шчасліва.
Дзеці выраслі, нават уцеху парою
Нашым сэрцам Аліса дае дарагая,
Што ў набожнай пакоры і цноце ўзрастае,
Добрай справе заўжды з усёй шчырасцю рада.
Ды хіба нам пашкодзіць бацькоўская рада?

Што чакае дачку — думку ў сэрцы я пешчу,
Лёс яе неспакой у душы будзіць вешчай.
Васемнаццаць гадоў неўзабаве мінецца —
Век лятункаў, калі б'ецца горача сэрца
У грудзях маладых. Добра гэта я знаю,
Помню добра я дальняе веснае ранне.
І цяпер кроў кіпіць, калі наша каханне
І сваю маладосць часам я ўспамінаю!

Век спакусы — стакроць небяспечны
Для дзяўчыны, што ў вёсцы расла на самоце,
Гадавалася змалку ў пакоры і цноце
З сэрцам экзальтаваным. Лятунак сардэчны
Раскалыша адразу дзявочыя думкі.
Вобраз ёй ідэальны накрэсляць лятункі.
І калі дасканаласцю поўнай
Вобраз гэты ёй будзе здавацца,
Помні, Каралю, можа яна закахацца
І ў вір кінуцца страсці бунтоўнай.
Ёй нявіннае сэрца ахопіць тугою,
І не будзе ў сям'і нашай болей спакою.

Так нядбайнасцю мы загубіць не павінны
Будучынь нашае любай дзяціны.

Ўладзіслаў, хоць ён хлопец разважны, пачцівы,
І вучоны, і шчыры, і ў працы руплівы,
Хіба здолее шчасце дачкі нашай роднай,
Маёй любай, маёй першароднай,
Са сваім спалучыць прызначэннем?
Ці ён зможа мазольным над кніжкай сядзеннем
Быт сям'і забяспечыць уласнай?
Ці з ім будзе дачка наша шчаснай?

Для яе небяспечным ён стаўся суседам.
Без развагі за ім яна кінецца следам,
Бо як толькі ў дзяўчыны засвецяцца вочы
Пачуццём, ёй дагэтуль ніколі нязнаным,
Ды даверыць яна яму лёс свой дзявочы,
Яе сэрца ўсяўладным ён зробіцца панам,

Як не думаць аб гэтым мне, маці зычлівай,
І вось гэткія думкі часта сэрца турбуюць.
Знаю добра, што дзеці па ім пашкадуюць,
Бо да працы ён ставіцца вельмі руплівa.
Гэткі клопат ён мае пра іх выхаванне,
Гэтак добра тлумачыць навукі цяжкія
І дае ім глыбокія веды такія,
Што найбольшай хвалы заслужыў за старанне,
Ды дачку я шкадую і мушу прызнацца, —
Хоць і з жалем, але з ім павінны расстацца». —

«Што пляцеш ты нам, пані! — дзед крыкнуў сурова. —
Нэпатрэбнае чую я, прыкрае слова.
Выдумляеш сама небяспечныя штукі,
І дзяцей без настаўніка хочаш такога
Ты харошага зараз пакінуць, нябога.
Растлумачыў ён дзецям асновы навукі;
Майстар гэткі выдатны ў настаўніцкай справе,
Што дасць праца яго плён буйны неўзабаве.
Жах, мой пане, я з тым не згаджуся ніколі
Дзе знайсці між людзей маладых, у іх коле,
Хлопца з гэтакім сэрцам, з такім выхаваннем,
Каб сябе прысвяціў з палымяным жаданнем
Для дабра выхаванцаў? Пытаю я, сыне!
Ён між іншых, я тут не магу памыліцца,
Як між кукалю чыстае зерне пшаніцы.

Не дазволю, ён нашай сям'і не пакіне!
Праўда, можа настаўнік, бо кроў не вадзіца,
Сціплай, шчырай Алісай ураз захапіцца.
Вочы ўразяць хлапчыну, такія, як неба,
Дый тады не тужыць, а смяяцца нам трэба.
Бо як толькі яму сэрца нашай Аліны
Дасць спрыяльны адказ, дык мой хлопец цнатлівы
Шчасцем жонкі каханай сам будзе шчаслівы.
Ці не скарб гэткі муж для чуллівай дзяўчыны?
Па-латыні аб ім я скажу — bene natus,
Шляхціц гербавы — Possessionatus;
На загоне малым, але ўласны загон той.
І ў запасе, мой пане, ён мае маёнтак —
Розум мае, ў прыдачу ёсць сціпласць і цнота,
Што без горшай не грэюць, як сёння галота
Кажа часта, а я кажу — хлусіце, людзі:
Розум сціплы для кожнага шчасце здабудзе!

Пані, думаюць толькі заўсёды магнаты,
Што, калі чалавек, хай разумны, руплівы,
Ды грашамі, нябога, зусім небагаты,
То не будзе ён з жонкай сваёю шчаслівы.
Добры ўрад, ён за працу заўжды ўзнагароду
Дасць разумнаму, хай той і з беднага роду.

Бацьку, пані, згадай, свайго любага мужа, —
Шлях сабе ён праклаў толькі сілай аружжа.
Паслужыў ён магнатам, але не сучасным.
Бедны шляхціц-юнак на жыццёвым світанку
У кунтушы абшарпаным, толькі смеласцю шчасны,
Ён адвагу і моц аддаў Пане Каханку.
Даў за службу той пан, што быў шчодрасцю слынны,
Вёску ў дар назаўсёды, а Бог дабрачынны
Блаславіў за сумленную працу, старанне.
Вось адгэтуль і спадчына ваша, мой пане.
А яе паступова ўдвая павялічыў
Ты, мой Караль, у працы нястомны, сумленны.
І дамо для Алісы пасаг мы нядрэнны!

Што ж вы сёння благою пайшлі пуцявінай,
Прыклад ўзяўшы з багатых, з уласнай дзяцінай
Дрэнна робіце, прагнасцю згубнаю скуты,
Асуджаеце сэрца яе на пакуты?»

Скончыў дзед, і ягонае строгае вока
То глядзіць на нявестку, то гляне на сына,

Той адказвае бацьку з пакорай глыбокай:
«Слушна кажаце, тату, і, праўда, дзяўчына
З нашай працы і ласкі Ўсявышняга мае
Дастатковы пасаг, усяго ёй хапае.
Толькі мужа пачцівага зычыць ёй трэба.
О, ты будзь дабрадзейным ёй, неба!

Знойдзем хлопца шляхетнага, дык з вашай згоды
Злучым тут маладых сэрцы мы назаўсёды».

Зразумеўшы пагляд сваёй жонкі чуллівай,
Сын да бацькавых ног з ёй схіліўся пачціва.
Дзед нявестцы сказаў: «На хвіліначку сіла
Мацярынскай любві твае вочы зацьміла».

І заплакаў стары тут, і, повен спагады,
Ён нявестку цалуе, бо чуласці рады.
Вёў сямейную раду дзядуля з уменнем,
І Госпадзь дапамог яму благаславеннем.

Увайшоў у пакой Уладзіслаў засмучоны.
На чале яго сум, позірк болем замглёны
Утаропіў ён долу і больш не ўздымае,
Да балючага сэрца руку прыціскае.
І ледзь могуць стрымаць ўздых пакутлівы грудзі.
Рукі ён скрыжаваў, бы маліцца тут будзе.
Ціха гэтак гаворыць, да ўсяго ён гатовы,
На здзіўленне сям'і кажа гэткія словы:

«Ў доме панства жылося мне вельмі цудоўна,
Як пад роднай бацькоўскай страхою ўсё роўна.
Не хачу забываць вашу шчырасць і міласць,
Каб няўдзячнасцю вам не плаціць за зычлівасць.
Не забыць вашай ласкі мне ні на хвіліну,
Але дом ваш сягоння, аднак, я пакіну». —

«Што такое? — сказаў дэпутат са здзіўленнем. —
Крыўду маеш? — пытае ён Уладзіслава. —
І чаму хочаш ехаць? Растлумач, у чым справа,
Можа, дзеці тупыя і цяжка з вучэннем?» —

«О не, пане! з анёламі іх параўнаю.
Не жылося нідзе, як у вас мне жывецца.
Толькі прахам бацькоў я сваіх прысягаю —
Таямніцу сваю не адкрые вам сэрца.
І пакіну ваш дом я з журбою сардэчнай,
І ваш край бласлаўляць буду шчыра я вечна».

Тут стары вус кусnуў і як крыкне: «Мой пане!
Пакуль буду Пара́ем, ад'езд не настане.
Ўладзіслава пакіньце са мной на хвіліну,
Адгадаю, відаць, таямніцы прычыну,
Той хваробы, што ясныя вочы зацьміла
І імкненне паехаць ад нас нарадзіла».

Я не знаю, бо чуць не прыйшлося нікому,
Як хлапец таямніцу даверыў старому,
Як яму растлумачыў ад'езду прычыну.
Ды паклікаў стары неўзабаве дзяўчыну.
Чырванеючы, ціха Аліса сказала,
Што яна Ўладзіслава даўно пакахала,
І яна шчаслівейшай у свеце была б,
Калі б з ім да касцёла, да шлюбу, пайшла б.
Неўзабаве й бацькі маладых прывіталі
І сваё бласлаўленне ім шчырае далі.

Дзед, хоць слёзы на сівыя вусы ліліся,
Рады быў, што шчасліваю стала Аліса.
Ён казаў, да грудзей прытуліўшы дзяўчыну:
«Танна я не аддам маю ўцеху адзіну.
Ты зарок мусіш даць, абяцанне, пан мілы, —
Выхаванню братоў яе меншых ўсе сілы
Прысвяціць, Ўладзіслаў, ты павінен дазвання,
І любоўю адплаціць яна за старанне».

Скора рэштка дзяцей у пакой прыляцела.
Як Аліса, нябога, тады чырванела,
Калі Ясь, старшы брацік — яму ўсё забава, —
Жартаваў: «Хай жа жонка жыве Ўладзіслава!»
І як толькі ўжо ўдосталь пацешыўся Ясік,
Меншы брацік падаў галасок, любы Стасік:
«Даў нам пан Ўладзіслаў гэткае абяцанне:
Будзем слухацца мы і ўсе зробім заданні,
Дык згуляем ў гульню, што завецца «Варшава».
Вынаходка яна пана Уладзіслава».
Хлопчык карту бярэ: «Дзед, зірні на забаву,
Хто з нас здолее першы ўвайсці у Варшаву?»

От сям'я ўся за стол ля дзядуні садзіцца,
Справа села нявестка, а злева — Аліна,
А за ёй Ўладзіслаў. Жартаўніца-дзяўчына,
Хоць і ціхай здаецца, выпадкам, як быццам,

Да рукі Ўладзіслава кранецца рукою
Альбо вочкам агністым так стрэліць, бывае,
Што ў хлапца, хоць забаву ён з ёй падзяляе,
Заіграе румянец на твары парою.
Расстаўляе значочкі ўжо радасны Ясік,
Нецярпліва чакае чаргі сваёй Стасік.
Дэпутат той парой, гаспадарцы аддаsuccessfully,
Аглядае — ці добра загоны ўзараны.

## КАРЦІНА III

### Вячэра

Восем б'е ўжо насценны гадзіннік тым часам.
Стомлены дэпутат ідзе з поля. З ім разам
І дзядуня спяшае, румяны, бадзёры.
Погляд ясны, нібыта не ведае зморы.
Як «Хай будзе пахвалёны» па-польску ён скажа,
Дык «На векі вякоў!» дзед адразу адкажа.

Іх матрона якаясь, хоць немаладая,
Ды здароўя адменнейшага сустракае.
Уваходзячы ў дом, рэверанс робіць рэдкі,
Рэверанс той часоў старой Польшчы забытай.
У спадніцы яна, па-старому пашытай,
Што ў фальбонах уся, што ўпрыгожваюць кветкі.
А за пасам ключы, знакі ключніцы гэта,
Збоку тонкі пасок, каб баяліся дзеці.
Ўсе вітаюць яе, пяцідзесятае лета
Той паненцы старой ужо свеціць.

Падкруціў вус падчашы і крыкнуў: «Мой пане!
Кожны пару сабе да стала выбірае,
Малады маладую, старога старая.
Пан аконам пры пані Ключкоўскай хай стане!
Там прыемнасць ў размове, дзе ціха, нясмела
Уздыхаюць амуры. Ох, як счырванела
Панна, гляньце, па вушы». —
«Прашу, ягамосці!
Ўнучку ты пашкадуй і не кпі з маладосці
Сарамлівай, дый слухаюць дзеткі наўкола.
Вось, каб пані жыла, дык намыліла б голаў,
Ці не годзе дзяўчыну бянтэжыць старому?» —

«Добра, згода, хадзем на вячэру. Нікому
Болей не раскажу пра амуры я вашы».
І пад ручку нявестку бярэ наш падчашы,
Смела крочыць, астатнія ўслед. На падносе
Старасвецкім гарэлку гасцінна падносяць.
Тут і пернікаў многа забаўных зрабілі,
З цеста рыбак і пеўнікаў добра зляпілі.
Залацістаю фарбаю рыбкі пакрыты,
З плаўнікамі яны, у натуры нібыта.
То Ключкоўскай шэдэўры, іх трэба адзначыць.
Дзед гарэлку лье ў чаркі і крыжам іх значыць:
«Вып'ем старкі крыху, — кажа ён нецярпліва, —
Гэта дзейсныя лекі, на сон асабліва».

Вы, што змалку прывыклі к жыццю гарадскому,
К шляхціцу завітайце як-небудзь старому,
Ў дом заходзьце яго, дзе жывуць небагата,
У зацішшы вясковым сумленнаю працай,
Дзе не знаюць бязмэтнай раскошы палацаў;
Дарагіх аксамітаў і люстраў няма там.
Дом маленькі ды чысты і поўны спакою,
Мову ўчуеш там, продкі казалі якою.
І там вельмі шануецца звычай даўнейшы,
Не зачыняць дзвярэй, калі прыйдзе бяднейшы.
Завітайце ж у дом, ціхі дом без раскошы,
І вы знойдзеце там адпачынак харошы.

Дзед запросіць вячэраць, ён вам не дазволіць
Проці ночы паехаць з гасціннага дому.
«Зрабі, — скажа, — мой пане, ты ласку старому,
Нам прыемнасць зрабі, паспытай хлеба, солі.
Дык застанься ж у нас, не спяшайся упарта,
Пакідаць проці ночы старога ці варта?»

Хочаш ты ці не хочаш, вячэраць патрэбна,
Там не ўбачыш пасуды фарфоравай, срэбнай,
Страў кітайскіх таксама няма там ніякіх,
Не дадуць вышуканых страсбургскіх паштэтаў,
Ні піро́жных французскіх, ні розных амлетаў,
Бо пагібель для шляхты магнатаў прысмакі.
Ды, мой пане, як кажа стары наш падчашы,
Вабіць там нас паўмісак, напоўнены кашай.
Прынясуць там і шынку і зразы зычліва,
Са смятанай і сырам адменнае піва.

На стале, быццам волат, гладыш паліваны
З сыраквашай, а побач талерка смятаны.

Тут дружынай ахвочай за стол ўсе паселі,
У маўчанні жуюць, нібы ўраз анямелі.
Цішыня і спакой, няма месца гаворцы,
Толькі бразгат нажоў, быццам шабель у бойцы.

Пшанішкевіч, аконам, вылучаецца надта
У бітве з кашаю, а дэпутат той заўзята
Зразы нішчыць, адны маладыя з ядою
Не спяшаюць, мяняючыся між сабою
Баязліва паглядамі; ключніца й тая,
Хоць у зморшчынках твар, палымнее, бывае,
Як падчашы міргне і нібы ненарокам
На аконама ўкажа раптоўна ёй вокам.

Ды слабеюць у бітвах дружыннікі нашы,
Дзе-нідзе выпадковае чуецца слова.
Пачынаецца ў іншай мясціне размова.
Моўчкі лёкаю знак падае тут падчашы.
І загад зразумеў вельмі кемлівы малец,
Толькі ўбачыў узняты падчашага палец.
Пяць бутэлек зялёных нясе паслухмяны,
Ужо ў плесні, але ў іх мядок ёсць румяны.
Той мядок па кілішках разліць не паспелі,
А падчашы ўстае і ўзнімае свой келіх:
«Я прысутных прашу — ба! ваякаў дружыны,
Весялімся мы ўсе тут сям'ёю адзінай.
Дзень такі не забыць мне, старому, ніколі.
Вып'ем за маладых дзеля іхняе долі.
Не бургундскае тут, не шампан тут бурлівы,
А мядок наш, панове, дар роднай краіны.
Ён стаіць з тых часоў незабыўных, шчаслівых,
Як на свет нарадзіўся сынок мой адзіны.
Хто мае валасы паважае сівыя,
Мусіць піць і крычаць: «Хай жывуць маладыя!»

Кожны дзівіцца вельмі, не знае прычыны,
Чаму твар чырванее так моцна ў дзяўчыны,
Што за сорак даўно ужо пераваліла.
Думка нейкая раптам яе ахапіла.
Нешта хоча сказаць, штось глядзіць нецярпліва.
Урэшце голас яе прагучаў сарамліва,
Шэпча боязка, ў дол апускаючы вочы:
«Ужо надта ягомасць да жартаў ахвочы.

Без дазволу майго да вянца весці мкнецца.
Пан аконам яшчэ ж не зрабіў прапановы,
А ягомасць заручыны справіць гатовы,
Не спытаўшы пачуццяў... дзявочага сэрца!»

Смех навокал гучыць. Вось зрабіла пацеху,
Ды спыняецца смех, раптам ўсім не да смеху.
Нешта ў слёзах Аліса, штось плача нябога.
Вось падскочыла хутка яна да старога
І ўжо рукі цалуе любімага дзеда,
А за ёй малады да ног падае следам.
Да бацькоў падыходзіць шчаслівая пара,
Ім падзяка за тое, што здзейснена мара.
Бацька благаславіў, і да сэрца матуля
Сваіх дзетак любімых расчулена туліць.
Зычыць богавай ласкі для любай дзяўчыны
І для добрага хлопца, што здолеў адзіны
Скарб яе ацаніць. І любоўю якою
Яе погляд палаў той шчаслівай парою,
Як казала яна: «Бласлаўляю вас, дзеці!»
О, пачцівыя маткі, вы мяне зразумейце!

Што з падчашым было, калі парачка міла
Слёзна благаслаўлення ў яго папрасіла,
Што было з ім, няцяжка, відаць, адгадаці.
Той шчаслівай хвілінай не мог дзед стрымаці
Узрушэння свайго. Замачыла слязамі
Вус, пабелены працай руплівай, гадамі.
Штось хацеў ён сказаць, ды не змог ў хваляванні,
Толькі вымавіў ціха дзядуня: «Мой пане!»

Кожны тут праслязіўся, хоць сэрцам вясёлы;
Нават там, каля богава трона, анёлы,
Як пачулі, што здзейсніла мары сястрыца,
Пачалі з ціхай песняй у небе кружыцца.
Добрай ночы дзед крыжам бяседзе ўсёй значыць.
Вось і скончан расказ. Папрашу я прабачыць
Тут, чытач дарагі. Калі нудны ён дужа,
Дык не трэба было ў рукі браць яго, дружа,
Лепей кінуць з пагардаю прэч і забыцца.
Можа, ён, каб цыгарку скруціць, прыгадзіцца.
А калі ўжо хто возьме яго для чытання,
Слава Богу, — я крыкну з падчашым, — мой пане!

## *Да Уладзіслава Сыракомлі*

От жа ветлівае сонца
Разагнала утрапенне.
Бліснула ў маё аконца
Светлай радасцю праменняў.

Зорка, што вяла паэта
Ў цемры па сялянскім полі,
Засвяціла, як прыкмета
Паляпшэння маёй долі.

Мову сэрца майго ўчула
Беларусь, о край гасцінны,
І да сэрца прыгарнула
Дудара, як свайго сына.

Так, дарагі Уладзіславе! — пачцівая Беларусь, адгадаўшы мэту, да якой з такой цяжкасцю, а разам і з такой няўдачай асмеліўся імкнуцца, падала руку дапамогі і заахвоціла нейкім чынам, каб на сваёй няўдзячнай ніве працаваў і далей. Больш, чым я заслугоўваю, адзначыла беднага песняра, які з яе народнай мовай выступіў на ніве роднай літаратуры.

Добры люд на гэтай Беларусі! З гарачым у сэрцы замілаваннем захоўвае ён даўнейшыя свае простыя звычаі, даўнюю цнатлівасць дзядоў і бацькоў сваіх!

Там амаль кожны гаспадар з ахвотаю і энтузіязмам паўтарае перад грамадою сваіх сялян тое, што толькі на іх мове надрукавана, таму што ён сваіх сялян дзецьмі сваімі называе.

Прыемна глядзець, як прыгожая, з арыстакратычным выхаваннем, таленавітая дзяўчына, як багатая

цнотамі гаспадыня вясковага панскага дома, сабраўшы ў святочны дзень дваровую чэлядзь і сялянак, якія прыйшлі за парадамі або з якой просьбай да пані, чытае перад імі ўрыўкі з «Гапона», «Вечарніц» або з «Купалы», а пачцівыя сялянкі слухаюць сцэны, з якімі штодзённа не раз сустракаюцца ў сваім жыцці; удзячныя сваім чытальніцам, вяртаюцца яны ўзрушаныя дамоў, у сямейных колах апавядаюць, як паны апісваюць іх звычаі і ахвотна цікавяцца іх доляй.

Таму селянін наш, набываючы да паноў нейкую сімпатыю, мацней з імі звязваецца і паволі выцясняе з свайго сэрца ўкаранёны з дзяцінства супраць тых жа паноў погляд, таму селянін, бачачы на сваёй зразумелай мове кніжку, у якой апісваюцца звычаі і абрады, перададзеныя яму па традыцыі ад продкаў, рад бы такую прачытаць, набірае сам ахвоты вучыцца або заахвочвае сваіх дзяцей.

Гэта адбылося перад маімі вачыма, якія заплылі слязою радасці і ўзрушэння, калі ў маёнтку Шчаўраве ахвотна прыглядаўся, як паважаныя паны Юлі і Артур Р. на дажынках, сабраўшы вакол сябе грамаду люду, чыталі ім урыўкі з «Гапона», «Купалы» і «Вечарніц», а люд гэты з узрушэннем успрымаў малюнкі, нібы выхапленыя з яго штодзённага жыцця, са слязьмі ў вачах цалаваў рукі чытаючых.

Нічога б не жадаў, каб гэтай уразлівай сцэны быў сведкам паважаны пан Скібіцкі, які пад псеўданімам «Y» ў «Газеце Варшаўскай» папракаў мяне, што пішу на мове беларускага люду. О! Сам ён, напэўна, прызнаў бы несправядлівай сваю рэцэнзію.

Прабач мне, Уладзіславе, калі аб гэтым, не абыякавым для нас, прадмеце так багата разважаю! Цікава, напэўна, табе даведацца, якія багі загналі мяне ў Магілёўшчыну? Вось паслухай!

На выбары, якія тут у Мінску былі вельмі шумнымі, таму што славутыя артысты Апалінары Концкі, Станіслаў Манюшка, наш геніяльны спявак, і Адам Герман, таленавіты віяланчэліст, сваім з'яўленнем на мінскім гарызонце дадалі некаторым чынам бляску гэтаму выбарчаму з'езду, — прыбылі таксама два беларусы, паны Юлі і Артур Р., жыхары Магілёўскай і Віцебскай губерняў, якія, з гонарам мушу прызнацца, ведаючы мяне з друку толькі на іх роднай мове, асабіста стараліся пазнаёміцца са мною. Адсюль узнікла паміж намі

шчырая дружба, адсюль я абяцаў ім быць 19 кастрычніка ў Шчаўраве, маёнтку паважанага Юлія, каб апісаць дажынкі, якія добры гаспадар запазніў да майго прыезду.

Аб тым, як гасціў, і аб маім поспеху дастаткова пераканаешся з апавядання «Літаратарскія клопаты», з часткі I «Паэт у клопатах», якая прысвечана твайму імені; няхай цябе не дзівіць супярэчлівасць таго, што ў ёй паказана, і цяжкі лёс маіх прац. Тая частка праўдзіва паказвае здарэнні і выпадкі, якія перад падарожжам на Беларусь ляжалі цяжарам на сэрцы аўтара беларускіх спеваў. Трэцяя частка ўяўляе сабою супярэчлівы вобраз літаратурнага поспеху, як мага найпраўдзіва, але няўмела намаляваны, з якога яскрава бачна, чым з'яўляецца для паэта і літаратурных поспехаў разуменне аднаго чалавека ці некалькіх знакамітых людзей, якія вызначаюцца шляхетнасцю душы.

Усё гэта выліўшы з душы перад паэтам і прыяцелем, які зразумеў маю працу, вітаю і абнімаю цябе сардэчна, дарагі Уладзіславе, і падпісваюся тваім самым шчырым паклоннікам і слугою.

*В. М.*

# *Літаратарскія клопаты*

*Апавяданне ў 3-х частках*

***Да Уладзіслава Сыракомлі***

## ЧАСТКА I

### Паэт у клопатах

Ой кепскія ў нас справы, Уладзіславе!
Услужыць нялёгка справядлівай славе!
Ссылае Бог на голаў мне дакукі.
Вястуне наш! — калі йшчэ служаць рукі,
Пакінь пяро! Спыні аб праўдзе словы, —
Насі ваду або ідзі сеч дровы.

Яшчэ табе, Вястун, так-сяк вядзецца,
Бо да выбраннікаў належыш кола,
І муза да цябе мілей смяецца,
А песні слаўныя твае наўкола
Ахвотна слухаюць усе, нямала
Купляюць, каб не трапіць між адсталых.

Аднак не вер, што модныя салоны
З ахвотаю твае хапаюць творы, —
Для іх мілейшыя чужыны плёны,
Рамансы франкаў — вось чытання ўзоры.
А ліра свойская ўзбуджае смехі —
Яна для чэрні, пад гнілыя стрэхі!

Калі ж і ўбачыш мо дзе ў свеце модным
Ці «Хатку ў лесе», ці то «Дэмбарога»,
Яны не рушаны, клянуся Богам!
Лісты нат не разрэзаны ў ніводным.
На працячкоў тут пастка: хай не баюць,
Што песняроў сваіх паны не знаюць.

А што ж дае мая скупая ніва,
Быллём паросшая? Шмат трэба працы,
Пакуль уробіш! Дык хачу прызнацца,
Што трачу дух. Я гэтак клапатліва
Шмат месяцаў тварыў, і ўвесь здабытак, —
Што многа слоў пустых пачуў і крытык.
Здароўя шмат забрала гэта праца!
Якім паддаўся прыніжэнням, мукам,
Пакуль яе ўдалося выдаць друкам,
Табе, Вястун, хачу цяпер прызнацца.

Вось рукапіс напісаны старанна,
Плод буйнай думкі — скарб мой укаханы!
Яго здаць трэба на людскі пажытак —
Бягу я ў ведаў, мудрасці прыбытак,
Дзе, як багач над скарбамі, заўсёды
Сядзіць у крэсле Бейлін[1] той рыжабароды.

«Як маешся, пан Бейлін?» —
«Прывітанне пану!
Мо трэба што купіць? Навін дастану.
Вось тут «Граф на Ванторах», gute fain праўдзівы!
Яго мне рваў аж з глоткі Рубен хцівы...» —

«Стой, Бейлін! Памыляешся, мой пане,
Сягоння я прыйшоў не для купляння,
А скарбу ўласнага хачу пазбыцца.
Вось рукапіс, — прашу не паскупіцца,
Дык за рублёў паўсотні можам старгавацца». —

«Ой вэй!.. Я нават за яго не дам і дваццаць!
Не важыць фунта ён, якой жа варт ён платы?
Фэ! З крыўдай кнігароў пан хочаш стаць багатым.
Яшчэ каб пан быў модны, як той Сыракомля,
Каб славіўся пісаннем з Вільні аж да Гомля...
А вас ніхто не знае, хіба што сяляне.
Нашто вы па-мужыцку пішаце, мой пане?
Як хочаш пан, дык без далейшае фатыгі,
Дзесятку дам, і то — на гэту суму кнігі».

Я цяжка уздыхнуў, слязой зрасіўшы вочы
І звесіўшы свой нос, дамоў цішком пакрочыў.
Шукаю розных спосабаў, але дарма ўсё,

---

[1] Бейлін — мінскі гандляр. Яго кнігарня была найлепшай.

А ўрэшце на адным намеры затрымаўся:
Вось знатнага магната думкай прыкмячаю
І працу тую ўраз яму я прысвячаю.

Ура! мая ўзяла! за сорак кніг нарэшце
Далі задатак мне, ўжо маю злотых дзвесце,
Дык ёсць з чаго пачаць; вось лёсу перамена,
І прэс у хуткім руху, але зноўку дрэнна:
Друкар крычыць настырны: «Пане, грошай мала!
Хоць часткамі плаці мне, каб не перастала
Друкарня працаваць, іначай быць не можа!»
А тут — ні пфеніга. Вось кара, мой ты Божа!
Аж галава трашчыць. — Гол, як ні павярніся, —
Падумаў я ў бядзе, — і, падкасаўшы крыссе,
Падаўся к ліхвярам; перш шлях быў недалёкі,
Да Яся багацея скіраваў я крокі.

Што за салон багаты, што там за пакоі!
Прадметы, бы нядбайнай кінуты рукою... —
Знай пана па халявах! — кажа прыгаворка.
Мяне аж памуціла, стала ў вуснах горка!
«Вось тут, — падумаў я, — адмовы быць не можа,
Мне сябра гэты мой напэўна дапаможа». —

«Як маешся, пан Ян?» —
«Здароў! А пан Вінцэнты?
Чамусьці кіслы сёння; ой ці не дашчэнту
Сыграўся ў карты? Ці якая, можа, Хлоя
Замкнула сэрцайка сваё перад табою?» —

«Пакінь, прашу цябе я, пане Яне, жарты!
Мяне займае ні каханне і ні карты,
Вось паратуй ты лепш мяне ў цяжкой патрэбе,
А за твой добры ўчынак на зямлі і ў небе
Табе удзячным буду — дай мне злотых дзвесце,
Каб друкару ўплаціць. Ён у мяне нарэшце
Ўвесь розум адбярэ, бяда мне з друкарамі!» —

«Паслухай, дружа мой, гаворачы між намі,
Каб ссуду даць табе, няма ў мяне падставы,
Бо пад якія іпатэкі ці заставы
Павінен я ўслужыць? Вось залатыя рэчы
Ці серабро прыму ахвотна, чалавеча,
І невялікія вазьму з цябе працэнты —
Ад сотні толькі трыццаць». —

«О святы Вінцэнты!
Дык ласку ж гэткую знайду я і ў яўрэя!
Хай счэзне дружба гэтакая, здзервянее!» —
Сказаў яму я ў гневе, пляснуўшы дзвярамі,
І рушыў з іншымі сустрэцца ліхвярамі.
Але напэўна не дабіўся б я нічога,
Каб не прыйшла мне ад Міхала дапамога.
Дастаў я грошы, кніжка вось ужо гатова,
Пусціць яе ў ход трэба, ды бяда — нанова!
Прашу тады зноў Бейліна таго грубога,
Каб на камісію прыняў, а ён мне строга
Гаворыць, папракае, што яму спачатку
Не адпусціў сваё тварэнне за дзесятку.
Нарэшце, як закончыў тое наракание
І, ўбачыўшы, што я ў такім крытычным стане,
Змякчэў і ў гэткія ка мне звярнуўся словы:
«Я памагчы пісьменнікам заўжды гатовы
І вось, як доказ, што я не пусты прамоўца,
За кожны экземпляр дам вам па залатоўцы».

Вось як мяне пацешыў Бейлінак каханы.
Я ўцёк адтуль і новыя тварыць стаў планы.
Дамовіўся я з Рыппам[1], — носіць ён пахнілы,
Памады, пудры заграпічныя і мыла, —
Каб ён узяў з сабой і між сваіх тавараў
Насіў і некалькі той кніжкі экземпляраў,
Мо пані, што на глупствы многа грошай трацяць,
Купляючы духі, за кніжачку заплацяць.

Ідзе той італьянец шастаючым крокам,
Шліфуе брук па месце й сакаліным вокам
Па вокнах сочыць, то каго зачэпіць,
Таму памады, а другому мыла ўлепіць,
То збыць адэкалон праявіць дзе фатыгу
І ўсім, як толькі можа, прапануе кнігу.
Настроіўшы нарэшце адпаведна міны,
Кіруецца ў салон праслаўленай Цаліны.

Там модныя паненкі, панічы і пані
У самым наймаднейшым, дарагім убранні;
Французскі звычай там, французская і мова,
Свайго радзімага там не пачуеш слова.

---

[1] Рыппа — італьянец. Некалькі год разносіць па горадзе ў сваім корабе галантарэйныя тавары.

Раскошы тыя ўбачыўшы, пачуўшы мовы тоны,
Падумаеш: Парыж тут адчыніў салоны.

Заўважыўшы прыход латочніка са скрынкай,
Ураз спынілі дочкі Евы вечарынку.
А хітры італьянец, модніцам надзіва,
Свае флаконы, пляшачкі вымае жыва.

«Вось, кажа, гэта лек найлепшы ад вяснушак,
А гэта адсвяжае колер шчочак, вушак,
Памадка вось, а вось парыжскае бяліла,
А ў гэтай скрыначцы какосавае мыла,
Дзён колькі як з Парыжа — ўсё з дастаўкі новай».
І, каб лепш верылі яму, французскай мовай
Тавар свой хваліць і кішэні набівае,
Бо кожная з паненак штосьці набывае.

І вось прыпамінае хітры італьянец,
Што кніжак некалькі маіх паклаў у ранец,
Наверх іх дабывае, выхваляе, вабіць
З надзеяй, што спакусіцца ўсё ж нехта, мабыць.

А пані гаспадыня, з тых пакупак рада,
Каб не фатыгавацца, просьбаю-загадам;
«Ma chère amie, — сказала, — хай там хто з вас гляне,
Дзюма там ці Бальзак? якое там выданне?»
Тут тонкім галасочкам Франя адказала:
«Non maman! мужыцкі твор, якісь «Купала». —
«Ah mon Dieu! Як можна мову так паскудзіць!
Кінь гэтыя грымзолы, каб рук не пабрудзіць!
Не сорам вам хваліць плюгаўства, мілы пане?
Хіба для фурманоў такое вось чытанне!» —

«Мужык, фурман, таксама людзі, як вядома», —
Прамовіў Рыппа, і з арыстакратаў дома
Падаўся прэч; кляцьбою злосць сваю салодзіць
І па дарозе к пану Феліксу заходзіць.

Фю!.. Колькі тут юнцоў! А кожны з іх — руіна!
Ад кожнага дым бухае, нібы з каміна,
За дымам не відаць прадметаў нават зблізку,
Ад свечак, што гарацъ, ледзь бачны толькі ўзбліскі.
Усе, як тую крэпасць, стол штурмуюць зграяй;
«На сем куш!» — той крычыць, той: «Ляпка!» — паўтарае.
І, як Плутон на троне, больш за іншых варты,

З паважнай мінаю шліфуе Фелікс карты.
Ён пан тут самаўладны на зялёным полі —
Не трэба й брытвы, без яе ўсіх чыста голіць.

Тут, думаў італьянец, торг на кнігі будзе,
Да ведаў моладзь хцівая, дык іх набудзе!
Пустыя мары! Крык узняўся згодным чынам:
«Мы дзень і ноч не спім, патрэбен жа спачын нам!
Чытаць абы лухту хвілін у нас не стане.
Бач, мы занятыя, — каціся на зламанне!..»

Дарма ўся праца! Вось ён, выйгрыш выдавецкі!
Затраціўшы ўсе грошы, як святы турэцкі,
З пустою кішанёй і ашуканы лёсам, —
Стаць трэ мне лесарубам або ваданосам.

Сягоння, з мар разбуджаны, спачыць хачу я,
Уздыхі кідаю, якіх ніхто не чуе,
Або сяджу з Рустэйкам, песняром натхнёным,
Які нам праўду аб'яўляў праўдзівым тонам,
Якога «Песні нашы» служаць выхаванню,
Патокі новага жыцця у душах родзяць,
А ў крытыцы зусім не маюць спачування
І, як прыйшлі на свет у болях, так адходзяць,
Дык вось з Рустэйкам чэсным ля стала малога
Увесь свет кніг і дум, бывала, з ім прасочым,
Аб прозе і паэзіі гаворым многа, —
Вось так цяжар жыцця менш сэрцы нам марочыў.

Не раз казаў: «Тваіх тварэнняў мова,
Вінцэнты мой, шчаслівейшай вінна быць на свеце.
Шырокае славянскае гаворкі слова
У брацціяў не сапсутых маю на прыкмеце!
І вольным будзеш ты ад канкурэнтаў, знаю,
Цябе не рушыць партачоў зайздросных зграя.
Шчаслівы! Багацеі датрымаюць слова,
Узяўшы на свой гонар кошты кніжкі друку,
Мо ты іх не абразіш той мужыцкай мовай
І так не апынешся з кніжкаю на бруку».

Аднак з надзеяй той прыйшлося размінуцца,
І вось сягоння на адной з ім граем дудцы.
Не знаем, што пачаць і што рабіць не знаем,
Ці рукапіс аддаць за тых рублёў дзесятку,

Хоць за перапісанне дваццаць выкладаем,
Ці знішчыць кнігі ўсе адразу для парадку,
Ці мо прадаць выданне ўсё за залатоўкі?
Нічога мудрага не йдзе нам у галоўкі.
Ты, Уладзіславе, дай параду дарагую,
Бо думак і праектаў маеш ты нямала,
Якой пайсці дарогай? Ці ўкажы другую,
Каб аўтара галодная смерць не забрала.

## ЧАСТКА II

### Падарожжа на Беларусь

О муза! Ты, якая ўвенчыла скронь Бакі
Вянком лаўровым вечным, мне пазыч кульбакі,
Каб я дасцігнуць мог Парнаскае сялібы
На тым тваім кані, варочаючы скібы
Маёй сялянскай нівы, каб у тым палёце
Дарогаю ў Алімп, не ўвяз я дзе на плоце!

Вы, цені шчырых продкаў! Я да вас малюся:
Пазычце творчых дум, каб я ўсё ж прыгарнуўся
З трыумфам да мужоў, якім былі вы ўзорам!
Паэты! каб мне з чэсцю выйсці, дайце пёры
Пашану тую ўславіць, што мяне спаткала
У краі беларускім, ўслаўленым нямала,
У краі, што старыя звычаі хавае,
Які з вякоў гасцінна кожнага прымае.

А ты, мой пане крытык, будзь мне паблажлівым
І чамярыцы не задай пяром крыклівым,
Калі прысуд свой вынесеш пісанням гэтым
У страшным для пісак артыкуле газетным.
Скажы, пісаць хоць кепска, ёсць злачынства, можа,
Калі інакш хто-небудзь працаваць не можа?
Ці ж лепш праводзіць час пры шклянцы ці більярдзе
Або шукаць уцехі ў картачным азарце?
І ў творах нават слабых, калі хто чытае,
Напэўна сэнс маральны нейкі адкрывае.
Дык вось, як маеш час, калі настрой вясёлы,
Узбройся у цярплівасць, прачытай грымзолы,
У якіх, калі сэнс слабы, верш цяжкі, дубовы,
Прынамсі, на бяссонне знойдзеш лек гатовы.

* * *

Даўно, у часы маладосці,
Калі я ў марах час праводзіў,
У сельскім краі прыгажосці
Ніяк чамусьці не знаходзіў,
І думка гэткая блукала,
І разважаў я так, бывала:

Паэты пашалелі! ну скажыце ўсе мне,
У чым яны знаходзяць у сяле прыемнасць,
Што пішуць фаліянты ажно да зануды?
Ну гляньце на дзядзінец — смецце там і бруды!
А дзень той вераснёвы, быццам бы чароўны,
А гоман, спеў прыроды міл мо безумоўна?

Вось прыклад: гусь гагоча,
А індык балбоча,
Кудахчуць куры,
Равуць бычкі-раздуры,
І парасяты,
І цыляты,
Валы, каровы
То жалліва,
То шчасліва
Усклікаюць —
Бляюць, рыкаюць,
Дурацъ галовы!

Калі твае ў час гэты вушы
Занудзіць гоман той і зглушыць,
Тады свайго не спыніш кроку
І накіруешся ў бок току.

Машына там стракоча,
Млынок гудзе, фуркоча,
І веялка клякоча,
А цэп аб сноп лапоча,
І хмара пылу ўецца,
У нос, у вушы прэцца,
Дзярэ, грызе ў гартані,
Каўнер і плечы ўкрые,
Грызе, пячэцца ў шыю,
А тут твае сяляне

Клянуць цябе пад носам
І пазіраюць скоса,
Што ты з цяжкой іх працы
Век хочаш нажывацца.

Каб гэтакіх прыемнасцей пазбыцца,
Ідзеш на ніву трохі асвяжыцца.

Там у брыльянтавым тумане,
Пабіты градам, колас вяне;
Там лебяда, лапух, куколі,
Чартапалох вакол на полі,
Які абселі меданосы —
Чмялі ці шэршані ды восы.

Якія ж кволыя ў ідыліях, нядужы
Фіялкі, васількі, лілеі або ружы,
Якіх у сёлах нашых не шкадуюць,
Перад аблiччам кветак, што ў палях бытуюць.

Дзядоўнік, як пан ясны, хоць здалёк смяецца,
Бяскрыўдна ў рукі ўзяць ці нюхаць не даецца.
Не ружа гэта, што бароніцца, як быццам,
Калі свавольнік хоча за яе ўхапіцца.
Ён — вожык-куст не дасца, каб яго хто кратаў,
Стаіць, як пышны граф сярод арыстакратаў,
Між гурту кветак: рушыш — можаш укалоцца,
Панюхаеш яго, дык заскрабе у глотцы.

А каб жа на прагулцы між снапоў і сена,
Калі ўжо зросішся па самае калена,
Чароўная пастушка за ўсе тыя мукі
Ўсміхнулася табе ці сціснула за рукі!

А то і Дафны там — зусім не краскі,
Кудлатыя, як тыя німфы з казкі.
Залётнікі ж іх — проста недарэкі,
Замест зайграць матыўчык нейкі
На флейце, як былі б павінны,
І за выбранніцамі жвава гнацца,
Іх сэрца разварушыць пастарацца,
Яны гудуць у дудачкі з трысціны,
Якіясьці выводзяць казлатоны.
А тут сарокі, вераб'і, вароны,

Як хмара, гуртам шматгаловым
Уюцца, б'юцца ўкол і гарлапаняць.
Вось песня сельская табе на памяць!
Дык хай жыве дзень гэты вераснёвы!

Так думаў я калісьці, ды, мой мілы Божа,
Як думка ў чалавека адмяніцца можа!
Мяне ўжо горад дражніць, там цяпер мне душна
Ад пыхі, зайздрасці, прымусу, крывадушша.
Сягоння вёскі мне ўжо трэба ў кожным часе,
Яна мне ў памяці збалелай засталася.
Сумую я цяпер па хатцы той у лесе,
Па спеве птушак, па журчанні ручаіны,
Па сцежцы, што вяла праз саду зеляніны.
Там я ішоў бы побач з мілаю Алесяй
І пры канцы спыняўся б урачыста,
Шукаў бы купіны імшыстай
І там яе садзіў бы ў цені,
І, стаўшы поруч на калені,
Так чула да яе б звяртаўся,
Маліўся б да яе і кляўся,
Што мусіла б усхваляваціца
І ў сваім каханні мне прызнацца!
Крычыце ж, маралісты, што стары шалее,
А я вам паўтараю: сэрца не старэе!

Не дзіва, што мацней мне сэрца біцца стала,
Не дзіва, што ў душу вясёласць завітала,
Калі перада мной цуг коней апынуўся —
Чацвёрка з фурманом на козлах, беларусам,
Са Шчаўраў пасланцом. Мой Юліюш каханы,
Упэўнены, што буду верны словам даным,
Падводу шле, каб я ў гасцінным асяроддзі
Спачыў ад гарадскіх турботаў на свабодзе.

Фурман з патрэбы, Яцак — чэсны старычына!
З пакорлівым паклонам робіць напамін мне,
Каб гарадскія завідна мінуць вароты.
А тут няўпраўка ўсё! Мясцовая галота
Так час мне змарнавала, што ўжо ў самы вечар
Прыйшлося ў падарожжа запакоўваць рэчы.
Ды зборы літарата цягнуцца хвілінку,
Вось сорак экземпляраў я пакую ў скрынку:
«Цікаўны? — Прачытай!», «Гапон» і «Вечарніцы»,
Падношаны касцюм і... нечым больш хваліцца.

Вось я гатоў, і ўжо дванаццаць
Гадзіннік сценны выбівае,
Ды як жа з места выбірацца? —
А хай жа Бог нас пакарае! —
Бурчыць пан Яцак. Ён баіцца,
Малітвы шэпча, стаў хрысціцца
І пачынае намаўлянне,
Каб выязджаць каля світання.
Я ж цвёрды, быццам літарат,
Які праславіцца і ў людзе
Сабе паклоннікаў здабудзе.
І вось пан Яцак, хоць не рад,
Ды пугаўём знак крыжа значыць,
Збірае лейцы, што з рук скачуць.
І рушыць з месца, скрыўшы скруху
І кленучы паноў у духу.
Пан Яцак той, прашу паслухаць,
Быў розных лёсаў чалавекам,
Не дасць сабе у кашу дзьмухаць,
Хоць выглядае недарэкам.

«Но, конікі! бадай вас, вось бяда якая!
Нас баба з вёдрамі пустымі сустракае,
Бадай вас, вось паскуда, ды парой такою!
Нячыстая тут справа, нельга ждаць спакою,
З вядром парожнім баба — варажба благая;
Паночку, вернемся, нас Бог прасцерагае!»
Хачу сказаць табе, чытач, што ў час размовы
Старэча паўтараў адны і тыя ж словы,
*«Бадай вас»* і *«паночку»* ў кожны сказ укручваў
І прыказкамі тымі так усім дакучыў,
Што тым, якія слухалі яго гаворкі,
У горле косцю сталі тыя прыгаворкі.

Ды вернемся к дарозе: я трымаўся строга,
Увагі не звяртаў на ляманты старога,
І вось чацвёрка наша хутка бегчы стала
І ў Смалявічы на папас нас даімчала.

Што праўда, дробныя здараліся выпадкі
Праз бабскія урокі ці праз шлях нягладкі:
У Яцка шапка раз зляцела выпадкова,
І конь адзін згубіў аж дзве свае падковы,
То пугу выпусціў фурман, то лейцы ўпалі,

Бо рукі іх актаву цэлую трымалі.
Не знаў пан Яцак лейцаў зладжаных крыжовых
Магнацкай вупражы і вынаходак новых.
Конь кожны у яго мець вінен дзве ляйчынкі.
Ён так, як арганіст, калі пяе гадзінкі
І клавішы кранае пальцамі крывымі,
Увесь час калупаўся з лейцамі сваімі
І часта іх губляў, кляў бабскія урокі
І ціха ў адрас мой бурчаў свае папрокі.
Ды я, як лібертын, не верачы нічому,
То згубленыя лейцы падаваў старому,
То пацяшаў яго у скрусе й хваляванні,
То радзіў, каб зміры́ўся ён з наканаваннем.

За Жодзінам пясок пагоршыў нам дарогу,
І стомленыя коні йшлі нага за ногу.
Драмаў на козлах Яцак, — нудна мне ў калясцы,
Дык гутарку пачаў з ім, — можа, як удасца
Настрой яго паправіць, дык аб парантэлі
Пачаў пытаць, аб продках па мячы, кудзелі.

Відаць, крануў я жылку слабую старога,
Ён ветліва ўсміхнуўся, памаўчаў нямнога
І аб сваім пачаў расказваць радаводзе,
Як род служыў Рэчпаспалітай праз стагоддзі.

«Бадай вас, вось, паночку, Мурза Туганоўскі,
Гірэй Мустафа, званы потым Бараноўскім,
Быў нашым продкам; хоць татарын з роду,
Ды княжае крыві, бадай вас, праз нязгоду
З галоўным ханам, родны край свой ён пакінуў
І на Літве, бадай вас, стрэты быў гасцінна.

Кароль, бадай вас, Трэці Ян цаніў адвагу
І тым, хто славу здабываў айчыны сцягу,
Даваў узнагароды, і яму ў тым часе
Каля Бярэзіны маёмасць дасталася,
І быў назначан ён Барысава старостам.
А сын яго Махмуд, прыгожы, статны ростам,
Каханнем узгарэўся да Слізнёўны Ганны,
Памешчыка дачкі, прыгожай, стройнай панны.
Бадай вас, хоць здабыў ён сэрца той дзяўчыны,
Ды ёй мілейшаю была хвала айчыны,
І вось, як пра жаніцьбу ён павёў размову,

Яна паставіла яму малую ўмову,
Каб ён адрокся ад сваёй паганскай веры,
Адвагай у баі даў доказ, што намеры
Яго праўдзівыя, што варт яе кахання,
Пасля чаго яна ягонай жонкай стане.

І так было. Яго ў касцёле ахрысцілі,
Назвалі Ўладзіславам, і ад гэтай хвілі
Ён стаў барацьбітом за славу, чэсць народа,
Бадай вас, вабнай бо была ж узнагарода!
На полі бою ротмістрам ён быў названы
І ля прыгожай жонкі стаў залечваць раны.

Як Аўгуст Трэці панаваў у краі нашым,
Калі быў рай тут для п'янчуг і звадыяшаў,
Тады наш дзед, паночку, Юзаф Бараноўскі,
Прыціснуты судамі, распрадаўшы вёскі,
У Шчаўраўскіх паноў арэнду ўзяць быў змушан,
Зямлю стаў сам араць, зашыўся ў дзікіх глушах,
Ліў пот, сярмягай простаю прыкрыўшы плечы,
Бадай вас, і сыноў пакінуў у галечы!» —

«Але ж, — сказаў я, каб пацешыць Яцка, —
Шляхетны радавод таксама ў нас не цацка!» —
«Э... гербы ўсе, паночку, хай бяруць іх д'яблы,
Яны без грошай, быццам ножны ды без шаблі.
Вось мы, бадай вас, што ў нястачы пражывалі,
Паночку, ў аднадворцы, як у дым, папалі».
І тут стары слязу рукою скінуў з вока
І крыкнуў коням: «Но! папаска недалёка!»

Вось і Барысаў, горад колісь слаўны, людны
З-за валаў-насыпаў глядзеў на нас аблудна.
Літоўскі Вітаўт гэтаю хадзіў дарогай,
Тут з арміяй сваёю Жыгімонт спаткаўся,
Тут доблесны Баторы з ворагам змагаўся,
Тут кесар франкаў страціў войска вельмі многа.
Было тут шмат падзей геройскіх і крывавых!
Зірні, які цяпер той гарадок каравы.
Вітай, Барысаў, места поўнае балота,
З хацін тваіх крывых глядзіць на нас галота
Герояў-галышоў рассеянае Юды,
Какетліва твае нас запрашаюць бруды,
Калыска даўняй славы! Тут з карчмы адкрытай,

З раскрытай брамы ці з-за шыбы паўразбітай
Глядзіць на нас Барысаў сумна, адмыслова, —
Даўно абмеркавана тут усё талкова,
Як збавіць падарожных вечарам ці ранкам,
Гнілою рыбай накарміць ды абаранкам,
Падсунуць селяніну штоф гарэлкі, піва,
А ўсіх рукою прагнай драць нелітасціва!

Папас, вячэра тут для нас і нашых коней.
Падхмелены пан Яцак чацвярык лепш гоніць,
А той, пачуўшы блізкасць дому, шпарыць жвава
І, Лошыцу мінуўшы, павярнуў направа,
Ды мілю добрую прабегшы ў тым настроі,
Спыніўся адпачыць каля карчмы старое.

І тут старога чаркаю не абмінулі.
Пасля таго, як коні добра аддыхнулі,
Мы рушылі далей; за вёсачкай убогай
Прадоўжылі свой шлях прасёлачнай дарогай.
А час быў той не ранні — хутка і дванаццаць.
Аж — на табе! Да рова сталі прыбліжацца,
А тут, як прывід, перайшоў яўрэй дарогу.
Пан Яцак здрыгануўся і адчуў трывогу.
І хоць тры разы плюнуў і перахрысціўся,
Аднак жа дрэнных прадчуванняў не пазбыўся.

«Бадай вас, мой паночку, стрэць у падарожжы
Яўрэя ноччу, заўсягды бяду варожыць,
Відаць, што Бог сягоння нам рыхтуе мукі», —
Сказаў стары, і лейчыну пусцілі рукі
Пад ногі коням, перашкодзіўшы іх бегу.
Кляне пан Яцак, я не рад шукаць начлегу
У лесе, з брычкі злажу, лейчыну шукаю
І Мурзе Туґаноўскаму ў руку ўтыкаю.

Зноў едзем добрай рыссю, ды вось раптам коні
У кусты павалаклі нас па якімсь адхоне.
«Пабойся Бога, Мурза! — я крычу, струхлелы. —
Вярні налева, покуль маеш карак цэлы!» —
«Бадай вас, мой паночку, той яўрэй прычына!
Знайдзі ты мне, паночку, пад канём ляйчыну,
Дарогу ўраз знайду, бадай вас, вось паскуда!
Тут насланнё на нас, не дзенемся нікуды!»

Так Яцак лямантуе, і мы едзем далей,
Аж вось ізноў здарэнне — як абухам, валіць
Мне хтосьці па плячах, дык вельмі страшна стала.
Тым часам не спынялася напасць-навала,
Дык я у страху думаў: б'юць мяне бандыты.
«Хутчэй, — крычу я Мурзе, — конікаў гані ты!»
Ды дзе там! чым хутчэй чацвёрка стане бегчы,
Дык тым часцей той хтосьці б'е мяне у плечы.

Тады з'явілася мне думка пералётна:
Што маю пры сабе, усё аддам ахвотна,
Да сэрцаў іхніх я прамоўлю словам чулым
І сакрушу іх паасобку і агулам.
Спыняю Яцка, добрых слоў шукаю ў мове
І вершам гавару на гэтакай аснове:

«Вяльможныя паны бандыты, люд вялікі,
Злітуйцеся, не будзьце, як народ той дзікі,
Што блізкага схапіўшы ў кіпцюры, рве здуру
З яго, не гледзячы, хто ён, жывую з цела скуру.
Вы ж хрышчаны народ ды знайце тое, людзі,
Што мала вам карысці ад забойства будзе,
Бо што у вершапісца ёсць ці літарата?
Калі ў другіх у кашальках рублёў багата,
То гэтыя, працуючы адно для славы,
Літаратурныя ў кішэнях носяць справы
Ды оды нудныя ці чулых вершаў кучы,
Пра золата ў Парнасе думка іх не мучыць.
Я муз паклоннік, а служу я Мельпамене,
Пагэтаму пустыя у мяне кішэні!
Вось лепей раставаймася у добрай згодзе,
А я, з удзячнасці да вас, у гучнай одзе
Праслаўлю ўсе велікадушныя пачыны
Гаспадароў лясной цудоўнае краіны!»

Закончыў я й — вось дзіва! Сціхла лупцаванне.
Я думаў — гэта вынікі майго старання,
Назад аглядваюся: дзе ж яны, бандыты?
Няма жывой душы, а ў заднім коле ўвіты
Між спіцаў сук, які пры кола павароце
Сцябаў мяне добрасумленна па капоце.

Вось мы ля мэты ўжо, праскокваем вароты;
Канчаюцца нарэшце ўсе нашы турботы.

Вось двор Шчароўскі, вось мяне з душой адкрытай
Вітае пана правая рука — Мікіта,
Вядзе мяне ў пакой і чаем саграваe
І некалькі пален у печку падкідае.
О як жа тут раскошна пасля падарожжа
Спачынак мне пасцель пасланая варожыць!

## ЧАСТКА III

### Гасцяванне. Літаратарскі поспех

Эх! міла ўспомніць нам мінулае стагоддзе,
Калі гасціннасць працвітала у народзе,
Калі быў госцю рады бедны і багаты,
Калі у гонар госця ўзносілі віваты
Суседзі з панам дому грамадой суладнай,
І чым багата хата, тым была і рада.
А сэрцы ж! — у абдымках, словах, справах,
На дне кілішка нават, нават ва ўсіх стравах.
І будзе прадаўжацца аб табе старанне,
Каб месяц, нават год трывала гасцяванне!
Клапоціцца і гаспадар, і ўсе наўкола,
А як збярэшся ехаць, паздымаюць колы!
Цяпер звычай другі ўжо — цывілізаваны,
Заместа сэрцаў сёння — ліс пафарбаваны.
З'явіся ў польскі дом, і што там госць застане?
Пан гаспадар ледзь дасць адказ на прывітанне,
Шле коней у карчму ці к жалобу пустому
Вучыць, каб «гунгер-курам» праганялі стому.
Пачне гаворку пра дзень слотны ці пагодны,
Абходзячы пытанне, ці госць не галодны,
Пра спекуляцыю нямецкую са збожжам,
Пра цэны, да якіх яна давесці можа.
Вось каб не голад, войны, пошасці часамі,
Не можна б аніяк стачыць канцы з канцамі!
Калі ўздыхнеш, дык гаспадар, зірнуўшы скоса,
Уваткне табе сігару або папяросу.
Але не «генеман», не «гелер» і не «кофскі»,
А з мінскае ці пінскай фабрыкі жыдоўскай.
Далей убачыш шклянку і малы імбрычак,
А потым к століку зялёнаму паклічуць,

Калі ж казырка, як на злосць, ісці не хоча,
Гарэлачкі папі, заеш яе сырочкам
І едзь, шкадуючы рубля, што стаў суседскім,
Вяртайся гол, галодны, як святы турэцкі.

А хто захоча ўспомніць даўнія часіны,
Няхай паедзе ў Беларусі край гасцінны,
Застукае тут сэрца, будзеш моцна ўзрушан,
Як быў я ўзрадаваны ў доме Юліюша.

Прыбыў я, гаспадар, якога кожны знае,
Мяне сардэчна і па-брацку абымае.
Хоць малады, багаты, ён пашаны поўны,
Гасцей з суседства прадстаўляе мне шаноўных:
«Вось Павел з Пацяйкова, лепяльчук, мой пане,
Вось пан Тадэвуш, сябра з магілёўскіх даляў,
Вось Юзаф і другі — абодва віцябляне,
Шаноўны Эдвард, Віктар і Станіслаў, далей
Пан Ян з Янова дзедзіч, бацька селяніну,
Ды шкода, не пазнаеш галавы краіны,
Бо пан Ян з Багатова сёння не прыбудзе,
Клапоціцца надзвычай ён аб простым людзе.
Няма Стафана-князя, добрага магната,
Што ў кожным чалавеку свайго бачыць брата.
Ён прадвадзіцель наш, хай будзе век здаровы,
Памешчыкам, чым можа, ён служыць гатовы».

Так Юліюш казаў, і ўсе, хто быў у залі,
Прыезджага па-брацку, горача віталі.
І кожнага любіць бярэ мяне спакуса,
Сапраўднага бо ў кожным бачу беларуса.
Знаёмства адбылося ў доме знакамітым,
Зліліся сэрцы нашы, як метал з магнітам.
Тым часам падаюць закускі прад абедам:
Вяндліны, сыры, кумпякі, за імі следам
Прысмакі іншыя, каб больш паддаць ахвоты,
Таму, што гэта ўсё дамашняе работы.
Аж слінкі пацяклі, ды снеданне ўстрымалі:
Пан просіць, каб ксяндза хвілінку пачакалі.
А тут жа збоку шэпт пачуўся шматгалосы:
«Ён ксёндз, што з неба добрыя прыводзіць лёсы,
Вялікі гэта сябра люду, друг галоты,
Шмат выцерпеў для божай славы і для цноты,
Ён цешыцца сям'ёй і людам, быццам сынам,

Навукай свеціць наваколлю, напамінам.
Намеснік ён Хрыста, дык верных навучае
І сціпласцю жыцця вучэння пацвярджае.
Няшчасных апякун, асветнік ён заўзяты,
Ну, словам, ксёндз Андрэй святар старое даты!»

Ды вось і ксёндз Андрэй у залу прыбывае, —
Надзвычай сціплы, галава ад бед сівая,
Пакора ў твары, мудрыя павагай вочы.
Руку яго пацалаваць тут кожны хоча, —
Ён шчыра ўсіх гасцей благаслаўляе
І кожнага да ўчынкаў добрых асмяляе,
А як прыйшла чарга загаварыць са мною,
Звярнуўся па-бацькоўску моваю такою:
«Я рад, што з мудрым чалавекам запазнаўся,
Які пісаць сялянскай мовай не стыдаўся.
Вы для дабра сялян нямала паслужылі
Тым, што ў іх мове шлях да свету пралажылі.
Выразна, што мы ў Бога дачакалі цуду,
Калі клапоцяцца ўжо пра асвету люду!
Хвіліна, і ўвесь люд схінецца да асветы,
І ў тым найбольш заслугі вашае, паэты!
Ды толькі звычаі старыя захавайце
І з адукацыяй і веру спалучайце!
Ды гэта зробіце напэўна дасканала,
Калі асвета люду актуальнай стала.
Вучыце, цешце, хай загінуць забабоны,
І хай народ наш будзе светлы і натхнёны!
А за тваіх народных песень асалоду
Прымі маё благаслаўленне, друг народа!
У сэрцы у мяне ты будзеш заставацца,
І сябрам мне тваім дазволь навек пісацца».
Калі ксёндз гаварыў сардэчна так, без позы,
Дык мне, сказаўшы праўду, выступілі слёзы.
А тут яшчэ кампанія гасцей праспела,
Дык — новыя вітанні, ў залі загудзела,
Бо ў госці ўсе з'яўляюцца суседзі,
Усе мяне вітаюць, і ў такой бяседзе
Сардэчнай, шчырай, часу нат не прыкмячаем,
Яна скрозь супярэчыць сённяшнім звычаям, —
Такой больш не пачуеш ні ў адным салоне,
Дзе сэрцаў разнабой запанаваў сягоння.
У часе тых сардэчнасцей на стол падалі,
І там гаворку дружна ўсе мы прадаўжалі.

Застолле даўнія напаміналa часы:
Плывуць, нібы ручай, фрыкасы і бекасы,
Ды што тыя фрыкасы! ўсюды, адным словам,
Ты бачыш сэрца і душу гаспадарову.
І раптам гаспадар яму даць слова просіць
І тост такі, з дазволу ўсіх гасцей, узносіць:
«Хай той жыве, хто піша на сялянскай мове,
Дык вып'ем мы за Марцінкевіча здароўе!»
А як той тост у гонар мой усе узнеслі,
Калі ў душы пачуў я радасныя песні,
Як зноў кілішкі налілі, я слова маю
І, што на сэрцы зверху, тым тост узнімаю:

«Не той край сябе праславіць,
Што на лёдзе замкі ставіць,
Што ў тэорыях дзесь кружыць,
А той, што народу служыць!
Той шчаслівым край быць мусіць!
За здароўе Беларусі»

І ў час, як напаўняецца за чаркай чарка,
Тост новы рваўся ўжо з душы глыбіняў шпарка,
Бо думкі ў сэрцы затаіць было мне цяжка,
Дык выліў іх імправізацыяю важкай:
«Браты мае! Нам зорка радасная свеціць,
Калі мы шчыра падаём сабе далоні,
Калі жывуць яшчэ на нашым белым свеце
Апекуны сялян і песняроў сягоння.
Пытае сэрца, дзе пашаны варта цнота?
Ад сэрца шчырага і думкі не панурай
За пана дому тост цяпер мне ўзняць ахвота
І за здароўе брата слаўнага, Артура!»

Убачыўшы, што кожны келіх з мёдам песціць,
Ксяндза Андрэя віншаваў я ў гэткім змесце:
«Абодва мы ў мінулым шмат пакут пазналі,
Абодва ў болях год паважных дачакалі,
Няхай жа дружба сціслa злучыць сэрцы нашы,
Дык за ксяндза Андрэя асушайма чашы!»
Ледзь скончыў тыя рыфмы, зноў віно бушуе,
Надходзяць думкі зноў, і гэтак тост вяршу я:

«Гора, гора для краіны,
Дзе ўжо дамы не натхняюць.
Ну, а дзе, як тут, мужчыны —
Там пра дам не забываюць.

Прыгажуні Беларусі,
Вам і чэсць, і ўшанаванне!
Выпіць чару я бяруся
За здароўе ўсіх вас, пані!»

Каб мне не перабраць, — з'яўляецца задума,
А тут узняўся гоман: «Вып'ем за Навума!»
Навуму Прыгаворку прамаўчаць не гожа,
Дык з пенным келіхам адказвае як можа:

«За Навума піць здароўе,
Лішне, пані і панове!
Але, ўспомніўшы былое,
Сэрцы хай гарадь сягоння,
Злучым братнія далоні
І без жартаў, грамадою,
З нашых продкаў успамінам,
Тост «Кахаймася» узнімем!»

На словы гэтыя ўсе за сталом усталі
І ўсе адны другіх па-брацку абнімалі.

* * *

Закончыўшы бяседу, асушыўшы чашы,
Глядзім, аж сцэна новая рве вочы нашы:
Усе сяляне, колькі іх было ў сяленні,
З правадырамі і ў святочным мо адзенні
Прыйшлі ў двор лірніка свайго вітаць гатовы,
Які ў пісаннях іхняй ужывае мовы.
На іх падзяку, перададзеную сардэчна,
Я слёзы ліў і так хацеў бы плакаць вечна!
А тыя, што чытаць змаглі ўжо навучыцца,
Прасілі ім прадаць «Гапона», «Вечарніцы».
Балела сэрца, што не мог тых кніг раздаць ім,
Бо Юльюш закупіў усё маё багацце,
Тут я у клопаце, ды дзедзіч выручае:
«Вось кнігі у мяне! — і кожнаму ўручае, —
Не трэба платы, я ўжо ўзнагароджан гэтым,
Што думка ваша скіравана ў бок асветы!»

Пасля той сцэны дзіваў новая прычына:
Дажынкі аб'яўляюць, і з вянком дзяўчына.

Назначаная быць дажынкаў каралевай,
Пачаўшы ў роднай мове, прадаўжала спевам:

«Цешмася, ласкавы пане,
Што убраная ўжо ніва,
Вам і нам на год хай стане,
Спажывайце ж вы шчасліва!

Праца нас не затаміла,
Працавалі мы старанна,
Віншаваць нам пана міла,
Што ўжо з поля хлеб сабраны.

Наша праца, дабро ваша!
Ваша дабро — жыццё наша.
Бога славім мы навекі,
Што ўжо поўныя засекі.

Час дажынак — наша свята!
Сёл тваіх жанкі, дзяўчаты
Вось вянок мне далі мілы, —
Нашы душы ў ім і сілы!

А мне Бог дажыць даў шчасця
Вам вяночак гэты ўскласці.
Бог няхай вас захавае, —
Каралева вам жадае».

Як дзедзічу аддалі той вянок прыгожы,
Пайшлі ўсе госці ў танец, з кім і як хто зможа.
Мне выпала скакаць з дзяўчынай у вяночку,
І вось «Мяцеліцу» пайшлі мы па пясочку.
Па кожным станцаванні рух спыняла кола,
Навум-войт, бы ў «Ідылі»[1], запяваў вясёла.

І гэты баль сялянскі доўга зацягнуўся,
Завуць мяне ўсе братам, іх слугой завуся.
І ў тым давер'і я даведаўся пад спевы,
Што хлопец Домка ўпаў у сэрца каралевы,
Дык абяцаю ў пана за яе ўступіцца,
І ўсё павінна па яе жаданню збыцца.

[1] «Ідылія» — мая камедыя-опера, у якой я іграў калісьці ролю войта Навума Прыгаворкі; адтуль і мяне гэтым імем называюць.

А што было ў кахання іхняга аснове,
Раскажа вам дудар на іх сялянскай мове.

Калі ўсе застаёмся ў шчырым захапленні,
З'яўляецца суддзёва ў дамскім акружэнні.
Пытаю ў іншых, што пры ёй там за жанчына?
Алеся, кажуць мне, і больш — ніякім чынам!
А ўбачыўшы яе, адчуў я хваляванне,
Ды бачу, і яна ў мой бок штораз то гляне.
Знаёмства адбылося неяк непрыкметна,
Далей размова пачалася аб паэтах,
Пытае з кампліментамі аб сельскай працы,
Пасля мастацтвам польскім стала захапляцца, —
Якіх праслаўленых пісьменнікаў мы маем,
Што аж душа ад захаплення замірае,
Напрыклад, наш Крашэўскі, Штырмер, Каржанеўскі,
Сяменскі, Поль, Ржавускі, Адынец, Чайкоўскі —
Даўно яны валодаюць душой людскою!
Прарокі! Пёры іх не знаюць супакою!
Напрыклад, Сыракомля, майстар адмысловы,
Ледзь што ні месяц выпускае твор свой новы,
А што ў яго за мова! Стыль надзвычай мілы!
Не дзіва, што ліцвінкі хваляць з цэлай сілы.
Каб Полеў «Могарт» і Крашэўскага «Два светы»
Узяць ды Сыракомлевага «Дэмбарога»,
І то прызнаў бы свет, што гэтакіх паэтаў
У час цяперашні жыве не вельмі многа!

І дапаўняючы пачатую бяседу,
Сказаў і я, што ў гэтай справе ведаў:
«Апроч стваральнікаў «Марыі», «Валенрода»,
Якіх імёны будуць гонарам народа,
Мінаючы і творцу «Караля замчышча»,
Які не піша больш, хоць не стары йшчэ,
Мінаючы паэтаў тых, што паўміралі,
Вучоных тых, якія пра асвету дбалі,
Зрабіўшы пераскок, скажу: і пол прыгожы
Сваім мастацкім пісьменствам хваліцца можа.
Апроч Зяменцкай, Таньскай, Кракуў, Дэатымы,
Ільніцкая, Прушкова твораць для радзімы.
Высакародны іх намер, душа святая,
Не раз мудрэц з напрамку дум іх скарыстае.
І прастата іх лепшая, змест больш багаты,
Чым таленту, што шумны, але пуставаты.

Вось песні Ленартовіча і Плуга працы
Чытаючы, ніяк не можаш адарвацца!
Дык добра, што ўжо тых мінула перавага,
Якія думалі не так, пісалі блага». —

«Я ведаю, каго вы маеце на ўвазе,
Дух нашай прэсы адмяніўся ў пераваэе
На лепшы бок, станоўчы, і ў эпосе новай
Былое вяжа з будучым другой асновай.
Глыбей заглянулі ў салоны і у хаты,
Зрабіўся пераломным год пяцідзесяты —
Літаратура здабыла сабе павагу
І ў бок мастацтваў і навук схіліла ўвагу». —

«Але, заўважце, пані, перад годам гэтым
Лунала шмат вялікіх дум над нашым светам.
Цяпер, з упадкам тых, што плавалі ў хаосе,
Натхнёнае ўжо раздаецца шматгалоссе.
Чыёй заслугі больш, пазнаць належным чынам
Яшчэ цяпер, пакуль што, немагчыма.
Адкрыцца далягляды новыя павінны, —
Мы чуем галасы Літвы і Украіны.
Літаратурны погляд цалкам адмяніўся,
І шэраг новых зор у нас ужо з'явіўся:
Вандроўнік Трыплін і Вянярскі, і Дзяржкоўскі,
Пілят і Вольскі, і Апола Каржанеўскі,
А над усімі чалавек душы чароўнай,
Мінулага найлепшы знаўца, безумоўна, —
Качкоўскі Зыгмунт, талент надзвычайны, новы!
Ён так урыўся ў нашы сэрцы і галовы,
Што з погляду яго, са шчырых духа ўзбліскаў
Мы бачым: збаўчая святла хвіліна блізка». —
«А аўтар «Песняў нашых» ці сягоння піша?» —
«Ён, сцеснены з усіх бакоў, сядзіць у цішы,
Аднак, як скіне закідаў хоць палавіну,
Дакажа, што ягоны талент не загінуў».

* * *

Ды хопіць разбіраць літаратуры справы,
Не для навукі гавару, а для забавы;
Я невялікі эрудыт, у разважаннях
Мо часам маху даў? Ды варт той даравання,

Які сваю бяздарнасць прызнае адкрыта,
Бо што я адчуваў, пра тое й гаварыў тут.

Алеся, размаўляючы са мной так міла,
Мне позіркам гарачым розум памуціла,
Забыўся я пра кнігі, пісьменства, паэтаў,
А толькі пазіраў за ясных вочак светам.
О, бо й цудоўная ж была жанчына з твару!
З вачыма цёмнымі, напоўненымі жару,
З усмешкаю анёльскай, радаснай, прыгожай,
Якой мастак ніякі выразіць не зможа.
Дык і не дзіва, што прынады гэткай пані
І мова мілая ўмілялі гасцяванне.

Назаўтра ў Хацюхове тыя ж зноў забавы,
Усмешка тая ж, погляд гэтакі ж ласкавы,
І тая ж старапольскае гасціны цнота,
І за сталом да тостаў гэткая ж ахвота.
За гэта дар удзячнасці маёй натхнёнай
Такія з глыбіні душы паклікаў тоны:

«Калі гасціннасцю ў даўнейшым стылі
Не часта чалавек цяпер сагрэты,
Дык я знайшоў яе у поўнай сіле
У доме гэтай знатнае кабеты!
І міла ўспомніць лірнік после стомы
Аб тут праведзеным цудоўным часе
І міла думкай звернецца да дому,
Ў якім душа навечна засталася.
Ён тых хвілін ніколі не забудзе,
Іх памяць захавае назаўсёды,
Але з вас, пані, ці хто помніць будзе,
Як ён пакіне гэты край свабоды?»

Калі вярнуўся зноў я ў Шчаўры з Хацюхова,
Здзівіўся беларускай ветласці нанова:
Бяруць усе, што вёз я кнігі добрай воляй,
За сто ўплацілі экземпляраў, просяць болей.

Пара й дамоў вяртацца, хоць тут гэтак міла,
Не дзіва, — сэрца кожнае прыхільна біла,
Дык абнімаемся і падаем далоні
І брацтва наша пацвярджаем так сягоння:
Каб кожны з нас сялян не кінуў без нагляду
І за дазволам царскім, згодаю ураду

Выхоўваў наш народ у цнотах хрысціянскіх
І не скупіўся на патрэбы школ сялянскіх.
Расчуленыя ўсе пры тосце развітання,
Адказваю на іхні не без хвалявання:
«Расстаючыся з вамі, слёз не абяруся,
Хвала вам, землякі, чэсць нашай Беларусі!
Злучаю дружбай сэрцы нашы да скanання
І падымаю тост апошні — развітання!»

## Эпілог

Падзяка, беларусы, вам за тыя хвілі,
Калі вы к вашым сэрцам дудара тулілі.
За шчырасці, з якімі быў я ў вас прыняты,
Свае да вас пачуцці я ўтрымаю свята,
Іх захаваюць праўнукі мае і ўнукі,
Знаходзячы ў вас добры прыклад для навукі!
А за ўсе вашы добрыя ка мне учынкі,
Я прысвячаю вам «Шчароўскія дажынкі».

*Мінск, снежня 10 д. 1856 г.*

# Люцынка, альбо Шведы на Літве

*Гістарычнае апавяданне ў 4-х абразках*

*Яснаасвечанаму князю Стафану Любамірскаму, маршалку Магілёўскай губерні, у знак высокай павагі, гэты нязначны твор прысвячае*

Аўтар

Яснаасвечаны княжа!

Калі набыў я маленькі мой фальварчык Люцынку, пры аглядзе яго зацікавіла мяне перш за ўсё мясцовасць; — дзеля гэтага стараўся я ад старых людзей, якія здаўна тут жывуць, дапытацца, ці не мае яна якіх гістарычных паданняў — і амаль у адзін голас мне расказвалі, што тут менавіта знаходзіўся калісьці, у старажытныя часы, езуіцкі кляштар з храмам Божым і што ў час нашэсця шведаў, за Карлам XII, кляштар гэты разам з касцёламператвораны быў у груд друзу, а манахі былі замучаны адзіна за тое, што не хацелі паказаць месца, дзе імі былі схаваны касцельныя скарбы — і так тыя скарбы і да гэтага часу яшчэ знаходзяцца недзе ў зямлі.

Дужа шануючы ўсялякія гістарычныя паданні пра наш край, заахвоціўся я, можа, на бяду шаноўнага чытача, з паданняў гэтых саснаваць няздольным маім пяром наступную маленькую аповесць. А таму, што продкі князя сумленна і шчыра дабро краю рабілі, яму, менавіта як дастойнаму па ўсяе меры іхнаму наслядоўніку, адважваюся прысвяціць гэту слабую маю працу, тым болей што ў вандроўцы маёй па Белай Русі ў гасцінным маёнтку Шчаўраў шаноўнае кола гаспадароў аднагалосна паказала на Вашу Княжацкую Мосць, як на светлага знаўцу і аматара народных паданняў. Прыміце ж, пане, гэта прысвячэнне як належную даніну Вашым пахвалы вартым імкненням; а я стократна палічу сябе шчаслівым, калі яно не будзе адхілена Вашай Княжацкай Мосцю.

*В. М.*

## Пралог

Божа наш! Ты шыбнуў на зямлю чалавека,
І няшчасця бярэма і шчасця ад веку
Ты прызначыў яму, выганяючы з раю, —
Як жа ў смутак душы яго любасць да краю
Ты уліў? І чаму ён ля роднае нівы
Адчувае і вольным сябе і шчаслівым?
У Сібіры мароз табе дух зацінае,
Подых тропікаў смерцю табе пагражае,
А на Тыбр перакінь камчадальскія дзеці,
Жыць прымусь бедуіна на чужыне у свеце —
І пабачыш, што ў смутку па маці-радзіме
Іх усіх злая смерць неўзабаве абдыме.

Гарады-цуд у франкаў, рай-неба ў раманцаў,
Вір пачуццяў, каханне — ў краіне іспанцаў,
Вабіць вока Швейцарыя (праўда — хвіліну),
Паглядзіш!.. і міжвольна згадаеш айчыну.
Уздыхнеш, а на сэрцы так цяжка! Так сумна!
Ты ж чужы на іх свяце, дзе весела, шумна.
На чужыне так добра! Люд шчасны і дужы —
Апельсіны ён мае і топча ён ружы,
Цень даюць, прахалоду дрэў стромкіх галіны, —
Ды мілейшы парог мне старэнькай хаціны.
Незайздросная хата: дах — лата на лаце,
Ды затое свая, нібы родная маці.
Калі хмара жыцця далягляд захінае,
Дык хаціна ахвотна бадзягу прымае,
Боль душы супакоіць, утаймуе ў спачынку...
А зімой добра мары снаваць ля камінку.
Дзетак я ўзгадаваў пад страхою хаціны,
Тут цудоўныя часта я ведаў хвіліны.
Дом стаіць на пагорку — лес вокал, алешнік,
Сад за домам, а ў садзе — ігрушы, чарэшні.
З ганка ступіш і бачыш — лес воддаль, яліны...
Дзеліць лес напалам стужка сіняй Люцыны...
Невялічкая рэчка, ды рыбы ў ёй поўна,
А пры рэчцы — крыніца з вадою цудоўнай.
Злева, быццам дыван, луг стракаты квітнее,
А на лузе бярозка там-сям зелянее;
Яшчэ далей відаць двор вялікі магната,
А за гаем направа — старэнькая хата,
Дзе жыў бедны Даліва, шляхецкага роду,

Вось аб ім і расказ мой, што сам чуў змалоду, —
Раскажу і пра кляштар нашчадкаў Лаёлы;
Я ўладаю цяпер іх зямлёй з божай волі.

Калі з роздумам цяжкім я гляну ў прасторы,
Дзе калісь хвалу Богу спявалі ў кляшторы,
Дзе ў нябёсы ўздымаліся стромкія вежы,
Дзе вучэнне Хрыста ў навакольныя межы
Прасякала, жыло... калі ўбачу каменне,
Што святыні муры літавала ў скляпенне,
Калі часам ступня косці людскія рушыць
І памершага вечны спакой тым парушыць,
Калі вока цікаўнага гляне ў дно става,
Што манахам служыў для выгод і забаваў,
Дзе і карп залаты і чырвоны карасік, —
Патане думка нехаць ў дзівосным тым часе,
Калі злішак ва ўсім быў, жылося як трэба,
Ці не так! А цяпер — не хапае і хлеба.
Гэта пыха магнатаў, свавольства без краю
Вінаваты, што гром нас нябесны карае!!

## АБРАЗОК І

Век другі ўжо бытуе у нас без спадмана
Праўда-быль аб нашэсці ліхім Зюдэрмана.
Ля кляштору стаяў двор-маёнтак цудоўны,
Двор старосты-магната, што пыхі быў поўны;
Знакаміты шляхецкі быў род яго панскі,
Меў у гербе тапор, звацьStаніслаў Багданскі.

Як калісьці вялося даўней у магнатаў,
Меў заўсёды пашану да шляхціца-брата.
У двары яго моладзь прымалі так міла,
Пану моладзь удзячная шчыра служыла.
Дабрадзейны і мужны стары быў, багаты;
Пан — аддады людзям, не як сёння магнаты;
Не пра ўсіх я кажу, а пра тых, што, у злоце
Жывучы, мыюць душы свае у балоце.

Удавец быў, ад жонкі застаўся адзіны
Скарб — дачка. Хто з тутэйшых не ведаў Люцыны!
Так уразіць магла прыгажосцю наўкольных,
Што пяром апісаць я ўсё гэта не здольны.

Гнуткі стан яе кволы, такі чараўнічы!
Бы ў анёлачка тонкія рысы аблічча,
Вочы нібы блакіт, і у ім — бліскавіцы,
Іх агонь упрыгожвае панны зраніцы;
Вусны нібы каралі, як выбухнуць смехам
Ці як голас раскоціцца срэбраным рэхам,
Хай як лёд тваё сэрца, як камень нямее,
Усё роўна ў хвіліну яно ўспалымнее!
А ружовыя шчокі, што гэтак прынадны!
Алебастр яе рук, нібы точаных, ладных,
Лебядзіная шыя, дзіцячыя ножкі!
А бяскрыўдныя жарты, свавольныя трошкі!
Не, ніяк я не ў стане, бракуе мне сілы
Перадаць яе вобраз, прыгожы і мілы!

Ой, шчасліва вялося ў былыя часіны —
На Літве жыў народ, ды такі дабрачынны!
Край быў вольны, заможны — жылі, не ўздыхалі,
Праўда, нашы прабабкі кніг модных не знялі, —
Вера ў Бога была выхавання асновай,
Навучалі дзяцей сваіх Божаму слову,
Навучалі малітвы спяваць па кантычках,
Пра жыццё ўсіх святых пачытаць мелі звычку.
У дамах у заможных мусье і мадамы
Не вучылі дзяцей, каб чужымі вачамі
Паглядалі на свет, і нялюбасць да краю
Прышчапляць у той час шчэ не мелі звычаю;
І дзяўчаты не зналі Русо і Вальтэраў,
Не прымалі, як сёння, чужацкіх манераў
І французскае мовы таксама не зналі, —
Каханоўскага мову яны ужывалі.

Мова родная! — часам як лірнік наш слынны
Песню аб сінявокай літоўскай дзяўчыне
Распачне мілагучна... Ну, як не здзівіцца!
Як жа сэрцу ў грудзях нашых моцна не біцца!
Верш чытаеш — і быццам бы Рым гераічны
Паўстае у вачах, — люд да подзвігаў звычны,
Што змагаўся ў Кейстута часы і Ягелы
І што перамагаў. Быль даўно ўжо сатлела,
Косці іх спарахнелі ў зямлі, але з імі,
Верш чытаючы, стрэнешся нібы з жывымі.
Прыгадаеш іх справы — на сэрцы салодка,
Кроў бурліць, ажывае ў табе мужнасць продкаў.

Не мілей хіба нам наша родная мова,
Дзе падкрэслена слава народу праз слова?
Прыгажосці яе мы часамі не знаем
І таму чужаземную мову ўжываем.

Гэтак наша Люцынка у доме старосты
На бацькоўскую ўцеху жыла сабе проста:
Паслухмянасць, страх божы, да працы ахвота,
Гаспадарчыя справы... заўсёды работа.
Днём, бывала, маёвым з зарой яна ўстане,
Калі першы прамень у акенца загляне,
Ледзьве з ложка, а ўжо клапатліва гукае —
На малітву дамовую чэлядзь склікае.
А пасля «з добрым раннем» да бацькі мкне жыва,
Загадае падаць яму подліўку, піва,
Каб старэнькаму бацьку прыдаць болей сілы,
А тых зёлак кітайскіх, што ў час наш так мілы,
Ды турэцкага зерня тады і не зналі,
Хоць бацькі басурманаў у бойках знішчалі.

Пан староста ахвотна за ежу сядае,
А яна срэбным голасам распачынае
Пра сваю гаспадарку: дзе, колькі на грады
Зноў паспее гароху, пасадзіць расады; —
А то раптам падласціцца, вочкі узносіць
І пяшчотным сваім галаском чула просіць,
Каб буланку на спацыр дазволіў запрэгчы;
І стары пабурчыць для пачатку, пакрэкча
І дазволіць, бо як ёй, дачцэ, не дазволіць,
Калі так падступае лагодна і моліць?

Атрымаўшы дазвол ад старога, дзяўчына
З тварам, светлым ад радасці, тою ж хвілінай
Са шчасліваю песняй бяжыць да стадолы
Паглядзець, ці дагледжана добра жывёла?
Ці выконваюць бацькаў загад там дакладна?
Потым ёй сваё птаства адведаць прынадна,
Памятаючы мудрасць, што кожны з нас знае:
«Конь ад панскага вока сыцейшым бывае».
Хоць староста багата адданых слуг мае, —
Тут яна ўсім кіруе і ўладу трымае.
Павяртае дадому, і там, каля ганка,
Сустракае Люцынку ірзаннем буланка.
А пры ёй і канюшы, шляхетны Даліва,
Той, што волю паненкі выконваў імкліва.

Божа мой ўсёмагутны! Падумаць не можна,
Што мінуў ужо час, калі яснавяльможны
Пан заўжды бацькам быў сваёй чэлядзі дворнай
(Але й чэлядзь была свайму пану пакорнай),
Што жылі яны так, ва ўзаемнай пашане,
Што за пана прымалі і смерць без вагання.
Несумленных, няўдзячных было небагата,
Была славай для чэлядзі ласка магната.
А слуга, што служыў свайму пану пачціва,
Меў пад старасць куток і кавалачак нівы.

Наш старэнькі Даліва, хаця ў яго скроні
Сівізны белым снегам абсыпаны сёння,
Хоць меў шрам не адзін за інтэрас магната,
Хоць яго надзяліў пан пад старасць багата
За сумленнае службы гады ўзнагародай, —
Ды трымаючыся старасвецкае моды,
Ён, Даліва, хацеў век дажыць свой у пана
У двары, дзе служыў яму верна, аддана.
На зямліцы ж клінок, панам падараваны,
Жонку ён пасадзіў — сын у школу аддадзены,
Наязджаў да сям'і для парад для руплівых;
А ў двары падганяў гультаёў і санлівых.

А тым часам дзяўчо на буланку сядае,
У кабаціку зграбным, што стан аздабляе;
Села, коніка гоніць — гайда ў лес далёкі;
А шаноўны Даліва — за ёю ўслед крокам.
Дала шпоры каню і імчыцца свавольна,
Даганяе Даліва, крычыць ёй: «Павольна!»

Вось аднойчы, калі ўжо шмат вёрстаў згайсалі,
Ля сядзібы Далівы на момант прысталі,
І стары, пажадаўшы зайсці у хаціну,
Адпачыць тут паненцы параіў хвіліну.
Запрашае зайсці, малака выпіць шклянку,
А тым часам накормяць, напояць буланку.
А як рады ёй будуць! Сказаць немагчыма!
Пагадзілася быццам, ды вецер-дзяўчына,
Ў галаве яе сёння іначшыя планы,
Срэбным голасам кажа: «Даліва каханы!
Ты зайдзі сабе ў дом, я ж пад ліпай пабуду
І ў цянёчку яе разважаць-думаць буду!»

Ён не пэвен, як быць, паглядае пахіла,
А яна супакойвае ласкава, міла,
Быць слухмянай, разумнай яму абяцае
І старога наведаць свой дом прымушае.

Ледзь пазбылася толькі апекі старога,
Як адразу ж сабралася хутка ў дарогу, —
Яна план свой выконвае ў хвілю, з запалам,
Шпоры ў бок — паімчалася ўперад учвалам.

Бедуін на кані, што да бегу прывычны,
Не імчыцца так хутка ў стэпах за здабычай,
Ды і сокал на чаплю не так хутка рыне,
Як з вятрамі у спрэчках імчыцца Люцына.
Ледзь да лесу дапала, след далей ўжо значыць
І кляшторныя вежы здалёку ўжо бачыць.

Ад ляснога гушчару ляціць ашалелы
Воўк раз'юшаны; конь задрыжэў анямелы.
Бліскавіцам падобныя воўчыя вочы,
На дзяўчыну ашчэрыўся, вось зараз скочыць.

Задрыжэў добры конь, заірзаў у трывозе,
Скочыў раптам убок і ўжо не па дарозе —
Куды вочы — уперад імчыцца стралою.
І дарэмна дзяўчо анямелай рукою
Напінае паводдзе і плача, і кліча...
Ледзь жывая ад страху, збялела аблічча,
Пот халодны — цурком, засцілае мрок вочы,
І змярцвела, калі конь нарэшце прыскочыў
Да ўзбярэжжа успененай рэчкі Люцыны.
Мусіць, смерць пакарае свавольства дзяўчыны!
Але дужай рукою зусім нечакана
Быў на беразе стромкім скакун сутрыманы.
То прыгожы юнак, тып сапраўдны літвіна —
Сакаліны пагляд і сабой малайчына —
Грудзі мужныя, моцныя, воласам русы,
Пурпуровыя вусны, над вуснамі вусы
Лёгкім пухам адзначаны, сінія вочы,
Як нябёсы вясной, а пагляд іх — дзявочы,
Рукі дужыя... дужасцю рук тых ягоных
І стрыманы скакун быў у лёце шалёным.
Ён дзяўчыну кладзе на траву асцярожна
І адзнакаў жыцця ў ёй шукае трывожна.

А пасля да ракі ў лёт кідаецца хлопец.
І, прынёсшы вады, ён чало яе кропіць.
Нават маці не болей дзіцёнку аддана,
Як юнак той дзяўчаці, ім уратаванай.

І расплюшчыла хутка павекі дзяўчына
І навокал глядзіць у здзіўленні. Успаміны —
Нібы рой мітуслівы. Здарэнне... няшчасце...
Але выратаванне ёй праўды не засціць:
Як жа блізка ад жарцікаў да небяспекі?
І сябе пакарала б і бацьку навекі.
Вочы засціць сляза. На хлапца пазірае,
Да збавіцеля рукі свае прасцірае,
Каб пацiснуць далонь, што бяду адхiлiла
Ад яе галавы. Цудадзейная сіла
У паглядзе і ў поціску рук захавана —
Хлопец нема стаіць, нібы зачараваны:
Першы раз яго сэрца так моцна забіла,
Першы раз пачуццё аб сабе заявіла
Незнаёмае. Водбліскам кволым, чырвоным
Пачуццё на абліччы ірдзела ягоным.
І юнак, што без страху мог з ворагам біцца,
Перад слабай дзяўчынкаю мусіў скарыцца.

І свавольніца ў момант адзін разгадала,
Што юначай душою яна заўладала,
Што любуецца ён яе анельскім тварам;
Хоць ёй сорамна, хоць палымнее пажарам,
Хоць вышэй і вышэй уздымаюцца грудзі,
Пачуццё юнака яна ўсё-такі будзіць
Кволым смехам, вачмі... вочы дзеўчына мружыць —
Штохвіліну мацней галаву яму кружыць.

«Дык каму ж я жыццём вінавата? — пытае. —
Як жа бацька мой шчыра яго прывітае,
Ратавальніка любай дачушкі адзінай,
Што прыйшоў з дапамогаю светлай хвілінай;
Каб не ён, смерць даўно б ніць жыцця абарвала,
А ці ж лёгка памерці, як жыў гэтак мала?
Не адмовіцца пан сёння ў дом наш заехаць?
Мне і бацьку было б гэта радасцю, ўцехай».

Тут дзяўчыне юнак адказаў з захапленнем:
«І жыццё я аддаў бы у гэта імгненне

За адзіны твой позірк. Не трэба падзякі,
Што зрабіў я сягоння, зрабіў бы і ўсякі;
Сорам мне, чырванею, якая патрэба
Гэтак дзякаваць? Крыўдна мне нават, не трэба...»

Як бы далей быць іхняй размове і справе,
Я не ведаю, але прыбег неўзабаве
Наш шаноўны Даліва; пот з твару сцякае,
Ён здалёку у роспачы нема гукае;
За канём бег услед у шалёнай пагоні,
Праляцеў як страла па люцынскім загоне
І да берага рэчкі дапаў, спалатнелы,
У здзіўленні спыніўся, нібы анямелы.
Бачыць тут сваю ўтрату. У стане спакойным
З юнаком размаўляе дародным, прыстойным.
І не ў стане сабраць свае думкі, сурова
Да хлапца ён звяртаецца, хмурачы бровы:

«Ну, а што ж ты, васпане, тут робіш на хвілі?
А ці гэткай маралі айцы вас вучылі?
Як! Я думаў, сядзіць над лацінай ды вучыць
Ці з айцом мой васпане рыторыку мучыць,
А ён тут ля паненкі час бавіць, нябога;
Не дастаць, сысунок, табе гэтых парогаў,
Не на тое айцам даў я сына ў навукі,
Каб ён там вывучаў непатрэбныя штукі».

Смех дзяўчыны спыняе папрокі старога,
І праз смех той бянтэжыцца хлопец-нябога, —
Але, долу упяўшы свой зрок сарамлівы
І далонь пацiскаючы моцна Далівы,
Пра здарэнне няшчаснае апавядае
І учынак хлапца да нябёс выхваляе.

Пасвятлела чало у старога Далівы,
Слёзы шчасця сплываюць на вус яго сівы, —
Вочы ўзняўшы ўгару, памаўчаўшы хвіліну,
Ён, расчулены, квола гаворыць да сына:
«Мусіць, чула малітву бацькоўскую неба,
Што ў хвіліну, калі ў абароне патрэба
Тут была, прывяло яно сына для тога,
Каб зняславу і ганьбу зняць з бацькі старога.
Бо мяне аж да смерці б сумленне карала,
Што даручаны скарб пільнаваў так нядбала.

Пад шчаслівай, відаць, нарадзіўся ты зоркай,
Калі бацьку адвёў ад нядолі ад горкай».

Тут, расчулены моцна, ён змоўк на хвіліну,
Да грудзей сваіх кволых прыціснуўшы сына.
Схамянуўся, згадаў ён дзяўчыне руплівa,
Што дзесь бацька чакае яе нецярпліва.
І хлапцу падарыўшы пагляд палымяны,
Дзяўчо едзе ў задуме дамоў паслухмяна.

## АБРАЗОК II

На дзядзінцы ў старосты рух і гоман жвавы!
Так здаўна тут вялося: дзе моладзь — забавы.
Малайцы пруць сцяной — шэраг валіць на шэраг,
Тут ляцяць іскры з меча, а тут — свіст сякеры,
Вось адна і другая за ёй — праляцелі
І, глядзі, ўжо тырчаць у сярэдзіне цэлі.
Там імчацца на конях, аж ззяюць падковы,
І, як макаўкі, сыплюцца доле галовы
З балваноў басурманскіх пад шабляю лоўкай,
Тут спрабуюць ружжо, там заняты вінтоўкай.
І ўсё робіцца спрытна, і лёгка даецца.
Калі ж хто да праціўніка моцна дакнецца,
Наракаць і не важся дый твару не зморшчы,
Бо «няўклюга» мянушку дадуць або горш шчэ.
Юнакам на карысць пойдзе гэта забава.
Моц краіны у ёй і народная слава.

Як жа моладзь сягоння час бавіць? Для ласкі
Мне скажыце, якія ў яе абавязкі?
Скрозь у модзе вялікай цяпер прэферансы,
Толькі й чуеш скрозь — злосныя плёткі, рамансы;
Ці юнак на кані сёння ў полі гайсае?
Шабля ў доме ўжо цуд, хто яе прыпасае?
Ці ж падойдзе яна, ну хоць, скажам, да фрака?
Не, то тых, хто кунтуш носіць, шабля адзнака.

Слугі з дому на ганак прынеслі тапчанік,
Сеў староста на ім у багатым убранні.
Кожны доказ адвагі страчае зычліва —
Вус пакруціць сівы і ўсміхнецца шчасліва.
Хто ж няздольнасць, нязграбнасць пакажа тут часам.

З нешчасліўца смяецца ён з іншымі разам.
І сардэчнасць і праўда ў старога на твары,
Не ляжыць на ім цень думы — чорнае хмары.
Нібы ў чыстай вадзе, на ім адлюстравана
Да самога сябе і да іншых пашана.

Побач бацькі сядзіць і ўздыхае Люцына.
Задуменная сёння чамусьці дзяўчына!
Ані рыцараў гульні, ні смех сярод шуму
Не зганяюць з чала яе цяжкую думу.
Часта кідае позірк за цёмныя межы
Стужкі лесу, туды, дзе касцельныя вежы,
Нібы сонца праменні, з-за хмары святлеюць;
Зноў зірнула, і вочы яе весялеюць,

Хвалявання румянец шчаку яе значыць,
І нібы расцвітае — двух рыцараў бачыць,
Што сцяжынаю вузкаю едуць па гонях
І кіруюць у двор іх на ўзмыленых конях.
Вось ужо каля брамы... даехалі, годзе.
Вось да срэбнага кольца мацуюць паводдзе...
А пасля, свой убор апраўляючы просты,
Прывітацца з пашанай ідуць да старосты.

Малады — сын Далівы, нам малавядомы,
А стары — сам Даліва, наш добры знаёмы!
Ён з пашанай магнатаву выканаў волю
І прывёз сюды сына, каб даць яму долю!

«Шчыра дзякуй, юнак, што ўзяць маеш ахвоту
У двары маім бацькаву службу-работу.
Больш паўвеку стары пад маёю рукою
Працаваў і цяпер пажадаў супакою.
Быў ён прыяцель мне ў злой і добрае долі,
Не адну лыжку супу з ім з'елі, груд солі
Не адзін спажылі мы ў ваенных паходах
Адчувалі не раз на сабе смерці подых.
Ўратаваў ты дзіцятка маё дарагое,
Так і ён выратоўваў мяне ў часе бою.
Дык каму ж паспрыяю цяпер, калі надта
Засталося гадзін мне жыцця небагата?
Хто ж заменіць яго, калі гэта мажліва?
Сын заменіць яго, сын старога Далівы».

Так сумленнае сэрца старосты казала,
А на твары па зморшчках слязіна спаўзала,
Наш Даліва з тых слоў у цяжкім утрапенні
Перад панам у плачы згінае калені.
На дзяўчо ж каб хто кінуў пагляд раптам быстры, —
У вачах яе, пэўна, пабачыў бы іскры,
Пачуццё яе грудзі высока ўздымала,
У душы яе бура, відаць, бушавала.

Выцер слёзы староста, няўзнакі вядома,
З кола слуг кліча ён да сябе мажардома:
«Гэй! Прашу, пан Анзгары, сюды на хвіліну!
Непрыемную маю сказаць я навіну:
Зажадаў наш Даліва стары адпачынку,
Хоча век свой дажыць ён пры цёплым камінку,
Каля Ганны сваёй, бач, утулку шукае —
Доўгі час з гэтай справаю мне дакучае,
Паляжаць, бачыш, хоча ва ўласным бярлогу
Да маліцца і псалмы спяваць Пану Богу.
Аднак ён пра дабро маё дбае рупліва —
Сына замест сябе прапануе Даліва.
Хай жа стайня, а разам і ўсе мае цугі
Пад апекаю будуць яго. Мае ж слугі
Хай таварыша ў ім свайго добрага маюць,
Хай, як бацьку калісьці, яго паважаюць;
Бо ён варт таго, хлопец. Усім вам вядомы
Дабрародны і рыцарскі ўчынак ягоны». —

«Ваша воля, вяльможны, як пан сабе зыча,
Толькі з даўніх часоў, пане, ёсць у нас звычай,
Калі новенькі хоча служыць разам з намі,
Хай экзамен здае перад таварышамі.
А ці шабляй дакладна валодаць умее?
Ці каня даглядаць як належыць здалее?
А ці трапна б'е ў цэль...» —

«А чаму ж? Гэта — можна.
Па крыві ж ён — Даліва, мой пане вяльможны!
Сам вучыў сына рыцарскай справе я дбайна;
Хай вядуць гайдукі зараз з панскае стайні
Скакуна, што калісь ад татарына Гана
Прывялі ў падарунак для яснага пана.
Дзікі ён, выхаванец пустыні свавольны,
І ніхто на ім ездзіць дагэтуль не здольны.

Хай жа сын таго звера нам зробіць рахманым,
Каб не быў бескарысным адгэтуль для пана!»

Пан згадзіўся, ударыў Даліва ў далоні,
І хлапцы-гайдукі, што выходжваюць коні,
Скакуна перад ганак выводзяць. Ён быстры
І раз'ятраны — звер! — з-пад капыт яго — іскры;
Ён, разгневаны, косіць шалёнае вока,
Ён жалеза грызе, пыршча пенай навокал.

А юнак жа гарыць... неўгамонны, рухавы,
Кунтуша ён на плечы закінуў рукавы,
Срэбны пояс свой сціснуў, стаіць, пазірае,
Перад панам схіліўся — і ўжо ля каня ён!
Яго сэрца нібыта чагосьці чакала,
І юначае сэрца раптоўна зайграла,
Калі стрэў яе позірк. Юначая кемнасць
Адгадала у ім пачуцця узаемнасць.
І заззялі умомант арліныя вочы.
Не даткнуўшыся стрэмя, ў сядло ён ускочыў.

Сын пустыні здзівіўся: яздок быў гарэза.
Конь хацеў, каб як цугляў разгрызці жалеза.
Міг які, і здавалася, коннік наш бразне,
Як цяжар кайданоў з ног закутага вязня.
Выпінаецца конь, то стаіць як урыты,
А юнак нерухома сядзіць, нібы ўліты,
Толькі канфедэратку часамі паправіць
Ды трымае паводдзе, аж пена крывавіць.

Зразумеўшы, што конніку рады не дасць ён,
Конь апошні фартэль свой спрабуе на шчасце:
Колькі сілы ў ім ёсць, да зямлі прысядае
І за браму, як з лука страла, вылятае.

Сполах сціснуў ёй грудзі, пагляд анямелы,
Пакаціліся слёзы на твар пабялелы;
Усміхнуцца б і рада са шчырай надзеяй,
Ды пакута на вуснах яе халадзее.
І не толькі яна, ўсё наўкол анямела,
Грамада паглядае за браму нясмела.
Цішыня скрозь пануе, нібы ў дамавіне,
Хіба часам Даліва слоў некалькі кіне —
У халодных вачах веры ў сына багата, —
Пасміхаецца ў вусы крадком, хітравата.

Чвэрць гадзіны мінула, і ўбачылі — быццам
Воддаль шэрае воблака пылу курыцца.
На кані ў белым мыле юнак наш шыбуе
І да ганка рахманага звера кіруе.
Ля дзяўчыны спыніўся, схіліўся нясмела,
І агульнае — брава! — наўкол загрымела.
А якая ж вясёласць на тварах заззяла,
Калі ён праімчаўся дзядзінцам удала
І калі на скаку стрэліў трапна па цэлі —
Крыкі, воплескаў гром, нібы ўсе ашалелі.

Стан дзявочай душы перадаць вам дакладна
Не бяруся, бо кожнаму будзе прынадна
Адгадаць: як, чаму і з якое прычыны
Чырвань шчок, звонкі голас і смех у дзяўчыны?
Калі ж бацька яе раптам хлопца паклікаў
І абняў юнака ў знак пашаны вялікай
І сказаў, як ён рады, без меж і без краю,
Што двор рыцара гэткага добрага мае, —
Дык яна, калі б гэта было толькі можна,
Пачуццё б спавядала сваё перад кожным.

Але вось мажардом падыходзіць да пана,
Б'е паклон і гаворыць для ўсіх нечакана:
«Добры рыцар, дапраўды, але ж можа стацца,
Што не ўсе яшчэ ведае кшталты мастацтва!
Ці валодае шабляй? Хай спробай астатняй
Давядзе, ваша мосць. Хай з далонню ён братняй
І скрыжуе лязо. Дык няхай прыракае
І каго лічыць вартым — на бой выклікае». —

«Добра, згода, няхай так і будзе, мой пане,
Не баіцца Далівы кроў выпрабавання.
Паканаць можа ўсё ён, ды сам абяру я
Супрацінаўніка сыну, няхай пан даруе,
Можа біцца з любым ён байцом самым шчырым,
Хоць бы з ротмістрам, панам маім Казімірам».

Але трэба вам знаць таго ротмістра Шчуку —
Быў рубака ой-ёй! Фехтавання навуку
Гэтак ведаў, як ведаем пацеры ўсе мы.
Ён трымаў першынство ў коле шляхты на сеймах,
Землякі — хто шануе, хто зайздрасць затоіць,
А як з ворагам б'ецца — ніхто з іх не ўстоіць.

Гартаваную шаблю яго добра знялі,
Шаблю ворагі нават касою празвалі.
Ой, пасек тою шабляй татараў паганых!
Ой, дрыжэлі ад бляску яе басурманы!
Ледзь махне ротмістр шабляй, глядзіш — вораг гіне
Або з поля, як статак спалоханы, рыне.

Вось з натоўпу пан Шчука ідзе задумёны,
З хлапчуком нейкім біцца — не ў гонар ягоны.
Зухаватасць хлапца яго вельмі здзіўляе,
Ён за дзёрзкасць узорна яго пакарае.
«Да ста бомбаў, гранатаў, ты малакасосе!
Сцеражыся, бо ўраз атрымаеш па носе!
Ты занадта разумны, занадта ўжо смелы,
Будзеш ведаць, што значыць баец пасівелы!» —

«А хіба я на шаблі сам выклікаў пана? —
Адказаў хлопец ротмістру усхвалявана. —
Дзіва мне, што пан ротмістр такі нестрыманы;
То быў бацькаў загад, а я бацьку слухмяны!
Пахвальбу добры рыцар заўсёды мінае,
Я да бою гатовы, хай пан пачынае».

І абодва байцы у запале тым часам,
Не чакаючы болей, сышліся сам-насам.
Першы біўся за гонар — праціўнік ёсць вораг,
Юнака ён наважыўся сцерці на порах.
Другі мужным хацеў быць, згадаўшы каханне,
Веру бацькі старога, яго спадзяванне.
Гледачы не ў сабе — бой зацяты, бядовы,
Ашалелі байцы, аж курацца галовы.

Бачыць ротмістр: не лёгкаю будзе расправа
І яго праз гады ўсім вядомая слава
Пацямнее, пагасне і будзе ў загане —
Ашалелы, падвойвае ён намаганне.
Бачна ўсім, то не жарт — бой сапраўдны, імклівы.
А дзяўчо непрытомна глядзіць, палахліва.

Што там Гектара бойка са слаўным Ахілам,
Нават слава Баярда здалася б пахілай,
Сам здзівіўся б Завіша, ўлюбёнец палякаў,
Каб пабачыў удары зацятых ваякаў!

Бачыць ротмістр, што хлопец удары вяртае
Удвая, і шаленства яго агартае.
Сілы ўсе ён сабраў... Люд застыг — заўважае,
Што смяртэльны удар юнаку пагражае,
Але той адбівае удар небяспечны —
Ані кроку назад, стаў як дуб векавечны.
За праціўнікам сочыць арлінае вока,
У намеры яго прасякае глыбока;
Адбіваецца, зручнай чакае хвіліны,
Каб з праціўнікам скончыць ударам адзіным;
Нерухома стаіць, як літы, ў абароне.
Раптам выбіў ён зброю з жалезнай далоні...

Нават Храбрага колісь не так сустракалі
І Баторыя з чэсцю такой не віталі,
Як калонай прыйшлі баявыя атрады
Да сябе на радзіму, не так былі рады
Славе колісь, раней атрыманай пад Венай, —
Як віталі хлапца з перамогай адменнай.
Ўсе пацiснуць руку пераможцы жадалі,
Са здзіўленнем на шаблю яго паглядалі;
Нават ротмістр, як мужным належыць заўсёды,
Захаваўшы свой смутак, прыходзіць да згоды,
Разам з іншымі чэсць аддае і шануе,
Мір і вечную дружбу сваю прапануе.

«Малады яшчэ рыцар, ды выйшаў у людзі!
Хай жа дзень гэты добрым нам прыкладам будзе,
Хай жыве ў нашай памяці згодай і ладам.
Я складаю з сябе кіраўніцтва атрадам,
Юнаку саступаю, ён мужны і ўпарты,
Хай бярэ маю ўладу, бо ён таго варты».

Пана Шчуку сардэчна юнак абдымае,
Яго твар сарамліва зарою палае,
Звонкім голасам кажа: «Благая парада!
Не адважуся я... Ён начальнік атрада,
З ім памерці гатоў, калі будзе патрэба,
А мая перамога... — бяру ў сведкі неба —
Толькі просты выпадак, не рук маіх справа,
Хоць за гэта скажу Богу дзякуй ласкава».

Покуль спрэчка лагодна і міла трывае,
Іх абодвух староста к сабе падклікае.

Суд яго быў разумны, кароткі і правы:
«Пане ротмістр, паколькі ты ў бойках крывавых
Даказаў нашым ворагам моц тваёй сталі,
На чале нашых воінаў будзь сабе й далей.
А юнак хай за мужнасць сваю і трывогі
З тваіх рук атрымае штандар перамогі».

Пачуццём авалодаць не маючы сілы,
Узнімае дзяўчо голас звонкі і мілы
І, спыняючы бацькі старога прамову,
Пачынае нізаць свае ўласныя словы:

«Калі я за жыццё табе дзякуй казала,
Я тады ўжо павагу ў душы захавала;
Але сёння я бачу цябе наймужнейшым,
Пераможцам таго, хто быў самым дужэйшым;
Дык прымі ад мяне прывітанне малое,
Хай шчаслівая зорка кіруе табою,
Узнімай сваю зброю ў чэсць роднага краю,
А слабыя ў табе абарону хай маюць,
Тваю сілу хай вораг у бойках адчуе, —
Каб ты быў маім рыцарам верным, хачу я.
Як апісана гэта ў старых кнігах шчыра,
Калі рыцар са славай выходзіць з турніра,
Падарунак цудоўны заўсёды прымае
З рук сваёй каралевы; няхай ажывае
Старажытны абрад, — дык, будзь ласкаў, прымі ты
Падарунак мой бедны, ён не самавіты,
Але не пагарджай, я хачу, каб дар гэты —
Знак пашаны маёй, меў заўжды пры сабе ты!»

Рад шчаслівы юнак, ён калені згінае,
А дзяўчына ласкава яго ахінае
Падарункам сваім, шарфам, золатам тканым,
Дзіўных колераў светлых, мяккім, не каляным.
Ён — як думкі яе і як позірк дзявочы.
Задуменнымі сталі староставы вочы.

## АБРАЗОК III

Шмат сышлося гасцей да старосты ў пакоі.
Разважаюць і шэпчуцца ўсе ў неспакоі:
Зюдэрман з сілай войска на польскай зямліцы!

Скрозь прарочаць краіне бяду, навальніцы.
Радзяць, судзяць вяльможныя — спрэчкі не ў меру, —
Як ім лепш бараніць і дзяржаву, і веру.

Тут былі і такія, што гетману, пану
Казіміру Сапегу служылі аддана.
Інтарэсы агульныя іх з ім скруцілі,
Ганарыстаму пану яны прысвяцілі
Гонар свой, да радзімы любоў і сумленне.
І такія былі, што худыя кішэні
Той гадзінай цяжкою напоўніць жадалі
І шчадрэйшым магнатам сябе прадавалі.
І тады, як цяпер, ганарыстасці сіла
Нешчаслівы наш край марнавала, губіла.

І саноўнае панства, паводле закону,
Адбывае нараду de publico bono; —
Кожны пан сваю думку давесці імкнецца,
А венгерскае хмельнай ракою ліецца, —
Нашы прадзеды самаважнейшыя справы
Вырашалі за кубкам, у часе забавы.

Вось стары падкаморы ў багатым убранні
(У цудоўным кунтушы, атласным жупане,
Пояс — дзіва, шырокі, ўвесь золатам тканы,
На нагах ззяюць жоўтыя боты з саф'яну,
Похва шаблі, эфес — дар мастацтва багаты,
Голаў зграбна падголены, вус сіваваты)
Пачынае паседжанне зграбнай прамовай:
«Дарагія браты мае, ясны панове!
Строга Бог племя ляхаў сягоння карае,
Доўгі час стогне наша зямля дарагая,
Зюдэрман гаспадарыць на ёй і лютуе,
Паліць, нішчыць і люд абдзірае, рабуе.
Вольны люд пазбаўляе адвечнага права,
Пнецца новага даць караля Станіслава.
Што ж, Ляшчынскі паляк неблагі, я не схлушу,
Пан выдатны, шаноўны, сказаць гэта мушу,
Ды прысягу ламаць грэх вялікі, не гожа,
Бо законны кароль — ёсць памазанік божы.
Я вам раю трымацца прысягі і трону
І ўзнімацца усім на яго абарону». —

«Не, васпан, не дазволю і слова бяру я!
Не благое, о не, падкаморым кіруе,

Ён шануе айчыну, ёй служыць аддана, —
Гэта можа засведчыць, што ім тут казана, —
Але хай мне вяльможны на гэтым прабачыць —
Суд яго памылковы, магу растлумачыць.
Як кароль Ян наш слаўны спачыў у божым лоне,
Пасадзіў лёс Аўгуста Другога на троне.
Як за Янам было ў нас? Ці нашы свабоды
Тады не паважалі чужыя народы?
Польшча, Русь і Літва, шчырай дружбай з'ядналы,
Ці ж не сталі грудзьмі, ці ж не білі паганых,
А нашэсце Ксенжыца хіба не спынілі?
Хрысціянства крывёй сваёй не баранілі?
А цяпер — страх падумаць! Як Сас тут пануе,
Хто з народаў чужых нас баіцца, шануе?
Былі дужымі мы, а цяпер мы — як лісце!
Не, не гэтак было ў нас за Янам калісьці!
Чужаніца зямлю нашу не дратавала,
Каралеўская чэлядзь праў не адбірала.
Свой кароль быў — сваім даваў узнагароду
І не ўводзіў звычаяў чужога народу,
Бо і моды чужыя і звычкі — нам шкодзяць
І дзяржаву, айчыну да ўпадку прыводзяць.
Не, кароль з землякоў нас пазбавіць нядолі
І чужынцам у нас панаваць не дазволіць,
Будзе бацькам нам родным ён, а не айчымам, —
Хай жыве Станіслаў, хай мацнее айчына!» —
Так даводзіў падчашы... крануў вус паловы
І да дна кубак выпіў, сцвярджаючы словы.

Гаспадар, гэта ўчуўшы, свой голас узносіць,
І, абураны, ўзрушаны, слова ён просіць;
Атрымаўшы ж яго, да паноў апелюе:
«Што ж край траціць, як Сас сёння намі кіруе?
Не кароль-чужаземец вядзе край да згубы,
А пыхлівая шляхта, паны-самалюбы.
Кожны шляхціц-магнат зневажае законы,
Бо сябе лічыць вартым жазла і кароны, —
І таму столькі партый, бязладдзе ўзрастае,
А кароль без улады, ён сілы не мае.
І зямляк наш, Ян Трэці, любімы бясконца —
Злая кара паганцаў, хрысціян абаронца,
Што зрабіў шмат дабра для народу, айчыны, —
Ці ж не меў наракаць на няўдзячнасць прычыны?
Не, з сваіх караля, хоць найлепей спрыяе,

Хоць за край свой аддаць ён жыццё пажадае, —
Шляхта пыхай сваёй усё роўна зганьбуе,
Скажуць так: чаму ён, а не я, каралюе?
Тут пытанне дзяржавы, не ўласнага густу.
Каралю аддаю перавагу, Аўгусту!»

Так размовы вяліся на спрэчнай аснове,
І адны, за Ляшчынскага п'ючы здароўе,
А другія, за Саса ўздымаючы чарку,
Пачыналі бясконцую лаянку, сварку.
Калі ж кроў закіпала ад частых віватаў,
Спрэчку зброяй рашалі — ішлі брат на брата;
Гэтак шумна і тлумна рабілася ў залі,
Нібы дзе на вайне мечам лёс вырашалі.

Вось узняўся манах, паслядоўнік Лаёлы,
Хоча ўсцішыць іх кроў, устрымаць ад сваволі,
Хрысціць лоб, падымае руку, пачынае —
Яго голас, як водгулле грому, лунае:
«Божа мой! Дзе знаходжуся? Між басурманаў,
А ці то ў грамадзе хрысціянскіх васпанаў?
То такая нарада de publico bono?
Гэтак хочацца збавіць наш край утрапёны?
Кожны думае тут: я адзін толькі правы!
Зюдэрман жа працягвае страшныя справы,
Парушае спакой, раздзьмухае пажары,
У сялянскай хаціне разбэшчана шнарыць;
І ніхто з вас праз спрэчкі не чуе, не бачыць,
Што маленькія сіраты ў час гэты плачуць,
Клічуць вас, каб адпомсціць за бацьку і маці,
Каб у ворага выдзерці тое багацце,
Што цяжкой доўгай працай здавён здабывана,
А цяпер хцівым ворагам парабавана!
Каралю вы законнаму хочаце здрадзіць
І другога, па густу, на троне уладзіць;
Хто даў права такое — парушыць прысягу!
Ганарыстасці тым не ўтаймуеце смагу!
На шляху здрады хіба вам Бог дапаможа?
Заблудзіліся вы, ідучы ў бездарожжа!
Той, хто верыць у Карла, асекчыся можа —
У яго небяспечны праціўнік. Ён зможа!
Як, нарэшце, Аўгуст разаб'е Зюдэрмана,
Вы з якімі вачыма сустрэнеце пана?
Той, хто сёння яшчэ не адыдзе ад здрады,

Заўтра літасці будзе прасіць і спагады.
Хто не страціў сумлення, не будзе вагацца:
Да канца за Аўгуста належыць змагацца!
Сам я за караля пастаяць майго рады
І такія, панове, вам даў бы парады:
Каб, пакінуўшы сварку, ўсе сілы з'ядналі,
Каб наш кляштар гарматамі мы ўмацавалі
І, людзей назбіраўшы і зброі багата,
Пад апекай Марыі, аховай гарматаў,
Чужаніцам, што паляць і нішчаць айчыну,
Адпачыць не давалі ані на хвіліну;
Калі ж вораг святыню спрабуе парушыць, —
Прымем смерць і ўратуем тым грэшныя душы».

Так манах навучаў, духам верны Лаёле,
І чало яго ззяла, нібы ў арэоле;
Твар быў добры, ласкавы і позірк цвярозы,
А з вачэй буйна падалі кропелькі-слёзы;
Серабром сівізны ўсыпан голаў ягоны,
Нібы мучанік ён у зіхценні кароны.
Яго голас — о, дзіва! — прасякаў у душы,
Самых непрымірымых дарэшты узрушыў:
І адзін аднаго ўсе як ёсць абдымалі
І за Саса стаяць да канца прысягалі.

Тут староста даў знак, і на знак той ягоны
Так igралі музыкі, што нават калоны
Здрыгануліся. Ўтнулі ў тахт зладжаны, згодны
Польскі танец, усімі ўлюбёны — народны.

Жвавым крокам прысутныя рушылі ў залі,
Дзе даўно іх прыгожыя пані чакалі.
На чале — гаспадар, побач з ім — падкаморы:
Хто з іх першы увойдзе? У добрым гуморы
Паспрачаліся ветла якіх паўхвілінкі,
Госць нарэшце згадзіўся — і да гаспадынькі,
Да Люцыны падаўся — прыгожай, як мара,
А за імі ўсе рушылі — пара за парай —
У пакой, дзе сталы з пачастункам стаялі
І гасцінна усіх да сябе запрашалі.

Божа мой, што за час наш мізэрны і дробны!
Як сыны да бацькоў да сваіх непадобны!
То, бывала, магнат, як гасцей запрашае, —

Не шкадуе піць-есці, а ўсё прымушае.
І аднолькава шчыра прымае, пабожна
І багатых, і бедных, нязнатных, вяльможных.
А цяпер падысці да другога — не жарты!
Сам у даўняга пана слугой быць не варты,
А як прыме? Ласкава сустрэне магната,
І сардэчна і шчыра, а беднага брата?
Покуль выйдзе — чакаеш не менш як гадзіну,
Гляне скоса, сярдзіта, пастроіўшы міну...
А калі ты патрэбны, дык ласку учыніць,
Да сям'і павядзе, да сваёй гаспадыні,
Край стала пасадзіўшы з пагардай, тым часам
І кілішак гарэлкі з табой вып'е разам;
А калі ж у цябе грошай хоча пазычыць,
Дык і ўсмешка заззяе ў яго на аблічча.
Калі прыйдзе бядак расказаць пра нядолю,
Хіба знойдзе спагаду да гора і болю?
Не, да скнары, каб смерць пагражала, нябога,
Не ідзі за парадай і за дапамогай.

Не пра ўсіх я кажу, ёсць і добрыя, дружа,
Так — між церня цвіце і прыгожая ружа.
Як і калісь, цяпер ёсць такія магнаты,
Што шануюць і любяць бяднейшага брата,
Ці то ў свіце хто шэрай, ці ў добрым адзенні, —
Ён аднолькава шчыра іх прыме, сустрэне.
Але гэтакіх мала, ой, мала, мой браце,
Днём з запаленай свечкаю трэба шукаць іх!

Адышлі мы ад справы. Пасля ўжо вячэры
Зноў капэла зайграла і зноў кавалеры,
Што да танцаў, да скокаў, так спрытны, ахвочы,
Ў паланезе да залі з паненкамі крочаць.
Круг, другі абышлі, пакланіліся дамам
І да танцаў жвавейшых рыхтуюцца самі.
А ў той час за сталом разважаюць сарматы
І адзін за адным тосты ўзносяць, віваты.

У мазурцы віхром летучы безупынку,
Рэй вядзе гаспадыня, красуня Люцынка.
Ў валасах яе русых — пучок размарыну,
У кабацік прыгожы прыбрана з мусліну,
А спаднічка ў яе — скрозь карункі, хвальбоны —
Грубым золатам ткана па полі зялёным;

Квола-сіні кунтушык так зграбна пашыты,
Аксамітам чырвоным удала падбіты;
Чаравікі з атласу, на іх — пазалота...
Не адзін на дзяўчо хлопец дзівіцца ўпотай.

Ля прыгожай дзяўчыны харунжы Даліва,
Як і ў бойцы, у танцах рухавы, імклівы.
На ім боты з саф'яну, кунтуш з аксаміту
І жупан з градытуру, прыгожа пашыты.
А як часам у танцы гукне да капэлы
Дык як выпусціць звонкія прыпеўкі-стрэлы, —
Дык хаця б ты і быў засмучоны і млявы,
Акрыяеш і ўвойдзеш у гульні, забавы.

Хіба сённяшні танец назваць танцам можна?
Вось узяць хоць кадрыль... паўзуць асцярожна,
Нібы нейкім цяжарам знясілены пары —
Так павольна, марудна, як сонныя мары.
А калісьці ў часы незабыўныя тыя,
Як у ма́зуры ўтнуць «Галубка» маладыя —
Метэоры, здаецца, мільгаюць па залі,
Аж іскрацца абцасы, падкутыя сталлю.
Дык і ў тых, пра каго кажуць: душы іх з лёду —
Растае лёд у танцы жыцця і свабоды.

Кракавяк — за мазуркай. Наш хлопец шчаслівы
Творыць з паннай Люцысяю цуды і дзівы.
Грудзі дыхаюць лёгка, блішчаць яго вочы,
Калі стрэне какетлівы позірк дзявочы.
А як стан яе квола рукой абдымае
І далонь яе возьме, ад шчасця аж ззяе.
Ля капэлы стаіць, ледзь пачуцці хавае,
Вось прытоптваць пачаў — раз, два — тахту чакае.
Хоча ёй расказаць, як кахае ён квола...
«Знае ўсякі, кракавякі
Да танцаў ахвочы.
Хочу дужа, мая ружа,
Глянуць табе ў вочы.
Я і ўдалы і трывалы
І ў жыцці, і ў танцы,
Мне шанцуе, як танцую,
На любой гулянцы».

Зразумела Люцына — пакрыўдзіць не хоча.
І ў адказ заспявала, ўсміхнуўшыся ў вочы:

«Я дзяўчына, як маліна!
За мной хлопцы роем,
Мяне маці замкне ў хаце,
А я за гарою.
Але Янку за каханка
Я сабе абрала,
Выбачайце і не лайце,
Што вас не чакала».

То звычайная ў моладзі песня, здаецца,
Дык чаму ж яна гэтак на сэрца кладзецца?
Чаму ж хлопцы, дзяўчаты яе разумелі?
Бо казаць пра пачуцці калісьці не смелі,
Бо прыстойная моладзь была, сорам знала,
Воля бацькі іх лёсам тады кіравала.
А нядрэнна было: працавалі руплі́ва,
Паважалі старэйшых... жылося шчасліва!

Так да рання ішлі пачастунак і танцы,
І каханкам сваім маладыя абранцы
Прысягалі, што вернымі будуць да смерці,
І прысягі трымаліся моцна, паверце,
Бо не ўмелі маніць ды ілгаць недарэчна —
Калі раз пакахалі, дык, значыць, навечна,
Без якое рахубы, да самай магілы, —
Пачуццё паважалі як дар неба мілы.

А старыя тым часам за мёдам і брагай
Аб краіне сваёй разважалі з увагай.
І нарэшце ўсе келіхі ўзнялі на згоду:
Сам Аўгуст мусіць веры трымацца народу,
Кляштар трэ ўмацаваць ім і тою ж парою
Харч падвесці туды, і рыштунак, і зброю.
І паводле вядомага добра звычаю
Шведам шлях перарэзаць, пакуль выйдуць з краю.

## АБРАЗОК IV

З таго дня небагата і часу мінула,
А на край столькі гора, бяды навярнула!
Закружыў хіжы птах шведскі з чорнаю зграяй
Над Літвою і Польшчай — дзяўбе, раздзірае
Кіпцюрамі іх сэрца і кроў выпівае,

Нішчыць край і мардуе, людзей забівае;
Мала крыўдзіў, яму зажадалася больш шчэ:
Называе сябе ён «збавіцелем» Польшчы!

Быў не ў стане Аўгуст утрымаць абароны,
І, разбіты ў баях, ён адрокся кароны.
Хоць Саксонію прагнуў трымаць за сабою —
Таму й міру жадаў ён цаною любою.
А Ляшчынскі ужо апынуўся на троне,
Як законны кароль, ён у Пястаў кароне.
Мусіць, зорку Аўгуста бядой заімгліла,
Хоць яшчэ ў яго ёсць і прыхільнікаў сіла.
Бо трымае яшчэ іх моц слова, прысяга,
Хоць і цяжка — стаяць пад Аўгуставым сцягам.

А ў кляшторных мурах не пануе бязладдзе,
Хоць тры месяцы кляштар ужо у асадзе.
Прагнасць Густава Крэйца не ведае межаў,
Дзень і ноч б'е з гармат па мурах і па вежах.
Не дарэмна ён смерць з кожным выстралам множыць
І штурмуе і паліць, бо дом гэты божы,
Як маяк, нерухома стаіць сярод мора,
Сустракаючы ворага мужна, сувора.
Так, бывае, драпежнік у пушчы гушчэры,
Ухапіўшы здабычу, ўжо зяў свой ашчэрыць,
А тым часам ахвяра раптоўна знікае
З кіпцюроў яго вострых. Дарэмна рыкае
Звер драпежны, дарма свае грудзі ён трудзіць,
Гэты рык толькі пільнасць ахвяр яго будзіць.

Але глянем у кляштар у часе асады,
Як жыве гарнізон, як страчае напады?
Іх было каля тысячы, пэўна, адданых,
Верных вояў, супольнай бядой гартаваных,
А цяпер засталося не больш палавіны,
Вораг пяўся адняць іх жыццё штохвіліны.
Падкаморы й староста з дружынамі строга
Баранілі карону Аўгуста другога,
Бо падчашы і скарбнік, не трацячы часу,
Кляштар кінулі ўночы і здрадзілі Сасу.

Падкаморы каманду прыняў над атрадам,
Бо ў павеце старэйшым належыць улада.
І спачатку ішла абарона нядрэнна,

Покуль лад быў і ворага білі адменна,
Але як пачалося ў атрадзе бязладдзе,
Калі тыл паказала ў час бою пазаддзе,
Калі, выгад шукаючы ўласных, прысягу
Парушалі штораз і ўцякалі з-пад сцягу,
Калі вораг гарматы наўкола паставіў,
Шмат байцоў пазнішчаў і муры падзюравіў, —
Дык на радзе вайсковай тады ухвалілі,
Каб байцы з муроў вылазкі штодзень рабілі.

Вось аднойчы ў час вылазкі наш падкаморы
На чале юнакоў быў, каня ён прышпорыў
І на ворага рушыў. Ды мечам працяты,
А ці лёг бы касцьмі, ці ў палон быў бы ўзяты,
Каб на тую хвіліну адважны Даліва
Не прыкрыў яго целам уласным імкліва.
А пасля, колькі хлопцаў узяўшы з сабою,
Падкаморыя ў кляштар прывёз з поля бою.
Стаў староста начальнік. Да бою ахвочы,
Адбіваўся ад шведаў, як днём, так і ўночы,
І манеўрамі рознымі вельмі ж удала
Дастаўляў ён у кляштар прыпасаў нямала.
Ротмістр Шчука — адважны заўжды, зухаваты —
І плячом і мячом быў яму памагатым.
Вочы шведаў не раз ён атакай-спадманкай
Ўбок адводзіў, пакуль пад'язджала фурманка
З цяжкім грузам сваім да кляштарнае брамы,
Перашкоды не стрэўшы ніякай часамі.

Але выпала раз, што манеўр і не ўдаўся.
На зухавасць сваю вельмі Шчука паклаўся.
План яго быў, здавалася, просты бясконца:
Тут спадманны напад, а усім абаронцам
З тылу ўдарыць, усёю, што маецца, зброяй,
І між двух тых агнёў швед ніяк не устоіць.
Ротмістр так меркаваў, ды судзіў лёс іначай,
Даў навуку зухавасці іхняй юначай.
Папярэджан быў вораг, відаць, нечакана
Карты зблытаў усе, знішчыў ротмістра планы:
Як галоўны атрад апынуўся за брамай —
Напаткаў сілу ўсю самаго Зюдэрмана.
І пачаўся бой люты, дагэтуль нязнаны;
Густаў Крэйц на кані паляцеў узлаваны
На адважнага Шчуку, які ва ўтрапенні

Біўся з думкай: ратунак іх у адступленні.
І нічога не бачачы перад сабою,
Скрыжавалі ў шаленстве бліскучую зброю;
Іскры сыплюць з вачэй, вусны сцятыя — ў пене,
Іх уласнай крывёю набракла адзенне.

Так два буйвалы б'юцца ў бязлюднай пустыні,
Аж пакуль з іх, нарэшце, адзін не загіне;
Кроў з іх хлешча, крывёю наліты іх вочы,
Ззяюць раны і шэрсць разам з мясам — у клочча;
Вось слабейшы ляжыць нерухомы, забіты,
Ды ўсё топчуць яго пераможцы капыты.

Вывеў другі атрад сам староста у змроку,
Побач — пана Даліва пільнуе, як вока.
Але Ларс, шведскі ротмістр, ужо іх чакае —
Акружыў і знішчальным агнём спатыкае.
І староста пабачыў — назад шлях заняты,
Застаецца адно ім, пачаць бой зацяты.
А Даліва ўжо б'ецца, як тыгр ашалелы,
Поплеч сябраў-таварышаў гэткіх жа смелых,
Атачыў яго вораг, сцінае і цісне,
Ды фантанам б'е кроў там, дзе меч яго блісне!

На старосту ж сам Ларс, як віхор, налятае
І на голаў старога свой меч апускае;
Той падняў яшчэ зброю рукою упартай,
Але позна: смяротны быў Ларсаў удар той.

І староста упаў, нібы тая таполя,
І крывёй напаіў сваё ўласнае поле.
Ларсу ж мала таго, ён яшчэ неспакойны —
Уздымае зноў меч над старостам бяззбройным.
Гэта бачыць Даліва, не думае многа
І сваімі грудзьмі засланяе старога.
Адбіваючы ўдары, ён сам нападае,
Пераможцу да бойкі з сабой прымушае.

Разышліся, сышліся — як буры навала,
І здавалася, быццам зямля застагнала;
Кожны з іх пільна сочыць, расправіўшы плечы, —
То нібы нападзе, то адступіць дарэчы;
Суняліся свае і чужынцы — за боем
Двух байцоў назіраюць з глухім неспакоем.

За свайго кожны ціхенька моліцца Богу,
Хто ж нарэшце з іх двух возьме верх, перамогу?
Вораг змогся ўжо, гэта бачыць Даліва,
Намаганні падвоіў і — ўперад імкліва.
Ларс свой меч узнімае на выпад спадманны,
У чало яго быццам бы накіраваны,
А Даліва тым часам прызначыў удар свой
Не ў чало, але ў грудзі адкрытыя Ларса;
І, як дуб, ён упаў ад смяротнае раны,
Упусціўшы з рукі сваёй меч гартаваны.

Покуль з Ларсам зацята змагаўся хлапчына,
Падышла да старосты з падмогай дружына;
Паднялі яго слугі, прыкрылі сабою,
Непрытомнага вынеслі ўраз з поля бою.
Унеслі ў кляштар яго, у муры-камяніцы,
І дачка над ім слёз праліваe крыніцы,
У пакутах над бацькам душу сваю двоіць,
Бо яе і каханага лёс непакоіць.

А юнак, па апошняй сваёй перамозе,
Калі ўбачыў, што вораг зусім у знямозе
І збянтэжан, — адпомсціць наважыўся шведам,
А за ім і дружына ўся рушыла следам —
Кожны рады змаганню, адпомсціць жадае.
І дружына, як буры віхор, нападае;
Як маланкі іх шаблі... Удар быў суровы —
Пазляталі, як макаўкі, шведаў галовы...

Дрогнуў вораг, нібы напалоханы статак,
А юнак накіроўвае ўдар свой зацяты
І на тых, хто забіў пана ротмістра Шчуку,
Ён і ім хоча даць назаўсёды навуку.
Да самога іх правадыра дападае;
Вось параніў яго, вось ізноў насядае...
І дарэмна раз'юшаны Густаў імкнецца
Зноў у бой. Ён прымушан сілком, як ні пнецца,
Да абозу вярнуцца. Ён лёс выклінае
І на іншых свой гнеў, сваю злосць спаганяе...

Чаму ж слёзы Даліва ракой разлівае?
Хіба лаўраў і славы яму не хапае?
Што ён голаў схіліў, паглядае так строга?..
Бо не танна далася яму перамога!

Ротмістр Шчука, баронячы маці-айчыну,
Абавязак свой выканаў, мужна загінуў...
Там смяротна паранены бацька каханай
У пакуце нябачанай і нечуванай...
Рыцар з поля вяртаўся ў задуме вялікай,
Калі служка яго да старосты паклікаў.

Каля ложка стаіць, не стрымаць хлопцу плачу.
Аб сваёй перамозе дае справаздачу.
Хоць старога і мучаць страшэнныя раны,
Але рады ён дужа, што бой не прайграны:

«Каб падзякаваць, слоў я такіх не знаходжу,
Што ты мне і айчыне служыў гэтак гожа!
Будзе жыць твой учынак у песнях народу,
Мне ж якую знайсці для цябе ўзнагароду?
Збіў ты з ворага пыху і гонар удала,
Ды наперадзе справы таксама нямала.
На цябе аднаго ўсю надзею мы маем,
На цябе аднаго абарону ўскладаем,
Даручаем табе і маёмасць і сем'і,
Пад уладу тваю гарнізон аддаем мы.
Здабывай перамогу і волю народу,
Я ж для мужных заўсёды знайду ўзнагароду». —

Так гаворачы, ён на дачку пазірае,
А ў Люцынкі аблічча пажарам палае.
Хоць хвалюецца наша дзяўчына бясконца,
Але твар яе шчасцем зіхціць, нібы сонца;
І Даліву гаворыць прачулае слова:
«Волю бацькаву выканаць буду гатова,
Згодна й сэрца маё, а таму — асабліва...
Толькі далей ідзі сваім шляхам шчаслівa.
Калі ж выбавіш нас, давядзе сэрца ўладна,
Што я бацьку свайго зразумела дакладна.
Як цябе сваім рыцарам колісь абрала,
Што ты шчасце дасі мне, тады прадчувала».

Быў юнак ад слоў гэтых тады ў захапленні,
Уявіў сабе будучыню ў расчуленні,
Перад дзеўчынай любаю голаў схіляе
І быць вартым кахання яе прысягае:
Мужнасць, праўда, любоў... Покуль дыхаюць грудзі...
Ганарыцца яна сваім выбарам будзе!

Далучыў да іх голас староста зычлівы,
Але бацька хлапца, наш Даліва шчаслівы,
Вус сівы арасіўшы слязой расчулення,
Да прысутных сказаў: «На крыжы я збавення
Прысягну, што хвалой такой неасцярожнай
І залішняй хлапца сапсаваць нават можна.
Бо аддаць свае сілы, жыццё ўсё айчыне
І ахвочы з нас кожны і кожны павінен!
А калі ўжо, васпане, судзілі так лёсы,
Што кіруюць бацькамі ўжо малакасосы, —
Буду слухаць загады твае, дабрадзею,
Ды глядзі ты, не здрадзь толькі нашай надзеі!
Калі суджана лёсам і голаў свой скласці,
Тваёй славы смерць нават не здолее засціць».
Быў стары ў расчуленні, з воч бегла слязіна —
Прытуліў да грудзей галаву свайго сына.
А набожны манах, што стаяў тут ля іх жа,
Юнака бласлявіў словам добрым і крыжам.

Промні сонца угрэлі радзімы загоны,
Прэч прырода адкінула снегу заслоны,
Ў зяляніну прыбралася, ў яркія кветкі,
Ветрык цёплы дыхнуў на гаі і палеткі —
Свет увесь у святле і цяпле спачывае,
Толькі люд наш зямельку слязьмі аблівае:
Пакараў Бог — паслаў ліха, гора багата,
Адабраў сэрца, розум, пайшлі брат на брата,
Як на ворага; у грамадзянскіх тых войнах
Жыць не можна было ў сваёй хаце спакойна.

Гарнізон ледзь трымаецца. Дрэнныя справы.
Каб не хлопец, даўно б не мінулі зняславы —
Ці ў палоне б дзе згінулі ў шведаў нікчэмна,
Ці жыццё б сваё страцілі ў муках дарэмна.
Малады правадыр паказаў цуд адвагі —
Былі біты не раз Зюдэрмана бадзягі;
З кожнай бойкаю іхных салдат убывае,
Ды ізноў, як на ліха, іх шмат прыплывае.
Змагароў жа герояў маленькая жменя
Нібы снег растае — з кожнай бойкай іх меней.

Ад упартасці іхнай быў Крэйц у трывозе —
Сцяў мацней яшчэ кляштар у шчыльнай аблозе.
А юнак не зважаў на моц шведаў, дый годзе!

І абозы з харчамі у кляштар праводзіў.
Але шведам падвезлі цяжкія гарматы,
Загрымелі яны, нібы грому раскаты;
Ад муроў тых нарэшце кляшторных, спрадвечных,
Груд камення і друз засталіся б бясспрэчна.
Ухвалілі на радзе тады без вагання,
Каб атрад правадыр свой сабраў на світанні,
Каб, старых і жанчын у сярэдзіну ўзяўшы,
Паміж шведаў прабіўся, апошні бой даўшы.
І манахаў прасілі ісці разам з імі,
Ды яны не пасмелі пакінуць святыні.

Айцец рытар і скарбнік тутэйшых манахаў,
Баючыся на скарб з боку шведаў замахаў,
Патаемна дабро дзесьці ў лёхах схавалі
І прысягай святой сябе моцна звязалі:
Лепш пад катаў мячы іх галовам схіліцца,
Як парушыць прысягу, раскрыць таямніцу.

Дзень знішчэння святыні быў дзень векапомны,
Дзень, калі атрымалі пакуты кароны
Духавенства, манахі — прымаючы кару,
Свой касцёл і сябе аддавалі ў ахвяру
І каля алтара, як настала трывога,
Смерць сустрэлі, за ворагаў просячы Бога.

Ціхі ветрык світанскі ў палях павявае,
Белы свет Творцу песню падзякі спявае.
Калі ж першы прамень з-за гары дальняй гляне,
Птах абуджаны сонцу пяе прывітанне.
Хто там раніцу будзіць у садзе кляшторным?
Грае квола на арфе, спявае мінорна?
Гэта голас напэўна яго, Уладзіслава,
Ён пагутарыць хоча з каханай аб справах.

## Песня Уладзіслава Далівы

«Добры дзень, радасць мая і каханне!
Промні сонца заззялі з-за цёмнае хмары,
Ночка мінула, з'явілася ранне,
І залівае зара скрозь абшары.
Ты ж, нібы ў чарах дзіўных, без турботаў
Спіш сабе, радасць мая і пяшчота!

Добры дзень, шчасцейка, добры дзень, кветка!
Спёкі не бойся, бо спёка не спаліць,
Спёка страшною бывае улетку,
Ўстань, мой анёлак, усе паўставалі.
Ты ж, мая соня, ты так разаспана —
Песцішся, думаеш, што яшчэ рана.

Добры дзень, чуеш — звястун ужо весні,
Бусел, паважна так ходзіць і звоняць
Птушкі на дрэвах шчаслівыя песні,
Трэлі ў нябёсы высокія гоняць;
Ты ж усё спіш; прачынайся, бо шкода —
Глянь, як прыгожа, якая прырода!

Ўстань, мая люба, ўжо лісцем трапеча
Весні каханак, зефір свавольны,
А над зямлёю вясёла шчабеча
Жаўрук маленькі, спявак наш вольны.
Ўстань, бо нам дарога кожная хвіля —
Вечарам, можа, заснем у магіле...»

Тут дражніць пачало яго рэха: ма-гі-ле...
А пасля цішыню урачыстае хвілі
Спеў касцельны парушыў, узнёслы, спакойны:
«Ад хваробы і голаду, мору і войнаў!»
І пакаяўся хлопец, скарыўшыся Богу,
Адказаў: «Збаў нас, Божа, ў гадзіну трывогі!»
Адхінулася ўрэшце ў акенцы фіранка,
Паглядзела дзяўчына у вочы каханка,
Позірк быў яе гэткі прывабны, вясёлы,
Што яму пазайздросцілі б нават анёлы.
То Люцыся была. Засвяціла, як сонца, —
Падала яму знак падысці да аконца.

«Добры дзень табе, любы! Што ўстаў гэтак рана?
І не спаў, можа, ты, пільнаваў нас аддана?
Ох, загубяць цябе гэты клопат і праца —
Каб не ты, не маглі б мы дагэтуль трымацца,
Можа б, дзе ў кайданах шведскіх енчылі нема;
За жыццё наша, гонар удзячны табе мы!
Скажаш, пэўна, што ў тым не вялікая слава:
Бараніць родны край — гэта рыцараў справа!
Але ж ты наш герой, і я ўдзячна нябёсам,
Што рука твая й сэрца мне дадзены лёсам.

Надышоў сёння час, жменька мужных, адданых
Хоча дзёрзка прабіцца праз моц Зюдэрмана.
І я ведаю — здзейсніцца план дзёрзкі гэты,
Веру моцна, што ты давядзеш іх да мэты;
За жыццё тваё, любы, адно ўсхвалявана...
Што тады, як разлука нам наканавана?
У кляшторнае келлі, я ў гэтым клянуся,
Для малітвы да самае смерці замкнуся.
Да спаткання цяпер... як з касцельнае вежы
На малітву паклічуць — сабрацца належыць.
І я з бацькам прыйду... Ў раз апошні хіба мы
І сустрэнемся там, ля заходняе брамы». —
Так гаворыць дзяўчына да рыцара ў смутку
І ідзе ад акенца з слязамі ціхутка.

І рыкнулі гарматы сваім шматгалоссем,
І рыгнулі іх пашчы агністым калоссем,
Як цяжарныя полымем цёмныя хмары;
Кулі градам ляцелі, і чуліся ўдары.
Абваліліся раптам кляшторныя вежы,
З енкам рэха ляцела ў наўкольныя межы,
Ледзьве чутна гучаў спеў манахаў касцельны:
«Святы Божа і моцны, святы несмяртэльны!»

Пачалі шведы бойку за ўсходняй сцяною;
Ля заходняй жа брамы, прыкрыўшы сабою
Немаўлятак, жанчын, цяжка раненых, хворых,
Што маліліся Богу, каб згінуў іх вораг, —
Жменька мужных і пэўных, што шведа здалее,
Бо сам рыцар Даліва стаяў на чале іх.

Ксёндз у рызах праходзіў паміж грамадою,
Благаслаўляў усіх верных святою вадою.
Калі ж часам і мёртвым там-сям нехта падаў, —
Што ж за дзіва, як сыплюцца кулі тут градам!
Як на момант змаўкалі гарматныя жэрлы,
Чуцен спеў ціхі: «Вечная памяць памерлым!»
Зараз вылазка. Бубны усё заглушылі,
Насцеж браму заходнюю ўраз адчынілі,
Трыста воінаў рушыла мклівых, як бура,
На шляху што сустрэлі — змялі, як віхура.
На чале іх юнак, як вайны бог, прыгожы,
Блісне меч — сцірты цел сваіх ворагаў множыць.

А тым часам на ўсходзе Крэйц Густаў здзіўлёны,
Што ніяк не сустрэў на мурах абароны,
У цэнтр кляштару ўвеў сваіх шведаў-ваякаў,
Ды ўжо нават слядоў не знаходзіў палякаў.
У касцёле спяваў «Пад тваю абарону...»
Клер, прымаючы мужна пакуты карону.
Мур кляшторны паў друзам у тую ж мінуту,
І манахі прынялі цяжкую пакуту,
Не аддаўшы той скарб, што схавалі ў касцеле.

І цяпер, дзе быў кляштар, там дзікае зелле,
А дзе храм быў — руіны ляжаць ды каменне...
Дык памолімся мы за душ мужных збавенне!
А пра лёс маладых, пра жыцця іх дарогу,
Хоць кароценька, знойдзеце вы ў эпілогу.

## Эпілог

О, зямелька мая дарагая, ці мала
Ад сваіх ты й ад ворагаў гора зазнала!
Як тапчу я нагою мурог твой зялёны
Ці з юначым свавольствам бягу па загонах,
Дык з трывогай мяне папярэджвае сэрца:
Асцярожна, каб веліч былога не сцерці!

Часта седзячы тут, калі позірк блукае
Па далінах, лясах, я у думках кранаю
Справы тых, што зямлю гэту мелі ва ўладзе;
Часта думаю аб Зюдэрмана нападзе —
Як тут жменька байцоў датрымала прысягу
І яшчэ — пра яго, Уладзіслава, адвагу...
Як гаворыць паданне, ён ва ўзнагароду
Атрымаў прыгажуню з багатага роду,
І з душою харошай і з добрым пасагам;
Пражылі яны тут год багата няблага,
Іх у Польшчы й Літве дужа ўсе паважалі,
Унукаў, праўнукаў нават сваіх прычакалі...

*Д. 13 мая 1857 года, Люцынка*

# КАМЕНТАРЫІ

Зборнік «Выбраныя творы» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча не з'яўляецца навукова-акадэмічным выданнем і разлічаны на шырокае кола чытачоў. У творах захавана «магмападобная мова» пачынальніка новага беларускага пісьменства. Найбольш складанай была падрыхтоўка вершаваных тэкстаў, у рытм і рыфму якіх «ураслі» дыялектныя формы тых мясцін, дзе жыў і працаваў аўтар, а таксама ўплыў польскай і рускай пісьмовых традыцый (рысы новага беларускага «літаратурнага кайнэ», уплыў этымалагічнай сістэмы...).

Захаваны фанетычна-марфалагічныя формы, напрыклад: *панята* (рыфмуецца з *багата*), *толька* (рыфмуецца з *колька*), *шоў* (складовая структура слова ўплывае на рытмічны малюнак фразы) і г. д. Засталіся без змен некаторыя дыялектныя формы (*акамон, коман, брылянт, будам, срога, шчэра*), а таксама службовыя словы, якія арнаментуюць гаворку персанажаў і «няўласна аўтарскую» мову: *ажны, баш, гдзе, дак, меж, нішта, тагды, таж, чы, штоб...*

Паводле сучаснага правапісу падаюцца словы, у якіх адбіліся адметнасці ненаціскнога вакалізму Дуніна-Марцінкевіча (*глубокі, далёкам, крававы, керавала, тоніенькай*) і асаблівасці сістэмы зычных (*літоўські, паньскі, пілнаваць, стрэлбы, жмяіны, пеўне, серца, Пятыгорскі*), а таксама некаторыя дыялектныя марфалагічныя формы (*кажэ, сваі, ядзэня*), непаслядоўнае гісторыка-этымалагічнае напісанне (*две, жаластна, падбераў, сягодня*), характар пратэтычных гукаў (*вакуляры, ввёў, уліца, пауціна*), сцяжэнне галосных пры страце нескладовага шчылінага сярэднеязычнага сананта ёта (*знашоў, пашоў, сваго*), нязвычная форма ўласных імён: *Наум—Навум* і г. д.

Падрадковыя заўвагі В. Дуніна-Марцінкевіча ў перакладзе з польскай мовы (пераклад мой. — *Я. Я.*) захаваныя, а ў вершаванай аповесці «Купала», згодна з аўтарскай воляй, яны змешчаны ў канцы твора.

## ДРАМАТЫЧНЫЯ ТВОРЫ

### ІДЫЛІЯ

Лібрэта камедыі-оперы «Ідылія» («Sielanka»), напісанай у 1842—1844 гг. (цэнзарскі дазвол А. Мухіна датаваны 5.05.1844), упершыню друкавалася асобным выданнем: Sielanka. Opera we dwóch aktach. Napisana przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Wilno. Drukiem Józefa Zawadzkiego. 1846. Упершыню ставілася на сцэне ў Мінску 9 лютага 1852 года. У камедыі паны размаўляюць па-польску, сяляне, часам паненка Юлія і камісар, — па-беларуску.

У творы «Ідылія» зроблены тэксталагічныя праўкі адпаведна арыгіналу. Чарнавыя аўтографы перакладу Я. Купалы захоўваюцца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (ф. 1, воп. 1, адз. зах. 333—334).

Друкуецца паводле першага выдання.

С. 7. Мацар (*польск.* mocarz) — уладальнік.

Камісар (*лац.* commissarius, *ням.* Kommissar) — службовая асоба, надзеленая адмысловымі паўнамоцтвамі; тут: наглядчык у маёнтку.

Гэрстэ (*яўр.*) — чуеш.

С. 8. Пісар (*гіст.*) — ганаровая шляхецкая пасада і тытул.

Філют (*старабел., польск.* filut) — хітры чалавек, жулік, прайдзісвет.

С. 9. Закарбуй (*польск.* zakarbować) — Заднач, пастаў рыску.

С. 10. Дзедзіч (*старабел., старапольск.* dziedzic) — спадчыннік.

С. 11. Канчук (*крым.-татар.* kamčyk — нагайка) — бізун, плётка.

С. 13. Місцюк — той, хто наўмысна ўводзіць у зман, ашуканец; у «Слоўніку беларускай мовы» І. Насовіча (1870) — хват, майстар, зух на ўсе рукі.

С. 14. Праснёны (*польск.* prześnić — убачыць у сне, прамарыць) — тут: шчаслівы мінулы час.

С. 16. Шчопцю — крыху.

С. 19. Мая загладуха (з *польск.* zagłada — пагібель) — тут у жартоўным сэнсе: мая пагібель; у Яна Чачота іншае тлумачэнне: прыстойная і гладкая дзяўчына.

Аўстэрыя (*старабел., старапольск.* austeria) — заезны дом, карчма, шынок.

Шабасоўка — свечка, якую веруючыя яўрэі запальвалі напярэдадні суботы.

Рэбе — рабін.

С. 21. Надсэкванскіх прыгажунь — парыжскіх; Сэквана (*польск.* Sekwana) — Сена, рака, на якой стаіць Парыж.

Сарна (*польск.* sarna) — горная каза з невялікімі рагамі.

«*Зайшоў ужо месяц, свет спачывае...*» — страфа ўзята аўтарам з верша «Лаура і Філён» Ф. Карпінскага (1741—1825).

С. 22. Філён — тут: каханак.

«...*Пляшка будзе хай заставай...*» (*старабел., польск.* zastawa) — тут: пляшка будзе хай закладам.

С. 29. Фалі (*польск.* fala) — хвалі.

С. 33. Цяпляк — цяльпук; у слоўніку І. Насовіча — цеплік — раніцні марозік.

С. 34. Мігдалік (*польск.* migdał) — міндаль.

С. 36. Васан (*старабел.*) — васпан, спадар; ветлівы зварот да чалавека.

Фіглі (*польск.* figiel) — жарты, свавольствы.

Мосця (*гіст. скароч.*) — ягамосць, яе ці яго светласць.

С. 37. Патароча (*уст.*) — здань. Літаратурны папярэднік В. Дуніна-Марцінкевіча, паэт і фалькларыст Ян Чачот, тлумачыў гэта слова наступным чынам: «*Патароча* — дзіўна апранутая. *Села, як патароча* — села, як нейкае дзіва, нахохлілася, каб звярнуць на сябе ўвагу. Цяжка гэтаму слову знайсці якое-небудзь адпаведнае, бо азначае разам нешта прэтэнцыёзнае, дзівацкае і дурное».

С. 38. Багавянка (*польск.* bogdanka — каханая) — жыхарка неба, незямная істота.

С. 40. Дзямідзіць (*дыял.*) — размаўляць з сабой, мармытаць.

Сікора (*польск.* sikora) — сініца.

С. 48. Світ — зара, світанне.

С. 49. Малжонская вернасць (*польск.* małżeństwo) — шлюбная, сямейная вернасць.

Дысцыпліна (*польск.* dyscyplina) — рэмень, бізун.

Патрон (*лац.* patronus) — святы, які лічыцца заступнікам і апекуном таго, хто носіць яго імя.

С. 50. «*...асеўшы ў маёй фартуне...*» — пасяліцца ў маёй сядзібе.

Фартуна (ад *лац.* fortuna — багіня лёсу, шчасця) — маёмасць, багацце.

С. 51. Mea culpa (*лац.*) — мая віна.

## ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

Упершыню апублікавана ў газеце «Вольная Беларусь», 1918, № 30—31. Друкуецца паводле газеты.

С. 54. На прасоку — на следства.

С. 55. Асэсар (*лац.* assessor) — засядацель, судовая або службовая асоба, выбіралася са шляхты. Асэсарскі суд разбіраў апеляцыі мясцовых судоў і быў для іх вышэйшай інстанцыяй.

С. 56. «*...як шведаў Хадкевіч пад Кіргольмам*». — Хадкевіч Ян Кароль (к. 1560—1621), гетман вялікі літоўскі. У польска-шведскай вайне 1600—1611 гг. у бітве пад Кіргольмам (непадалёк ад Рыгі) 27 верасня 1605 года разбіў шведскую армію Карла Судэрманскага.

С. 57. Прастарэквацъ — балакаць, жартаваць.

Захімерычыцца — заўпарціцца.

С. 58. Мэрам (*уст.*) — быццам, нібы.

С. 59. Цетраў (*польск.* cietrzew) — цецярук.

Зэгар (*польск.* zegar) — гадзіннік.

С. 60. Матарны (*дыял.*) — жвавы, лоўкі.

Упыр (*рус.* упырь) — кажан, крывасмок, ваўкалак.

Непамысную (*польск.* niepomyślność — няўдача) — нешчаслівую.

С. 68. Кандыцыя (*лац.* condicio) — умова.

С. 72. Юры Кабылінскі — тытулярны раднік і кавалер, сакратар Мінскай шляхецкай дэпутацкай зборні; сябраваў з В. Дуніным-Марцінкевічам.

## ЗАЛЁТЫ

Камедыя ўпершыню апублікавана ў газеце «Вольная Беларусь», 1918, № 10—12. Паводле сведчання Я. Карскага, польскі тэкст твора перакладзены на беларускую мову Янкам Купалам (Карскі Я. Белорусы. Т. III. Вып. 3. Петроград, 1922. С. 61).

У аснову публікацыі пакладзена рукапісная копія, знятая ў 1893 г. Браніславам Эпімах-Шыпілам з арыгінала, дасланага А. Ельскім з уласнага архіва (Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1283). Верагодна, Янка Купала (хутчэй за ўсё ён перакладаў камедыю па рукапіснай копіі Б. Эпімах-Шыпілы) зрабіў некаторыя праўкі тэксту. У рукапіснай копіі Эпімах-Шыпілы значыцца: «Залёты. Фарс-вадэвіль у адным акце». Пад рукою Купалы фарс-вадэвіль ператварыўся ў «Смяхотную штуку ў 3-х дзеях»; зразумела, што адпаведна парушылася і нумарацыя сцэн.

С. 73. Адэля — яго дачка, 18-ці гадоў — у копіі Б. Эпімах-Шыпілы пазначаны іншы ўзрост — 16-ці гадоў, аднак далей у тэксце фарса-вадэвіля (сцэна XIII) гераіня называе сябе васемнаццацігадовай.

Антон Сабковіч — у рукапісу Б. Эпімах-Шыпілы ў пераліку дзейных асоб пазначана *Антон Сабкоўскі*, аднак далей у тэксце ўсюды *Сабковіч*. Побач з пералікам дзейных асоб у дужках Эпімах-Шыпіла скапіраваў заўвагу: «Доўнар, вядомы гультай-выскачка з Мінскага павета жыўцом тут узяты». Цікава, што ў архіўных дакументах сярод суседзяў Дуніна-Марцінкевіча сапраўды згадваецца Антон Доўнар (Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Уклад. Г. В. Кісялёў. Мн., 1977. С. 150).

С. 74. Паўпэрука (*польск.* peruka) — кароткі парык.

Мезальянс (*фр.* mésalliance) — няроўны ў сацыяльных адносінах шлюб.

С. 75. Крэз (к. 595—546 да н. э.) — апошні цар Лідыі (560—546 да н. э.), старажытнай дзяржавы ў Малой Азіі, уладальнік вялікіх багаццяў; тут: багач.

С. 76. Полер (*польск.* poler) — бляск, глянец; тут: свецкая выхаванасць.

Старчыць (*польск.* starczyć) — хапіць; тут: досыць.

Коман ва (*фр.* comment ça va?) — як маецеся?

Шак жа ж (*польск.* wszak że) — аднак.

С. 77. Кавёлы (*дыял.*) — мыліцы.

«... *з Смаргонскай школы...*» — школа ў Смаргоні, дзе дрэсіравалі мядзведзяў.

С. 78. «*Сказалі там у Кію...*» — Верагодна, маецца на ўвазе вёска Кіявец (Валожынскі раён, Мінская вобл.).

Маскалі — царскія салдаты.

С. 79. Курта (*літ.* kurtas) — паляўнічы сабака, (*дыял.* — сучка); тут: караткахвосты сабака.

Ассаула — есаул.

Шпанцэрка (*дыял.*) — куртка.

Стрычкі (*польск.* stryczka — вяроўка з пятлёй) — ленты, шаўковыя шнуры.

«...*птушка із масендза з дзвюма галавамі...*» — Драматург высмейвае царскі герб — двухгаловага арла; із масендза — з жоўтай медзі.

Рушніцы (*польск. гіст.* ruszniсa — мушкет) — стрэльбы.

С. 80. Капыстка (*дыял., польск.* kopyść) — мяшалка ў выглядзе доўгай драўлянай лапаткі.

Лямешка (*дыял.* лямеха) — мучная каша з маслам ці салам; тут у пераносным значэнні: густая страва.

С. 81. Шахраванне (*польск.* szachrajstwo) — махлярства.

С. 85. Хас ду гэгэрт? (*яўр.*) — ці чуеш ты?

Агруль (*яўр.*) — жах.

Гівалт — гвалт.

С. 86. Месыяш (*старажытнаяўр.*) — памазанік, у перакладзе з грэч. —

Хрыстос; у Бібліі — Збавіцель, які павінен прыйсці на зямлю, каб знішчыць зло і ўсталяваць «боскае царства».

Акпіванства (*польск.* okpiwać — ашукваць) — ашуканства.

«Гунур слова» (*скажон. польск.* słowo honoru) — слова гонару.

Рыхт (*ням.* richten — накіроўваць) — кірунак.

Гэхэр (*яўр.*) — высокі.

С. 87. Фарвал (*яўр.*) — прапалі.

С. 93. Машанская карчма — верагодна, мясцовая рэалія: у ваколіцах Пяршай ёсць вёска Мішаны.

С. 95. Суздром — разам, цалкам, начыста, дашчэнту; тут: адразу.

С. 98. Стан — паліцэйскі ўчастак.

С. 104. Інфаміс (*польск. гіст.* infamis — асоба, пазбаўленая гонару згодна судоваму выраку; ад *лац.* infamia — няслава, ганьба) — нягоднік, прайдзісвет.

*«...начны парыжскі герой Картуш...»* — Картуш Луі-Дамінік (к. 1693—1721), важак шайкі парыжскіх зладзеяў.

«Прыяцель народа» («Przyjaciel ludu») — часопіс, выдаваўся ў 1861—1877 гг. у Хелме (Польшча).

С. 105. Канфітур (*польск.* konfitury) — варэнне; канфіцюр (*фр.* confiture) — джэм, жэле.

С. 106. Вошуст (*польск.* oszust) — ашуканец, жулік, махляр.

*«Ёсць тут пан з паноў Сабковіч, // Што ўсе дражняць «дарабковіч».* — Знарок падабраныя аўтарам прозвішча і мянушка героя: Сабковіч (з *польск.* sobkiewicz) — эгаістычны, сабедбайны; дарабковіч (*польск.* dorobkiewicz) — выскачка, нуварыш.

С. 107. Акадэмік (*польск.* akademik) — студэнт.

С. 113. Мітрэжыцца (*дыял.*, *польск.* mitręga — перашкода, затрымка) — марудзіць; у слоўніку І. Насовіча — турбавацца, непакоіцца.

С. 114. Фатэлі (*польск.* fotel) — крэслы.

## ВЕРШАВАНЫЯ АПОВЕСЦІ І АПАВЯДАННІ

### ГАПОН

Упершыню апублікавана ў кнізе: Hapon, Powieść białoruska, z prawdziwego zdarzenia, w języku białoruskiego ludu napisana. Ozdobiona 4 Rycinami. Przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Mińsk. Nakładem księgarzy mińskich, braci Bejlinów. 1855.

Друкуецца паводле гэтага выдання.

У папярэдніх выданнях жанр твора вызначаўся як «Аповесць», у арыгінале — «Беларуская аповесць».

С. 116. Ляндар (*уст.* аляндар) — арандатар, карчмар.

С. 117. Хохлік — гном, дамавік.

«Галубец» — народны танец. У старадаўнім варыянце хлопец і дзяўчына імправізавалі ўзаемаадносіны галубоў: партнёрка плыла павай, а танцор увіваўся вакол яе; тут: прытупванне ў танцы.

Ножны — металічныя пласціны, у якія заціскалася лучына.

С. 118. Валей (*дыял.*, *польск.* woleć — аддаваць перавагу) — лепей.

Рымка — верхняя (другая пасля баса) струна скрыпкі.

Угрунь (*дыял.*) — бягом.

С. 120. Акоман, коман (*дыял.*) — аканом.

Покурцяў (*дыял.*) — сабак.

Плахціны (*дыял.*) — халсціны.

С. 121. Невесь (*дыял.*) — невядома.

С. 122. Гадкі (*дыял., польск.* gadka) — меркаванні, гаданні.

С. 124. Гіт (*яўр.*) — добра.

С. 125. Ляпорт (*дыял.*) — рапарт, данос.

С. 128. Пасэсар (*польск.* posesor, ад *лац.* possessor) — уладальнік чаго-небудзь без юрыдычнага права на ўласнасць; часовы ўладальнік маёнтка, арандатар.

С. 129. Аднадворцы — падатковая катэгорыя вясковага насельніцтва на Беларусі («заходніх губерняў» царскай Расіі), утвораная на падставе закона ад 19 кастрычніка 1831 года з дробнай вясковай шляхты, пераведзенай у аднадворцы паводле палітычных (за ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг.) ці судовых меркаванняў; былі асабіста вольнымі (у адрозненне ад аднадворцаў у Расіі, якія належалі да катэгорыі дзяржаўных сялян).

С. 130. Смаглы (*дыял.*) — смуглявы.

С. 132. Варгі (*польск.* wargi) — вусны.

С. 133. Прытном (*дыял.*) — хутка.

С. 139. Скрыпіцелі — скрыпачы, музыкі.

## КУПАЛА

Упершыню апублікавана ў кнізе: Ciekawyś? — Przeczytaj! Trzy powiastki i wierszyk ulotny. Przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Mińsk. Drukiem Jokiela Dworzeca. 1856.

Друкуецца паводле гэтага выдання.

У папярэдніх выданнях жанр твора вызначаўся як «Аповесць». У Дуніна-Марцінкевіча — «Народная аповесць». Прысвячэнне Аляксандру Лапе перакладзена з польскай мовы на беларускую (пераклад мой. — *Я. Я.*).

С. 146. Кромку (*дыял.*) — крышку.

С. 149. Ураза (*польск.* uraza) — крыўда, прыкрасць.

*«...Вольгердавы сыны княжылі шчасліва».* — Альгерд (к. 1296—1377), вялікі князь (1345—1377). За час праўлення Альгерда тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага павялічылася ўдвая.

С. 152. Тышкевіч Яўстафій (1814—1873) — адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі, аўтар кнігі «Апісанне Барысаўскага павета...» (Вільня, 1847).

## БЛАГАСЛАВЁНАЯ СЯМ'Я

Упершыню апублікавана ў кнізе: Ciekawyś? — Przeczytaj!

Друкуецца паводле выдання: Дунін-Марцінкевіч В. І. Збор твораў. Мн., 1958.

С. 155. *«...Як багата жылі пад уладаю Саса...»* — Маецца на ўвазе саксонская дынастыя каралей, якая кіравала Польшчай у 1696—1763 гг.; пры ёй быў абвешчаны культ спажывання, што знайшло адлюстраванне ў народным фальклоры: за Саса было досыць хлеба і мяса; то яшчэ за крулём Сасам, як елі пірог з мясам; за Саса было досыць хлеба і мяса, а настаў Панятоўскі стаў хлеб не такоўскі.

С. 160. Bene natus (*лац.*) — добрага роду.

Possessionatus (*лац.*) — землеўласнік.

Пане Каханку — Радзівіл Кароль Станіслаў (1734—1790), віленскі ваявода.

## ДА УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

Упершыню апублікавана ў кнізе: Dudarz Białoruski, czyli Wszystkiego potrosze. Przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Mińsk. Drukiem Jokiela Dworzeca. 1857.

Друкуецца паводле выдання: Дунін-Марцінкевіч В. І. Збор твораў. 1958.

У першым выданні твор змешчаны перад «Літаратарскімі клопатамі» і, мяркуючы па змесце, з'яўляўся своеасаблівай прадмовай да паэмы.

С. 167. Пачцівая Беларусь — паводле тагачаснага паняцця жыхароў Віцебскай і Магілёўскай губерняў называлі беларусамі, а Віленскай, Гродзенскай і Мінскай — літвінамі.

С. 168. Паны Юлі і Артур Р. — браты Юлі і Артур Рашкоўскія, уладальнікі маёнтка Шчаўры (вёска Старыя Шчаўры Крупскага раёна Мінскай вобласці).

Скібіцкі Францішак (1796—1877) — буйны польскі чыноўнік, публіцыст, мемуарыст. У артыкуле «Творы на простанароднай гаворцы» (Gazeta Warszawska. 1856. 19 мая. № 138), падпісаным крыптанімам «Y», адмаўляў права беларускай літаратуры на развіццё, не бачыў для яе будучыні.

Концкі Апалінарый (1825—1879) — польскі кампазітар, скрыпач.

## ЛІТАРАТАРСКІЯ КЛОПАТЫ

Упершыню апублікавана на польскай мове ў кнізе: Dudarz Białoruski...

Друкуецца паводле выдання: Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984.

С. 170. «Хатка ў лесе», «Ян Дэмбарог» — творы У. Сыракомлі.

С. 171. «Граф на Ванторах» — камедыя У. Сыракомлі.

Gute fain (*яўр.*) — вельмі добры.

Фатыга (*польск.* fatyga) — клопаты, турботы.

С. 172. Хлоя (*грэч. міфал.*) — багіня Дэметра, апякунка пасеваў; тут: імя пастушкі.

Іпатэка (*грэч.* hypotheke — заклад) — пазыка, выдадзеная пад заклад нерухомай маёмасці, часцей за ўсё — зямлі.

С. 173. Пахнілы (*польск.* pachnidła) — парфума.

С. 174. Ma chère amie (*фр.*) — мая мілая.

Non, maman (*фр.*) — не, мама.

*«...мужыцкі твор, якісь «Купала»*. — Гаворка ідзе пра вершаваную аповесць В. Дуніна-Марцінкевіча «Купала».

Ah mon Dieu! (*фр.*) — о Божа!

Ляпка — пройгрыш, страта.

Плутон (Аід) (*грэч. міфал.*) — бог падземнага царства.

С. 175. Рустэйка — псеўданім Адама Пянькевіча (к. 1810—1879), лекара, польскага паэта, які жыў у Мінску, сябраваў з В. Дунінын-Марцінкевічам, Вінцэнтам Каратынскім, перапісваўся з Ю. Крашэўскім.

С. 176. Бака Юзаф (1706—1780) — езуіт, аўтар вершаў рэлігійна-маралізатарскага зместу, такіх бязглуздых, што яны сталі сінонімамі графаманства; тут ужыта ў сатырычным значэнні.

С. 178. Дафна (*грэч. міфал.*) — дачка Геі і аркадыйскага рачнога бога Ладона, якую кахалі Апалон і Леўкід. Пераапрануты дзяўчынай, Леўкід ішоў за Дафнай з сяброўкамі. Па намове Апалона ўздумаў купацца, быў распазнаны і забіты німфамі. Дафна, уцякаючы ад Апалона, які гнаўся за ёй, схавалася ў сваёй маці і была ператворана ў лаўровае дрэва.

С. 181. Гадзінкі (*польск.* godzinki) — малітвы ў гонар Прасвятой Дзевы.

Лібертын (*польск.* libertyn) — чалавек, які ні ў што не верыць, недаверак, вальнадумец.

Парантэля (*польск.* parantela) — сваяцтва.

Продкі па мячу — гэта значыць продкі па мужчынскай лініі; па кудзелі — па жаночай.

Сабескі Ян (1629—1696) — польскі палкаводзец, з 1674 г. кароль Ян III.

С. 182. Аўгуст III (1696—1763) — сын Аўгуста II, польскі кароль (1733—1763).

«...*Тут з арміяй сваёю Жыгімонт спаткаўся...*» — Жыгімонт І Стары (1467—1548), вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, кароль польскі (1505—1548). Вітаў свае войскі пасля перамогі пад Оршай (1508).

«...*Тут доблесны Баторы з ворагам змагаўся...*» — Баторы Стафан (1533—1586), польскі кароль (1576—1586). У час Лівонскай вайны (1579—1582) пад Барысавам адбылася яго бітва з войскамі Івана Жахлівага (1581).

«...*Тут кесар франкаў страціў войска вельмі многа*». — 14—17 (26—29) лістапада 1812 года рускія войскі разбілі армію Напалеона на рацэ Беразіне.

С. 184. Мельпамена (*грэч. міфал.*) — муза трагедыі.

С. 185. «Гунгер-кур» (*ням.* Hungerkur) — лячэнне голадам, галодная дыета.

«Генеман», «гелер», «кофскі» — славутыя заграгічныя тытунёвыя фірмы, названыя паводле прозвішчаў уладальнікаў.

С. 186. «...*Тадэвуш, сябра з магілёўскіх даляў...*» — Магчыма, згадваецца Тадэвуш Чудоўскі, якому В. Дунін-Марцінкевіч прысвяціў «Быліцы, расказы Навума».

«*Няма Стафана-князя...*» — Любамірскі Стафан, магілёўскі маршалак, яму прысвечана паэма «Люцынка, альбо Шведы на Літве».

С. 191. «*А што было ў кахання іхняга аснове, // Раскажа вам дудар на іх сялянскай мове*». — В. Дунін-Марцінкевіч мае на ўвазе сваю аповесць «Шчароўскія дажынкі».

Алеся — Грушэўская Марыя Паўлаўна (? — 1891), другая жонка В. Дуніна-Марцінкевіча; першая жонка пісьменніка Юзэфа Бараноўская памерла ў 1854 годзе.

Крашэўскі Юзаф Ігнацы (1812—1887) — вядомы польскі пісьменнік.

Штырмер Людвік (1809—1886) — польскі пісьменнік.

Каржанеўскі Юзаф (1797—1863) — польскі пісьменнік.

Сяменскі Люцыян Іпаліт (1807—1877) — польскі паэт, навеліст, крытык.

Поль Вінцэнт (1807—1872) — польскі паэт.

Ржавускі Генрык (1791—1866) — польскі пісьменнік.

Адынец Эдвард Антон (1804—1885) — польскі пісьменнік, блізкі сябар А. Міцкевіча.

Чайкоўскі — у XIX ст. у польскай літаратуры былі: Чайкоўскі Міхал (1804—1886), празаік, аўтар гістарычных раманаў; Чайкоўскі Антоні (1816—1873), паэт, прафесар права Пецярбургскага універсітэта. Верагодней за ўсё, В. Дунін-Марцінкевіч меў на ўвазе М. Чайкоўскага. Параўнальны аналіз рамана М. Чайкоўскага «Кірджалі» і паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «Славяне ў XIX стагоддзі» выявіў, што менавіта раман Чайкоўскага адыграў ролю творчага імпульсу для твора В. Дуніна-Марцінкевіча.

«Марыя» — рамантычная паэма А. Мальчэўскага (1793—1826).

«Конрад Валенрод» — паэма А. Міцкевіча.

«Кароль замчышча» — аповесць С. Гашчынскага (1801—1876).

Зяменцкая Элеанора (1819—1869) — перакладчыца філасофскіх твораў на польскую мову.
Таньская Клементына (1798—1845) — педагог, польская пісьменніца.
Кракуў Паўліна (1813—1882) — польская пісьменніца.
Дэатыма — псеўданім Лушчэўскай Ядвігі (1830—?).
Ільніцкая Марыя (1825—1897) — польская паэтэса, рэдактар часопіса «Bluszcz» («Плюшч»).
Прушкова (Прушакова) Севярына — польская пісьменніца.
С. 192. Ленартовіч Тэафіл (1822—1893) — польскі паэт.
Плуг Адам (сапр. Пяткевіч Антоні) (1823—1903) — польскі і беларускі пісьменнік, журналіст, сябраваў з В. Дуніным-Марцінкевічам.
Трыплін Тэадор (1813—1881) — лекар, пісьменнік.
Вянярскі Антоні (1803—1861) — польскі пісьменнік.
Дзяржкоўскі Юзаф (1807—1865) — польскі пісьменнік, публіцыст.
Пілят Станіслаў (1802—1866) — польскі пісьменнік.
Вольскі Уладзімір (1824—1882) — польскі паэт, аўтар лібрэта да оперы С. Манюшкі «Галька».
Каржанеўскі Апола (Апалон) (1820—1869) — польскі паэт, драматург.
Качкоўскі Зыгмунт (1825—1896) — польскі пісьменнік.
Аўтар «Песняў нашых» — Адам Пянькевіч.
С. 193. Хацюхова — былы маёнтак ля вёскі Старыя Шчаўры.

## ЛЮЦЫНКА, АЛЬБО ШВЕДЫ НА ЛІТВЕ

Упершыню апублікавана асобным выданнем на польскай мове: Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie. Opowiadania historyczne, w 4-ch obrazkach. Przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza. Wilno. Nakładem i drukiem A. Syrkina. 1861. Гэта апошняя выдадзеная В. Дуніным-Марцінкевічам кніга.
Друкуецца паводле выдання: Дунін-Марцінкевіч В. І. Збор твораў. 1958.
С. 195. *«Калі набыў я маленькі мой фальварчык Люцынку...»* — В. Дунін-Марцінкевіч набыў фальварак 8 красавіка 1840 года ад Алойзія Сялявы, Юліі Скржэтульскай і Апалоніі Янкоўскай (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 2, воп. 1, адз. зах. 223, арк. 5; ф. 1595, воп. 2, адз. зах. 1718, арк. 23); цяпер вёска Малая Люцінка Валожынскага раёна Мінскай вобласці.
*«... ў час нашэсця шведаў, за Карлам XII...»* — Маецца на ўвазе Паўночная вайна 1700—1721 гг.
Карл XII (1682—1718) — шведскі кароль (1697—1718).
С. 196. Тыбр — рака ў Італіі, на якой стаіць Рым.
Камчадальскія дзеці — камчадалы, народнасць Камчаткі.
С. 197. Кляштар нашчадкаў Лаёлы — Лаёла Ігнацы (1491—1556), заснавальнік ордэна езуітаў, іспанец; тут: кляштар езуітаў.
Зюдэрман (у арыгінале Sudermann) — імя героя, відаць, узята аўтарам ад Судэрманіі, назвы мясцовасці ў Цэнтральнай Швецыі.
С. 198. Кейстут (? — 1382) — сын вялікага князя літоўскага Гедыміна, бацька Вітаўта; вёў барацьбу з крыжакамі.
Ягела — Ягайла (к. 1348—1434), вялікі князь літоўскі (1377—1392), польскі кароль (Уладзіслаў II, 1386—1434).
С. 199. Зёлкі кітайскія — гарбата.
Турэцкае зерне — кава.
С. 206. Мажардом (*фр.* majordome, ад *лац.* major — старшы і domus — дом) — дварэцкі.

С. 209. Гектар (*грэч. міфал.*) — самаадданы абаронца Троі. Паводле міфа Гектар загінуў у паядынку з Ахілам.

Ахіл (Ахілес) (*грэч. міфал.*) — герой Траянскай вайны.

Баярд П'ер дзю Тэрайль (1476—1524) — паж французскага караля Карла VIII, «Рыцар без страху і дакору»; у час вайны ў Італіі Баярд адзін нібыта затрымаў 200 іспанскіх воінаў на мосце цераз раку Гарыльяна.

Завіша Чорны (? — 1428) — славуты польскі рыцар, вызначыўся ў бітве пад Грунвальдам.

С. 210. Баляслаў І Храбры (967—1025) — польскі кароль.

«...*Славе колісь, раней атрыманай пад Венай...*» — 12 верасня 1683 года польскі кароль Ян III Сабескі разбіў пад Венай турэцкае войска вялікага візіра Кара Мустафы і спыніў агрэсію Асманскай імперыі ў Цэнтральнай Еўропе.

С. 212. Сапега Казімір Ян (1637—1720) — гетман вялікі літоўскі (1682—1701, 1703, 1705—1708), тэрорам і карупцыяй узмацняў панаванне свайго роду на Літве, што выклікала канфедэрацыю літоўскай і беларускай шляхты. У бітве пад Алькенікамі (1700) быў разбіты шляхтай і ўцёк са сваімі прыхільнікамі пад апеку Карла XII. У Паўночнай вайне выступіў на баку стаўленіка шведаў караля С. Ляшчынскага.

De publico bono (*лац.*) — дзеля грамадскай карысці.

Падкаморы — службовая асоба ў Вялікім Княстве Літоўскім, разбіраў судовыя справы па зямельных спрэчках.

Ляшчынскі Станіслаў (1677—1766) — польскі палітычны дзеяч; польскі кароль (1704—1709, 1733—1736).

С. 213. Аўгуст II (1670—1733) — польскі кароль, князь саксонскі.

«...А *нашэсце Ксенжыца хіба не спынілі?*» — Спыненне мусульманскай агрэсіі на Захадзе ў XVII ст.

С. 216. Сарматы — грэчаская назва іранамоўных качавых плямён Паўночнага Каўказа і стэпавай часткі Паволжа (6—4 стст. да н. э.); тут: палякі, ужыта ў пераносным сэнсе.

С. 225. Айцец рытар (*грэч.* rhetor — прамоўца) — настаўнік рыторыкі ў манастырскіх школах.

# ЗМЕСТ

## ДРАМАТЫЧНЫЯ ТВОРЫ



## ВЕРШАВАНЫЯ АПОВЕСЦІ І АПАВЯДАННІ

**Дунін-Марцінкевіч В.**

Д 83 Выбраныя творы: Для сярэд. і ст. шк. узросту / В. Дунін-Марцінкевіч; Уклад., камент. Я. Янушкевіч. — Мн.: Маст. літ., 2001. — 239 с.: іл.

ISBN 985-02-0507-5.

У кнігу слыннага класіка беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884) увайшлі драматычныя творы «Ідылія», «Пінская шляхта», «Залёты», а таксама вершаваныя аповесці і апавяданні «Гапон», «Купала», «Благаслвёная сям'я», «Літаратарскія клопаты», «Люцынка, альбо Шведы на Літве».

**УДК 882.6-8**
**ББК 84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Вінцэнт Іванавіч
ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

Рэдактар *З. К. Пазняк*. Мастак *Л. А. Стрыжак*. Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*. Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*. Карэктары *Н. І. Міронгчык, Я. Ф. Харко*.

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 24.07.2001. Папера афсетная №1. Фармат 84×108[1]/[32]. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 12,60. Улік.-выд. арк. 13,00. Тыраж 3200 экз. Заказ 2232.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.300.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ №3 ад 11.09.2000. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

ISBN 985-02-0507-5

9 789850 205070